


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**7** (1017)

ЛІПЕНЬ

Выдаецца
са снежня 1922 года

## ЗМЕСТ

**Мікола ЛОБАН**



# ПАЭМА МАЙГО МАЛЕНСТВА

## *Неапублікаваныя ўспаміны Міколы Лобана*

*Асоба пісьменніка і навукоўцы Міколы Лобана з часам усё больш прыцягвае да сябе ўвагу чытачоў і даследчыкаў. Магчыма таму, што ён быў сведкам, а часта і ўдзельнікам асноўных палітычных, эканамічных і культурных падзей, якія адбываліся на Беларусі ў XX стагоддзі. Гэта Першая сусветная вайна, рэвалюцыя, нямецкая і польская інтэрвенцыі, стварэнне калгасаў, калектывізацыя, барацьба з кулакамі, поўная ліквідацыя непісьменнасці, станаўленне маладой беларускай літаратуры, Вялікая Айчынная вайна... Трылогія «Шэметы» — мастацкае ўвасабленне ўбачанага і перажытага пісьменнікам. Але самымі цікавымі з'яўляюцца ўспаміны Мікалая Паўлавіча, бо гэта тая скарбонка, з якой ён чэрпаў факты і ўражанні для сваіх кніг. І як ні крыўдна, але свет пабачыла толькі нязначная частка ягоных згадак. Думаю, што публікацыя «Паэмы майго маленства» закрые адну з існуючых лакун, бо да гэтага часу ў часопісе «Беларусь» (№ 1, 1983 г.) друкаваўся толькі кароткі фрагмент на чатыры старонкі.*

*Яшчэ пры жыцці Лобан пачаў клапаціцца аб захаванні сваёй творчай спадчыны. 18 ліпеня 1977 года ён перадаў першую партыю матэрыялаў у Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР. У выніку тэхнічнай апрацоўкі было сфарміравана 77 спраў, якія склалі вопіс № 1, фонду 148.*

*Дакументы, якія ўвайшлі ў вопіс № 2, фонду 148, паступілі ў ЦДАМЛМ 15 мая 1979 года і 11 лістапада 1981 года ад самога пісьменніка, 20 чэрвеня 1989 года ад яго ўдавы Браніславы Леапольдаўны.*

*У працэсе навуковага апісання дакументаў сфарміравана 218 спраў за 1938 — 1985 гады.*

*«Паэма майго маленства», падзеі якой ахопліваюць прамежак ад дзяцінства Мікалая Паўлавіча да заканчэння ім у 1930 годзе двухгадовых педагагічных курсаў пры Слуцкім педтэхнікуме, мае тры варыянты.*

*Першы, пад назвай «Аповесць майго маленства» (ф. 148, в. 2, с. 31), займае 85 старонак машынапіснага тэксту. Другі (ф. 148, в. 2, с. 32) — 114 са значнай аўтарскай праўкай, зробленай стрыжнем чорнага колеру. Пачатак тэксту атрымаў назву «Чапліцкая круговіна». Трэці варыянт (ф. 148, в. 2, с. 33) — 118 старонак з нязначнай аўтарскай праўкай пад назвай «Паэма майго маленства». Тэкст падзелены на 30 раздзелаў, кожны з якіх мае ўласную назву, чаго не было ў папярэдніх варыянтах.*

*Што можна сказаць пра час напісання ўспамінаў? У матэрыялах фонду пазначана, што гэта 1970—1980-я гады. Больш канкрэтныя тэрміны можна знайсці ў тэксце самой «Паэмы майго маленства». У раздзеле «Першыя радасці» чытаем: «Мяне захапіла літаратурная творчасць. 1929 год прынёс мне радасць у выглядзе пісьмаў Кузьмы Чорнага. [...] На вялікі жаль, ні першае, ні другое пісьмы не захаваліся. Ды і за пяцьдзясят год выветрыліся з памяці». Ускосным чынам аўтар гаворыць пра 1979 год. Але прыведзеная цытата знаходзіцца на 91-й старонцы тэксту, а значыць — праца над успамінамі пачалася раней. Думаю, што Мікалай Паўлавіч дэталёва заняўся «Паэмай майго маленства» пасля выхаду на пенсію 1 красавіка 1978 года. А праца была праведзена грунтоўная: многія эпізоды перапісваліся па некалькі разоў, прычым у асобных выпадках мяняўся не толькі тэкст, але і сэнс канкрэтнай падзеі. Нешта «прычэсвалася» — такія былі часы. Так, з канчатковага варыянта зніклі эпізоды з высылкай «кулакоў», не знайшлося месца для ўспамінаў пра слуцкі збройны чын, даволі сцісла гаворыцца пра калектывізацыю і голад дваццаць першага і трыццатага гадоў.*

*Што мяне ўразіла падчас працы над тэкстам успамінаў? Безумоўна, мова! Гаючая і непаўторная мова Случчыны, якую ашчадна і з любоўю захаваў і перадаў нам загадчык сектара лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства АН БССР Мікалай Паўлавіч Лобан. Пасля асалоды ад смакавання некаторых слоў і выразаў хацелася, падобна Лобану, усклікнуць: «Непасціжыма!»*

*У аснову гэтай публікацыі пакладзены трэці, самы грунтоўны, варыянт «Паэмы майго маленства», дапоўнены некаторымі эпізодамі з двух першых. Як я, садавод-аматар, мог не ўключыць эпізод, у якім гаворыцца пра садоўніцкае захапленне Паўла Васільевіча Лобана, бацькі пісьменніка? Бо ў тым, што адным з сімвалаў Случчыны з'яўляецца знакамітая груша «бэра слуцкая», ёсць заслуга і гэтага чалавека.*

*Тэкст друкуецца са згоды дачкі пісьменніка Ірыны Мікалаеўны і БДАМЛМ.*

***Аляксандр ВАШЧАНКА***

## Чапліцкая круговіна

Калі праўда, што Зямля мае пуп, — кажуць жа «пуп зямлі» — то гэты пуп не дзе-небудзь, а ў маіх Чаплічах. Дзе ж яму яшчэ быць? Хто гэтаму не верыць, няхай узлезе на верхавіну высачэзнага чапліцкага, з буслянкаю, вяза і на свае вочы пераканаецца: пад нагамі, распластаўшыся, будуць ляжаць Чаплічы, а наўкруга іх, як у карагодзе, пабраўшыся за рукі, — Танежычы, Пірачычы, Балочычы, Чалавічы, Еўлічы, Рачкавічы. За гэтым, блізшым, кругам устане другі: Мазалі, Старчычы, Прусы, Млынка, Бялічы, Селішчы, Бязверхавічы, Боркі, Малышэвічы, Бялевічы, Садавічы, Жываглодавічы... За другім — трэці. І гэтак уся Зямля кругамі разыдзецца вакол Чапліч. Чым ж яны не пуп Зямлі?

Як людзі і помняць сябе, гэта круговіна вёсак была населена радавітымі мужыкамі, колішнімі прыгоннымі паноў Залескіх, Прушынскіх, Галіцкіх, Вайніловічаў, чые двары, як струпы, сядзелі паміж мужычых вёсак на лепшых землях.

Наш «карагод» быў бы няпоўны, калі б мы не прыгадалі шляхечых засценкаў, а іх тут было ледзь не пры кожнай вёсцы: Касынічы, Замошша, Пятніцы, Белае балота, Малая і Вялікая Альшанкі, Машчычы... У іх жыла так званая «засцянковая шляхта» — свабодныя ад прыгону людзі.

Паміж мужыкамі і засцянковай шляхтай ці, як яе называлі па вёсках, — «шэршнямі» з часоў, можа, самага ранняга прыгону ўстанавіліся непрыязныя адносіны. Мужыкі абсмейвалі шляхту: «Шляхціч-махціч, кундаляў сын». На што шляхта адказвала: «Мужык гадзе, коні крадзе».

Шляхта адрознівалася ад мужыкоў не столькі багаццем, колькі сваім шляхечым гонарам і сваёй каталіцкай арыентацыяй, што знайшло выяву ў побыце і мове. У мужыка двор зачыняўся нізкімі, з дошчак, варотамі, перад уваходам у сенцы ляжаў вялікі пляскаты камень, на якім, уваходзячы ў хату, можна было патаптацца лапцямі. У шляхціца ад вуліцы стаяла брама, хутчэй, нейкае падабенства брамы з веснічкамі, уваход у хату — пад казырком страхі, падпёртым двума круглымі слупамі з мастком, што павінна было нагадваць ганак. Мужык гаварыў: «здаецца», «наеўса», шляхціч — «здэцьце», «наеўсе».

Чаплічы — сяло старажытнае, можа, і самому Слуцку раўня. Наводшыбе ад яго, за выселкамі, дзе на ўзгорку стаяў Багрыцэвічаў вятрак, а паводдаль на мяжы расла замшэлая дзічка, добра прыгледзеўшыся, і цяпер можна заўважыць рэшткі землянога вала колішніх гарадзішчаў. Гэта мясціна так і завецца — «Гарадзішчы». Археолагі гавораць, што некалі сюды, за дубовы тын збягаліся чаплюкі ў гадзіны ліхое навалы, каб віламі ды сякерамі ад крымчакоў бараніцца. Дабіралася набрыдзь і ў гэты куток. На Слуцк разоў колькі нападала. Вабіла яе гэта мясціна, тут часам было чаго нарабаваць: быў хлеб, была скаціна. Толькі, думаецца, навошта хоць бы тым чаплюкам, нашым прапрапрадзедам, рабіць такое ўмацаванне, калі наўкруга лесу цёмнага — ні прайсці ні праехаць? І самім і скаціне хованкі хапала. Ды і сцепнякі самі сунуцца ў лес не вельмі пахочвалі.

К цяперашняму дню чапліцкая круговіна згалела на лес, каб не паселішчы з іх садамі ды не ветракі, то не было б за што і воку зачапіцца. А некалі ж — адышлі старыя, што помнілі — круговіна гэта была ўся густа пабіта дубровамі, бярозавымі ды альховымі гаямі. Адна такая дуброва з Залеўшчыны цераз Крошню падступалася пад самыя Чаплічы. Кажуць, што некалі дзікі, панаядаўшыся жалудоў, забрыдалі аж у самыя агароды паласавацца сакаўной бульбай ды салодкай моркаўкай.

Адзіным помнікам гэтай дуброве да апошняга часу быў таўшчэзны, гадоў на трыста, укаранелы і ўмацярэлы, дуб. Каржакаваты, ні на што не прыдатны, ён стаяў у нізінцы за школішчам. І нішто яго не брала: ні хціваe вока, ні сіберныя навальніцы з перунамі і маланкамі, ні пякучыя маразы. Пастушкі доканалі. Абпалены і абрублены, волат нарэшце падламаўся і ўпаў, а з ім упала і апошняя памяць мінулых стагоддзяў.

## Радаслоўе

Дык вот у гэтым, што за сто дваццаць кіламетраў на поўдзень ад Мінска, сяле жылі мае бацькі, дзяды, прадзеды і, напэўна, прапрадзеды... Тут пачалося і маё жыццё. У памятнай кнізе рукою бацькі прыгожым каліграфічным почыркам было напісана: «Родилась тёлка 12 января I911 года». Радком ніжэй: «Крестился Николай 14 октября I911 года». Гэта дакументальная згадка пра маё існаванне і асталася ў маёй памяці.

Свядомае жыццё маё пачалося з «грэхападення»: на нейкі шасцісоты дзень пасля таго, як бабка Бандароўна, даўшы мне плескача, упэўнілася, што я ўмею кугакаць, я атрымаў ад мацеры другога плескача за тое, што, будучы на руках у чапліцкай царкве, абмачыў маме святочнае плацце, апаганіў храм божы.

Трэцяга плескача я зарабіў, калі мне ўжо было аж пяць гадоў. Мы, дзеці майго ўзросту, сабраўшыся на загуменнай дарозе, гулялі ў мячыка. Я так захапіўся гульнёю, што не заўважыў, як трапіў пад ногі каню, які вёз воз снапоў, Калі нада мною праматляліся ўсе чатыры капыты і пракаціліся дзве пары колаў, я ўсхапіўся і пабег за мячыкам. Ніякага плескача і не было б, ніхто б і ведаць не ведаў, калі б не адна ябеда, суседская Манька. Убачыўшы, што я пад возам, яна кінулася да маці:

— Цётка Паўліха, вашага Колю возам пераехала!

Пачуўшы гэта, маці — хутчэй за Манькай на загуменне — дзе я тут растаптаны і раздушаны коламі ляжу? Аж няма мяне растаптанага і раздушанага на саменькай дарозе, аж я бегаю сабе за мячыкам, паказваю, што зусім не спужаўся і нічога такога са мною не здарылася, хоць сам увесь тросся і, напэўна, стаў жоўты з перапуду. Дзеці абкружылі маці і ўзахады ябеднічалі, што конь двума капытамі наступіў і што колы па жываце пракаціліся, пярэдняе і задняе. А я, стоячы воддалек, апраўдваўся:

— А вот і няпраўда, ніякія капыты не ступалі і ніякія колы не перакочваліся цераз мяне! Не выдумляйце!

А маці ўсё яшчэ не верылася, што я вырабіўся з-пад воза без усякага вераду, ёй трэба было дакрануцца да мяне.

— Падыдзі сюды, не буду біць!

Я падышоў. Яна абняла мяне і шчасліва заплакала.

— Сэрца ты ў мяне абарваў, — сказала яна і, узяўшы за руку, пацягнула за сабою.

Плескача дала ўжо каля дому, маленькага пляскачыка, каб толькі лічылася, што ўшчула.

— Каля хаты гуляй!

Чацвёртага плескача я не атрымаў, але зарабіў, калі мне было ўжо гадоў з дзевяць. Мацерына рука на гэты раз не паднялася, каб ушчуць мяне, я быў занадта жорстка пакараны чужым чалавекам. Але пра гэты выпадак крышку ніжэй.

Сямейная хроніка захавала памяць толькі пра дзеда Васіля, кульгавага панскага рымара[1], пакалечанага на крадзяжы скарбовага лесу ў завірушным васемсот трэцім годзе. Валілі ноччу сасняк у тры пілы. Вялікай асцярогі не было, рабілася, каб хутчэй. Вот адным гузыром і падмяла дзеда. Абышлося пераломам левай нагі. Зраслося крывавата.

Яшчэ пра дзеда ў памяці асталося і такое паданне. Калі ён, будучы хлапчуком, першы раз пайшоў у школу, настаўнік Астаповіч — прозвішча нават захавалася ў памяці — запытаў:

— Как фамилия?

— Лабановіч, — адказаў хлапчук.

— Как — Лабанович? Мужик да шляхечью фамилию носишь? Лобан твоя фамилия. — І запісаў: «Лобан Василий».

Васілёў род з гэтым прозвішчам так і астаўся. Ніхто нікуды нікому не скардзіўся: напэўна, настаўнік меў права кантраляваць адпаведнасць формы прозвішча саслоўнай годнасці чалавека — думалі.

Лобаны ці, правільней, — як у вёсцы гаварылі, Лабаны, як і помняць сябе, варочалі зямлю, сеялі ды збіралі, і больш у панскае, чым у сваё гумно.

Вялікая сям'я была ў дзеда, і ўсё хлопцы, не абдзяліць зямлёю. Бацьку давялося ў свет пайсці. Кім і дзе ён толькі ні працаваў: і гарбаром[2], і мулярам, і стрэлачнікам, і кандуктарам... На задняй пляцоўцы таварнага эшалона аб'ездзіў Украіну, Сібір, Сямірэчча. Туляўся па начлежных дамах у Адэсе і Самары, мок на дажджах з рыбакамі Азоўя... А пад канец блуканняў набыўся яшчэ і паслушнікам у Кіева-Пячэрскай лаўры. Ніпто з пералічанага не стала яго лёсам. Пацягнула на радзіму, у сваё сяло, А і тут з чаго пачаць? Пайшоў пакланіцца чапліцкаму багатыру, Гаравіку-валочніку, каб той даў у арэнду кавалак няўдобіцы, дзе можна было б хату паставіць. Прыдбаўшы свой прытулак, бацька ажаніўся з Сцепанідай Трахімаўнай Міснік, жанчынай з дзіцем, ахмістрыняй[3] чапялёўскай памешчыцы Відзецкай.

Сям'я Трахіма Мísніка, майго дзеда па мацеры, таксама была вялікая, аж чатырнаццаць душ, і галодная, як усякая сям'я панскага парабка. Нехта з гэтай сям'і памёр у дзяцінстве, нехта астаўся без рук на панскай рабоце, нехта зварыўся ў кіпучай бразе на бровары[4]...

Паблукаўшы па свеце, бацька добра засвоіў рускую мову, маці ж была захавальніцай роднай мовы ў сям'і. Яна добра ведала польскую, але дома гаварыла толькі па-беларуску. Бацька часам папраўляў нас, дзяцей: «Надо говорить «он», а не «ён», «в печке», а не «ў пеццэ». Аднак мы ніяк не маглі ўставіць у сваю моўную плынь гэтыя «он» і «в печке». Тым часам і ў бацькавай мове родная стыхія пастулова брала верх.

Бацька быў працавіты чалавек. Нейкім філасофскім перакананнем у яго было: «Нет ничего справедливее, чем копать заступом землю». Думаю, што гэта было плёнам яго роздуму доўгіх год блукання і адзіноцтва, яго пошукаў праўды і справядлівасці. За тое, што бацька не прытрымліваўся свят, маці іншы раз абзывала яго грахаводнікам, на што ён звычайна адказваў: «Грешно воровать, а не работать». Па прыродзе сваёй ён быў чалавек хутчэй маўклівы, чым гаваркі. Часта яго можна было заўважыць парынуўшым у роздум. Выходзячы з такога стану, ён вымаўляў які-небудзь вычытаны ў царкоўных кнігах афарызм, як падсумаванне гэтых думак, і зноў браўся за жалязняк. Будучы чалавекам вельмі рэлігійным, ён, аднак, амаль ніколі не хадзіў у царкву. Не хадзіў, таму што ненавідзеў папоў, лічыў іх «мошенниками». Не быў выключэннем у яго і чапліцкі Анішкевіч, вядомы сваім абжорствам і сквапнасцю. Але дома, калі выпадала вольная хвіліна, часта браў у рукі «Псалтыр» і, водзячы пальцам па радках, громка вымаўляў незразумелыя нам словы: «ашчэ», «ізыдзе», «внемлі», «мзда», «на небесех», «сон-мішча»... Чытаць-пісаць ён навучыўся самавукам. Прымушаў нас, дзяцей, вучыць малітвы і кожную раніцу, перад снеданнем, ставіў на калені ў покуці гаварыць «Отче наш». Ён быў вельмі задаволены, калі аднойчы я, дзесяцігадовае хлапчанё, на ўсяночнай падышоў — не без яго падштурхвання — да аналоя[5] і хвілін з дзесяць громка чытаў па-царкоўнаславянску «Евангелле». Не жартачкі! Царква была поўная людзей, і ўсе слухалі і толькі шэптам перапытваліся: «Чый гэта?» А бацька стаяў пры мне, слухаў маё няўмелае чытанне і задаволена ледзь прыкметна ўсміхаўся.

На ўзятай у арэнду дзесяціне[6] зямлі бацька засадзіў сад. Дзяцей так не даглядаюць, як ён песціў-мілаваў кожнае дрэўца: абрэзваў, абкопваў, бяліў, абвязваў. У яго была і свая «школка[7]», і не абы-як ён вёў яе. Усе сады Случчыны, памешчыцкія і непамешчыцкія, былі вядомыя яму. Гучкі некаторых сартоў яблынь атрымліваў па пошце, нават з Крыма. Кожны рад быў падпісаны — прывязана была бірка на калку: антон, ранет, цыган, папяроўка, апорт, баравінка, бэра[8], сапежанка, калабок, цукроўка... Яму ўдалося вырасціць у

сваім садзе такі сорт паўднёвых яблык, як «шафран». Асенняй парою здалёк прыязджалі да яго сяляне купляць прышчэпы. Мне здаецца цяпер, што ўсе сады паўднёвай часткі Случчыны[9] засаджаны прышчэпамі з яго «школкі». Як ён намагаўся выклікаць у нас, сваіх дзяцей, гэту любоў да саду! І як ён потым быў глыбока засмучаны, што ні адно з нас так і не выявіла чаканай прыхільнасці да яго роду заняткаў. Ішоў іншы час і нёс ён людзям, малым і дарослым, іншыя інтарэсы і захапленні.

## Буды[10] на дарогах

Першая сусветная вайна асталася ў памяці ў выглядзе нейкага ласкуцця малюнкаў. Ідуць салдаты па вуліцы сяла даўжэзнай калонай па двое ў шэрагу. Самі чорныя, аброслыя, чамусьці ў чорных шынялях, з вінтоўкамі, запыленыя і стомленыя. З-пад Баранавіч і Сіняўкі даносяцца раскаты артылерыйскіх залпаў. Так мне тлумачыў бацька, калі я аднойчы запытаў, што гэта грукоча за Крошняй. Баранавічы і Сіняўка ў маім уяўленні былі за Крошняй, невялікім балоцістым ляском, за які заўсёды хавалася знясіленае сонца і адкуль звычайна ўставалі чорныя хмары навальніц. Там, па маім уяўленні, быў край свету, які ў мяне нічым не адрозніваўся ад канца свету. Там, на вуголлі дагарэлага сонца, было і страшнае пекла, ад якога аднаго разу гарачым летам у Залеўшчыне загарэлася зямля. Смурод даходзіў аж да Чапліч. Што такое пекла, я добра ведаў: гэта велізарная яма, поўная распаленага вуголля, на якім курчацца і стогнуць голыя грэшнікі. А вакол ямы скачуць і галёкаюць чэрці.

Найбольш «майго свету» было на ўсходзе, дзе кожную раніцу гуляе маладое, радаснае сонца і дзе многа вёсак, якія даводзілася наведваць, ездзячы па вялікай мацерынай радні. І яшчэ многа свету на поўдні, дзе, вельмі далёка, нейкімі астраўкамі сярод балот і пяскоў загубіліся амаль казачныя: Замагілле, Веска, Вызна, Рожан і асабліва Вялічкавічы, пад якія вясною ездзілі на таргі купляць участкі сенажаці, каб накасіць сена, а зімою, у маразы, апрануўшыся ў кажух з накідкаю і абуўшы дубовыя рыпучыя лапці на пару суконак, ездзілі па гэта сена.

За сялом будуецца абарончы рубеж: капаюць акопы, ставяць дротавыя загараджэнні. Бачу, як наезджыя, а можа, і свае людзі бязлітасна ваджяць нашы Дзяжкі, бярозавы гай, што за садам. А гэтак нядаўна, тым летам, мы з мамаю бегалі сюды ў грыбы. Панскую дуброву не чапаюць, — гаварылі паміж сабою чаплюкі, — сякуць мужыцкае. Асабліва сумна было бачыць, як на маіх вачах падала мая знаёмая бярозка, бярозка, з якой мы дружылі і што заўсёды першая выбягала мне насустрач, калі я пералазіў пляцень агарода. Здалёку — блізка мужчыны не падпускалі — я бачыў, як яе абсеклі, распілавалі і звезлі. На месцы, дзе яна жыла, астаўся адзін, нікому не патрэбны невысокі пянёк і мая дзіцячая крыўда.

У двары, седзячы на возе, бацька прыладжвае к драбінам палатняную, ужо многа раз бачаную па дарогах, буду, каб заўтра ці паслязаўтра «ехаць у бежанцы», ператварыцца ў такіх жа няшчасных, якіх ужо тысячы ездзіць па сёлах, ходзіць па хатах, просіць хлеба, колькі бульбін. На нашай дзіцячай мове гэта называлася «хадзіць у падарэйкі». Адразалі лусту і пыталіся, ці здалёк адкуль. А людзі адказвалі: «З-пад Беластоку, з-пад Гродні, з-пад Слоніма, з-пад Целеханаў, з-пад Пінска...» На чарзе былі Чаплічы. Жандар на кані ўжо двойчы наязджаў у сяло папярэджваць, каб рыхтаваліся. «Свая артылерыя з абарончага рубяжа будзе біць па сяле, — гаварылі мужчыны. Маці раскройвала боханы

хлеба, раскладвала скібкі на бляхі і засоўвала ў напаленую печ. Мы таўкліся то каля аднаго, то каля другога з бацькоў, выконвалі дробныя даручэнні: ты пабяжы тое зрабі, а ты пабяжы гэта зрабі. У хляве была выкапана велікаватая яма, куды ўстаўлена скрыня з палотнамі і іншым дабром, якое няможна было пакінуць проста ў хаце і нельга было забраць з сабою. Уся гэта мітрэнга[11] нам, малым, нечым падабалася, было весела, чакалася хуткае перасяленне ў буду і цікавая дарога за наш яшчэ не такі шырокі свет. Мне здавалася, што нават наш чарнявы, з падпалінамі сабака Пошта і той нешта адчуваў, бо баяўся далёка адыходзіць, каб не зевануць моманту ад’езду. Ён ляжаў у халадку і стомлена цопкаў надаедлівых мух.

На шчасце, вайна не дайшла да сяла, перашкодзіла нейкая «рэвалюцыя». А што гэта было такое рэвалюцыя? Да маёй свядомасці гэта разуменне даходзіла паволі. Першае, у чым я пераканаўся, гэта тое, што яна, рэвалюцыя, не ладзіць з царом. Не ад вялікай жа любасці хлопцы камянямі разбілі яму галаву. Стаяў у валасным агародчыку бронзавы. Другое, што рэвалюцыя не ладзіць і з панамі, паны баяцца яе. Учора раненька залеўшчыкі цэлым абозам ледзь не галопам пранесліся па Чаплічах. Даюць лататы. Што выклікала на твары ў нашага суседа Марка Жупранскага яхідненькую ўсмешачку. Сустракаючы панскія непярэліўкі, ён першы раз у жыцці не зняў шапкі і з нейкаю шкодаю, што нешта некуды сплывае, пацёр рукі. Цяпер бы я сказаў, што ў яго галаве адбылася свая рэвалюцыя і ў рукі, якія яму захацелася пацерці, заўтра ён ухопіць камень або дубіну, або вінтоўку. Трэцяе, у чым я пераканаўся, — гэта што рэвалюцыя не ладзіць і з папамі: абрэзалі ж папа «па вуглы», як бы цяпер сказалі, і раздалі папоўшчыну беднаце.

Во з чаго пачала складвацца ў маёй галаве «рэвалюцыя».

У тыя дні многа гаварылі пра Брусілава, Карнілава, Распуціна, цара Мікалая, а найбольш пра Леніна. Ленін ідзе за бедных, зямлю бедным хоча даць. Так мне тлумачыў вызенскі Бурмак, царскі салдат з сапёрнай роты, што раскватаравана была ў Чаплічах. Днём ён быў сярод тых, каго ганялі на акопныя работы, а свабоднымі вечарамі майстраваў мне скрыпку. Магла быць добрая скрыпка, калі б салдаты не дужа рана пачалі бунтаваць і не ўзялі разышліся па хатах, хто адкуль быў. Пайшоў у сваю Вызну і наш Бурмак, пакінуўшы недаканчанай, перавязаную шпагатам, скрыпку.

## Чапліцкія семінарыі

Бацька быў чалавек нетаварыскі. Нецярплівы па натуры, ён меў больш непрыяцеляў, чым сяброў. Адзіным чалавекам, з якім ён ахвотна таварышаваў, быў яго пляменнік, мой стрыечны брат семінарыст Васіль Лобан. Гэты дыпламаваны настаўнік амаль не кожны вечар заходзіў да бацькі і быў адзінай крыніцай інфармацыі пра становішча на франтах. Перабраўшы ва ўсіх граматычных формах цара з царыцаю і таго ж Распуціна з «генераламі-шпіёнамі», субяседнікі пераходзілі да абмеркавання «ўнутрыпалітычных» пытанняў. Сярод іх асаблівая ўвага аддавалася пабудове лазні і алейні. Чаму лазні — можна зразумець: сяло мылася ў начоўках, а то і зусім не мылася. Антысанітарыя была жудасная, не-не і ўвальваліся тыф, чорная воспа, крываўка. Бацька лічыўся чалавекам бывалым, Васіль — адукаваным. Яны не маглі пагадзіцца з такім становішчам. Нешта думалі. А вот чаму алейні — і на сённяшні дзень загадка. Магчыма і адно і другое збудаванні ўжо даўно стаялі б у Чаплічах, калі б аўтары праектаў былі больш зговорлівыя і не загубілі б іх на стадыі даў-

жэзнага абмеркавання. Уся гэтая гаварыльня, вядома, была больш падобная на пустую балбатню, чым на нешта сур’ёзнае.

Несправядліва было б, гаворачы пра сям’ю старых халасцякоў дзядзькі Аніські, словам не крануць яго астатніх дзяцей. А ўсіх іх было шасцёра, чатыры хлопцы і дзве дзеўкі. Але, каб пазбегнуць сумнага апісальніцтва, спынюся толькі яшчэ на двух. Самай своеасаблівай і гэтым цікавай фігурай быў старэйшы сярод іх, Міхаль. Высокі, як і ўсе ў іх сям’і, спакойны і дабрадушны, глухаваты і з гугнявым голасам. Лічылася, што ён вёў гаспадарку. А зямлі была павалока[12]. Не сказаць, каб жылі яны як падабала павалочнікам на чапліцкай не такой ужо дрэннай зямлі. Усё рабілася па канец рук. Міхаль дзікаваты быў чалавек, як п’яніца ў бутэльку, так ён у кніжку глядзеў. Выпісваў «Русское богатство», «Ниву» і многа кніг. У яго можна было знайсці і Пушкіна, і Лермантава, і Гогаля, і Тургенева, і, нават, Сэрвантэсаў «Дон Кіхот». Вялікага парадку ў Міхалёвай бібліятэцы не было: яна была разваленая па лавах у чыстай хаце, заседжаная мухамі і залізаная пальцамі. З ад’ездам брата Васіля на настаўніцтва Міхалёва бібліятэка прыкметна паменшала. Свае любімыя кнігі Міхаль браў у рукі ледзь не штодня, мо ў соты раз перачытваў месцы, якія выклікалі асаблівае захапленне, і сам сабе паўтараў: «Непасціжыма».

Міхаль пакутаваў ад таго, што яму не было з кім у Чаплічах пагаварыць «пра кнігі». Паспрабаваў раз-другі нядзельным вечарам да настаўніка зайсці, але гаворкі не атрымалася — усе бачылі ў ім дзівака і стараліся ад яго адчапіцца. Выхад Міхаль знайшоў нечакана для сябе. Гэта ўжо было пасля рэвалюцыі, калі ў Чаплічы прыйшло такое дзіва, як спектакль. Пачатак аднаго спектакля зацягваўся, і Міхаль, вокам не міргнуўшы, выйшаў на самы перад і прамовіў: «Дайце я вам прачытаю, каб лягчэй было чакаць, «Казку пра рыбака і рыбку» Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна». Пацеха была: глухі Лабановых Міхаль выйшаў як вучань «дэкламацыю чытаць» на памяць. А Міхаль тым часам і не разгубіўся і прачытаў казку Пушкіна. І слухалі, і нават крычалі: «Давай яшчэ!» І Міхаль разахвоціўся — як чытаць дык чытаць, і прачытаў «Казку пра мёртвую царэўну і сем асілкаў». Усе былі задаволеныя: і арганізатары вечара, і публіка, і Міхаль. Пасля гэтага разу ўсе вечары пачыналіся з Міхалёвай «дэкламацыі». Рэпертуар быў багаты: і Пушкін, і Лермантаў, і Тургенеў — і ўсё на памяць, без кніжкі.

А аднаго разу Міхаль вырашыў пацешыць публіку сваімі вершамі, прысвечанымі адной чапліцкай дзяўчыне. Пачуўшы гэта прысвячэнне, публіка грымнула ад смеху — усе ведалі Міхалёва даўняе захапленне, Чарапкову Агапу, дзяўчыну на добрым выданні. Але гэта захапленне пакуль што выяўлялася ў прысылцы вершаў, у якіх ён выказваў свае палымяныя пачуцці заканага. Пісьмо з вершам, перададзенае праз Агапіных сяброваk, пакуль трапляла ў яе рукі, многа разоў адклейвалася, прачытвалася і зноў заклейвалася. Пасля кожнага такога пісьма ў сяле з тыдзень стаяў рогат. Самыя пікантныя радкі вывучваліся на памяць і кожны раз вымаўляліся не столькі, каб чуў ён, колькі, каб чула яна. Бацька і брат дзяўчыны пакуль што не звярталі на гэта ўвагі. Але пасля таго спектакля, калі ён прачытаў сваю «оду» і калі Агапа з плачам прыбегла дадому, яму наставілі сінякоў. На гэтым палымянае Міхалёва каханне пайшло на спад. Не чапаў ён больш на людзях Агапы, не пасылаў ён ёй і вершаў. Хоць пісаць пісаў. Ён не пакідаў спадзявацца на магічную сілу паэтычных радкоў. Але як некаму яго пісаніна павінна была чытацца, то ён гэтым «нехта» з нейкай пары зрабіў нашу хату. Бацька ўважліва выслухваў чарговае паэтычнае тварэнне Міхаля, лёгенька пасміхаўся і адно і тое ж гава-

рыў: «Эт, гавенда»[13]. А непрызнаны паэт давольны быў і тым, што яго хоць нехта паслухаў.

Двума гадамі маладзейшы за Міхаля быў мой цёзка Мікалай. Ён толькі што цэлы, без усякага вераду, вярнуўся з фронту ў свежай салдацкай гімнасцёрцы і з трыма Георгіеўскімі крыжамі на грудзях. Зайшоў да нас не столькі, каб даведацца, як дзядзька Павел з яго сямействам жывы-здаровы, як паказаць свае грудзі. Ён сядзеў у нас на покуці, дастаючы галавою ног распяцця Хрыста, піў чай з варэннем і пернікамі і расказваў:

— Значыць дзела было так: трэба было занесці ў штаб дывізіі данясенне праз адкрытае поле. Тры салдаты загінулі, не здолеўшы перабегчы. Таму как у акружэнне папалі. Батальённы камандзір і гаворыць — хто дабравольцы? Пачуўшы гэта, я і кажу: так што, ваша благароддзе, паспрабую?

— Валяй! — гаварыт і падае мне паперку — самому дывізіённаму камандзіру ў рукі.

Я за паперку — і бягом у патрэбным напрамку. Чую, справа герматка кашлянула. Па мне. Сочаць сволачы. Прыпадаю да зямлі. Не можа таго быць, каб з першага снарада папаў. Разарваўся ў двух сажнях. Я бягом у свежую варонку і думаю: «Трасцу, другі снарад у гэта месца не пападзе». А ён, сволач, усчаў беглы. Месіць зямлю вакол мяне. А я ляжу ў варонцы і не дыхаю. Чую: сціхлі, адстраляліся. Я некалькі хвілін ляжу — хай думаюць, што я забіты, потым усхопліваюся — і бягом. Пераняслі яшчэ раз. Але трасцу. Сам галоўнакамандуючы зняў з сваіх грудзей крыж і прычапіў мне.

Цэлы вечар расказваў мой цёзка пра вайну.

Яшчэ адным ахвочым пагаварыць у нашай хаце быў, зноў жа такі наш, дзясятая вада на кісялі, сваяк, Лабановых Ісай. Калі Васіль заходзіў пазабаўляцца «абмеркаваннем» грамадскіх праблем, то Ісай, старэйшы гадамі, быў проста разносчыкам дробных вясковых навін. Ён страшэнна любіў чым-небудзь здзівіць чалавека. А калі праўдзівых навін не хапала, то ў той жа радок ішлі і прыдумкі. Абы здзівілі. Ісаёва мана лёгка разгадвалася, але бацька, ведаючы такую слабінку госця, часам прыкідваўся, што паверыў, і гэтым прыносіў яму вялікую радасць. Чым дзіця не цешылася.

Выпіўшы конаўку цёплага сырадою з падгарэлай бульбінай, ён ускідваў на плечы дзедаўскую лахманіну, якая чамусьці яшчэ называлася кажухом, вытыкаўся на вуліцу, зіркаў у адзін канец, у другі — няма мужчын, каб стаялі сабраўшыся, — то чорт іх забяры, ён і сам знойдзе, дзе ўшчаміць язык. Заходзіў не да каго папала, а да тых, у каго хата лацвей адчынялася на навіны.

— Добры вечар! — дзед Ісай, ступіўшы адным лапцем у цёплую хату. Убачыўшы, што бацька карпее над вялікім, асьмін[14] на тры, корабам з саломы, дадае:

— Хі-хі-хі, кораб на пяць асьмін гатовы, а ўсыпаць няма чаго!

Бацька не спяшаўся хутчэй адказаць на гэты Ісаеў смяшок, прапорваў яшчэ раз спіцаю бакавіну кораба, яшчэ раз працягваў лазіну і тады ўжо, не гледзячы на госця, гаварыў:

— Закіну на гарышча, хай валяецца. Есці прасіць не будзе. Садзіся, расказвай. Мо ж набраўся навін на сяле, як сучка блох.

— Прыйшоў цябе паслухаць, — набівае сабе цану Ісай. — Я гляджу — новае рэшата справіла, Паўліха? — звяртаецца да маці, шукае зачэпкі выстраліць сваёй абоймай навін. — Цяперака, каб купіць, то і добрага рэшата не знойдзеш. Мая летась прывезла з Слуцка, то і года не паслужыла, высыпалася, дзірка, хоць локаць прасадзі. — Ісай робіць паўзу і пачынае:

— Марцінішына свіння дванаццацера парасят прывяла, то двое ўжо сцерласо. Цыцак не хапіла.

— Хай бы ж яна з пальца прыкарміла? — паражывае маці.

— Хай бы ж. Да гэтага ж трэба датукаць. А калі ў бабы розуму нестае?

Ісай зноў робіць паўзу, дае бацьку гузыром спіцы па лазіне пастукаць.

— Міронччыкаў большы сані новыя справіў, то раз па сена з'ездзіў.

— Што ж імі зрабілася? — улазіць у гаворку бацька. Гэта навіна па яго, мужчынскай лініі.

— Не ведаеш, што зрабілася? Галоўкі паадскоквалі — во што зрабіласо. Хі-хі-хі! Людзі беразак возяць, а ў яго сена вадою падплывае. Хі-хі-хі! — аж кісне Ісай, аж вочы мокрымі робяцца.

— То які тут смех? — абураецца маці. У чалавека няшчасце, а ён — «хі-хі-хі» сабе.

— А я з чаго смяюся, што калі ты плаціш грошы, то глядзі, што бярэш — галава твая два вухі. Хі-хі-хі! — Ісаю нічога смяшнейшага не бывае на свеце, як няпраўка ў суседа. — Хай яно гарыць, хай яно — зламаць сані, маючы паўзімы наперадзе. Грышка Яўцюк — вот хлопец галаваты: варыўню буракамі засыпаў — анігадкі: кароўка бурачкі паядае, а ён малачко папівае.

— То засып і ты, хто табе не дае? — не вытрымлівае маці.

— Лёгка сказаць, засып. А калі ў мяне буряк не расце? Што ты на гэта скажаш? Каб я ўмеў, гэтак, як ён, газеткі чытаць, то, мо, і ў мяне б рос. Але ж я не ўмею. Вот яно што, галава твая два вухі. — Хай сабе Паўліха спрачаецца, а ён далей пойдзе.

— Карасеравых Ганна ўжо трэція чаравікі заказала ў чалевіцкага Швэдзіка. Вот баба, другі мужчына не дакажа таго, што яна адна, без чалавека, з кучаю дзяцей жывучы. І не знойдзецца ніхто ў прымы прыстаць. Нешта быў Сямёнчыкаў пасватаўся, то і на парог не пусціла. І разумна зрабіла, што не пусціла, нашто ёй гэтакай акуратнай бабе лезці галавой у пятлю. Не было п'яніцы на дзяцей.

— Міронччыкаў Гардзей на мінулым тыдні ўтаргаваў на базары срэбнага рубля. Мо першы раз у руках патрымаў. Прыехаў дадому і з радасці даў дзецям пагуляць. Як пагуляць дак пагуляць, і рубельчыка няма. Тры дні хату пераварочвалі, калацілі, трэслі. На чацвёрты дзень меньшанькае падбегла да старога валёнка і дастало з яго цацку. Во кабы гарэла.

— Дзюбакі з акопаў дрот здзіраюць. Вот упраўныя, усюду яны першыя. Зрабіўшы агароджу з такога дроту, можна спакойна спаць. Навечны плот, пакуль не пераржавее. А зноў жа, пачалі дуб з Залеўшчыны вазіць. Здэцца, і гумны спраўныя і дзяліцца не збіраюцца, а пляжаць, а возяць. Іванко наперадзе ідзе і квіток у руцэ трымае, бытта сваё, куплёнае забіраюць. А як Залеўшчыкаў след прастыў, то па гэтым квітку можна ўвесь лес спляжыць. Хі-хі-хі!

Самае большае смяхоцце Ісай пакідаў напаследак:

— Вы тут карпаецеся, а ў вас з-пад носа Піліпшыў Сучок дзікіх качак мяхамі цягае.

— Якіх яшчэ качак? Што ты вярзеш? — не дае веры маці. — Дзе ён іх бярэ, што аж мяхамі цягае?

— Дзе бярэ! Галава твая два вухі. На Вераб'ёўшчыне, вот дзе бярэ. Учора ідзе з аброцямі коней у руні пабраць, раптам чуе на лужку «лапу, лапу» — качкі. Ён туды — аж яны лапкамі папрымярзалі, узняцца не здольваюць. Не даяце веры? У самога папытайце. Мех качак прыдубіў. — Ісай падхапіўся, ён ужо не мог уседзець ад смеху. Гэтак ён хвацка наманіў. — Я сваё сказаў. Разбірайцеся, што да чаго. Дабраначкі! Хі-хі-хі! Раннія маразы нарабілі.

## Дзюбакі

Цераз зіму, а дакладней, у канцы лютага, калі хлопцы, сабраўшыся, каменнем білі цара, валаснoе начальства абвясціла людзям, што цар адрокся ад прастола.

Тады было многа сходаў. На адным з іх бацька выступіў і выкрыў махінацыі Дзюбакоў, звязаныя з будаўніцтвам акопаў. Вечарам яго падпільнавалі на двары валасці, акружылі і пачалі біць палкамі. Білі не шкадуючы, каб забіць. Удары сыпаліся з усіх бакоў. Калі бацька не вытрымаў і ўпаў, сталі біць яго нагамі. Не далі прыкончыць бацькавы пляменнікі — Мікалай з Міхалём ды з Васілём — здаровыя былі хлопцы. Яны ўварваліся ў кулацкі натоўп, ухапілі бацьку пад рукі і павялі дадому. За імі ішла і галасіла маці: «Усюды ты ўлезеш. Казала, мой божачка, не чапай ліха. Захацеў з Дзюбакамі сілаю памерацца!» Так у сяле звалі самую магутную кулацкую сям'ю Юркевічаў, параднёную з іншымі кулацкімі сем'ямі: з Гаравіком, Чарапком. Усе яны мелі па валоцы зямлі, па пяць, па шэсць кароў, па дзве пары коней, свае ветракі. Усё лета паўсяла баб бегала да іх на работу — усё адраблялі: то за памол, то за насенне, то за бугая. Дзюбакі з Гаравіком ды з Чарапком тэрарызавалі сяло, трымалі яго ў пакорнасці. Яны бязлітасна распраўляліся з тымі, хто пераступаў ім дарогу: білі, палілі гумны і нават кралі з поля. І за гэта ў іх валасок з галавы не падаў. Адзін з Юркевічаў, блізкі сваяк Дзюбакоў, быў дэпутатам Дзяржаўнай Думы.

Абурэнне супраць Дзюбакоў у сяле расло, але не было каму яго ўзначаліць. Гэта зрабіў бацька, і больш стыхійна, чым абдумана.

Здарылася гэта гадоў за дзесяць да рэвалюцыі. Зачасцілі пажары — па начах сталі гарэць гумны. Хто паліць? Падазрэнне пала на серадольнага з Дзюбакоў. Калі ён, то як жа яго падпільнаваць? Трэба было ж схапіць за руку на месцы злачынства. Дапамог выпадак. Аднаго разу сярэдначы нехта моцна пастукаў у сенцы. Адчувалася, што стукаўся п'яны. Бацька ўзяў у рукі сякеру і падышоў да дзвярэй:

— Хто там?

З-за дзвярэй пачуўся голас маладога Дзюбака:

— Адчыні, бацько! Чуеш? Гэта ж мо я стаю, Дзюбак, Віктар Дзюбак. Адчыні, кажу, а то дзверы выламлю.

З Віктарам хаханькі кароткія — што сказаў, то і зробіць. І бацька паспяшаўся папярэдзіць:

— Пачакай ты дзверы ламаць! Дай святло запаліць!

Бацька адчыніў дзверы: неяк трэба было затрымаць яго, каб працверазеў. Запаліў лямпу. Дзюбак ледзь перабраўся цераз парог.

— Пашукай, бацько, чаго выпіць.

— Выпіць? Мо ж ужо налізаўся? Ці яшчэ мала?

— Мало, бацька, мало. Мяне Сашка Аленін пакрыўдзіў. Я яму адпомшчу, я яго падагрэю. Паглядзі на маё вока. Падбітае? Гэта ж Сашка мяне садануў. З-за дзеўкі пабіліся. Не хачу я сваіх хлопцаў падымаць, а то мы б яму ўкінулі. Нічога, яшчэ нарвецца. Дай чаго выпіць? Пайду рыжага пушчу. Вот ахвота пагрэцца!

Дзюбакі не пілі, дазваляў сабе, і то зрэдку, старэйшы з іх, гэты самы, што прывалокся да нас, А выпіваў ён тады, калі збіраўся зрабіць шкоду. І бацька гэта ведаў. Таму ён хацеў ператрымаць яго ноч у сябе. А там сялом можна будзе павартаваць. Бацькаў разлік удаўся як не трэба лепш. Накрылі Дзюбака на месцы злачынства, звязалі і пасадзілі ў халодную. На суд бацьку выклікалі ў якасці галоўнага сведкі. Факты былі неабвержныя. Падпальшчыка засудзілі

на дзесяць гадоў катаргі, адкуль ён і не вярнуўся. Бацьку трэба было чакаць расправы: у сяле ж асталіся і бацькі, і браты, і вялікая радня. Але Дзюбакі не спяшаліся: ні з-за вугла не забівалі, ні хаты не палілі. Чым гэта можна было растлумачыць? Можа, дэпутат Думы забараніў?

Прага помсты не згасала, а яшчэ больш мацнела пасля Лютаўскай рэвалюцыі, калі кулакі адчулі ўсю паўнату сваёй улады. Цяжка было ўгадаць, дзе яны збіраліся нашкодзіць. Вот некалькі выпадкаў.

Зімою, калі стала санная дарога, бацька паехаў па нарobленае летам сена. Пад'язджае к балоту — аж насустрач Дзюбакі двума вазамі. Ляжаць наверсе ды толькі пасміхаюцца, сала жаручы. У бацькі і сэрца зайшлося — Дзюбакі сена забралі. Да стагавішча можна было б і не пад'язджаць — адны пагрэбіны асталіся. Бацька аж заплакаў з крыўды: кармі каня, карову чым хочаш, І што рабіць? За руку не злавіў, каб суд там ці што. Паспрабаваў, улегца будучы, пераняць, ухапіць пярэдняга каня за цуглі. То куды там, пасаскоквалі з вазоў, пахапалі вілы — ды к бацьку, натаўклі ды ў глыбокі снег носам тыцнулі. Мала таго самога, дык і каня ўвапхнулі ў роў. Гэта ўжо для здзеку. Можа, другі хто і зрабіў бы што з гэтым сенам, толькі не бацька: ён вылез са снегу, выбавіў каня з санямі і махнуў рукой: гарыце вы з гэтым сенам. Не стаў прававаццa. Прыб'юць. Няма ў яго сілы на Дзюбакоў. Спытваў ён іх палкі.

Забягаючы трошкі наперад. Мне было, можа, дзевяць, можа, дзесяць гадоў. Стаяла цёплая вялікіх чэрвеньскіх дзён раніца. Мы з Сямёнчыкавым Мікалаем, хлапчуком з выселак, трошкі большым за мяне, сабраліся пайсці ў «той канец» сяла. Каб не мясіць па вуліцы гразі пасля начнога дажджу, мы выправіліся па загуменнай дарозе. Якая патрэба пацягнула нас туды, цяпер цяжка сказаць, толькі не палазіць па чужых агародах. Гэтага і ў думках не было. І вот жа здарылася. У адным агародзе мой цёзка заўважыў прывабную маладую цыбулю, спыніў мяне і кажа: «Глянь, якая цыбуля? Давай вырвем па карчу?» Мяне цыбуля не вабіла, свае хапала, але чаго не зробіш з-за таварыства. Улезлі. Вырвалі. Чый гэта быў агарод, мы не ведалі. Агарод і ўсё. На тую хвіліну, як мы лезлі нарабіць шкоды, нас як быццам што асляпіла: мы не заўважылі, што паводдаль ад град, на ўзмежку, сядзеў сам гаспадар агарода, здаравенны, двухметровага росту, гадоў трыццаці мужчына з дзюбаковага сваяцтва. Убачыўшы такое нахабства з нашага боку, ён усхапіўся і прыпусціўся за намі. Самае страшнае, што мяне чакала, гэта калі гаспадар зловіць і, накруціўшы вушы, завядзе да бацькоў. Пры сустрэчы з бацькамі ў такой сітуацыі я баяўся не лупцоўкі, а іх гневу і расчаравання. Да гэтага бацька і маці паміж сабою гаварылі пра мяне: «Коля чужога не возьме». І гэтым я вельмі даражыў. А тут — на табе: злавілі ў агародзе. Я не ведаў бы, дзе дзецца ад сораму. Бацькі больш не скажуць пра мяне гэтак

Мы абодва пусціліся ўцякаць у другі канец сяла, каб далей ад свайго дому. Праз колькі хвілін не стала чуваць ні тупаніны, ні гаспадаровага крыку. Мы маглі пайсці спакайней. Мой таварыш знайшоў сабе нейкі занятак у канцы сяла, а мяне пачало мучыць, як вярнуцца дадому. Мне здавалася, што з кожнага агарода, з кожнага двара глядзелі на мяне вочы гэтага мужчыны. Ён сачыў за кожным маім крокам. Нішто мне не міла было. Я праклінаў тую хвіліну, калі згадзіўся ўлезці ў гэты агарод. Але вяртацца дадому трэба. Я вырашыў абысці канец сяла і другой загуменнай дарогай паспрабаваць непрыкметна прайсці. Як толькі я параўняўся з агародам, які быў насупраць таго злашчаснага месца, як з варот выступіў — хто б мог падумаць — той самы двухметровы велікан і, пазнаўшы мяне, на нейкі момант прыпыніўся. На яго твары

я ўбачыў і здзіўленне, і спалох, і шчасце. У наступны момант ён кінуўся на мяне з выстаўленымі ўперад рукамі, каб схапіць. Але я здолеў ухіліцца, перабегчы нешырокую загуменную дарогу і рынуцца ў поле паміж жытоў. Метраў з пяцьдзясят я здолеў прабегчы, і пасля моцнага штуршка ў спіну зарыў носам. Потым пасыпаліся ўдары нагамі, абутымі ў боты. Я страціў прытомнасць. На дварэ была раніца, да дванаццаці. Паўдня яшчэ не было. А ачнуўся я — ужо заходзіла сонца. Першае адчуванне — холадна, усяго трасе, другое — вельмі мулка ляжаць. Расплюшчыў вочы і здзівіўся: чаго гэта я раптам ляжу на разоры сярод пасеваў? І прыпомніў, што гэта ж мяне так пабіў гэты высачэзны Дзюбак. Крыўды ніякай — вінаваты. У галаве выстройваецца, як зайсці дадому. Пакуль сонца не зайшло і мяне не хапіліся, дзе я, абысці полем сад і ўвайсці ў яго з дальняга канца, Там, на ўзмежку, можна будзе паляжаць, пакуль добра не ўмеркне, і калі маці пойдзе даіць карову, увайсці ў хату і хутчэй легчы. Усё было зроблена, як задумана, аднак ад вока маці я ўхавацца не здолеў. Ды гэта і немагчыма было, мяне ўсяго то трэсла, то паліла, забівала духі, і я то ачынаўся, то непрытомнеў. Помню, на століку каля мяне гарэла лямпа, стаялі ў пляшачках мікстуры і іншыя лекі, густа пахла напараным рамонкам, а нада мною, нагнуўшыся стаяў стары, сівенькі Шкода Антон, валасны фельчар. Маці трымала міску з папараным рамонкам, а ён мачыў у ім бінты і абкручваў імі маё ссінячанае цела.

— Звяры, а не людзі, — гаварыў сам сабе Шкода, самы добры на ўсіх Чаплічах чалавек. — Трэба пайсці ў воласць і скласці акт на пабоі. Я сам схаджу.

— Хлапчукі самі з сабою, які там акт, — гаварыла, смаркаючыся, заплаканая маці.

А Валодзя, брат мой, старэйшы за мяне на чатыры гады, дапытваўся:

— Хто цябе набіў, скажы? Я яму галаву адкручу!

Валодзя лічыў сябе сярод сваіх равеснікаў самым здаровым хлопцам у сяле.

А я, божа збаў, не хацеў гаварыць праўды і пачаў выдумляць, што мы, хлопцы (хлапчукамі мы сябе не называлі) гэтага канца, гулялі на загуменні ў «вайну» з хлопцамі таго канца, і я, папушчаным з прашкі[15] каменем, папаў у галаву аднаму большаму хлопцу. Дык ён сёння злавіў мяне і набіў. А як зваць гэтага хлопца, я не ведаю. На гэтым сямейнае расследаванне здарэння са мною было скончана. Бацька аказаўся ўбаку ад усяго гэтага: у тыя дні ён быў у Вялічкавічах на таргах, абзадачваў участак сенажаці. А калі вярнуўся дадому, то я ўжо, кволячыся, хадзіў. Можа, праз месяц суседка, Ганна Шупранская, падышоўшы вечарам на нашу каля парога лаўку, шапнула маці на вуха:

— Вашага ж Колю Хведар Дзюбак пабіў за куст цыбулі. Дзеці бачылі, як ён дагнаў яго ў жыце і нагамі дубасіў.

Праз невялікі час пра гэта даведаўся і Валодзя. Але напал абурэння на той час ужо астыў.

Тым часам няма ліха без дабра. Гэты выпадак умацаваў у маёй душы на ўсё жыццё пачуццё агіды да таго, што называецца «ўкрасці», «уварваць», «ухапіць». Забягаючы некалькі наперад, скажу, што Сямёнчыкаў Мікалай дрэнна скончыў: у нейкім дваццаць сёмым ці дваццаць восьмым годзе, калі ён быў ужо дарослым хлопцам, ён быў асуджаны на дзесяць год зняволення за ўдзел у абрабаванні чапліцкай крамы і забойства вартаўніка Данііеля.

Усё жыццё я ўспамінаю гэта здарэнне са мною, думаю: колькі трэба мець нянавісці да чалавека, каб гэтак ні за што збіць яго дзіця. На што ж ты яшчэ здольны, раўнівы ахоўнік уласнасці?

Здарэнне са мною і расказанае раней здарэнне з бацькам мне хочацца звязаць. Почырк той самы. Я адчуваю, што крыўда мая не прайшла. Гэта не прага помсты, справа ў нечым іншым, справа ва ўсёўзрастаючай нянавісці да таго, што называецца «кулаком». Паняцце «кулак» я разумею значна шырэй, чым звычайна прынята ў сацыяльна-эканамічнай і палітычнай літаратуры. Для мяне «кулак» — гэта і вясковы міраед, і гарадскі хабарнік, і злодзей, і нават кар’ерыст. Розніца паміж імі ў форме эксплуатацыі, сутнасць жа адна і тая ж. З гэтай катэгорыяй людзей звязаны ўсе мае беды і няшчасці, усе крыўды і пакуты.

Адразу пасля першых валасных сходаў стала вядома, чыя прыйшла ўлада. Загаварылі пра Думу, пра Керанскага. У сяло наехала, чаго і што, казачая сотня. Расстаўлялі надзейныя падраздзяленні ў бліжшых тылах. Неспакойна было і на фронце, неспакойна было і ў тыле. Ні царскія рублі, ні сторублёвыя «кацярынкі», ні паштовыя маркі ў якасці разменнай манеты не сталі хадзіць. Гаварылі: «Грошы прапалі». Замест царскіх былі выпушчаны новыя папяровыя грошы — «керанкі». Яны хадзілі ў выглядзе вялізных, на ўвесь стол, лістоў, штук па пяцьдзясят купюр у адным лісце вартасцю па пяць—дзесяць рублёў кожная. Каб расплаціцца за што, трэба было ад ліста адрэзаць патрэбную колькасць знакаў. Грошы хутка абясцэньваліся. За рубель ужо нічога нельга было купіць. Каробка запалак каштавала не капейкі, а дзясяткі, а яшчэ праз колькі часу — сотні і тысячы рублёў. Тады ўсе былі «мільянерамі».

Позняй восеньскай парою з слуцкай дарогі ўязджала ў Чаплічы фурманка. На возе сядзела чацвёра: трое салдат з вінтоўкамі і гаспадар каня з пужкай. Селянін пад’ехаў пад самы плот «канцылярскага» садка, накінуў на слупок лейцы і сказаў:

— Злазьце. Тут ваша ўлась.

Так адбылася пралетарская рэвалюцыя ў Чаплічах. Учора па воласці яшчэ паходжваў старшына — высакарослы, плячысты, з доўгай чорнай і акладзістай барадою бялевіцкі кулачок, а сёння, — не знімаючы з плячэй вінтовак, салдаты расклейвалі на сцяне воласці першыя ленінскія дэкрэты. Сходы былі мнагалюдныя і ледзь не кожны вечар. Выступалі з прамовамі бальшавікі, расказвалі, як у Петраградзе рабочыя штурмам узялі Зімні палац, што сялянам трэба ісці ў саюзе з рабочым класам і што трэба хлебам памагчы Петраграду. У канцы сходу спявалі «Інтэрнацыянал».

## «Начаткі»

У школу я пайшоў у 1918 годзе ў «приготовительную» групу. Тады ў Чаплічах было двухкласнае вучылішча: тры аддзяленні народнага і два класы другой ступені. Той, хто канчаў двухкласнае вучылішча, лічыўся вельмі адукаваным чалавекам — умеў рашаць задачы з дробамі і іксамі, праходзіў гісторыю, геаграфію і прыроду. У пятым класе вучыліся лічаныя вучні, чалавек з дзесяць, і ўсе дарослыя, гадоў па васямнаццаць хлопцы. Я кажу — хлопцы, бо ні аднае дзяўчыны той год у пятым класе не было.

Раніцай, перад пачаткам заняткаў усе вучні школы збіраліся ў адным класе. Хто-небудзь з пяцікласнікаў чытаў малітву. Усе, чынна стоячы, выслухвалі яе, у канцы хорам гаварылі «амінь» і разыходзіліся па класах.

Будыніна школы была новая, гадоў з дзесяць як пабудаваная, высокая, пад гонтам, з двума ўваходамі — адзін для вучняў, другі, з процілеглага боку, для настаўнікаў. Ганак настаўніцкага ўвахода быў зашклёны, расфарбаваны,

з дзвярным званочкам і з палавічком. Школа пабудавана была, відаць, па тыпавым праекце двухкласных валасных вучылішч. Памяшканне дзялілася калідорам на дзве вялікія палавіны — класы. У адной палавіне быў клас для першага, другога і трэцяга аддзяленняў і гаспадарчы пакой, у другой — пакой для чацвёртага і пятага класаў і настаўніцкая. У гэтым пакоі на сцяне, апраўленая ў палкі, вісела карта Еўропы, бомкаў насценны гадзіннік і з прасцення высокіх акон некуды ўбок дакорліва пазіраў з-пад насупленых броваў доўгабароды дзед. Неяк здарылася так, што я, дашкаляр, з большымі дзецьмі прысутнічаў пры акце «ўзнясення» Льва Талстога на высокае прасценне Чапліцкай школы. Партрэт быў намаляваны нашым Андрэем Антонавічам, ці, як яго называлі, Андрушкам Шкодавым, нашым настаўнікам. Усе, хто падаваў Андрэю Антонавічу малаток, абцугі, цвікі, прыйшлі да агульнай згоды: «Вот падобны, ну, точ-у-точ як Талстой!» А хто такі Талстой, мы не вельмі і ведалі: можа, цар, а можа, генерал? Толькі не, не падобна, каб быў панам. Ён жа ў мужычай палатнянай сарочцы, як бацька летам…

А вот і мой першы ў жыцці вучэбны дзень. На дварэ сонечны, але халодны верасень. Я ў доўгай з саматканага палатна світцы ўваходжу ў «вялікі» клас і спыняюся, каб агледзецца, што тут робіцца. Бегатня, крык, шум. Да мяне падбягае ззаду велікарослы Палхоўскі Адам, ці, як яго звалі, Адамчык, хапае мяне знізу за світку і пачынае кружыць вакол сябе. Я вылузваюся са світкі і лячу носам на падлогу. Навокал мяне рогат. Я забіраю сваю світку і з ровам і разбітым носам іду дадому. На гэтым і скончылася мая вучоба першага дня. Назаўтра мяне пад сваю абарону ўзяў Валодзя, і я спакойна мог дасягнуць сваёй лаўкі.

Праз год, калі мы ўжо навучыліся крыху чытаць, загадчык школы Васіль Сяргеевіч Бабейка раздаў нам «Начаткі», тыя самыя «Начаткі», з якімі столькі было дзівосных прыгод у коласаўскага Алеся з «Новае зямлі». Раздаючы, Васіль Сяргеевіч сказаў, што зараз будзе ўрок «закону божага» і што на гэты ўрок прыедзе чапліцкі бацюшка. Страшна было. Мы перад гэтым добра наслухаліся ад старэйшых вучняў пра гэтыя ўрокі. Усе нішкам сядзелі, чакаючы ўваходу бацюшкі. Але, на шчасце, так і не дачакаліся. Увайшоў Васіль Сяргеевіч адзін і сказаў, што ўрокаў «закону божага» не будзе, што можна ісці дадому. Радасці нашай не было канца.

## Каб Гогаля

У сяле не любілі чапліцкага папа, ён вядомы быў як абжора і абдзірала. Знешне ён нагадваў рэпінскага «Протадыякана». Чалавек ён быў высокаадукаваны, пра што гаварылі яго майстэрскія пропаведзі і вялікая бібліятэка. Ведаючы гэта і адчуваючы кніжны голад, я аднойчы — гэта ўжо было, калі я вучыўся ў чацвёртым класе сямігодкі — адважыўся пайсці да Анішкевіча папрасіць кніг пачытаць. Нялёгка было ўзяць ды пайсці да папа з такою патрэбаю. Але жаданне кнігі перамагло страх. К таму часу я ўжо паспеў прачытаць не адзін дзясятак кніг, якія мне ўдавалася выпрасіць на сяле ў чапліцкай «інтэлігенцыі». Так былі прачытаны сярод першых кніг «Дуброўскі», «Тарас Бульба», «Вій», «Як пасварыўся Іван Іванавіч з Іванам Нікіфаравічам», «Юрый Міласлаўскі», «Рабінзон Круза», «Разбітае сэрца», «Шэрыя героі»... Апошнія два раманы чытаў уголас усёй сям'і. Слухалі вечарамі аж да другіх пеўняў, Аднекуль трапіў у мае рукі кароткі пераказ зместу гамераўскіх паэм, «Іліяды» і «Адысеі» — прачытаў і гэта. І нават прачытаў усе чатыры тамы

«Вайны і міру». Пачалося чытанне і па-беларуску. Але пра гэта потым. Я непакоіўся, што бацюшка можа папытаць, што я чытаў, і загадае расказаць якую-небудзь прачытаную кнігу. Але ўсё адбылося зусім іначай.

— Чей ты? — запытаў Анішкевіч, убачыўшы мяне ў адкрытых служанкаю дзвярах.

Я адказаў.

— И с чем же ты пришел?

— Я прыйшоў — каб кніг далі пачытаць.

Анішкевіч здзіўлена павёў галавою, упяліўся вачамі ў мяне. Адчувалася, што не чакаў такога.

— Кніг? Не баішся і вочы папсаваць? — сказаў ён падкрэслена па-беларуску. — Што ж ты хочаш пачытаць?

— Што-небудзь цікавае, — узрадаваўся я. — Каб Гогаля?

Бацюшка ўстаў, загадкава прамовіў: «Каб Гогаля?» — і выйшаў у бакоўку, доўга не паказваўся адтуль, стараўся выбраць, як мне думалася, самую цікавую і самую тоўстую кнігу, каб было чаго папачытаць. І вот ён паявіўся. У руках аж дзве кнігі: адна танюсенькая — брашурка, старонак на дзесяць, у вокладцы з сіняй таўставатай паперы, другая таўшчэзная, старонак на тысячу, у кардонным паласатым пераплёце. Вот папачытаю! Мусіць, увесь Гогаль, — радуюся я. Анішкевіч спыніўся каля стала, разгарнуў брашурку і падаў мне, а сам сеў у мяккае крэсла каля акна, закінуў галаву і прыплюшчыў вочы.

— Пачытай мне.

Я пачаў чытаць. Гэта была яго прамова на юбілейным вечары з нагоды сямідзесяцігоддзя архімандрыта слуцкага Троіцкага манастыра. Я чытаў, а ён ціхенька, ледзь прыкметна ўхмыляўся. Я ўжо скончыў чытаць, а ён усё яшчэ, як зачараваны, сядзеў і ўхмыляўся. Потым расплюшчыў вочы і падсунуў мне тоўстую кнігу.

— А гэту — можаш узяць.

Я разгарнуў, глянуў на тытул: «Сельское хозяйство России». У сярэдзіне нават малюнкі былі: плуг, барана, жатка... Але хіба такая кніга магла замяніць вясковаму хлапчуку Гогаля?

— Не, гэта кніга нецікавая, — асмельваюся прамовіць я. — Каб Гогаля.

Бацюшка зіркануў на мяне злым вокам, забраў кнігу і другой не прынёс. Я зразумеў, што мне трэба ісці, кнігі не будзе. З мяне потым смяяліся: «Знайшоў у каго кніг прасіць». Ды і ў мяне самога астаўся на душы нейкі непрыемны асадак. Успомніліся словы Дзям'яна Беднага: «Все люди братья, люблю с вас брать я».

## Цурук! Штээн! Кантрыбуцыя!

Але вернемся да васямнаццатага года. Пачулася слова «легіёны». Мне ніхто не тлумачыў, што гэта такое, я сам паступова пачынаў разумець, што гэта страшныя рыцары на конях з шашкамі, у шлемах і латах. А ўзяў я такое ўяўленне з тоўстай кнігі, напісанай па-польску, якую маці прывезла з Чапялёўскага двара, з бібліятэкі памешчыцы Бідзецкай і патрошку чытала мне ў ёй подпісы пад малюнкамі. А малюнкаў было многа, усё пра вайну, пра рукапашныя бойкі.

Маці называла гэтых воінаў легіянерамі. Потым я ўжо ўведаў, што легіёнамі называліся польскія фарміраванні пад камандаваннем генерала Доўбар-Мусніцкага[16], якія ў дні рэвалюцыі займалі трыкутнік Бабруйск —

Жлобін — Рагачоў. Не падпарадкаваўшыся савецкай уладзе, яны пачалі рухацца ў бок Асіповіч і Слуцка. Легіёны доўга не пабылі ў Чаплічах, іх праз колькі дзён выціснулі немцы. Я іх помню жывых у шынялях мышынага колеру, у касках. На рулях вінтовак у іх былі насадканы замест штыхоў шырокія нажы. Немцы прынеслі і «падарылі» для ўжытку слоўцы: «цурук!», «штээн!», «шпік», «брот», «бутэр», «швайн», «кантрыбуцыя»[17]. Усе гэтыя словы былі нейкія чужыя, несла ад іх тхлінай і нечым яны былі страшныя, асабліва апошняе. Уваходзілі мужчыны з узброенымі немцамі і гаварылі слова «кантрыбуцыя». Пачуўшы гэта, маці пачынала плакаць, а мы, дзеці, бляднелі і толькі ад страху глыталі сліну. Мне здавалася, што слова «кантрыбуцыя» азначала смерць, што каго-небудзь заб'юць, або пасадзяць у астрог, падпаляць хату ці, сама менш, забяруць карову. Усё гэта было вельмі страшна. Але «кантрыбуцыя» на шчасце канчалася тым, што маці выцягвала з бойкі камяк жоўтага, пахучага і смачнага масла, якога нам, дзецям, давалася па чайнай лыжачцы і то не кожны дзень. Ні бацька ні маці яго не елі. А тут прыходзілі злыдні і адбіралі яго ў нас.

Улада той год мянялася некалькі разоў, і цяпер цяжка ўспомніць, якая падзея пры якой уладзе адбывалася.

Пад націскам маладой Чырвонай Арміі нямецкія акупанты вымушаны былі адыходзіць. Па сяле з Вызны на Слуцк прайшла нямецкая пяхотная часць. Гадзіны праз дзве пасля гэтага ў канец сяла з таго самага боку ўехала двое нямецкіх коннікаў. Чапліцкія хлопцы, не доўга думаючы, паадбіралі ў іх вінтоўкі і коней, панатоўкалі морды і пусцілі ісці за сваімі. Думалі, што на гэтым усё з немцамі будзе скончана. Аж, не. Назаўтра на слуцкай дарозе паявілася вялікае падраздзяленне немцаў. Падыходзячы к сялу, яны сталі абкружаць яго. З аднаго і другога канца па сяле выставілі на сошках станковыя кулямёты, прадудукалі на іх дзеля страху і выклікалі да сябе старасту: давалі гадзіну на роздум — або сяло выдасць бандытаў, якія ўчора напалі на нямецкіх коннікаў, каб пакараць іх, або сяло будзе спалена. Забегалі і стараста, і ўсе, хто быў бліжэй да воласці. Удалося ўгаварыць нямецкае камандаванне расправу над сялом замяніць кантрыбуцыяй. Хадзілі па хатах з канца ў канец, збіралі масла, сала, яйкі, муку, курэй. Аддалі і коней з сёдламі і вінтоўкі. А хлопцаў не аказалася, хлопцы паўцякалі.

## Піліп-ціп-ціп!

Пасля немцаў бальшавіцкая ўлада доўга не пабыла, пачалося наступленне белапалякаў. Як цяпер помню, мы ўсёй сям'ёю сядзелі ў пограбе. Бальшавікі, адступаючы, адстрэльваліся. Палякі з Чапліч наступалі на Чалевічы. Стрэлы ў пограбе аддаваліся асабліва гулка, як быццам што біла ў ліст бляхі. На шашы біла па Слуцку дальнабойная артылерыя, а ў нас па вуліцы гарцалі коннікі. Гадзіны дзве прасядзелі. Потым усё сціхла. Гаварылі: нашы пакінулі Слуцк.

Выйшаўшы на Бярэзіну, белапольскія ўлады паспрабавалі замацавацца на захопленай тэрыторыі навечна. Часовы ваенны поспех ажывіў у галовах польскага панства блазнаватую мару пра «Жэч Паспаліту ад можа да можа». Дзеля гэтага яны пастараліся барзджэй вярнуць на маянтковыя землі паноў, заручыцца падтрымкай кулацка-шляхецкай верхавіны вёскі ды і пачаць апалячванне насельніцтва. З гэтай мэтай ва ўсіх аддзяленнях школ быў уведзены ўрок польскай мовы. Прыехала ў школу і «пані наўчыцелька». Помняцца першыя

заняткі: чыталі, пісалі, гаварылі — і абрыўкі першага, завучанага на памяць вершыка «Врубэлек». З гэтага вершыка асабліва ўрэзалася ў памяць гукавая перадача вераб'інага шчэбету: «піліп-ціп-ціп», якая паўтараецца ў канцы кожнай страфы. Мы, першакласнікі, па-свойму ўспрынялі гэты рэфрэн, успрынялі яго як жарт з нейкага недацёпы Піліпа. А як у нашым першым аддзяленні быў свой Піліп пераростак, то мы і ўспалі на яго з гэтым жартам. Бедны, даняты намі, хлопец выходзіў з сябе, ганяўся за намі з папружкай, пляваўся і плакаў. Дайшло да таго, што ў адзін з бліжэйшых дзён, прыйшоўшы першым у школу, Піліп падраў падручнік па польскай мове, раскідаў яго па класе і сам знік са школы. Ніхто не пайшоў шукаць яго: дзе ён, хаця ці вучыцца, які яго будзе лёс — такога рупеску ў тыя дні не было. Рабі, як сам ведаеш.

Тым часам надыходзіў Новы год. Польская камендатура «раскашэлілася» на ёлку. Стаяла, упрыгожаная жывымі і нежывымі цацкамі: яблычкамі райкамі ды цукеркамі ў прыгожых паперках, пахучымі і смачнымі, пеўнікамі ды заморскімі птушкамі, пералівістымі шклянымі шарамі ды свечкамі. Лямпа «молнія» высока над галовамі вісела патушаная. Светла было ў класе ад свечак, што гарэлі на ёлцы. Цудоўная была ёлка, першы раз у жыцці бачаная. Нехта ведаў, чым падкупіць і дзяцей і дарослых. Надзеі ўсе яшчэ былі наперадзе. Пабраўшыся за рукі мы з настаўніцай Лідзіяй Ксенафонтаўнай і з наўчыцелькаю скакалі вакол ёлкі, спявалі і расказвалі вершы. І мала хто ведаў, што зараз паявіцца Дзед Мароз з падарункамі. Вучні старэйшых аддзяленняў і бацькі, якія папрыходзілі паглядзець на дзіва, стаялі паводдаль ёлкі. І толькі адзін акушэрчын Федзя, васямнаццацігадовы ваўкаваты прыдурак неадступна цёрся каля малых. З усіх бакоў яму крычалі адысці, а ён і вухам не вёў. А калі нехта з дарослых паспрабаваў ухапіць яго за каўнер, ён узяў накінуўся на ёлку. У класе стала цёмна. На нейкі момант запанавала цішыня, потым паследаваў выбух крыку, плачу. Нехта прасіў запалкі, нехта супакойваў. Заблішчалі агеньчыкі. Васіль Сяргеевіч, стоячы на стале, запальваў лямпу. У пасветленым класе ўсе сталі азірацца, дзе ж той прыдурак Федзя. Дурань-дурань, а што ўцякаць трэба, ведаў. Назаўтра Федзю схапіла польская дэфензіва[18], дапрошвала ў пастарунку, хто падвучыў. А Федзя забыў, як трэба гаварыць і балван ляпнуў, што ведаў. Білі і паўтаралі для памяці: «Мяне падвучылі партызаны, мяне падвучылі партызаны…»

Слова «партызаны» ў лексіку польскай дэфензівы трапіла не так сабе, ужо не там то там аказваліся партызаны, пачалі пастрэльваць паблізу Крошні на Варшаўскай шашы. Нейкі еўліцкі Банадысь і чатыры хлопцы лесніка Карабы наводзілі жудасць на навакольнае панства. Спробы злавіць іх не мелі поспеху. Дэфензіва шукала падтрымкі насельніцтва. А гэтай падтрымкі не было.

## «Чаша любви и смерти»

Польская акупацыя далася ў знакі сваімі паборамі, экзекуцыямі і пажарамі. Асабліва многа разбурэння прычынілі яны летам 1920 года.

Стаяла гарачыня сярэдзіны лета. Белапалякі спешна адступаюць, паляць хутары і вёскі, што стаяць паблізу варшаўскай шашы. Уся дарога ад Слуцка да Клецка ў факелах пажараў. Відно, як сярод дня гарыць еўліцкія хутары. На грудку каля глінішчаў сабралася чалавек з дзесяць: хутары, казалі, на гасцінцы гараць.

Паходы Калчака, Дзянікіна і іншых генералаў да Беларусі не дакочваліся. Тут, апрача белапалякаў, быў свой генеральчык, Булак Булаховіч[19], які абраў

сабе «сталіцай» Вялікі Рожан — сяло кіламетраў з трыццаць ад Чапліч сярод палескіх балот і лясоў. Многа размоў было пра гэтага Булаховіча, пра яго напады на рэўкомы. Але Чаплічы ён неяк абмінаў. Можа таму, што ў сяле заўсёды стаяла якая-небудзь чырвонаармейская часць. Адным словам, з Чаплічамі ён не чапаўся. А ў іншых блізшых вёсках бываў, наводзіў парадкі.

Гэта ўжо быў дваццаць першы год. Прыйшло замірэнне на заходнім фронце. На Паволжы голад. Не на многа лепш і ў нас: у сакавіку бацька абвясціў, што шэсць тыдняў будзем жыць без хлеба. І жылі. Шэсць тыдняў. На адной бульбе, каб ухаваць крыху хлеба на вясну, на самую работу. І на ж табе — камісія пад'ехала з возам, з вагою, з мяхамі — сып мерку жыта ў фонд галадаючых. Сам Прахораў Кандрат мерку на вагу ставіць, у кніжачку запісвае. Давялося дзяліцца, што зробіш. Ніхто не застрахаваны ад недароду.

У Чаплічах быў раскватараваны чырвонаармейскі кавалерыйскі полк. Спалі чырвонаармейцы ў гумнах. Тут жа, знадворку, грукалі капытамі коні. Сярод камандзіраў палка было многа афіцэраў царскай арміі. Гэтыя афіцэры захоўвалі ці, правільней, — даношвалі сваю старую афіцэрскую без пагонаў форму. Такім жа быў і камандзір палка. Апошні вылучаўся нейкай арыстакратычнасцю, быў тонені, элегантны і вельмі рухавы. Ён любіў спорт і часта летнімі адвячоркамі на валасным двары арганізоўваў спартыўныя гульні — эстафету, сам удзельнічаў у іх і, як правіла, перамагаў. Афіцэры палка наладжвалі для насельніцтва спектаклі. Тады ў маю дзіцячую свядомасць і ўвайшло гэта слова «спектакль». Ставіліся п'есы, аўтарам якіх быў звычайна выканаўца галоўнай ролі, адзін з афіцэраў. У гэтых спектаклях было многа кахання, рэўнасці і страляніны. Для нас, дзяцей, ды і не толькі дзяцей, а і для дарослых спектаклі былі навіною. Яны былі вострадраматычныя і лёгка выклікалі перажыванні гледачоў. Мы абліваліся слязамі. Адна назва такога спектакля запомнілася: «Чаша любви и смерти».

Жыццё вёскі праяўлялася ў новых, не вядомых дасюль, формах. Вот яе лаканічныя рыскі: камітэт беднаты, валвыканком, клуб, хата-чытальня, партячэйка, спартыўны гарадок, першамайскія і кастрычніцкія дэманстрацыі, два духавыя аркестры: Антона Свістуна і Сашыка Вяршэні; новыя песні — «Смела, таварышы, у ногу», «Мы жэртваю палі» і многія іншыя. Асабліва была папулярная песня «Па Дону гуляе казак малады». Было вельмі многа сходаў. На сходы ішлі, як на спектаклі, і старыя і малыя. У канцы сходу спявалі «Інтэрнацыянал» і «Ад веку мы спалі». Адкрылася сямігадовая школа. Працуюць драматычны і харавы гурткі. Выявіліся і свае актывісты, сярод іх на першым месцы Гузаў Кандрат, малады, высокі, сухарлявы, з рабым тварам і доўгім гарбатым носам хлопец,

Апрача вясковых сходаў былі сходы і партыйныя. З усіх вёсак воласці сыходзіліся і з'язджаліся партыйцы на свой сход. З партыйнага сходу не праганялі і малых, абы ціха сядзелі. Адзін такі сход запомніўся мне: першае пытанне «о текущем моменте». Рабіў інфармацыю сам Чарнікевіч. Помняцца і пытанні, якія былі зададзены: «Што робіцца ў Германіі?» і «Што робіцца ў Турцыі?»

## Пахі зямлі

Бадай, самай радаснай падзеяй пасля такой, як Кастрычніцкая рэвалюцыя, было надзяленне беднаты зямлёю. Гэту радасць адчувалі не толькі дарослыя, але і дзеці. Яшчэ малыя былі, а ўжо ведалі, што такое зямля і на што яна

патрэбна: не што іншае, а зямля стаяла перад вачамі, калі прыходзіў Гаравік, ставіў кулачышчы на стол і патрабаваў арэнду. Ні за што іншае, а за зямлю лаяў бацька брата-валочніка, які шкадаваў кавалак гуляшчай няўдобіцы, каб можна было «кош бульбы ўкінуць». Ні за што іншае, а за зямлю Мар’ян Сыцька свайму брату Ігнату галаву раскалоў: перамералі, а ў Мар’яна палоска аказалася на пядзю[20] вузейшая. Вот з чаго складалася наша, дзяцей, зямельная радасць.

Я помню бацьку ў гэты веснавы красавіцкі дзень у світцы са зрэбніны, з жалязняком пад пахай, у салдацкіх чаравіках ішоў, каб далучыцца да людзей, што збіраліся на грудку. Я нешта запытаў у мамы, і яна сказала: «Тата пайшоў зямлю дзяліць. Бедным зямлю даюць». Потым людзі пайшлі па выгане, громка перакрыкваючыся, сварачыся. Відаць, некаму не ўгадзілі, нехта недавольны быў. А мне не верылася: ну як гэта зямлю даюць. А чым мы заплацім? Я ж помню, як мама плакала, калі Гаравік прыходзіў сыскваць арэнду за пляц. Каля стала стаяў здаравенны, высозны, з вялізарнымі лапішчамі мужчына сярэдніх год, крычаў, пагражаў судом. Здавалася, што ён зараз падыме сваю лапішчу і цяжка апусціць яе на бацькаву галаву, і бацька, вінаваты і бледны, не вытрымае гэтай ручышчы і ўлезе ў зямлю. Ад гэтага малюнка да малюнка — раздзел зямлі, дыстанцыя, напоўненая нечым мне малазразумелым. Людзі па выгане ішлі дзяліць зямлю, а мне не верылася, мне думалася, што гэта свае чапліцкія хлопцы выдумалі, што гэта самаўпраўства, што зараз за імі пойдуць Юркевічы, Гаравікі, Некадзімы і дадуць беднаце палак, як некалі майму бацьку на валасным двары. На шчасце — мне так здавалася — на гэты першы раз бедната ішла дзяліць толькі папоўшчыну. Усе, нават і кулакі, прызнавалі, што гэта рабілася правільна. Бо нашто папу зямля? Абжырацца? Золата збіраць? А кулакі сабе думалі, можа, дасць бог бедната папоўшчыны нажарэцца і іх чапаць не будзе? На полі бацькі цягнулі жэрабя, хто за кім, мералі сажнем, забівалі калкі і хімічным сліненым алоўкам падпісвалі. Усім гэтым надзелам кіраваў Прахораў Кандрат. Ён добра ведаў геаметрыю, усе тэарэмы, піфагоравы, не піфагоравы, умеў даказваць не толькі на школьнай дошцы, а і на полі. У гімназіі не вучыўся, свае пяць класаў скончыў. Кандрат, як ніхто іншы, умеў ладзіць і ўціхамірваць: у некага ў надзеле лужочак аказаўся — накідваў яму паўсажня[21], некаму дасталася крайніца — і таго ўмалёгваў. Мы, дзеці, бегалі глядзець, кожнае сваю палоску: во гэта — наша, а во гэта ваша. З вешкамі хадзілі, з конямі, з сошкаю, адбівалі межы — весела было. Раптам у сям’і загаварылі пра добры плуг, пра барану, пра спраўны воз — усё гэта стала вельмі патрэбным. І яшчэ праблема — дзе складацца, гумна няма. Бацька як ведаў, што патрэбна будзе гумно, за рэвалюцыю навазіў з памешчыцкага лесу дубу, плаціў за яго штрафу, але ўхаваў. Цяпер якраз было пачаць будаўніцтва гумна. Але з чаго? Апрача шулаў, ніякага больш матэрыялу.

Даўно сказана — дабро без ліха не ходзіць: наш старэнькі сівы рабацяга аддаў канцы. Перад самай травою, калі ўся жыўнасць пачынае вычухвацца з зімы, ён здох. Што рабіць? Купіць добрага каня няма за што. Прывёў бацька з Балочыч дзесяцірублёвага карослівага дахадзягу. Стаіць конь — чатыры капыты адзін пры адным і сланяецца то ўперад, то ўзад, як карабель на штармавой хвалі, баіцца галаву нагнуць да зямлі, каб не перакуліцца. Скура на шыі ў адзін струп злілася, у гармонік сабралася, лахматы, з зімы не выліняў. Хоць мы прыйшлі да адзінага пераканання, што на гэтым кані не толькі праз месяц, але і праз год не паедзеш, усё ж мы, малыя, разбегліся шукаць па заплоцці чаго-небудзь зялёнага — усё ішло: і трава, і лапушок, і іншае зелле. Конь прагна зграбаў сваімі грыбамі ўсё гэта з далоней, і з вачэй яго скочваліся буйныя

слёзы конскай долі. Каб як хутчэй адхаяць каня, бацька выпрасіў пазычыць у сваіх пляменнікаў з пуд аўса, мы назбірвалі пасля кожнай ночы ўсё больш і больш травы; маці з бацькам грэлі ваду, мылі і скрэблі каня, нацíралі яго дзёгцем. Нашы актыўныя захады дарэмнымі не былі: конь павесялеў, сам стаў нюшкаць па ўзмежках ды па канавах, стаў есці паранку з аўсянай мякіны, замешанай тоўчанай варанай бульбай.

Як мы ні стараліся, але так і не здолелі падрыхтаваць каня да веснавых работ: давялося ледзь не ўсёй сям'ёй хадзіць за плугам. Бралі на самы нізкі зазубень, каб мяльчэй ішоў нарог, у дапамогу каню Валодзя з бацькам прыпрагаліся да пастронкаў, а мяне прымушалі трымацца за ручкі плуга. Так аралі, так баранавалі, так вазілі і гной. Мая задача была адпасціць за лета каня на лужках ды папарніцах, дзе мала хто пасе і дзе ядкая папарная трава. Будзілі з сонцам на золку, калі не схаваць голых ног і пальцы заходзяцца ад холаду, а каня трэба трымаць за повад — наўкруга пасевы. Не раз прыходзіў паплаўнічы паглядзець, ці не патравіў чаго. Конь на вачах правіўся: бакі круглелі, рэбры выгладжваліся. Адным словам, наш «стаеннік», як мы яго смехам празвалі, паволі вылюдзеў. З радасцю думалася, што вот не спатрэбілася такіх ужо вялікіх намаганняў, каб займець каня. Але шчасце нам толькі ўхмыльнулася: конь аказаўся дыхавічны і ні на якія цяжкія работы не здатны.

## Уладзімір Ільіч Ленін

Ішла зіма 1924 года, халодная, марозная. Доўга не было званка. Час першага ўрока мінаўся. Нешта незразумелае было ў гэты ясны студзеньскі дзень. Потым увайшла Алена Паўлаўна і лаканічна, з пачуццём глыбокага смутку сказала: «Нас спасцігла вялікае гора, памёр Уладзімір Ільіч Ленін». Больш, здаецца, яна не магла нічога прамовіць. Утварылася сама сабою паўза маўчання. І ўжо адыходзячы, каля дзвярэй, прамовіла: «Урокаў не будзе. Ідзіце дадому».

Праз колькі хвілін па мяне прыбеглі: выклікае Чарнікевіч да сябе. Прыбягаю ў клуб — аж там ужо Андрэй Антонавіч і Макарэйкава Таня:

— Садзіся малюй трохгадовага Валодзю Ульянава для жалобнага кутка. Трэба асвяжыць і трошкі большых памераў.

Яна трымала ў руках малюнак, зроблены год назад. Падклала мне кавалак чыстага ватману.

Перш, чым дакрануцца да чыстай роўнядзі паперы, я зіркануў на руку Андрэя Антонавіча — яна хуценька-хуценька драпала чорным пяром. І я таксама ўзяў пяро…

## Размова з таварышам Чарнікевічам

Першым сакратаром партыйнай ячэйкі і загадчыкам клуба Чапліцкай воласці быў з прыезджых, нейкі Чарнікевіч, мужчына сярэдніх год. Хто ён па прафесіі, па адукацыі, цяжка сказаць: можа, настаўнік, можа, каморнік[22], можа, аграном… І усё ж не, найбольш яму падыходзіла «прафесія» партыйнага работніка. Тады, вядома, я так не думаў, не было ў маім лексіконе і такога разумення «партыйны работнік», гэта мае пазнейшыя меркаванні. Ён захаваўся ў маёй памяці як чалавек крыштальнага сумлення, сціплы, цвёрда перакананы — тып прафесіянальнага прапагандыста. Дзіўна, ён не быў выдатным пра-

моўцам, але яго слова мела вялікую сілу пераканання. Яго паважалі і любілі і старыя, і малыя. Тыя думкі, якія ён адстойваў, заўсёды здаваліся паважанымі, высокага, камуністычнага сумлення. Да яго вельмі падыходзіла слова «камуніст». Калі я чуў гэта слова, то перада мною адразу ўставаў вобраз Чарнікевіча. Мне здаецца, што Чарнікевіч і беспартыйны Кандрат Герасімовіч стварылі ў маім уяўленні тое, што праз многа год я назваў Кандратам Сарокам, а потым — Андрэем Шэметам. Мне здаецца, — таксама цяпер, — што для Чарнікевіча Чаплічы былі нейкай часовай перавалкай перад высокай партыйнай работай. Праз год яго і сапраўды з Чапліч забралі на работу ў акружком.

Неяк прайшла чутка ў школе пра піянераў. А хто яны такія? Гэта дзеці? Яны маршыруюць і носяць чырвоныя гальштукі? Яны стукаюць у маленькія барабанчыкі і спяваюць рэвалюцыйныя песні? А яшчэ што?

Нядзельным вераснёўскім днём мы з мамаю паехалі па патрэбе ў Слуцк. Стаяла на дзіва цёплае асенняе надвор'е. Святочна было на душы. Скрозь гарадскі гоман і лязгат каваных колаў па бруку даносіўся густы дзіцячы голас песні. Мы з стрыечным братам Барысам, не доўга думаючы, рушылі на гэтыя галасы. Па Пралетарскай ішлі тыя самыя — я дагадаўся ды і Барыс падказаў — тыя самыя піянеры, пра якіх у школе ўсё больш і больш было гаворкі. Яны ішлі пасярод вуліцы калонай па чатыры ў радку. А такіх радкоў было, можа, з дваццаць. Усе ў белых паркалёвых сарочках з кароценькімі рукаўчыкамі і з чырвонымі гальштукамі. Яны ішлі і спявалі: «Керзан[23] рыбкі захацеў — цюра-ра, цюра-ра, сеў на мора паляцеў — куку ўха-ха!» Уперадзе калоны ішоў рад хлопчыкаў з барабанамі на матузках і з драўлянымі палачкамі ў руках. Барабаны маўчалі. Але як толькі песня скончылася, яны выбухнулі глухім россыпам трахкатання. «Стары барабаншчык, стары барабаншчык, стары барабаншчык моцна спаў. Ён прачнуўся, перавярнуўся, усіх фашыстаў разагнаў». Што і казаць, піянерскія песенькі патраплялі за падзеямі часу. Гэта я цяпер кажу, тады я не ведаў: ні хто такі Керзан, што захацеў рыбкі, ні хто такія фашысты, якіх разагнаў стары барабаншчык. Мне было радасна і зайздросна глядзець на гэту піянерскую дзетвару, сваіх равеснікаў.

Калі мы з Барысам вярнуліся ў хату, цётка Поля, Барысава маці, запытала:

— Ну і дзе ж вы бегалі? Што бачылі?

Пытанне было адрасавана мне. Тое, што мы сёння бачылі, Барыса не дзівіла, а я пачаў, захліпаючыся, расказваць пра піянераў. Я спадзяваўся, што цётка мне больш раскажа пра іх — яны ж гарадскія, усё ведаюць. Аж атрымалася неспадзяванае: у цёткі Полі ні адна зморшчынка не скранулася, твар быццам скамянеў, узлаваўся:

— А рог на лбе ва ў іх не бачылі?

Я сумеўся.

— Пра што вы, цётка Поля, гаворыце? Якія рогі?

— А такія, што растуць у чарцей і бязбожнікаў. Піянеры — бязбожнікі, а бязбожнікі — тыя самыя чэрці.

Усё гэта цётка Поля сказала так сур'ёзна, што не давала і кроплі на сумненне, як трэба разумець яе гэтыя словы. На мяне як кіпню ўзлілі. Каб гэтак зняважліва адазвацца пра такіх харошых дзяцей! Мне раптам захацелася памацаць свой лоб: чым чорт ні жартуе, можа, і ў мяне рогі параслі? Я ж таксама бязбожнік.

— Няпраўда ваша!

У школе я лічыўся лепшым мастаком. Той трохгадовы «Валодзя Ульянаў» абышоў усе класы і трапіў на сцяну хаты-чытальні. Гонару было!

Прыходджу аднаго разу ў чытальню, а там Кірыл Трахімавіч Чарнікевіч на каленках поўзае каля разгорнутага скрутка шпалераў. Вітаюся як дарослы з дарослым, адбіраю пэндзаль і самога Кірыла Трахімавіча адціскаю:

— Пусціце. Не маглі пагукаць, — папракаю я загадчыка чытальні і пачынаю папраўляць напісанае. Я лічыў сябе манапалістам па пісанні лозунгаў у школе і клубе і нават раўнаваў, калі хто-небудзь падмяняў мяне. Андрэй Антонавіч не растрачваўся на лозунгі, ён маляваў партрэты Някрасава, Тургенева, Пушкіна, апраўляў іх у самаробныя драўляныя рамкі і развешваў па сценах.

Кірыл Трахімавіч добра ўхмыльнуўся, даўшы мне поўную свабоду дзеяння. Мы трошкі памаўчалі. З маўклівым Кірылам Трахімавічам такі стан здаваўся зусім натуральным. Ён калі гаварыў, то кожнае яго слова здавалася выважаным і вымераным і вельмі неабходным у гэтую хвіліну. Мне захацелася самому першаму парушыць наша маўчанне. У мяне было многа пытанняў да яго. І я выдаў:

— А ці праўда, што ў бязбожнікаў рогі на лбе растуць?

Пытанне не здзівіла Кірыла Трахімавіча, ён кожны дзень чуе падобнае сцвярджэнне ад свайго шызафрэнічнага гаспадара Лявона Валатковіча, які штодня насылае на «бальшавіцкіх бязбожнікаў» орды царскіх казакоў з гарапнікамі.

— Праўда-праўда, Калюха, у мяне ж параслі, хіба не бачыш? Лявона Мікалаевіча, майго гаспадара, найбольш цвеліць тое, што я падтрымліваю яго, усяму, што ён сцвярджае, я падтакваю. Цемрашалаў трэба высмейваць. Смеху баяцца і багі, і чэрці, і іх прыслужнікі.

«А хто такія «цемрашалы»? Напэўна, вельмі дрэнныя людзі? А бацькі мае таксама цемрашалы? Яны ж вераць у бога? Але ж яны не такія ўжо дрэнныя людзі. Лепш пра гэта не пытацца».

— А чаму зямля круглая? — з ходу здумваю пытанне, каб адарвацца ад божага.

— Дакладна не ведаю. Можа таму, што яна коціцца? Усе планеты, каметы, зоркі круглыя, бо яны коцяцца. А як ты думаеш?

Ён звяртаецца да мяне, як да дарослага. Як я думаю. А я ніяк не думаю. Трэба думаць? А як гэта думаць? Што трэба рабіць, каб думалася? Каб быць вучоным, трэба ўмець думаць і каб стаць пісьменнікам, то таксама трэба ўмець думаць?

— А што трэба, каб стаць пісьменнікам?

Кірыл Трахімавіч чмыхнуў носам — відаць было, што маё пытанне трошкі здзівіла яго — чым хлапчаня зацікавілася.

— Мабыць, трошкі здольнасцей, Калюха, і многа жадання. Мабыць, трэба добра ведаць граматыку і мовы, і жыцця.

Як гэта граматыку жыцця? Граматыку мовы я ведаю, мы праходзім у школе гэтыя ўсякія там дзейнікі, выказнікі, часціны мовы, суфіксы, канчаткі. А што такое граматыка жыцця? Вельмі ж модна ўсё гэта. Але я маўчу, што не разумею, хай гавораць. Некалі зразумею, не дажджэ яно.

Трэба добра ведаць людзей, многа чытаць.

Разам са мною ў пятым класе вучылася гарбуння, Таня Макарэйкавых, дзяўчына гадоў на пяць, а то і больш старэйшая за мяне. Мабыць, яе калецтва перашкодзіла ёй у свой час прайсці школу разам з сваімі равеснікамі, і яна вымушана была цяпер сядзець з намі, падлеткамі. Яна была вельмі нахватаная ў кнігах, сябравала з настаўнікамі і была душою драматычнага гуртка ў вёсцы. Усякую новую кніжку, якая дасягала Чапліч, першая праглынала яна. Якая б тоўстая кніжка ні была, каб адолець яе, ёй патрэбен быў адзін вечар.

Пад вачамі ў яе старонкі плылі, я і блізка не ўмеў так чытаць і, вядома ж, да пакуты зайздросціў ёй. У драмгуртку яна была незаменным суфлёрам. А раз — суфлёрам, то і арганізатарам, то і рэжысёрам. Можа паказацца дзіўным, але яна займела ўладу над моладдзю і з вялікай карысцю для культурнага жыцця сяла карысталася ёй.

Аднаго разу — мы ўжо былі ў пятым класе — Таня падышла да мяне:

— Даў бы што пачытаць? Ты ж пішаш?

Такім пытаннем яна мяне проста агарошыла. Я сапраўды некалькі гадоў назад пачынаў пісаць маленькія апавяданні. Ужо была напісана апавяданняў з дзесяць. Першае з іх, «Бяснежная зіма», — пра зіму 1921 года. Усе напісаныя апавяданні я перапісаў на чыстай без лінеек паперы друкаванымі літарамі, сшыў іх у кніжачку і нават пераплёў. Усё гэта так, але адкуль гэта каму вядома? Я ж гэта рабіў, хаваючыся ад усіх чыста, гэта мая запаветная таямніца, пра якую я не выказаў яшчэ ні слова нікому. І раптам — Таня. Якая сарамата! Яшчэ чаго добрага пісьменнікам стануць абзываць. Вот будзе!

— Пакуль што гэтым глупствам не займаюся, — адказваю я і адыходжу. Таня чырванее: ёй непрыемнай была рэзкасць майго тону. Нехта ўвайшоў і перашкодзіў нашай размове. Але Таня шукала выпадку, каб вярнуцца да сказанага і закончыць гутарку іначай. І такі выпадак здарыўся. Мы ўдваіх: яна як рэдактар, я як член рэдкалегіі, пасля заняткаў афармлялі школьную насценгазету, прысвечаную кастрычніцкім святам. Таня рэдагавала і перапісвала начыста допісы, якія самі тут жа панапісвалі, а я размалёўваў загалоўкі. Не хапала артыкула. Таня хітранька паглядзела на мяне:

— Сюды добра было б верш? Як ты думаеш?

Я прыкінуўся, што не разумею яе намёку.

— Трэба пашукаць, — адказваю я. — Вершаў пра кастрычнік многа напісана.

Яна не зводзіць з мяне вачэй, ухмыляецца. Ухмылачка празрыстая, мала не гаворыць: ну што ты на гэта скажаш?

— Не ўмею я пісаць вершаў, Таня, не ўмею. Хоць забі. Каб што так, а то верш.

Таня не перастае ўхмыляцца: хлусіш жа ты, навылёт бачу, што хлусіш. Пішаш, а не прызнаешся.

— А калі ўдваіх? Эх, не святыя гаршкі лепяць! Памагай! — і яна паклала перад сабой чысты ліст паперы.

Такім ходам яна мяне адразу абяззброіла. Пачалася творчая хвіліна. Каб прыцягнуць мой удзел, яна пачала падбіраць словы і фразы ўголас. Я спрабаваў нешта ўставіць і не патрапляў, гладкая і напоўненая фраза бегла, намацваючы рыфму і, атрымаўшы яе, адрывалася, каб, як магнітам, выклікаць наступную. Не прайшло і паўгадзіны, як верш з дванаццаці радкоў быў гатовы. Яе гэта латвасць уразіла мяне, я такі верш і за месяц не напішу. Яна мне здалася ў гэту хвіліну на дзесяць галоў вышэй за мяне, сапраўднай паэтэсай. Цяпер мне стала зразумела, як яна ўгадала, што я пішу: рыбак рыбака бачыць здаляка.

## Антось Жупранскі

Ён быў мой найблізшы таварыш, той, што называецца «закадычны друг». Дружба гэта пачалася з тых дзён, калі мы пачалі бегаць на сваіх нагах. Нарадзіліся мы не толькі ў адзін год, але і ў адзін дзень: ён — раніцай, я — вечарам. І жылі помеж. Наша хата стаяла на рагу вуліцы і вулачкі, хата Жупранскіх

(дзвюх сямей Жупранскіх: Марка і сястры яго Ганны — аж дзевяць душ) побач па вулачцы.

Род Жупранскіх у Чаплічах выглядае наездным: двое братоў з сястрой і больш ні душы на ўсёй круговіне. А корань слова аж вунь куды вядзе — за Смаргонь, на Ашмяншчыну. Нейкі абяздолены Радзівон з Жупранаў прачуў, што пад Вызнаю панскі двор распрадаецца. Душа ў Радзівона заныла — як на сваю зямлю ўзбіцца. Прайшоў з выстаўленай рукой па сваяцтве, прадаў усё, што мела прадажную вартасць — і агораў сірочую трацінку. Не нажыўшы вялікага багацця на ёй, Радзівон раздзяліў зямлю паміж сынамі і ўзяў памёр. Дачцэ не даў ні пядзі — вон замуж. Працавітая была Ганна Жупранская, за што ні бралася, усё гарэла ў руках. А замуж не выйшла, абышло «шчасце». Сям'я Ганны Жупранскай жыла ў нераўнапраўі і крыўдзе: летам — у халодных і цёмных сенцах, зімою на сяле ў падсуседзях, у каго малая сям'я. Жыла без кавалачка зямлі, без градкі, без каровы — дзеўка не мела права на зямлю, — жыла з сваіх працавітых рук. Марка з Ганнай не ладзілі: гультаяваты Марка часам падглядваў, што рабілася ў сястрыных мяшках. А гэта не падабалася Ганне. Толькі з рэвалюцыяй яна паволі акрыяла: ёй далі дзесяцін са дзве зямлі, памаглі і кароваю, і насеннем, перайшоў ёй былы Маркаў, угноены і ўроблены, агарод.

Дык у гэтых сем'ях былі хлопцы, мае равеснікі: «Маркаў Антось» і «Ганнін Якаў». Большая дружба ў мяне была з Антосем. Самым большым сведчаннем гэтай дружбы, як бы маўклівай клятвай, быў абмен хлебам. Убачыўшы, што Антось выйшаў на вуліцу са скібкай хлеба, я тут жа бег у хату, каб маці адрэзала такую ж лусту і мне. Або наадварот. Сышоўшыся ж, мяняліся лустамі і адзін перад другім смачна з'ядалі іх. На лустах нічога добрага не было, драбкі чорнай солі. Тым не менш яны, лусты, смачныя былі. Тое, што мая маці жадала мне, я аддаваў другу, а тое, што яго маці жадала яму, ён аддаваў мне. Часам у каго-небудзь дома хлеба не аказвалася, тады луста дзялілася папалам. Нешта высакароднае, клятвеннае, рыцарскае было ў такім выяўленні дружацкіх пачуццяў. Наша дружба цягнулася ўсё маленства. Антось не выяўляў вялікай цягі да вучобы, яго цягнула да пастухоўства. Хутка ў іхняй сям'і гэты занятак запанаваў, зрабіўся культам. У іх у хаце сталі віць пугі — хто лепшую саўе. Звіць пугу трэба ўмець. Пуга павінна быць у меру доўгая, па сілах крутая і цяжкая, найлепш з чэсаных канапель, гузыром цераз блішчастае колца на гібкае пугаўё насаджаная. А пугаўё найлепш з доўгага спусцістага кораня, аплеценага сырыцай. А самое дзяржальна з канца на дзве пядзі, як рукамі ўхапіцца, зноў жа было абшыта скуратом. Такі амаль рыцарскі з працёртымі мясцінамі на рукаяці даспех меўся ў Маркі, ён дастаўся яму ў спадчыну ад бацькі і захоўваўся як святая рэліквія, вісеў, скручаны акуратным верчыкам на цвіку каля самага «Георгія Пабеданосца» ў цёмным кутку сянец. Для практычнага выкарыстання былі іншыя пугі, а гэта яшчэ Радзівонава з цвіка здымалася рэдка. Сам Марка ашчаджаў яе, і толькі калі меншанькі з яго дзяцей прасіў: «Тато, дайце пугі паляскаць», Марка не здольваў устаяць, давольна ўсміхаўся і, зняўшы пугу, выходзіў з сынам на выган.

—Трэба, каб пуга была «па гуморы», — вучыў Марка сыноў. — Каровы прыглядаюцца, што ў пастуха цягнецца за спінаю: пуга ці мышыны хвост. Спраўная пуга — нагам палёгка.

Аднае вясны, калі на грудку, дзе ляжалі нечыя бярвенні і стаяў крыж з хвартушком, сабраліся сяльчане гадзіць пастуха. Тавар пасвіць упрасіўся Марка. Ніхто проці не быў: раз, што сам з пастухоўскага роду, а другое — дзеці параслі, добра ляскаюць пугамі. Хай пасе. І пачалося пастуховае

жыццё ў майго сябра, Жупранскага Антося. Ледзь уставала з-за акопаў маладое слязлівае сонца, а ўжо Антосева труба раздзірала заскваранае, засмажанае ранічнае паветра вясковай вуліцы — Антось займаў чараду.

Аксеня скончыла пяць класаў і нідзе больш не вучылася, асталася працаваць у калгасе. Меншы з сыноў, Змітрок, быў старэйшы за мяне гады на чатыры. Першы вучань Чапліцкай школы. Пасля скарачэння сямігодкі да пяці класаў у 1924 годзе канчаў Чырвонаслабодскую сямігодку і Мінскі педтэхнікум. Невычэрпная крыніца анекдотаў і літаратурных навін, цудоўны расказчык, цікавы субяседнік. Пасля заканчэння педтэхнікума і аж да самай вайны працаваў настаўнікам. У часе вайны недарэчна загінуў у Чаплічах. Пра сярэдняга з хлопцаў, Кандрата, я ўжо згадваў, гэта быў незаменны актывіст сяла, выдатны прамоўца, таленавіты праваднік усіх партыйных і савецкіх мерапрыемстваў, хоць сам быў і беспартыйны. Нешта загадкавае было ў характары гэтага чалавека. Быў актыўнейшым чалавекам, без яго нішто не абыходзілася, ён пажаданы член, найбольш — старшыня ўсіх камісій... Але яго гэта актыўнасць не выходзіла за межы жыцця вёскі. Нешта ад яго ёсць у маім Кандраце Сароку з «На парозе будучыні». Герасімовіч Кандрат і Кандрат Сарока зусім розныя па біяграфіях характары. Кандрат Сарока загінуў ад рук кулацкай банды ў дні грамадзянскай вайны, Кандрат Герасімовіч — ад паліцэйскай кулі ў гады Айчыннай вайны. Яго і ўсю сям'ю з аўтамата скасіў малодшы з Дзюбакоў, Сцяпан, які нейкім дзівам аказаўся ў стане немцаў.

Самы большы з Прахоравых, Валодзя, быў хворы, амаль не выходзіў з хаты, і пра яго ніхто нічога не ведаў.

## Мае настаўнікі

У 1922 годзе ў Чаплічах адкрылася сямігодка. Наехала многа новых настаўнікаў, у тым ліку загадчык сямігодкі Рушкевіч, высокі, тоўсты, аплыўшы тлушчам мужчына. Калі я ўспамінаю Рушкевіча, то мне заўсёды здаецца, што Гогаль свайго Сабакевіча спісаў з гэтага чалавека. Але гэта толькі знешняе ўражанне, унутрана ж Рушкевіч быў абаяльны чалавек, і ў нас, вучняў, ён карыстаўся павагай і аўтарытэтам. У мяне з ім аднойчы адбыўся смешны выпадак. Я быў дзяжурным у класе. Размахваючы мокрай анучай, я выганяў усіх за дзверы, каб праветрыць клас. Адзін хлапчук стаў пацвяляцца са мною: то зойдзе, то выйдзе. Я вырашыў правучыць яго і стаў за дзвярамі, трымаючы напагатове анучу. Хутка і праўда дзверы адчыніліся, і я аперазаў нахабніка мокрай анучай. Але ў дзвярах аказаўся не нахабнік, якога я чакаў, а сам Рушкевіч. Спачатку ён ад спалоху вытарашчыў вочы, потым усміхнуўся, палажыў мне руку на галаву і сказаў: «Так жа можна забіць чалавека».

Ён выкладаў у нас алгебру і геаметрыю. У часе ўрока, захапіўшыся тлумачэннем новага матэрыялу, ён машынальна падыходзіў да першае лаўкі і клаў запэцканую ў крэйду руку на плячо вучня ці вучаніцы, выпускаючы пры гэтым з рота фантаны пырскаў. Вучань, што сядзеў на крайнім месцы пярэдняй парты з правай рукі, стаў ратавацца, перасядаючы на другія парты. Рушкевіч хутка прыстасоўваўся да новых абставін: ён стаў падыходзіць да вучня другой парты і, нарэшце, да трэцяй. Каб не аказацца задам к класу, ён каля акна паварочваўся і стаў пагражаць плячу крайняга з другога боку. Нашы маўклівыя пярэхітры кончыліся тым, што хлопцы прывалаклі невялікую пустую парту і перагарадзілі ёй праход. Наш жэст быў недвухсэнсоўным: хоць к

наступнаму ўроку парта была забрана з класа, але і Васіль Уладзіміравіч стаў пільнавацца настаўніцкага стала.

Рускую мову і літаратуру прыехаў выкладаць старэнькі, сухенькі, заiкліва Чыкілеўскі. Ён не выпускаў з зубоў муштук, смактаў і на перапынках, і на ўроках, насіў абы-як падстрыжаныя і парыжэлыя ад тытунёвага дыму вусы і бародку. Урокі па літаратуры зводзіліся да чытання мастацкіх твораў. У маёй памяці асталося, што мы быццам два гады, у чацвёртым і пятым класах, толькі тое і рабілі, што чыталі Гогаля. Прычым, чытаў сам Чыкілеўскі, заікаючыся і абдаючы кнігу хмарамі тытунёвага дыму. Нейкая непрыязнасць выпрацавалася ў мяне да гэтага старычка — не любіў я яго ўрокаў і часта атрымліваў дрэнныя адзнакі, асабліва па пісьмовых работах. «Очень плохо! Переписать!» — было маёй заўсёднай адзнакай. Я не знаходзіў з боку настаўніка жадання памагчы мне. Адзнака ў яго была адзіным сродкам падняцця пісьменнасці. І я, здаецца, ні разу не выканаў яго патрабавання «перапісаць», як ён ні ўшчуваў мяне за гэта.

Родную мову і літаратуру выкладала маладая настаўніца, Алена Паўлаўна Васілеўская, якая перад гэтым скончыла вышэйшыя курсы беларусазнаўства ў Мінску. Урокаў яе па беларускай літаратуры мы чакалі, яна прыходзіла, садзілася за стол, а то і на стол, паставіўшы ногі на зэдлік і пачынала чытаць. На ўсё жыццё запомнілася яе чытанне паэм «Курган» і «Бандароўна» Янкі Купалы, «Сымона-музыкі» і раздзелаў з «Новай зямлі» Якуба Коласа, вершаў Алеся Гаруна і апавяданняў Янкі Нёманскага, твораў Міхася Чарота і баек Кандрата Крапівы. Многае з таго, што чыталася ў класе, вывучвалася на памяць. Бадай што ад яе першай мы пачулі гучанне таго, што называецца «беларуская літаратурная мова».

Алена Паўлаўна была сціплая і спакойная «вясковая дзяўчына», случанка. Яна і адзявалася па-вясковаму: зімою хадзіла ў кароткім кажушку і высакаватых рызінавых боціках. Яна, мне здаецца, не была абыякавай да моды, так, як яна, адзявалася тагачасная калялітаратурная жаночая палавіна моладзі.

Поўнай процілегласцю ёй, яе антыподам была геаграфічка Мар'я Міхайлаўна Гурыновіч, нашага, чацвёртага класа, класная настаўніца. Па ўсім адчувалася, што яна з забяспечанай сям'і, атрымала нядрэнную адукацыю, была цудоўнай піяністкай. У 1917 ці 1918 годзе ў чапліцкі клуб з Чалевіцкага двара прывезлі рэквізаваны панскі раяль. Мы не раз былі слухачамі яе віртуознага выканання класічных музыкальных п'ес. Здаецца, з яе вуснаў мы першы раз пачулі такія імёны, як Бах, Бетховен, Шапэн, Моцарт. Пад яе акампанемент выконваліся сольныя і харавыя песні. Гэта быў чалавек вялікай энергіі, аптымізму — душа школы. Яна многа смяялася, каля яе было цікава і весела. Яе заўсёды абступаў натоўп вучняў, пад яе кіраўніцтвам цікава было выступаць, нешта развучваць, рыхтаваць. Яна была ў захапленні ад паэтычнага Тургенева, і мы ўсе палюбілі яго вершы ў прозе. Яна была закаханая ў Надсана, і мы балдзелі, слухаючы яго творы ў яе выкананні. Мар'я Міхайлаўна запомнілася мне ў чорным футравым паліто, доўгім і прасторным, быццам не на яе плечы. Рукавы, здаецца, былі задоўгія, бо яна хадзіла заўсёды з закасанымі. У левым рукаве, недзе глыбока каля локця быў бялюткі платок, які яна раз-пораз даставала. Яна ачароўвала сваёй — як бы знайсці слова — сяброўскасцю адносін з намі. Мы не адчувалі перагароды паміж намі і ёю. І ў той жа час яна, гэта перагарода, была ў выглядзе нашай вялікай павагі. Дастаткова было яе аднаго гнеўнага і нават проста настойлівага слова, як усё прымала патрэбны парадак. Як прыемна было ад яе атрымаць слова пахвалы!

І вот пакутлівы для мяне выпадак. З вучняў чацвёртага і пятага класаў Мар'я Міхайлаўна арганізавала геаграфічны гурток. Займаліся раз у два тыдні пасля ўрокаў. Не хапала месца сядзець, палавіна гурткоўцаў стаяла. Помню, усе рыхтаваліся да тэмы «Тундра». Дакладчык — вучань чацвёртага класа — паказаў на карце Савецкага Саюза, дзе знаходзіцца тундра, расказаў пра ландшафт, кліматычныя асаблівасці, раслінны і жывёльны свет, хто насяляе тундру, чым людзі займаюцца там, які ў іх побыт, культура, паведаміў пра тое, што жывуць жыхары тундры, самаеды — так у той час афіцыйна называліся ненцы — у юртах, зробленых са шкур, ездзяць на аленях і сабаках, ядуць сырое мяса і г.д. Калі дакладчык скончыў і Мар'я Міхайлаўна запрасіла задаваць пытанні, я тут жа ўзняў уверх руку і праказаў: «Чаму самаеды ядуць сырое мяса?» Што здарылася з Мар'яй Міхайлаўнай: яна раптам громка засмяялася: «Што за дурное пытанне? Ядуць і ўсё», — сказала. І я панік. Я ўжо не чуў, якія пытанні задавалі другія і што наогул гаварылася на занятках. Мне захацелася пакінуць заняткі і пайсці дадому. І больш не прыходзіць на іх. Я моцна перажываў гэту сваю няўдачу. Каб хто іншы сказаў, а то ж Мар'я Міхайлаўна — мой бог, мой аўтарытэт, мой эталон. Вядома ж, я дурань, нікчэмнасць. Назаўтра, прыйшоўшы на ўрок, Мар'я Мікалаеўна ўзахлёб выказвала ўсе ўражанні ад учарашніх заняткаў гуртка: чацвёрты клас значна лепш выглядаў за пяты і тут жа паўтарыла маё «дурное» пытанне, быццам зададзенае пяцікласнікам. Што са мной зрабілася: я — спакойнае і сарамлівае хлапчанё — устаў і сказаў, што «дурное пытанне» задаў я, вучань яе чацвёртага класа. Мар'я Міхаўлаўна загарэлася. Ніхто яе такой не бачыў. Потым збялела. Па ўсім адчувалася, што ёй заняло мову, яна не магла слова сказаць. Мне трэба было сысці з вачэй, і я папрасіўся выйсці. Самае правільнае ў такой сітуацыі, здаецца, было б вярнуцца ў клас і папрасіць даравання ў настаўніцы. Я не меў маральнага права ставіць сябе на адну дошку з настаўніцай. Але ж хіба я разумеў гэта? Дома ніхто не заўважыў, што я ўжо другі дзень не ў школе. Прыйшла Таня і адразу да мяне:

— Доўга яшчэ будзеш спраўляць амбіцыі?

Моднае слоўца я разумеў, як нешта вельмі дрэннае ў маіх паводзінах, чаго я яшчэ не ўмеў выказаць словамі.

— Ты што хочаш, каб Мар'я Міхайлаўна прыйшла да цябе прасіць прабачэння? Яна сказала мне, што як толькі яна ачуняе, гэта зробіць.

Мяне закалаціла.

— Калі гэта здарыцца, мы цябе зненавідзім! Зразумеў?

— Зразумеў, Таня. Памажы мне. Я адзін не адважуся зайсці. Яна ляжыць хворая? Як жа да яе зайсці?

— Пайшлі. — І Таня пагнала мяне перад сабою. На ганку спыніла: — Пачакай тут, спачатку я зайду адна.

Я стаяў і калаціўся: што я павінен буду сказаць каля ложка Мар'і Міхайлаўны? Унутраны голас мне падказвае: скажы тое і скажы так, што і як падказвае табе тваё сэрца. Гэта будзе найлепш і найчысцей і найшчырэй. Тані даўгавата не было. Потым яна выйшла:

— Заходзіць не трэба, яна табе і так даруе. Досыць таго, што ты гатоў прасіць у яе даравання. Ідзі дадому.

Я не стаў нічога пытацца і паслухмяна зрабіў тое, што загадала Таня.

У Мар'і Міхайлаўны быў хваравіты выгляд, яна не смяялася і была абсалютна афіцыйная. Я пазіраў на яе ўкрадкі, яна на мяне — ніколі, быццам мяне не было ў класе. Я стараўся вучыць яе прадмет, старанна выконваў усе заданні, маляваў карты. Яна выклікала мяне да карты, задавала мне столькі пытанняў, колькі патрэбна, ставіла мне добрыя, якія я заслугоўваў, адзнакі.

Усё было строга, афіцыйна, як у іншых настаўнікаў. Больш не было той жывой, радаснай, з Надсанам на вуснах і ў вачах з Бетховенам на яе музыкальных руках Мар'і Міхайлаўны. Мне здавалася, што ў гэтым пераўтварэнні мая найбольшая віна.

## Галубкі

Гэта былі гады незвычайнага культурнага ўздыму вёскі, нацыянальнага культурнага ўздыму ў тым ліку. Семінарыст Васіль Сяргеевіч Бабейка арганізаваў, спачатку з ліку вучняў, а потым з ліку скончыўшай моладзі, беларускі хор. Рэпертуар хору вызначаўся зборнікам беларускіх народных песень у апрацоўцы Тэраўскага[24]. Другі настаўнік, сын фельчара, Андрэй Антонавіч Шкода, таксама семінарыст, аказаўся добрым скрыпачом і яшчэ лепшым мастаком і артыстам. Ён арганізаваў з настаўнікаў і моладзі драматычны гурток. Паглядзець спектакль і паслухаць хор сыходзілася ўся вёска. Прыходзіла моладзь нават з суседніх вёсак. Слава пра чапліцкія гурткі разнеслася па ўсёй Слуцкай акрузе, і гурткі рабілі выезды то ў адну, то ў другую блізкія і далёкія вёскі. Рэпертуар быў беларускі, ставілі п'есы Міхайлы Грамыкі, Янкі Купалы, Васіля Гарбацэвіча, Васіля Сташэўскага, Уладзіслава Галубка[25].

У адзін з гэтых 20-х гадоў, летам завітаў да нас славуты вандроўны тэатр Уладзіслава Галубка. Мы, дзеці, ды і дарослыя не разумелі, які подзвіг рабіла гэта невялікая кучка людзей мастацтва. Нейк так здарылася, што я двойчы быў сведкам моманту прыбыцця трупы ў наша сяло.

Быў ліпеньскі, а можа, жнівеньскі гарачы дзень. Сонца падбіралася пад паўдня, як я заўважыў за агародамі на слуцкай дарозе групу людзей, чалавек з пятнаццаць. А можа, і менш. Хто гэтыя людзі? Цыганы не цыганы, бежанцы не бежанцы. Цыганы былі б з фурманкамі, з парсючкамі на прывязі. А бежанцам... Чаго ж ім быць — даўно ніякай вайны няма, усе бежанцы даўно павярталіся па сваіх хатах. З цікаўнасці я аж прабег насустрач ім. Нейкія не гэтакія людзі, як у нас у сяле, гарадскія. Хто ў капелюшы, хто без капелюша, мужчыны і жанчыны, у запыленых чаравіках ці нават босыя, хто-ніхто ў вышываных, вельмі модных на той час, палатняных сарочках, і ўсе з пакла-жаю. Людзі былі стомленыя, і ад гарачыні і ад хады, і ледзь перастаўлялі ногі. Сярод гэтых людзей я пазнаў самога Уладзіслава Галубка. Як так магло быць, што я пазнаў? Пра Галубкоў тэатр ў той час многа пісалася, змяшчаліся партрэты кіраўніка і здымкі ўсёй трупы. Я, не доўга думаючы, сарваўся і пабег пад клуб з крыкам: «Галубкі ідуць!» Мне думалася, што я першы на сяле ўведаў пра тое, што галубкоўцы ідуць ставіць спектакль, але тут жа на сцяне воласці ўбачыў афішу з буйнымі літарамі слова «Плытагоны». Білет на спектакль каштаваў нешта капеек з дзесяць, не больш. Мяне надоўга ўсхвалявала ігра самога Галубка ў невялічкай ролі нямога званара.

## У свет горада

Гэты год у маім жыцці быў у некаторай ступені пераломным: са свету сваёй вёскі, сваіх людзей, уражанняў свайго наваколля я вырваўся ў свет горада, хоць і невялікага, але горада. Справа ў тым, што ў гэтым годзе шостая і сёмая групы былі ліквідаваны, і ўсе, скончыўшы пяць груп, калі хацелі працягваць вучобу, то павінны былі паступаць або ў Чырвонаслабодскую сямігодку, або ў адну з слуцкіх сямігодак, якіх у той час было тры. Недзе ў пачатку

жніўня 1924 года я заявіў дома, што я хачу вучыцца. Як гэта можна ажыццявіць, мая галава пакуль што не ведала і не хацела ведаць. А гэта было не так проста. Чырвоная Слабада была на адлегласці 12-ці кіламетраў, Слуцк — 18-ці. Ды там ці там патрэбна кватэра, пеша не набегаешся. А чым за кватэру плаціць, тым больш, што кватэра павінна быць са сталом? Трэба было рублёў восем—дзесяць штомесячна. А дзе ўзяць такія грошы? Бацькавы заработкі на прышчэпах ужо зарань былі размеркаваны на жыццёва важныя патрэбы, такія, як абуцца, адзецца. На маю заяву ўсе прамаўчалі. За ўсіх адказала маці: «Будзь, Колік, дома, у цябе здароўе слабае, нашто табе сохнуць над гэтымі кнігамі». Гэта было сказана шчыра, маці пакуль што думала толькі пра маё здароўе і ні пра што больш, матэрыяльны бок у яе рашаўся прасцей. Калі я гэтыя словы маці сустрэў плачучы і крыўдай, яна сказала: «Ціха, паеду да дзядзькі Паўла, папрашу, каб ён цябе ўзяў на кватэру». Бацька прамаўчаў, але чулася ў яго гэтым маўчанні і нейкая роспач, і пачатак нейкай тугі, выкліканай гадамі, і лішэнне надзей. Я ў яго быў апошняй надзеяй. Адчуваючы подых часу, ён і не адважваўся пярэчыць майму жаданню.

Перамовы маці з братам, дзядзькам Паўлам, былі паспяховыя. Клопаты аб паступленні — гэта была мая справа, я іх нікому не перадаручаў. З радасці на заўтрашні дзень я напісаў заяву, схапіў пасведчанне аб сканчэнні пяці класаў Чапліцкай сямігодкі і пайшоў у Слуцк. А куды, у якую сямігодку паступаць? Нехта з настаўнікаў сказаў, што найлепшая з слуцкіх сямігодак — гэта Першая. Потым я ўведаў, што яна створана ў памяшканні і на базе былой мужчынскай класічнай гімназіі; Другая сямігодка была на базе жаночай гімназіі, а Трэцяя — на базе гарадскога вучылішча. Я, вядома, вырашаю паступаць у Першую сямігодку. А куды ж яшчэ? Калі паступаць, то ў самую лепшую.

Каб смела, то не скажу — з вуліцы я ўвашоў у гардэробную... Ад усяго, што я ўбачыў, пацягнула на мяне старарэжымным, усталяваным парадкам. Мне сказалі, што дакументы трэба несці да «делопроизводителя», а ён у канцы калідора. У малюсенькім пакойчыку сядзела, як фарфоравая лялька, мініяцюрная і яшчэ зусім, здавалася, маладая жанчына, якая і была тым справаводам, пра якога абвяшчала шыльдачка ў дзвярах. Трымаючы ў руках трубку з дакументамі, я нешта сарамліва прамямліў адносна таго, што я хачу, каб мяне прынялі ў шосты клас сямігодкі. На гэта яна адказала, каб я пакінуў дакументы. Толькі я разгарнуў скрутак, як у пакойчык увайшоў невысокага росту, з магутнымі сівымі бровамі і такімі ж сівымі вусамі, лысы, таўставаты мужчына. Я адразу здагадаўся, што гэта загадчык сямігодкі. Ён узяў з рук у мяне паперы, паглядзеў у іх і запытаў:

— Абавязкова ў Першую?

— Я хачу ў Першую, — адказваю я.

— Ну што ж, паглядзім, ты не адзін. У першую ці ў якую.

Па Слуцкай акрузе было скарочана некалькі сямігодак, і цяпер якраз рашалася пытанне, каб вучняў гэтых школ раўнамерна размеркаваць паміж гарадскімі сямігодкамі. Мне пашанцавала: нашага чапліцкага загадчыка забралі з Чапліч і паставілі загадчыкам акрана. Пра гэта я ў той час не ведаў. Ідучы па Пралетарскай, я раптам убачыў высозную і таўшчэзную фігуру Рушкевіча. Я меў намер з ім толькі павітацца, але ён сам спыніў мяне.

— Што ты тут робіш, хлопча? — спытаў.

— Хачу паступіць вучыцца, — адказваю я.

— У якую ж сямігодку ты хочаш паступіць?

— Хачу ў Першую.

— Толькі ў Першую? А калі ў Другую?

— Не, я хачу толькі ў Першую.

Рушкевіч усміхнуўся і сказаў:

— Ну што ж, будзеш вучыцца ў Першай.

Першая сямігодка на той час яшчэ захоўвала некаторыя традыцыі былой мужчынскай класічнай гімназіі, заснаванай ажно ў 1617— 1624 гадах Янушам Радзівілам[26], замак якога ці, правільней, руіны замка — у часе белапольскай акупацыі ён быў спалены — відны былі паверх дрэў у глыбіні вялікага саду, тут жа цераз вуліцу. Можа, гэта нават былі не традыцыі, а тая атмасфера, якая стваралася прадметамі, што асталіся ў спадчыну: зала з каланадай, у прамежках паміж акон у вялікіх авальных залочаных рамах партрэты Пушкіна, Гогаля, Някрасава. У дарэвалюцыйны час тут, відаць, былі партрэты Раманавых. Частка сцен у зале застаўлена была закрытымі стэлажамі. Бібліятэка ў школе была велізарная, шматтысячная, частку яе ў 1925 годзе забралі ў Мінск. Найбольш хадавая частка бібліятэкі змяшчалася ў высозных, да самае столі стэлажах у настаўніцкай, абстаўленай у духу старасвецкасці. Сямігодка мела выдатныя на той час фізіка-хімічны і прыродазнаўчы кабінеты. Велізарная колькасць самых разнастайных навуковых дапаможнікаў, ад табліц з хімічнымі формуламі і рэакцыямі, з малюнкамі па заалогіі і батаніцы да гіпсаў і гіпсавых скульптур.

Сустрэлі мяне вучні шостага класа вельмі абыякава, без цікавасці. Ніхто з вучняў не падышоў, каб пазнаёміцца, распытаць.

Пакуль я, як і кожны навічок, першыя дні прыглядаўся, не сыходзячы з парты, думаў пра хлапчукоў і дзяўчатак, у асяроддзе якіх трапіў. Хто яны? Чые? Вот гэты, што сядзіць са мною і кожны перапынак умінае густа намазаны маслам белы бутэрброд, а на ўроках, пад партай хаваючыся, чытае Дастаеўскага? Або вот гэта высокая, з напудраным, фарфоравым прыгожым арыстакратычным тварам, ахінутая вуалем і воблакам пахаў? Або вот гэты шчупленькі, усмешлівы францік у хромавых боціках і сінім у абліпку шавіётавым галіфэ? Або вот гэты высокі, здаровы хлапчына, з твару нейкі аблезлы, у чорных картовых штанах і рубашцы, прычым да таго закоўзаных, замасленых, што аж блішчаць? Дзе ён што робіць, што такі закоўзаны? Хто яны, мае гэтыя шасцікласнікі? Забягаючы наперад скажу: гэта дзеці нэпманаў, прыватных адвакатаў, настаўнікаў, інжынераў, некалькі чалавек з вёскі, сын музыканта, печніка, дзяўчынка з дзетдома... і проста дзеці «знатных» сем’яў, што жылі спрадвеку ў ціхіх завулках, у дзеравяных асабняках, што танулі ў гушчэчы язміну, бэзу, півонь і ў старых бэравых садах.

Сямігодка была ўкамплектавана старымі, вопытнымі педагогамі, такімі, як Сяргей Антонавіч Бярозка, загадчык школы і выкладчык матэматыкі, дарэчы — бацька вядомага рускага пісьменніка Георгія Бярозкі. Гэта быў выдатны педагог. Калі можна гаварыць пра педагагічнае прызванне, а пра такое прызванне, бясспрэчна, можна гаварыць, то з усіх маіх педагогаў я найперш назваў бы яго. Ён карыстаўся ўсеагульнай павагай. Пра яго не было ні школьных анекдотаў, ні шаржаў, ні мянушак. Ён валодаў такім валявым позіркам, што самыя адпетыя хуліганы не вытрымлівалі, ніклі. Найрадчэйшыя выпадкі былі, калі ён падымаў голас, не на ўроку, на калідоры. Гэта быў голас магутны, цвёрды, стальны. На ўроках ён гаварыў ціха, напаўголаса, але ўсё для ўсіх было чуваць. На ўроку ўсе або слухалі, або рабілі самастойнае заданне. Мы былі вельмі засмучаны, калі ў 1925 годзе ён зайшоў да нас, каб развітацца. Ад’язджаў у Маскву.

На яго месца ў якасці загадчыка школы прыйшоў географ Дзянішчык Ануфрый Іванавіч, чалавек пажылы, душэўна мяккі і без свайго педагагічнага аблічча. Нічым так ён і не запомніўся.

А вот матэматык прыйшоў да нас выдатны, Майсей Ільіч Козак, чалавек пажылы і дзівакаваты, які страшэнна не ўмеў гаварыць і якому заўсёды хацелася памагчы сказаць. Ён адной рукой браў пальцы другой рукі і як бы выціскаў з іх словы, пры гэтым бясконца паўтараў слова «видите ли». З яго вучні пахіхіквалі часам і тым не менш вельмі паважалі за веданне свайго прадмета. Нам здавалася, што ў яго ведаў на тры ўніверсітэты, акадэмікам быць бы яму, рашаць бы яму якія-небудзь дыферэнцыяльныя раўнанні, а не выкладаць азы ў сямігодцы. Майсей Ільіч быў з тых выкладчыкаў, якія любяць даваць матэрыял па-свойму і шырэй, чым патрабавала праграма. Я не вызначаўся асаблівымі здольнасцямі і тым больш у матэматыцы, але я любіў матэматыку і на ўроках слухаў Майсея Ільіча з захапленнем. І вот аднойчы Майсей Ільіч выклікае мяне паўтарыць толькі што растлумачаны доказ тэарэмы. Я ўжо не помню, якая гэта была тэарэма. Помню толькі, што яна мела два спосабы доказу. Майсей Ільіч даказваў па-свойму, не так як у падручніку Кісялёва. Я выйшаў і без адной памылачкі з крэйдай у руках паўтарыў доказ тэарэмы. «Добра, Лобан, сядайце», — сказаў Майсей Ільіч і паставіў у сваёй запісной кніжачцы супроць майго прозвішча кропачку. Пасля гэтага Майсей Ільіч ніколі не выклікаў мяне адказваць урок, ён быў упэўнены, што я ведаю і толькі зрэдку падымаў, калі аказвалася, што хто-небудзь з добрых вучняў чаго-небудзь не ведаў. Такія адносіны Майсея Ільіча да мяне былі і прыемныя, і ў той жа час вымушалі заўсёды быць напагатове — мне ж не хацелася расчароўваць яго.

Сярод астатніх настаўнікаў хочацца ўспомніць добрым словам фізікахіміка Георгія Лявонцьевіча Наркевіча. Ён выдатна выкладаў свае прадметы, віртуозна рабіў доследы з дапамогай заўсёдных сваіх асістэнтаў, вучняў нашага ж класа Крываля і Ахрамовіча. У кожным класе ў яго былі свае асістэнты, якія дасканала ведалі фізкабінет. Георгій Лявонцьевіч вёў гурток, на занятках якога мы рабілі дэтэктарныя прыёмнікі і прылады для фізкабінета.

Усё гэта былі настаўнікі былых слуцкіх гімназій і гарадскога вучылішча, людзі з вышэйшай адукацыяй, паканчалі Пецярбургскі ці Маскоўскі ці Віленскі ўніверсітэты.

Але былі і такія настаўнікі, пра якіх асталіся ў мяне самыя сціплыя ўражанні. Літаратуру выкладаў сямідзесяцігадовы старычок Андрэй Андрэевіч Васкрасенскі. У маладосці ён, відаць, быў нядрэнны выкладчык і добра ведаў свой прадмет — рускую літаратуру, а цяпер ён ужо не мог саўладаць з класам, на яго ўроках стаяў адзін гам, хто што хацеў, тое і рабіў. Да ўсяго ў яго былі ўстаўныя зубы і калі ён гаварыў, то верхняя сківіца зубоў адставала і зразумець, што ён гаварыў, было вельмі цяжка. Так з заняткаў па літаратуры ў мяне асталося ў памяці, што Караленка напісаў «Чудную», «Сон Макара» і «Сакалінец», а Горкі напісаў «Макара Чудру», «Старуху Ізергіль» і «Канавалаў» ды яшчэ Нявераў напісаў «Ташкент — горад хлебны». Вот і ўсе, пачэрпнутыя мною, веды.

Скажу яшчэ пра настаўніка малявання. Быў такі Адам Адамавіч Цаеўскі, шызафрэнік. Няшчасны чалавек, як пакутліва даваўся яму кожны ўрок! Якія дэспатычныя, бязлітасныя дзеці бываюць ва ўзросце ад 12 да 14! Вот адзін са звычайных урокаў Адама Адамавіча. Званок. Уваходзіць Адам Адамавіч з партфелем, з якога тырчаць лінейкі, вугольнікі і яшчэ бог ведае што. Адам Адамавіч звяртаецца да аднаго з вучняў, просіць нешта прынесці з настаўніцкай, падрыхтаванае ім для ўрока. Усхопліваецца добрая палавіна вучняў, якія гатовы памагчы Адаму Адамавічу, і выбягае з класа. Праходзіць пяць мінут — няма іх, праходзіць дзесяць, пятнаццаць, дваццаць. Нарэшце адчыня-

юцца нараспашку абедзве палавіны дзвярэй і ў клас чынна ўваходзіць працэсія з пакойнікам. Адам Адамавіч выходзіць з сябе, пырскае слінаю. Але ніхто на яго не звяртае ўвагі. Усе спакойна расстаўляюць прынесенае, «пакойнік» з насілак устае, і ўсе разыходзяцца. На гэтым бузацёрства не канчаецца, прыдумваецца што-небудзь яшчэ. А было і проста грубае хуліганства. Як бедны Адам Адамавіч толькі трываў. Я і яшчэ некалькі вучняў не ўдзельнічалі ў гэтых здзеках з Маеўскага. Такі здзек з чалавека мне быў да глыбіні душы праціўны, але з нас ніхто не быў тым верхаводам, які здольны быў бы паўплываць на клас. Нераненя, Дзімідчык і я лічыліся ў класе добрымі мастакамі. Мы заўсёды выконвалі заданні. Гэта неабходна было ўсяму класу. Хвілін за дзесяць да канца ўрока Адам Адамавіч браў класны журнал і па спіску, зверху пачынаючы, выклікаў вучняў к сталу з малюнкамі, тут ён ацэньваў малюнак, ставіў адзнаку ў журнал, распісваўся чорным карандашом на малюнку і вяртаў малюнак вучню. Гэты малюнак з прозвішчам, што ішло па чарзе, зноў паказваўся выкладчыку. Так тры малюнкі, па некалькі разоў абярнуўшыся давалі ў журнале ўсім самую высокую адзнаку. У канцы першага паўгоддзя нам абвясцілі, што пасля канікул усе прадметы будуць выкладацца па-беларуску і што ўводзіцца новы прадмет «беларуская літаратура» і трэба ўсім купіць «Выпісы з беларускай літаратуры» — хрэстаматыю. Што настаўнікі горада ходзяць на курсы па беларусазнаўстве, нам было даўно вядома, і гэта абвестка нас зусім не здзівіла. Дзівіла нас адно, як пяройдзе на беларускую мову наш матэматык Майсей Ільіч Козак. Ён дрэнна, марудна гаварыў, выціскаў словы, але руская мова яго мне здавалася нейкай вытанчанай, рафінiраванай. І вот вярнуліся мы з канікул. Першыя ўрокі па-беларуску. Наркевіч збіваецца, Завусцінскі, Сабалеўскі ды і астатнія гавораць па-руску, ужываючы некаторыя беларускія словы і толькі адзін Козак як адрэзаў, пачаў чытаць на чысцейшай беларускай мове. Пасля заканчэння сямігодкі я многа раз сустракаўся з Майсеем Ільічом і я не чуў ад яго рускага слова. Беларускую літаратуру прыйшоў выкладаць ужо досыць чуваны Бржэзоўскі. Гэта быў высокаадукаваны чалавек і выдатны выкладчык.

## Незвычайны слухач

Жыў я гэтыя два гады ў дзядзькі Паўла, мацерынага брата, які працаваў сторажам-прыбіральшчыкам у райсаюзе і меў казённую кватэрку пры праўленні з аднаго пакойчыка і кухні. Зімою я спаў у кухні на тапчане, а вясною — на тым жа тапчане ў збітай з дошчак кладоўцы. Уся кладоўка была завалена мяшкамі са збожжам — ежай для коней, стосамі газетных падшывак, геаграфічнымі картамі, нацягнутымі на рамы, нейкімі жалезнымі восямі і бог ведае яшчэ якім дабром. Спаць у гэтай кладоўцы было б добра, калі б не полчышчы пацукоў, што, як толькі наступала цішыня ночы, пачыналі нястрымна гарцаць па прасторным гарышчы. Яны ўсчыналі такую валтузню і піск, што страшна было слухаць. Я ўжо быў пачаў прывыкаць да гэтай пацучынай сімфоніі, як аднойчы ў сне пачуў, быццам нешта вялікае поўзае па мне. Я скалануўся і ўсхапіўся. Я не бачыў, але пачуў, што з майго ложка гарцанула аж некалькі штук пацукоў. Што ж рабіць? Не дадуць спаць. Я пайшоў на кухню і ўзяў кошку. Думаў, што калі я ўскіну яе на раз’едзеныя мяшкі збожжа, то пацукі і не паткнуцца сюды. Аж кошка і хвіліны не пасядзела на мяшках, адразу кінулася да дзвярэй і распачала такое мяўканне, што давялося выпусціць яе назад на кухню. Назаўтра повідну я паспрабаваў забіць дзірку ў куце столі, цераз

якую яны ватагай спускаюцца з гарышча ў кладоўку. Але гэта было ратункам толькі на адну ноч. Назаўтра ператрушчаны клін выпаў з дзіркі.

Калі на дварэ захаладала, падыходзіў марозны снежань, мне цётка сказала спаць на кухні. У кладоўцы я больш не стаў паяўляцца, не стаў чыніць пацукам перашкоды ў іх суверэнным царстве. Не скажу, каб гэта не было як патрэбна ацэнена. Не прайшло і трох начэй, як з дзіркі ў верхнім кутку столі, з якой выходзіць водаправодная труба, паказалася сімпатычная галоўка аднаго з маіх шматлікіх знаёмых па кладоўцы. Каб звярнуць на сябе маю ўвагу, яна ўтварыла ўжо добра знаёмы дыфузны гук, які можна было б расшыфраваць: «А, ты тут! Здароў!» Я шыкнуў і прытупнуў нагою. Мае рухі знаёмец зразумеў па-свойму: «Ды хопіць табе, я вучу ўрокі, не перашкаджай». Галоўка паслухмяна схавалася. Назаўтра я зноў позна заседзеўся, трэба было нешта начарціць, потым вывучыць верш на памяць. Завучваючы паэтычныя радкі, я неяк падняў галаву — які жах, з водаправоднай трубы, што праходзіла па сцяне над маёй галавой, глядзелі на мяне нахабныя пацучыныя вочы. Некалькі хвілін ён яшчэ нерухома сядзеў, важна спусціўшы ўніз свой даўжэзны хвост. Ці то пацук быў зачараваны паэзіяй, ці то заснуў пад маё манатоннае чытанне ўголас, але ён і не збіраўся саступаць са сваёй пазіцыі. І толькі калі я зрабіў рэзкі рух, каб схапіць лінейку і пачаставаць нахабніка, ён прыкметна захваляваўся. З прасоння ці з перапуду ён не здолеў латва перавярнуцца на тонкай трубе і шлёпнуўся мне на кніжку. І не ўстаў. Разрыў сэрца. Вот, аказваецца, і пацукоў хваляваць няможна.

Рыхтаваць урокі мне не было дзе. За сталом у пакоі рабілі ўрокі Барыс з Валяй — мае стрыечныя брат і сястра, а я для крайніх выпадкаў прымошчваўся ў кухні на рагу шкафіка або на пліце, калі тая была халодная, а цёплай парою — у кладоўцы на тым жа тапчане, адгарнуўшы сяннік. Але з-за гэтага я не журыўся: цікавей было, сабраўшыся гуртам, прыдумаць якую гульню або пайсці на рэчку пакатацца на каньках, а летам палавіць ракаў. У Случы ракаў і рыбы было вельмі многа. Заходзілі мы далёка, на другое рэчышча, пад Хутар Тамарын.

Яшчэ нас вельмі цікавілі руіны радзівілаўскага замка. Мы часта лазілі па гэтых руінах, разглядалі ў сценах патаемныя лесвіцы — сапраўды вузенькія, паўметровай шырыні. Лазілі ў сутарэнне, абстуквалі цэментовую падлогу, пад якой, нам здавалася, таксама знаходзяцца нейкія патаемныя памяшканні, з якога — нехта расказваў — вядзе ход пад саборную горку, на якой некалі ў старажытныя вякі таксама стаяў замак. Мы з Барысам і суседскія хлапчукі Грышка і Юрка Івановы змаўляліся паспрабаваць трапіць у гэты патаемны ход і дэтальна даследаваць яго — напэўна, там ёсць многа цікавага. Для гэтага мы ўжо знайшлі лом і армейскую кірку, ліхтар і нажы на выпадак, калі на нас, як нам думалася, нападуць манахі. Усё гэта мы дамовіліся трымаць у вялікім сакрэце. Не помню ўжо, што перашкодзіла нам паспрабаваць ажыццявіць сваю гэту рамантычную задуму.

Другім захапленнем нашай кампаніі было хадзіць у кіно па падробленых кантрамарках. Білет у кіно каштаваў дваццаць пяць капеек. Дзе было мне ўзяць такія грошы, калі маці давала па рублю раз у тры месяцы. Тое самае было і ў астатніх хлапчукоў. Але так схадзіць нам удалося толькі разоў пяць. Скора нас, падробшчыкаў, злавілі і завялі да загадчыка кінатэатра. На гэтым наша хаджэнне ў кіно скончылася. Але мы ўжо патрапілі ўбачыць такія выдатныя амерыканскія баевікі, як «Багдацкі злодзей», «Знак зэра», «Нібелунгі», «Два прэтэндэнты» з такімі зоркамі тагачаснага кіно, як Дуглас Фербенкс, Мэры Пікфард, і некалькі сваіх, у тым ліку «Палачы». Бачылі і раннія чаплін-

скія карціны і нават спрабавалі пераймаць яго характэрную паходачку. Кіно для нас было навінкай, на краі фантастыкі, так, як і радыё, якое я ў 1925 годзе пачуў першы раз, стоячы каля будыніны былога камерцыйнага вучылішча, дзе ў той час змяшчаліся прафсаюзы. Я дапытваўся, ці дорага каштуе білет на радыё. Я думаў, што такое дзіва, як радыё, слухаюць не дарам, а за плату, што ёсць нейкая зала, радыётэатр, куды прадаюць білеты. Пачуўшы такое дзіўнае пытанне, адзін прафсаюзны дзядзечка абняў мяне за плечы і павёў у будыніну:

— Ні разу не чуў? Ну вот я табе дам магчымасць некалькі хвілін паслухаць. З вёскі? Вучышся? Гэта добра, трэба вучыцца. Заходзь сюды.

Ён увайшоў у пакой, пакінуўшы адчыненымі дзверы, каб уваходзіў і я. І я ўвайшоў, шукаючы вачамі, дзе ж тое дзіва, што само гаворыць. А чалавек падышоў да стала, на якім стаяла неважнецкая дзеравяная з дзвюма круглымі рукаяткамі скрынка, дакрануўся да аднае з іх, і ў скрынцы спачатку захрыпела, потым запілікала і стала выразна гаварыць. Гэта і ёсць радыё? А дзе сядзіць той чалавек, што ў «радзіве» гаворыць? У Мінску? Не можа быць, каб у Мінску…

Скора на ўроках фізікі Георгій Лявонцьевіч нам растлумачыў, што такое кіно, чаму мёртвыя здымкі на кінаплёнцы, прапушчаныя праз спецыяльны кінаапарат, ажываюць і, нават, прадэманстраваў эфект «ажыўлення» малюнка, зробленага ад рукі і паўторанага на ленце з нязначнымі зменамі многа разоў. Гэты эфект добра выкарыстоўвае сучасная мультыплікацыя.

Група вучняў нашага класа стала калектыўным аматарам кіно. Знайшоўся прымітыўны кінапраектар. Мы наладзілі сувязь з кінамеханікамі кінатэатра, і яны нам аддавалі не патрэбныя ім кавалачкі ленты. Мы склейвалі гэтыя рознай даўжыні кавалачкі і атрымалі пацешную мазаіку, якую з задавальненнем круцілі многія дзясяткі разоў. Ад таго ж Георгія Лявонцьевіча мы пазналі і таямніцу радыё, нават самі сталі рабіць гэта дзіва сваімі рукамі. І хоць, прызнаюся, нікому з нас, гурткоўцаў, не пашчасціла завяршыць работу над сваім прыёмнікам — вельмі цяжка было ў той час дастаць адпаведныя матэрыялы, — але адзін прыёмнік — Крываля-Ахрамовіча — пры вялікім удзеле самога Георгія Лявонцьевіча быў завершаны, і мы з вялікай радасцю і гордасцю слухалі яго першы голас. Мёртвы апарат ажыў. Ён спачатку захрыпеў, потым запіпікаў, засвістаў, завыў тонкім галаском і раптам загаварыў. Голас гаварыў з Мінска. Гэта было радыё! Гэта быў цуд!

## Сям'я Гузавых

Цяпер якраз выпадае хвіліна расказаць пра сям'ю Прахора Герасімовіча (Гузавых). Гэта серадняцкая сям'я нічога агульнага не мела з кулацкай сям'ёй аднавокага Герасімовіча Нікадзіма (Чарапка). Сям'я Прахора была вельмі паважанай. Яна складалася з саміх, трох дарослых сыноў і дачкі. Усе яны былі знешне непрыгожыя, але гэту непрыгожасць ніхто не заўважаў. Яе засланялі розум і актыўнасць. Мне здаецца, гэтыя якасці адна другую дапаўняюць: адна без другое — нішто, а разам — вялікая сіла. Дзяўчынка, Аксеня, малодшая з дзяцей Гузавых, нам, хлапчукам, вельмі падабалася, яна здавалася самай прыгожай дзяўчынкай у сяле, мы ўсе былі закаханыя ў яе і лічылі сваім шчасцем, калі яна раптам зверне на цябе ўвагу. Прахорава Аксеня была першай вучаніцай не толькі ў класе, але і ва ўсёй школе, выклікала ўсеагульную любоў і ўсеагульную зайздрасць. Пазней яна выйшла замуж за майго равесніка, сусед-

скага таварыша, Антося Жупранскага. І не была за ім шчаслівая: гады праз два пасля жаніцьбы Антось памёр ад сухотаў.

І нейк так здарылася, што мы з ёй часцяком сядзелі побач на адной парце, там, дзе садзіўся я, садзілася яна і, наадварот, дзе садзілася яна, садзіўся і я. Калі месца каля мяне аказвалася занятым, то яна падыходзіла, брала хлапчука — тое ж самае бывала, калі гэта аказвалася дзяўчынка — за плячо і вымаўляла: «Уцякай адсюль, гэта маё месца!» Пярэчыць было бескарысна, яна была фізічна моцнай і сваё патрабаванне не паўтарала. У першым ці ў другім класе мы сядзелі на даўжэзнай парце ўтраіх: яна пасярэдзіне, мы з Рагаўнічым Паўлам — па краях. У нас з Паўлам складваліся своеасаблівыя адносіны. Мы, здаецца, раўнавалі адзін аднаго да Аксені. Мы абодва заўсёды гатовы былі стаць на яе абарону, але, на вялікі жаль, яе ніхто не крыўдзіў, яна спраўлялася і з сваімі крыўдзіцелямі і з нашымі. Аднойчы з Паўла адна дзяўчынка-другакласніца пасмяялася:

Дзевачур-папячур,
Цябе дзеўкі не любілі,
Качаргою задубілі:
Дубу-дубу-дубу!

Трэба было бачыць, якой раз'ятранай кошкай накінулася на крыўдзіцельніцу Аксеня, я думаў, што яна пакіне яе без вачэй. Бачачы гэта, я тады раўніва падумаў: хай бы я быў на месцы Паўла і хай бы яна мяне так абараняла. Або хай бы яе хто пакрыўдзіў. Або няхай бы яна тапілася. Пабачыла б тады, як я яе абараняў бы і ратаваў. Але нічога гэтага не здарылася. Мы з Паўлам выглядалі смешнымі смаркатымі кавалерамі: кожны імкнуўся апярэдзіць другога ў паслугах Аксені. А Аксеня як быццам і не заўважала нічога гэтага. Мы, хлопцы, штодня насілі чарніла на заняткі і кожны сваю чарніліцу ставіў перад Аксеняй і раўніва сачыў за тым, з чыёй чарніліцы яна макае. Калі здаралася, што яна макала засаб два ці тры разы з Паўлавай чарніліцы, я браў сваю чарніліцу і раўніва падстаўляў бліжэй да Аксені. Гэта ж рабіў і Павел. Бывала, што хто-небудзь з нас забываў дома чарніла і вымушаны быў у школе пабірацца. У такіх выпадках другі з нас браў сваю чарніліцу ў кулак левай рукі, прычым так, каб вялікім пальцам накрыць рыльца бутэлечкі. Гэты палец ахвотна падымаўся перад Аксеніным пяром і імгненна апускаўся перад Паўлавым ці маім пяром. Глядзела-глядзела Аксеня на нашу важданіну з чарнілам і кажа: «Во што, хлопцы, калі хочаце, каб я сядзела паміж вамі, то спыніце гэту спрэчку з-за чарніла. Заўтра я прынясу цэлую пляшку, хопіць усім». І прынесла цэлую пляшку для ўсяго класа. Мы з Паўлам былі пасаромлены і больш ні з-за якой дробязі не ваявалі.

1925—1926 гады былі гадамі першага майго кахання, кахання назіркам. Першым аб'ектам такога кахання ў мяне была дачка старарэжымнага інжынера высокенькая, прыгожая і па-панску кволая дзяўчынка Галя Яніслаўская. Яна мне здавалася багіняй у воблаку з надушаных газавых шаляў. Вучылася яна вельмі дрэнна. Не помню, каб яна хоць калі-небудзь адказала ўрок. А я марыў, каб яна хоць калі-небудзь падарыла свой боскі позірк.

Другім аб'ектам была Ліля Бурава. Яна не пахла дарагімі духамі, не была такая прыгожая і часам нядрэнна адказвала ўрокі. Яна была дачка загадчыка прафшколы. Я быў улюбёны ў яе да адурэння. Амаль кожны дзень я праходзіў па Крывасёлках у надзеі ўбачыць яе. Часам мне шчасціла, я сустракаўся з ёю дзе-небудзь на Чортавым мосціку. Па меры набліжэння я адчуваў, як чырванею, як у мяне падкошваюцца ногі і я ледзь-ледзь здольваю адцяг-

нуць голас, каб сказаць «здрастуй». У гэтай сустрэчы была ўся мая вялікая радасць. Назаўтра не ведаю, што аддаў бы, каб сустрэцца з ёю зноў вот так, каб сказаць ёй «здрастуй» і пачуць тое ж ад яе. Але і ад яе я так і не дачакаўся позірку ўвагі. Была і яшчэ адна дзяўчынка, якая прамільгалася ў маіх вачах. Яна вучылася ў гэтай жа сямігодцы на два класы ніжэй. Такая прыгожанькая, быстрая вокам, смугленькая і худзенькая дылдачка. Яна часам бегала ў школу з дзіцячага дома, які быў тут жа на школьным двары, а часам у абкружэнні меньшанькіх па росту дзяўчынак ішла з горада. Чыя яна гэта чарнушка, я тады не ведаў. Пры сустрэчы яна спыняла на мне свой позірк. Тое самае рабіў і я. Мы як бы фіксіравалі, што мы сустрэліся, і што добра было б, каб яшчэ што ўведаць адно пра другое, але калі гэтага не адбудзецца, то таксама нічога асаблівага. Я не ведаў ні яе імя, ні яе прозвішча. Ды і не стараўся ўведаць яго. Мала што дзяўчынка кінулася ў вока. Яшчэ голас у яе быў такі грудны і зычны, што вылучаўся з усіх звычайных. Гэта дзяўчынка вельмі добра пазнавалася па голасе.

## Тато, я скончыў

Мы рыхтаваліся да іспытаў за сем класаў, сядзелі, параздзяваўшыся, на санцапёку на якім-небудзь яўрэйскім могільніку, каля ракі. Тут было зручна бегаць купацца і пужаць дзяўчатак, якія часам прыходзілі сюды для гэтага ж. Месца лічылася жаночым пляжам.

Нарэшце я здаю экзамены. Сямігодка скончана, у руках трымаю пасведчанне. Адчуванне такое, быццам я з плячэй звярнуў вялікую гару і разам з тым як бы стаў дарослым, хоць мне было ўсяго 14 год. Не жартачкі, скончыў сямігодку! Гэта ў вёсцы ў тыя гады гучала. Сярод сялянскай моладзі ў мяне і яшчэ ў некалькіх такіх, як я, была самая высокая адукацыя, калі не лічыць двух-трох семінарыстаў. Адным словам, цераз дзень пасля апошняга экзамену я ўжо бег дадому са скрутачкам пасведчання, угорнутага ў газету. Як звычайна, мінуўшы Івань, Мышчычы, Курганы, Крыжы, я браўся ад дарогі ўправа, на канец Чалевіч і поплавам даходзіўназіркам да таполяў свайго саду. Ужо сутонела, і паміж дрэвамі я ўбачыў постаць бацькі па-летняму ў нагавіцах і кашулі з расхіленай грудзінаю. Ён быў дальназоркі і заўважыў мяне каля млыноў, стаяў і чакаў, калі я ступлю ў сад. Мы, дзеці, не былі прывучаны да ласкі, пяшчоты. Бацька асабліва быў строгі да нас. Зварот у ласкальнай форме ён дазваляў сабе толькі тады, калі мы былі пры рабоце. У гэтыя хвіліны ён быў добры і радасны. Падбліжаючыся да яго, я неяк засаромеўся ад таго, што мне вельмі захацелася яго ласкі. Я падышоў блізка-блізка і сказаў:

— Тато, я кончыў. — Мне вельмі хацелася, каб ён сказаў у гэту хвіліну нешта добрае-добрае. Ён абняў мяне левай рукой, і я зноў убачыў блізка-блізка скалечаны мезены палец — след сярпа ў гады маленства.

— Адмучыўся? Ну што ж, Колік, навуку за плячамі не носяць, можа, табе будзе лягчэй жыць на свеце. Дай бог.

Год быў урадлівы на яблыкі, на кожнай яблыні ўжо блішчалі, як раса, велікаватыя яблыкі. Каля адной яблыні бацька спыніўся:

— Паглядзі, што іх робіцца?

У яго голасе я пачуў радасць чалавека, якому доўга давялося чакаць аплаты сваёй працы. І вот яна, нарэшце, прыйшла, трэба толькі ўмела распарадзіцца тым, што «бог паслаў».

— Вот табе будзе задача, Колік, пападпіраць яблыні. Параздзіраюцца. Аддыхні трошкі ад кніг. Зімою кнігамі можна займацца.

З маці мы бачыліся кожны тыдзень. Я бачыў яе пакуты сустрэчы з цёткай Поляй, якая чакала, не магла дачакацца, калі я ўжо апрастаю ім кватэру.

— Ну і слава богу, што ўсё кончылася. Я ўжо не магла больш Полі ў вочы глядзець. Гэтак яна ўжо пакутавала пры сустрэчы са мною.

Спаць я захацеў у гумне. Назаўтра ўстаў раненька і пачаў цягаць з-пад гумна падпоры ды аглядаць яблыні. Бацька ўжо быў на садзе. Ён падышоў да мяне з жалязняком і жменяй зелля.

— Вот так, вот так. Выбірай, якія галіны трэба падпіраць.

І я стараўся як найлепш зрабіць гэту работу, каб зняць з яго смутак, які апошнія гады я назіраў на яго вачах. Сёння я бачыў і іншую прычыну смутку: ён проста ўжо недамагаў, хварэў задышкай. Колькі помніцца мне, ён ніколі не хварэў, а то раптам занямог. Ён адчуў набліжэнне ракавога дня, якога нікому яшчэ не ўдалося абмінуць. Ён яшчэ не выпускаў з рук лапаты, яшчэ высільваўся, каб не даць на вачах загінуць таму, у што столькі ўкладзена працы яго рук. У гэтым была яго трагедыя, непераадольная і няўцешная.

## Каментарыі

[1] Рымар — майстар, які шые раменную вупраж (хамуты, сёдлы, вуздэчкі).

[2] Гарбар — работнік, які робіць вырабы са шкур.

[3] Ахмістрыня — жанчына, якая вядзе хатнюю гаспадарку ў багатым доме, аканомка.

[4] Бровар — вінакурны завод.

[5] Аналой — высокі столік з пакатым верхам, на які ў царкве кладуць кнігі, абразы і іншыя прадметы.

[6] Дзесяціна — старая руская мера зямельнай плошчы, роўная 2400 кв. сажням або 1,09 гектара.

[7] Школка — участак саду, адведзены для прышчэпаў.

[8] Бэра слуцкая — знакаміты, вельмі смачны гатунак грушы, па легендзе выведзены манахамі-бернардзінцамі. Дрэвы вынослівыя і высокаўраджайныя (дарослае дрэва дае 200—300 кг пладоў). Плады вывозіліся ў Расію і нават у Амерыку. У Пецярбургу бэры слуцкія каштавалі ў два разы даражэй самых лепшых гатункаў крымскіх груш. У наш час гатунак страціў актуальнасць з-за моцнага паражэння пладоў паршой.

[9] Случчына напярэдадні Першай сусветнай вайны вывозіла садавіны на 25 тысяч залатых рублёў (2,5 млн. долараў).

[10] Буда — крытая скурай або брызентам карэта, брычка і інш.

[11] Мітрэнга — трывога, неспакой, непрыемнае здарэнне.

[12] Павалока, валока — старажытная адзінка вымярэння плошчы зямельнага ўчастка. 1 валока раўнялася 20 дзесяцінам або 21,36 гектара.

[13] Gawęnda (польск.) — *літ.* апавяданне.

[14] Асьміна — старажытная мера вымярэння сыпкіх рэчываў, роўная 104,956 літра.

[15] Пра́шка — пра́шча.

[16] Доўбар-Мусніцкі Юзаф (1867—1937) — рускі і польскі ваенны дзеяч, генерал-лейтэнант рускай арміі (1917), генерал броні Польскага войска, кіраўнік мяцяжу супраць савецкай улады на Беларусі ў 1918 годзе.

[17] Кантрыбуцыя — плацяжы, якія накладаюцца дзяржавай-пераможцай на пераможаную дзяржаву.

[18] Дэфензіва (польск. defensywa, ад фр. défensive) — ахоўная паліцыя ў Польшчы (1918—1939), якая вяла барацьбу з рэвалюцыйным рухам.

[19] Булак-Булаховіч Станіслаў Нікадзімавіч (1883—1939) — ваенны і палітычны дзеяч, які да канца жыцця стаяў на антыбальшавіцкіх пазіцыях. Пры падтрымцы Пілсудскага і Савінкава ў лістападзе 1920 года здзейсніў паход на Палессе, які ставіў сваёй мэтай стварэнне незалежнай Беларускай дзяржавы і саюзнай з ёй Расійскай дэмакратычнай рэспублікі.

[20] Пядзя — старая мера даўжыні, роўная адлегласці паміж расшыраным вялікім і ўказальным пальцамі.

[21] Сажань — старая руская і беларуская мера даўжыні, роўная з аршынам (2, 13 метра).

[22] Каморнік — спецыяліст па межаванні і землеўпарадкаванні.

[23] Керзан Джордж (1859—1925) — маркіз, міністр замежных спраў Вялікабрытаніі ў 1919—1925 гадах. Адзін з арганізатараў антысавецкай інтэрвенцыі.

[24] Тэраўскі Уладзімір Васільевіч (1871—1938) — беларускі харавы дырыжор, кампазітар, фальклярыст. Скончыў Слуцкае духоўнае вучылішча (1889). З утварэннем Бел. дзярж. тэатра ў Мінску (БДТ-1) яго галоўны хормайстар. У 1921 годзе абвінавачаны ў антысавецкай дзейнасці, арыштаваны органамі ЧК БССР, разам з У. Фальскім асуджаны да расстрэлу, які быў заменены 5-гадовым зняволеннем. У 1923 датэрмінова вызвалены для падрыхтоўкі і ўдзелу БДТ-1 ва Усесаюзнай с.-г. выстаўцы ў Маскве. Служыў у царкоўным хоры пры Старажоўскай царкве ў Мінску. Арыштаваны органамі НКУС БССР 17.8.1938 па беспадстаўным абвінавачванні як «агент польскай разведкі» і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957 годзе.

[25] Галубок Уладзіслаў Іосіфавіч [сапр. Голуб, 1882 — 1937] — беларускі пісьменнік, рэжысёр, акцёр, тэатральны дзеяч, мастак. Першы народны артыст БССР (1928). З 1917-га акцёр і рэжысёр Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, з 1920-га кіраўнік Драм. секцыі культурна-асветніцкай арганізацыі «Папараць-кветка» ў Слуцку. У сцэнічнай творчасці наследаваў традыцыі старажытнага беларускага народнага тэатра, што ішоў ад скамарохаў, батлейшчыкаў. У 1937 годзе рэпрэсіраваны. Паводле афіцыйнага паведамлення памёр ад гіпертанічнай хваробы. Рэабілітаваны ў 1957 годзе.

[26] Радзівіл Януш (1579—1620), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын К. Радзівіла Перуна. Атрымаў кальвінісцкае выхаванне, вучыўся ў Страсбургскім і Базельскім універсітэтах. У 1960 годзе ажаніўся з праваслаўнай княжной Соф'яй Алелькаўнай, спадчынніцай Слуцкага і Капыльскага княстваў, якія пасля яе смерці (1612) перайшлі ва ўладанне роду Радзівілаў.

***Апрацоўка тэксту і каментарыі Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

***Заканчэнне будзе.***



Васіль МАКАРЭВІЧ

# МАЙСТЭРНЯ БОГАВА

## ЗАСЕВАК

На цаліку,
З іржышчам, як рыззём,
З любоўю плугара,
а не падзёншчыка,
Плуг запусціў я ў тлусты чарназём
І расшпіліў наросхрыст,
Як паддзёўчыну.

Плуг заглянуць
Дазволіў мне ў вякі,
Дзе мелася адно майстэрня Богава.
Зімой там вылі скрозь снегавікі,
Таўкліся дні вясной,
Дажджы чаўбохалі.

А ўлетку зноў
Кружыў сонцаварот
З вясёлаю хмурынкай спадарожнаю.
Цераз раку брылі стагоддзі ўброд,
Золь асядала ў дол густымі
Дрожджамі.

Не для пустой
Ды паказной красы
Грамы каменячосамі нязграбнымі
Вычэсвалі, як з крэмня, каласы
Ці з бронзы адлівалі,
Васьміgranныя.

А бліскавіцы —
Жыг ды зноўку жыг! —
Снавалі, па жытах таропка лазілі
І зерні, быццам ювеліры, ўміг
Для каласоў гранілі,
Як алмазныя.

Дзеля сябе,
Не для чужой казны,
Каб не чапаў ніхто ажно да восені,
Укрыў крысом я цёплай баразны
Майстэрню Бога з кузняю
Дзівоснаю.

І пазіраў
Удалеч з-пад рукі,

---

***Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч*** *нарадзіўся 15 ліпеня 1939 года ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1964). Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Вогненная камета» (1963), «Мерыдыяны і паралелі» (1966), «Ліставей» (1971), «Вечнае дрэва» (1974), «Радоўка» (1977), «Праталіна» (1983), «Відушчы посах» (1987), «Сумежжа» (1989), «Квадратура круга» (2000), «Неба ў руках» (2012) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2013).*

Дзе ластаўкі кігікалі і піскалі.
А ўслед за баразной ішлі гракі,
Нібы ксяндзы з малітвай
Ці епіскапы.

## ДРАНІКІ

Пабачыўшы
Гурманаў-малайцоў,
Што з піцай завіхаюцца і возяцца,
Карціць мне запытацца: ад блінцоў
Вы бульбяныя дранікі
Адрозніце?

Калі на голлі
Зззяе росаў ртуць,
Устаўшы на світанні, рана-раненька,
На тарцы бульбу-бульбачку дзяруць
З увішнасцю асобаю
На дранікі.

І чапяла
Знячэўку за губу
Патэльню схопіць, бы красуню
кемную,
З капрызным гневам рыкне:
«Загублю!» —
Яе ў густое полымя
Пякельнае.

І тлусты здор
Не дрэмле, не маўчыць.
Ды і маўчаць ніколі ён не згодзіцца.
Скуголіць, енчыць, вые, верашчыць
І вось нарэшце ў віску
Аж заходзіцца!

А дранік
Не крыкун, не гарлапан.
Ён не паддасца аніякай паніцы.
Як шляхціч далікатны і васпан,
У тлушчы раскашуе
І купаецца.

На вуліцы
Стаіць птушыны грай.
Шпакі ўцінаюць, спевакі-абраннікі.
А на стале вунь ля гары — гара
Смакоцця, бульбяных
Пахучых дранікаў!

Бруіць жыццё,
Вызваньвае ручай
І цешыцца сваёй уласнай тайнаю.
Друг, ты ў смятану дранікі мачай —
Смакуй і спажывай іх
Са смятанаю!

Цягай ізноў
З гаршка і з макатра
І слухай тонкі спеў у полі полаза!
Бо дранікі — ўсе знаюць! —
смаката.
Дзе б іх ні елі, хоць бы
І на полюсе!

## ЖАННА

Імя ад дзён маленства
Ахвотна носіш, Жанна.
Хаця не з парыжанак
І я не з парыжан.
Па радаслоўнай маці
Паходзіш ты з Ружанаў.
Калі ўжо не з райцэнтра,
То, пэўна, з-пад Ружан.

Імя ты носіш — Жанна.
Скажы, парай, Жаннета,
Як час мне адзіноты
Ў самоце перабыць?
Ты знаеш, не нашу я
Даўно бронежылета.
Чаму не хочаш сэрца
Мне позіркам прабіць?

Прыдумаў я, вядома.
Дзеля цябе Ружаны,
Дзе часам ходзіць рэха
То ціха, то наўздрыж.
Каб на цябе здзіўлёна
Глядзелі парыжане,
Давай з табою, Жанна,
Паедзем у Парыж!

Скажу спачатку ціха,
Затым усклікну: — Жанна!
Пад рукі слова лезе,
Як дзіўная жаўна.
Не сеяла ты жыта,
Сярпом яго не жала.
Не бачыла ніколі,
Відаць, і кажана.

Ружаны, ціхі горад.
А ёсць яшчэ Пружаны.
Ацэняць, як і трэба,
Яны тваю красу.
Забыўлівасць пустая
Табе не пагражае.
А трэба — на далонях
Да Рыма данясу.

Твае з маленства пальцы
У залатых пярсцёнках.
Абручыкамі фарба
Лягла каля вачэй.
Ці чула ты, як жаўра
У тонкую свісцёлку
Выводзіць спеў над лугам
Ад воласа танчэй?

Гляджу я са здзіўленнем
На модную завіўку, —
Напэўна, ты чакаеш
Сястру а ці гасцей?
Яна пад колер проса,
А можа, нават вікі,
Што вырастае ў полі,
Чым вышай, тым гусцей.

Нібы асцюк жытнёвы,
Сум сэрца кроіць, рэжа.
А ў небе над саборам,
Гарыць і ззяе крыж.
Не бачылі з табою
Мы Эйфелеву вежу,
Але нашто нам, Жанна,
З той вежаю Парыж?!

Ёсць гарадок прыгожы,
Драўляныя Ружаны.
Там у гародзе бульба,
А мальвы — у садку!
І людзі па Ружанах
Ідуць, як парыжане,
І я вось гэту оду
Табе адной сатку.



**Георгій МАРЧУК**

# НАВЕЛЫ

***Памяці маіх незабыўных школьных сяброў Вані Мішэніна, Федара Украінца, Міхаіла Смушко, Сашы Янкоўскага прысвячаю***

## Журба*

От, то паслухайце, што было ў нашым мястэчку. У ім жыве мо то шэсць ці сем тысячаў людзей. Багата з іх робяць на млячарне, нехта робіць вучыцелем, урачом, у чайной. Ёсць царква, бібліятэка, чатыры магазіны з харчом ды ўнівермаг, які размалявалі ў сіні колер. Ездзяць людзі па бруку, яшчэ польскаму, на роварах, машынах, а больш любяць хадзіць пешшу. Ставяць у гародах цяпліцы ды возяць па свеце гуркі, буракі, памідоры, сушаную рыбу, боб ды бульбу. З таго й жывуць.

Сюды мо, акрамя цыганоў, жыць аднекуль не едуць. Няма работы. Які вучыцель не ўладкаваўся дзе ў горадзе, то знойдзе ўжо тут прытулак і заробак. Гадоў трыццаць ці мо сорак нават быў у мястэчку свой духавы аркестр. Ды, халера, галоўны музыкант, які ўсіх навучаў граць на інструментах, пачаў моцна піць. Каб сказаць, што ў мястэчку багата хто коўтае гэту заразу, не скажаш. Тутака жонкі да п'ючых злыя. За галоўным начальнікам аркестра ўцягнуліся і другія. Так нешта вельмі ж скора й паўміралі. Застаўся адзін Іван Іосіфовіч, у якога былі дзве гарныя, красівыя дочкі, якімі ён ганарыўся. Іосіфовіч у святы, ужо як закон, ішоў да царквы. Багата хто з мужчын ідзе да царквы, каб проста выйсці ў нядзелю ў горад. Да Бога з вераю ходзяць

---

*__Марчук Георгій Васільевіч__ нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў Давыд-Гарадку. Пасля заканчэння школы № 2 у Давыд-Гарадку працаваў ва ўстановах культуры. З 1969 года ў Мінску — адміністратар кінастудыі «Беларусьфільм», асістэнт рэжысёра аб'яднання тэлефільмаў той жа кінастудыі. Скончыў аддзяленне тэатразнаўства Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (1973), Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў у Маскве (1975). Загадваў літаратурнай часткай тэатра-студыі кінаакцёра, працаваў дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» і галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм». Цяпер — сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар кніг прозы «Крык на хутары» (1983), «Кветкі правінцыі» (1986), «Вочы і сон» (1990), «Сава Дым і яго палюбоўніцы» (1990) і іншых, шэрагу п'ес, кіна- і тэлефільмаў.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996).*

---

* Навела напісана на моўным дыялекце Столінскага раёна.

больш жонкі. Іван Іосіфовіч хадзіў яшчэ і каб паслухаць пеўчых царквы. Цягнула яго да музыкі. Ды ці яго аднаго. Калі разыходзіліся людзі з бутэлькамі ды слоікамі са святой вадою, можна было найчасцей чуць: «Ой, як хораша спяваюць нашы пеўчыя! Нідзе ў раёне такіх няма. От Вера малайчына, то ўжэ маладзец, што казаць». Вера Мазоль служыла рэгентам невялікага хору пеўчых, якіх яна яшчэ мо гадоў сорак таму і знаходзіла, і вербавала, і ўгаворвала, і вучыла. Веры Мікалаеўне Мазоль пайшоў дзевяноста першы год. Жанкі ў мястэчку жывуць, дзякуй богу, доўга. З гэтых дзевяноста яна сорак гадоў і была рэгентам. Астатнія ўсе маладзейшыя. Хіба цягнулася да яе годоў шасцідзесяцігадовая Надзя Лагун. Вельмі даўно, калі яшчэ ў Доме культуры была самадзейнасць, яны, пяцідзесяцігадовая Вера і дваццацігадовая Надзя, спявалі дуэтам народныя песні. Ад таго часу і пасябравалі. Ну, як пасябравалі. Вера хрысціла адзіную дачку Надзі, а Надзя шыла Веры і яе дзецям верхнюю адзежу: спадніцы ды сарочкі. Пасля службы, калі ўсе разыходзіліся, яны яшчэ доўга стаялі ля царквы, потым ішлі берагам ракі — Надзя праводзіла Веру да яе вуліцы. Чаго было ісці? Вера такая жвавая, лёгкая на хаду, а Надзя на галаву вышэйшая, цыбатая, трохі нязграбная, ледзь паспявала за шпаркай Верай. Ды ўсё пыталася: «Што ты робіш? Што ты, Вера, ясі, што не старэеш? Я нешта і сівая ўся, і нос пашырэў, і нейкія плямы на кожы, ды лапікі пад вачыма — баюся ў люстэрка глядзець», — занепакоена так пыталася. «Што ўжэ Бог дае. Радуюся кожнаму дню. Людзям зла не раблю і не завідую нікому», — з усмешкай адказвала Вера. Тутака яна ўгадала. Усё ж трохі, а Надзя зайздросціла старэйшай сяброўцы. Бывае, ідуць так па вуліцы… а людзі, якія насустрач, адно й гавораць, калі здароўкаюцца: «Добры дзень, Вера Мікалаеўна!». І такое бывала зло нейкае нападала на Надзю. Як бы хто кіпятком знарок абліў. Яшчэ Вера ніколі не хваліла Надзю. Астатнім добрае слова скажа: «Хораша спявалі». А Надзі як бы і няма. А сама Надзя была ганарлівая, не пыталася пра сваё спяванне. Трохі іх яшчэ зблізіла і гора. Неяк раптоўна памёр чалавек Надзін — пайшоў вудзіць рыбу, падхапіўся рана, нешта ў грудзях пякло, аднак пайшоў — ну, у лодцы і памёр. А праз тыдзень сваёй смерцю ад гадоў счах і чалавек Верын. Іх на могілках і паклалі разам. Вера то ўжо на людзях не ўбівалася: «Так Богу ўгодна, мне адмераў больш». А Надзя, ён быў у яе другі, першы з'ехаў колісь на цаліну і згінуў, засумавала. Шукала прычын, каб тырчаць у городзе, ля царквы, у магазінах, на базары, каб пазней вяртацца дахаты… а лепш толькі на ноч. Сама сабе казала: «От добра, што памёр улетку, прыйдзе даўжэзная зіма, трохі забудзецца ўсё». Яна пачала больш уважліва прыглядацца да таго, як кіруе Вера хорам пеўчых. Ёй раптам захацелася і самой стаць рэгентам. А то калі Вера перадасць Соні ці Любе Цубер сваё месца… то мо яна і пакіне хор… каб яны, маладзейшыя на дзесяць—дваццаць гадоў, ды былі над ёю. І пачала яна больш уважліва перачытваць Евангелле, больш прыслухоўвацца да парад Веры, якія тая ахвотна давала людзям падчас гаворкі ля магазінаў ці царквы. Адна хваліцца: «Моя раскошніца апране новую сукенку і круціцца перад зэркалом поўдня і есць і п'е перад зэркалом».

— От гэто не трэба робіць, — кажа ў адказ Вера Мікалаеўна.

— Чаму? — пытае гаварлівая.

— Бо чорт, які сядзіць за зэркалом, украдзе красоту і здоровʼе! Няхай не робіць так.

— От добрэ, што попярэдзіла, — згаджаецца жанчына.

Альбо яшчэ бывае пытаюць:

— А як проверыць, ці такога, як трэба було, Бог послаў мне чоловека?

— Просто. Колі ў другой — там на небе жытцы згодна з ім зноў пражыць жызнь, то значыцца твой…

Надзя ўсё думала: і адкуль яна гэта ўсё бярэ? Рабіла ж да пенсіі проста бухгалтарам… А розум Бог даў.

— А без Бога можна, Вера Мікалаеўна, жыці? — яшчэ хто пытае.

— Можна, і нашых багато жыве. Але з Богам спакойней і надзейней.

— Сум нападае, — сказала Надзя.

— Весяліцца, як дурань, не будзеш кожны дзень. Радовацца жыццю можна кожны дзень. Прыглядайся да ўсяго жывога… да кураня, да кошачкі. Я ўчора мо поўгадзіны гладзіла саломінай па галоўцы маленькую жабку. Нейкі цуд. Куды ні кінеш вокам — усюды цуд і радасць жыцця.

Вось чаму Надзя хапілася чытаць Евангелле.

Вера пазваніла надвячоркам: «Прыходзь». Голас быў ціхі, не такі як заўсёды. Подбегам Надзя накіравалася да хаты над ракой. Вера ляжала на ложку каля акна.

— Сяброўчка мая, Гасподзь прызывае. Учора яшчэ калі святковалі Макавей… раптам зямля вакол мяне закружылася, не я вакол яе, а яна вакол мяне. Паміраць буду.

— Гасподзь з тобой, не палохай так, — Надзя перахрысцілася.

— Слухай… калі не сёння ўначы… дзень, два… чоловек прысніўся. Кажа: «Вера, што ты там заседзелася? Не магу я тут адзін. Прыходзь».

— А мой мне ніколі не сніцца.

— Дык вось. Коб ховалі, як усіх нашых. Ты станеш на маё месца. Ля маёй галавы. Сачы за бацюшкам. Ён, калі шчо, знак падасць. Коб спявалі без слёз. У пеўчых доля такая — не плакаць.

— То ўжэ ж ведаем. Шчо загадаеш, усё зраблю, — згадзілася Надзя.

— Шалік мне на шыю… шчо нявестка колісь падарыла. Люба любіць вырывацца… сачы, коб усе ў гармоніі, роўна. Камертон вазьмі. Навука не хітрая. Схопіш. Цоловацца не будзем… а то яшчэ дзень-два Бог дасць пожыці… дык будзем одно шчодня цоловацца, — і Вера нават злёгку ўсміхнулася. — Дай руку.

Надзя падала сяброўцы руку і адчула, што рука ў Веры халодная, нібыта як узімку, не такая, як звычайна. Развіталіся. Вера ўгадала. Памерла не сярод ночы, а на самым ранні… калі сонейка зазірнула ў яе акно. Хавала Веру Мікалаеўну ўсё мястэчка. Надзя кіравала паводле нябожчыцы. Распачалі паніхіду. Пеўчыя, паколькі Надзя стала на звычайнае месца Веры, чакалі яе жэстаў: узмаху рукі ўгару. Яна так і зрабіла. Заспявалі. Усе, акрамя Надзі. Нейкая нябачная сіла сціснула ёй горла, і яна як бы анямела. Згінуў голас. Адспявалі і на могілках, але тое самае з голасам ў Надзі паўтарылася. Пеўчыя, хоць і заўважылі маўчанне Надзі, але ж даравалі… така цяжкая мінута, што нават святар, у якога ніколі ніхто не бачыў слёз, усплакнуў.

Амаль усю ноч Надзя не спала, варочалася, малілася каля іконы Божай Маці, зноў клалася, а сон не браў. Як ніколі, аж сама сабе дзівілася, чакала, калі будзе зноў нябожчык. Праз тры дні памёр стары Бэгла. Не ішла, а подбегам рухалася да царквы. І зноў усё паўтарылася. Голасу не было. Не змагла спяваць. Штодня яна дакарала сябе. На дзявяты дзень пайшла на могілкі да Веры, паплакала: «Даруй, даруй… мо то я падштурхнула да цябе смерць». Спасылалася на хваробу горла і больш яна ў хор пеўчых не хадзіла. Дачка ўгаварыла маці пераехаць да яе ў Петрыкаў. Унучка ж падрасла. Трэба було аддаваць у першы клас. Прадалі хату. І Надзя пакінула мястэчка. Цяпер была адна работа: забіраць са школы пасля ўрокаў унучку. Яна выходзіла з хаты раніцай. Сядала на беразе ракі, ля школы, у якой

дзіцячы хор дружна і бадзёра спяваў свае дзіцячыя песні. Надзя глядзела ў бяздоннае неба і цяжка ўздыхала, казала небу: «Вера, чаго ты памерла, чаго, Вера?.. Дай хоць які знак». Ды маўчала неба, на якім пачыналі сівець вераснёўскія хмары.

## Божы дар

І надышоў час, калі ноч саступіла правы дню, калі праззяла неба святлом без свяціла. На зямлі, у доме, маладая маці нараджала сваё першае дзіця. Сцішылася прырода, не дзьмулі пясчаныя буры ў Сахары, не буяніў Ціхі акіян, не ляцелі ўніз лавіны з Эверэста і Кіліманджара, не бунтавалі вулканы, цішу і спакой ахоўвалі векавыя дубы Белавежскае пушчы. Анёлы святла і дабрыні панеслі па свеце радасную вестку. І ажылі душы нябесныя, святыя і зямныя. Узрадаваўся Пушкін, адразу апрануўся, паслаў кур'ераў да сваіх братоў-паплечнікаў Гогаля, Купалы, Гётэ, Байрана, Хаяма. Першым адгукнуўся няўрымслівы Гогаль, адказаўшы любаму сябру, што ён ужо наняў карэту, у якой сядзяць шчаслівы Шэкспір, хваравіты, але задаволены навіною, Шапэн, павесялелы Глінка, што час ехаць, што гарачыя і лёгкія Сервантэс, Рабле, Руставелі, Саят-Нова, Назімі, Лопэ дэ Вэга ўжо ў дарозе. Дастаеўскі ведае, што, прачуўшы навіну, Леў Талстой заплакаў слязамі радасці. І яны выбраліся ў дарогу, прыпыняючыся ля ўсіх, хто аб гэтым прасіў. Паслухаліся цяжкахворага Саўрасава, які не мог выбрацца з лякарні, узялі яго карціну «Гракі прыляцелі» ад імя ўсіх сяброў ягоных: Пярова, Шышкіна, Куінджы, Левітана, Фядотава. Прыпынілі свой адпачынак, пакінулі правінцыю Чайкоўскі, Рэпін, Віла-Лобас, Рэрых, не паехаў у Францыю Тургенеў, у Гвінею — Міклуха-Маклай, на Таіці — Гаген, у Індыю — Васка да Гама; словам, усе спяшаліся да гэтага дома, у якім маладая, самая прыгожая маці нараджала дзіця. Прыхапіўшы фарфоравы кубак, чарніла, паперу, рушыў у самы доўгі шлях ажно з Кітая Канфуцый. Шліман пагрузіў усе багацці Трои на карабель, не хапіла месца, зафрахтавалі караблі Амундсена, Скота, Берынга, Лазарава. Дапамагчы ўзяўся Чарапанаў са сваім цягнікам і Жукоўскі са сваім самалётам... бо ля дома, у якім нараджае жанчына, няма мора. Яго адразу ж узяліся маляваць Ларэн, Айвазоўскі. Падрыхтавалі віншавальныя тэлеграмы і прынеслі Папову, каб ён іх перадаў, стогадовыя старцы, што не змаглі выбрацца ў дарогу,— Тыцыян, Кант, Леанарда да Вінчы, Бернард Шоу. Як яны зайздросцілі тым, хто быў каля дома! Вось і знаёмая вуліца. Яе ўпрыгожваюць, слухаючы парады Карбюзье і дойліда Тадж-Махала, Перыкла і Растрэлі. Твары аздобнікаў найшчаслівейшыя — Сезан, Манэ, Чурлёніс, Пісаро, Кент, Сікейрас, Далі, Хогарт, Пірасмані, Маціс, Веласкес, Рубенс. Убаку, як быццам саромеючыся, стаяць вечныя халасцякі. О, як яны перажываюць у гэты момант, што не зведалі сямейнага шчасця, — сціплы Ньютан, іранічны Вальтэр, мудры Дантэ, замкнёны Бетховен; іх бярэ за рукі гарэзлівы Чаплін і падводзіць бліжэй да дома, ля якога ўжо сабралася багата ваяроў, хлебапёкаў, фараонаў, далакопаў, купцоў і купчыкаў, царадворцаў і мейстэрзінгераў, падарожнікаў і жабракоў. Бах, вітаючы Рыверу, адчыніў невялікую капліцу, што ацалела ад войнаў жорсткіх, расклаў на пюпітры ноты, папрасіў у Бальзака кубачак гарачае кавы, сеў ля акна, чакае. Вынаходнікі і тут першыя: стаяць ля ганка Піфагор, Эдысан, Ламаносаў, няўрымслівы Мендзялееў, асцярожны Гутэнберг. Да ложка парадзіхі маюць права падысці, каб ахоўваць яе сваёй прысутнасцю, толькі тыя, хто ў белых халатах: паправіў пенснэ і ступіў першы Чэхаў, з ім побач Гіпакрат, Авіцэна, Пірагоў,

Рэнтген, Кох, Бернар. Сляпыя Гамер і Баян стаяць ля вокнаў, іх ніхто не прыкмячае, бо вось толькі-толькі пад’ехалі — у цудоўным настроі — Шаляпін, Паўлава, Каруза, Забэйда-Суміцкі, Кіпура, Ланца, Собінаў. Паддаючыся іх весялосці, пасвятлелі сумныя вочы Босха, Гоі, Дзюрэра, Рэмбранта, Шапенгаўэра, Пірандэла, Пазаліні, Верашчагіна, Брэйгеля. Засяроджаныя Рэзерфард, Мікеланджэла, Паўлаў тактоўна прапусцілі наперад будучых хросных — хто ж ім не саступіць дарогу? — Андэрсена, братоў Грым, братоў Люм’ер, Радары. За імі ў спакойнай велічы назіраў Калумб, які трымаў у руках чай, каву, хлеб; побач стаяў Дакэ з кашом бульбы. Гучна, на ўсю вуліцу спрачаюцца, як пачаць і хто пачне першым, Моцарт і Вэрдзі, Ліст і Мусаргскі, Грыг і Вагнер, Вівальдзі і Пучыні, Кальман і Сметана; тым часам іх непрыкметна апярэджвае Штраус, пазычыўшы скрыпку ў Страдывары.

А дом усё акружаюць новыя прышэльцы, не баючыся агню і вады, холаду і спякоты. Бо тут, толькі тут, на нейкі момант пачатак пачаткаў, цэнтр Сусвету. Ідуць усхваляваныя, як ніколі, самыя блізкія сваякі жанчыны — прадзеды Сямён і Гаўрыла, якіх вядуць Маці Божая і Рафаэль, яны нясуць ікону Хрыста, іх апякаюць і суправаджаюць Кірыла Тураўскі і Златавуст, Кірыла і Мяфодзій. У пакоі каля парадзіхі — жанчыны Сафо, Жанна д’Арк, Еўфрасіння Полацкая, Кюры, Магдаліна, яны трымаюць гаючую ваду святое ракі Ганг, якую перадаў Гандзі. О, якая велічная, неапісальная хвіліна чакання! Кеплер і Капернік трымаюць над галавою парадзіхі зорны шацёр, рукі ёй гладзяць Батычэлі, Энгр, Хакусая, Радэн. Мужныя ваяры, стоячы на даху, ахоўваюць дом ад граду, куль, маланак. Яны — Данскі, Кутузаў, Гарыбальдзі, Жукаў — не пусцяць зло. Усё жывое, здаецца, просіць у Творцы, каб ён аблегчыў жанчыне боль. Велізарны, неабсяжны свет прыціх у салодкім чаканні — няма межаў, знікла варожасць, толькі гучыць у бязмежнай prасторы труба Армстранга, усё дыхае адзінствам і роднасцю, усё і ўсе чакаюць, бо толькі ў гэтай хвіліне і мінулае, і сённяшняе, і будучае. Бо гэта і ёсць адзіны Божы дар — найвышэйшая асалода жыцця вечнага. Гоіць душу толькі першы радасны крык дзіцяці, толькі ён — вечная надзея, вера і любоў. Запаволіўся час. Хвіліна, другая... і ўсё здарылася. Усе пачулі голас новага жыцця чалавечага, і адразу радасна ўздыхнулі, і абнялі адно аднаго, і ўзрадаваліся, і заплакалі ад шчасця. Схілілі свае сівыя галовы ў знак падзякі Платон, Дэмакрыт, Сенэка, Гегель, Бэкан, якія зрэдку да гэтае хвілі ўсміхаліся. Міцкевіч, Райніс, Шаўчэнка першыя прывіталі народжанага. Не, недарма было ўсё і былі ўсе яны. Ён, народжаны, не адзінокі, і яны не адзінокія. Ён, народжаны, панясе часцінку іх душ далей. Усе, хто прыйшоў да дома, застаюцца яшчэ на нейкую хвіліну ў гэтым сонечным сакавіцкім дні, усім хочацца дакрануцца нябачнай рукою да дзіцяці і благаславіць яго перад тым, як пачуюць новы покліч-вестку, што недзе далёка-далёка і так блізка-блізка маладая жанчына ўпершыню чакае Божага дару. Дапаможам Ёй усім светам, як дапамагаюць нам тыя, хто жыў да нас з надзеяй на любоў і дабро і хто гэтую надзею сцвярджаў і перадаў нам.



Анатоль ШУШКО

# ПАЎТОРНЫ МЫ, ЯК НАБЫВАЕМ ВЫРАЙ

* * *

Да ведама табе, радок мой шчыры:
Паўторны мы, як набываем вырай.
Тут — прызямляемся, ўзлятаем — там.
Агледзелі і саклю, і вігвам,

І вілу каля мора, ранча ў полі.
Няўрымсная душа, калі на волі
Імкнецца ў свет, каб новым наталяцца,
Каб ад прымусу смела вызваляцца.

Да ведама, радок! Нідзе ніколі,
Апроч Радзімы, не знайсці нам ДОЛІ.

## ТОЛЬКІ ТАМ

Мне заўсёды хочацца дамоў,
Як душою стыгну і стагну.
Толькі там памаладзее кроў,
Толькі там, як жаўранак, засну.

Толькі там я — вісус і Адам.
Толькі там я вершам думы раю.
Толькі там я словам волю дам.
Толькі там сябе падакараю.

Толькі там пачую ясны зоў
І душой адстыгну, адстагну,
Як мая памаладзее кроў,
З сэрца вымываючы ману.

---

*__Шушко Анатоль Іванавіч__ нарадзіўся 19 ліпеня 1954 года ў вёсцы Сташаны Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1976). Настаўнічаў у Пінскім і Свіслацкім раёнах, а таксама ў ПТВ №137 машынабудаўнікоў горада Пінска.*

*Аўтар паэтычных кніг «Выток і прычасце» (1994), «Шаны» (2012).*

*Лаўрэат рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор 2012 года» ў галіне паэзіі.*



**Ніна РЫБІК**

# СКРЫЖАВАННІ

*Аповесць*[*]

## Частка другая

* * *

Сёння Таццяна вырашыла пайсці з работы раней, чым звычайна. Такая магчымасць у яе з'явілася ўжо даўно, але яна яе не выкарыстоўвала: што скажуць людзі, якія працуюць увесь поўны працоўны дзень... А вось сёння... Ды нічога з фірмай не здарыцца, як працавала, так і будзе працаваць...

Чаму ёсць магчымасць пайсці дадому дачасна? Тут трэба дзякаваць Валодзю і Юру. Валодзя неяк вызваўся сам забяспечваць фірму тканінай і гарнітурай, дамаўляцца з пастаўшчыкамі і гэта ў яго няблага атрымлівалася. І Юра ўзяў на сябе частку Таццяніных клопатаў па вытворчасці — адказваў за бездакорную работу швейных машынак, ды і ўсёй астатняй тэхнікі, што мелася на фірме.

Так што ёсць вольны час, можна пайсці дадому раней.

Сёння спаўняўся роўна год, як яны з Юрам сталі жыць разам. Яна часта ўспамінала той дзень — яе позняе вяртанне дахаты, яго з ружамі пад пад'ездам, запрашэнне ў рэстаран, яе разгубленасць, спробы схавацца ў ванным пакоі, каб уцячы ад сябе і свайго кахання… І Юру — у старых Васевых джынсах з адвёрткай у руцэ. І ўсё, што было потым… І зараз яе зноў, як і тады, захліснула хваля пяшчоты і неймавернага шчасця.

Яна купалася ў гэтым шчасці ўвесь мінулы год. Нават баялася: немагчыма ўвесь час быць такой шчаслівай, павінна здарыцца нешта дрэннае, катастрафічнае, непапраўнае — заўтра ці паслязаўтра… Але міналі і заўтра, і паслязаўтра — а Юра па-ранейшаму быў побач: уважлівы, закаханы, гаспадарлівы,

---

***Рыбік Ніна Аляксееўна** нарадзілася 16 студзеня 1962 года ў вёсцы Уласы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці (пасля аварыі — у зоне адчужэння). Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум (1980) і факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта (1990). Працавала ў Хойніцкай раённай газеце «Ленінскі сцяг». З 1989 года жыве ў Астраўцы, працуе ў рэдакцыі раённай газеты «Астравецкая праўда», з 1992 года — галоўным рэдактарам газеты.*

*Выйшла дзве кнігі яе апавяданняў — «Права на адсяленне» (2001) і «Свае і чужыя» (2008).*

---

[*] Працяг. Частка першая ў № 3, 4 за 2013 г.

клапатлівы… Яны неўзабаве пасябравалі з Васільком. Хоць той, вярнуўшыся са студэнцкага будаўнічага атрада, спачатку даволі насцярожана паставіўся да мамінага «кавалера» — прыглядваўся, яршыўся… Але з часам нібы адтаяў. Калі ж яна асцярожна паспрабавала высветліць, як старэйшы сын — дарослы ўжо ж, па сутнасці, чалавек — адносіцца да яе такога смелага і ў пэўнай ступені рызыкоўнага ўчынку, адказаў сур’ёзна:

— Мама, галоўнае, каб ты была шчаслівай, а з кім і чаму — якая розніца? А ты зараз такая шчаслівая, якой я цябе не бачыў ніколі.

— Ну вось яшчэ, выдумляеш, — сумелася Таццяна. — Я неаднойчы была шчаслівай, вы з Андрэйкам падарылі мне для гэтага шмат прычын.

— Не, мама, — пакруціў галавой Вася. — Я памятаю цябе рознай: вясёлай, сумнай, заклапочанай, стомленай, радаснай. Але шчаслівай — ніколі. І я рады, што гэты ні з чым не параўнальны бляск, які не падманвае, нарэшце з’явіўся ў тваіх вачах. За гэты шчаслівы бляск я б дараваў гэтаму твайму Юрыю што заўгодна. Але яму, як ні дзіўна, падобна, і даравáць няма чаго: вельмі прыстойны чалавек. Так што я рады за цябе… Толькі на ўсякі выпадак папярэджваю: не ўздумайце мяне выхоўваць. Вырас я ўжо, мама. Нават для цябе — а для яго і не быў ніколі маленькім. Так што ў мае справы хай не лезе, а то яшчэ нарвецца на непрыемнасці…

Такі адказ Васілька насцярожыў Таццяну: чаму ён так рэзка кажа? Якія такія ў яго справы, у якія нікому не дазволена лезці? А потым супакоілася: вядома, юначы максімалізм! Сама такая была, калі нарадзіла сына насуперак усім і ўсяму. Добра яшчэ, што сын увогуле прыняў Юру як члена сям’і, — а то што б яна рабіла тады, як бы разрывалася паміж сваімі самымі дарагімі мужчынамі, калі б яны, крый божа, сталі канфліктаваць?

А Андрэйка — той увогуле павіс на Юры з першага дня і не адыходзіў ад яго, пакуль быў на канікулах. Яны разам нешта майстравалі, аб нечым бясконца гаварылі, ездзілі на рыбалку, хадзілі на футбол. Таццяна разумела, што Юра з хлапчуком наталяе свой бацькоўскі голад, які адчуваў увесь час, пакуль быў прымусова разлучаны з сынам. А Андрэйка нарэшце атрымаў тое, чаго яму не хапала, чаго не магла пры ўсім старанні даць яна, маці і чаго не паспеў ці не захацеў даць бацька-п’яніца: старэйшага сябра, мудрага і дужага мужчыну, які здольны навучыць, падказаць, параіць і абараніць, побач з якім — спакойна і надзейна.

У тым годзе хлапчук, калі заканчваліся летнія канікулы, упершыню неахвотна збіраўся ў сваё суворaўскае вучылішча, нават неяк сказаў, што, можа, лепш яму не ехаць у Мінск, а вярнуцца ў сваю школу… Але Юра яму патлумачыў, што мяняць свае рашэнні — не па-мужчынску, што трэба заканчваць пачатую справу, нават калі яна табе здаецца цяжкай і ўжо не такой цікавай, як раней. І Андрэй, уздыхнуўшы, пагадзіўся, што вучылішча трэба заканчваць…

Праўда, Таццяна з Юрам да гэтага часу так і не распісаліся. Юра неаднойчы прапаноўваў зрабіць гэта, але яна ўсё не рашалася, хоць ёй было крыху няёмка ад гэтага двухсэнсоўнага становішча «сужыцелькі» — але ў яе ўзросце, з двума дзецьмі ад розных бацькоў! А цяпер яшчэ гэты грамадзянскі муж — прыдумаюць жа слоўца...

Але яшчэ больш баялася будучыні, чым цяперашняга свайго няпэўнага становішча як жанчыны — ці то жонка, ці то не. Таццяна не магла сказаць напэўна, што менавіта яе палохае. Але, прачынаючыся ранкам ад водару заваранай Юрам кавы і шчасліва ўсміхаючыся, яна ўжо праз хвіліну праганяла ўсмешку думкай, што ўсё гэта занадта цудоўна, каб быць праўдай, ды яшчэ ў яе жыцці, якое шчодра дарыла толькі беды і выпрабаванні…

Перад першым у іх жыцці Новым годам Юра ў чарговы раз сказаў, што ім трэба ўзаконіць свае адносіны. І дадаў, што Новы год — самы цудоўны час для гэтага: новы год, новае жыццё, новае шчасце…

Раней на такія яго прапановы яна знаходзіла самыя розныя адгаворкі: спраў шмат, мама хварэе, трэба разабрацца з палякамі, якія ледзь не «кінулі» іх з першым заказам, а зараз сталі галоўнымі партнёрамі, трэба чарговы кантракт падпісваць і падрыхтаваць яго, словам, клопаты, клопаты…

А зараз сказала шчыра:

— Юра, ты прабач мяне, калі ласка, але я не магу…

— Але чаму? — не разумеў ён. — Што нам перашкаджае? Ці, можа, табе нешта ўсё ж перашкаджае? — Ён уважліва, пранізліва паглядзеў ёй у вочы. — Ты баішся, што я цябе пакрыўджу? Ты што, мне не верыш, Таня? Няўжо ты да гэтага часу так і не зразумела, што я цябе кахаю? — прытуліў да сябе пяшчотна жонку. — Я разумею — цябе шмат крыўдзілі ў жыцці. Але павер: далёка не ўсе мужчыны такія. Я ж не параўноўваю цябе са сваёй былой жонкай — чаму ж ты на мяне пераносіш увесь свой негатыўны вопыт?

Таццяна мякка вызвалілася з яго абдымкаў:

— Не, Юра, я цябе ні з кім не параўноўваю. Ты — адзін такі ў свеце. Толькі пастарайся зразумець мяне, калі ласка… Справа не ў табе — ува мне. Я не цябе — я сябе баюся...

— Чаго ты баішся, дурнічка ты мая маленькая? — ён зноў прыгарнуў яе да сябе і стаў гладзіць па галаве, час ад часу цалуючы ў макаўку.

— Мне цяжка растлумачыць, — спавядалася яму Таня. — Я сама для сябе не магу гэта вызначыць. Але недзе там… На самым донцы душы… Ува мне жыве страх, што ўсё гэта — ненадоўга. Не назаўсёды… Часам здаецца, заўтра прачнуся — і акажацца, што ўсё — проста сон. Цудоўны, немагчыма шчаслівы сон… Усе тыя імгненні шчасця, што мне давялося зведаць раней, былі такімі кароткімі — сапраўды імгненнямі. Сёння я шчаслівая, як ніколі, але не магу адагнаць ад сябе думку, што і гэта — ненадоўга… І калі я паверу, змацую ўсё нейкімі штампамі, пячаткамі, то ўсё ў той жа момант разбурыцца. Нібы нехта злы і ўсёмагутны толькі гэтага і чакае, каб беззваротна забраць маё шчасце…

— Але ж гэта глупства, Таня! — усклікнуў Юрый. — Ты ж разумная жанчына, якіх мала ў свеце, — і верыш у такое! Няма нікога злога і ўсёмагутнага, хто б мог забраць наша шчасце. Я кахаю цябе і буду побач з табой заўсёды! — ён пачаў гарачыцца.

— Аб гэтым я мару больш за ўсё на свеце, — Таня вылезла са сваёй «хованкі», зазірнула Юрыю ў вочы і ўсміхнулася. — Але ты не прыспешвай мяне, добра? Пачакай крышку…

— А крышку — гэта колькі? — напаўжартам удакладніў Юра. — Тыдзень, месяц, год, пяць?..

— Я скажу табе… Сама… Потым…

— Праўда скажаш? — паглядзеў ён недаверліва. — Я ж цябе ведаю — зноў пачнеш нешта прыдумляць…

— Праўда, Юра. Абавязкова скажу!

— Ну, добра, — пакорліва ўздыхнуў Юрый. — Але май на ўвазе: я не збіраюся чакаць бясконца! Калі будзеш доўга вагацца, то ўкраду пашпарт, дам хабар супрацоўнікам загса — і сам з табою ажанюся, ты і ведаць не будзеш, калі станеш Кашаваравай!

Таццяна не стала даказваць, што такое немагчыма, — ён і сам гэта ведаў. Усміхнулася толькі — яна была яму вельмі ўдзячная за тое, што ён разумее

яе. Ці хоць бы робіць выгляд, што разумее, што не прымушае рабіць нешта, супраць чаго працівіцца яе істота…

…Сёння, як і тады, год назад, сыноў дома не было. Вася адправіўся з сябрамі па рацэ на байдарках, а Андрэйку бабуля прасіла пабыць хоць тыдзень у яе ў вёсцы. Таццяна разважала: як яны правядуць гэты вечар? Але, калі Юра не ўспомніць аб тым, якая сёння дата, нагадваць яна не стане. Падумаеш, гадавіна… Яшчэ той юбілей… Ну, прыгатуе на вячэру сваю фірменную курыцу — яшчэ ранкам замарынавала. Салацік які-небудзь зробіць… Віно можна адкаркаваць ці па кілішку каньяку наліць — скажа, што проста так, стамілася… У краму яшчэ трэба зайсці, фруктаў купіць.

…Вяртаючыся дахаты, яна зноў, як і ў той далёкі летні вечар, збочыла ў парк. Ён ніколькі не змяніўся: гэтак жа разамлела драмаў у перадвечаровай гарачыні стомленага за працоўны тыдзень горада, ляніва адмахваючыся парудзелымі ўжо сям-там лістамі ад надакучлівых сляпнёў. Па набярэжнай прагульваліся, беражліва падтрымліваючы адно аднаго за локаць, парачкі пенсіянераў — час палкіх пацалункаў юных закаханых яшчэ не настаў, яны чакалі паўзмроку, злёгку асветленага святлом месяца. «Напэўна, гэта і ёсць шчасце — вось так, на схіле гадоў ісці побач з каханым чалавекам, трымаць яго пад руку... Ісці менавіта з тым, з якім пражыў усё жыццё, з тым, якога ведаеш і любіш кожную маршчынку на твары і кожную радзімку на целе... Ісці надвячоркам па алеі парку ці па лясной сцяжынцы, гаварыць ці маўчаць, але разумець адно аднаго заўсёды і ва ўсім, — любуючыся гэтымі парамі, падумала Таццяна. — Цікава, ці будзем мы калі-небудзь, гадоў праз трыццаць, вось так з Юрам выходзіць на вечаровы шпацыр?» І злавіла сябе на думцы: ёй хацелася б больш за ўсё на свеце, каб з імі было так…

З Юрам яны сёння бачыліся толькі за снеданнем. З самага ранку ён паехаў уладзіць справы на нейкую фірму, якая, па яго меркаванні, дужа марудна і кепска абслугоўвала іх абсталяванне. Затым — на аўтасервіс, куды ўчора адагналі яе «Таёту».

Яна не ведала, ці закончыў ён свае справы, але, калі б спазніўся на вячэру, то Таня была б нават радая: паспела б усё падрыхтаваць, накрыць стол — хай быў бы сюрпрыз. А мо і ён успомніць, што сёння за дзень?

Ля пад’езда яе сустрэла Веранічка, суседская дзяўчынка-падлетак. І паглядзела на Таццяну з захапленнем і зайздрасцю:

— Цёця Таня, у вас сёння свята?

— Ды не… Чаму ты так вырашыла? — сумелася Таццяна: адкуль гэтае дзяўчо ведае пра гэтую, такую патаемную для яе дату?

— Не падманвайце, я ведаю! Дзядзя Юра ішоў…— Веранічка асеклася на паўслове, нібы спахапілася, што кажа нешта лішняе, загадкава ўсміхнулася і пабегла.

Дзверы Таццяна адамкнула сваім ключом, і перш, чым увайшла ў кватэру, зразумела, што Юрый ужо дома: у прыхожцы лунаў водар руж — такі ж, як тады, год назад… І самі ружы такія ж — ярка-пунсовыя, нядаўна зрэзаныя, з кропелькамі-слязінкамі ў глыбіні сваіх напаўраскрытых бутонаў — яна ўбачыла іх раней, чым святочна апранутага Юрыя, які сустракаў яе з кветкамі ў руках.

— Са святам, каханая, — працягнуў ён ёй букет. — З нашым з табой святам!

Таццяна глядзела на Юрыя — і не магла прамовіць ні слова. Было ў гэтым позірку ўсё: захапленне — якія ж нерэальна-прыгожыя гэтыя кветкі і які прыгожы ён, яе Юра; удзячнасць — ён нічога не забыў, ён помніць і зна-

рок пайшоў раней з работы, каб зрабіць ёй сюрпрыз. І шчасце, усё яшчэ змешанае з недаверлівым страхам: і гэта ўсё — мне? За што, Госпадзі? Няўжо я гэтага заслужыла? Няўжо звычайны чалавек можа быць такім неверагодна шчаслівым?..

— Дзякуй, — толькі і змагла вымавіць яна — і ўткнулася ў яго плячо, хаваючы павільгатнеўшыя вочы.

— Гэй, толькі не плакаць! — абняў яе Юра. —У такі дзень грэх плакаць! Тым больш, што мы з табой ідзём у рэстаран. У цябе сёння такая цудоўная прычоска, а чырвоныя ад слёз вочы да яе не будуць пасаваць.

— У рэстаран? — здзівілася Таццяна. — Але ж мы не збіраліся, ты нічога не казаў… Я курыцу хацела засмажыць…

— Ну як гэта — не збіраліся? Мы збіраліся яшчэ год назад, калі ты памятаеш. За год, між іншым, так і не выбраліся — мая віна, прызнаю. І сёння — самы час. Так што давай, пераапранайся. А курыцу заўтра засмажым. Андрэйку з вёскі забяром, маму тваю прывязём пагасціць — вось і будзе ў нас святочная сямейная вячэра. А сёння — наш вечар! Толькі наш — і больш нічый…

* * *

Столік у невялікім утульным рэстаранчыку, стылізаваным «пад даўніну» — яна нават не ведала, што такі ёсць у іх горадзе, — быў прадбачліва заказаны. У інтэр’еры старадаўняй вясковай хаты з лаўкамі ўздоўж сцен і вялікім куфрам у куце на падлозе былі засланы саматканыя ходнікі. Са сцен у рамачках з-за шкла на наведвальнікаў пазіралі шляхетныя паненкі ў модных капялюшыках і франтаватыя кавалеры з падкручанымі вусамі. На стале гарэла газавая лямпа — ці амаль што газавая… У Таццяны было адчуванне, што яна прыехала ў госці да сваёй бабулі, і тая вось-вось падыдзе да стала, засланага саматканым абрусам, і з цёплай усмешкай прынясе дарагім гасцям горку гарачых, толькі што з печы, бліноў і глыбокую патэльню са смачнай мачанкай…

Бліны з мачанкай і сапраўды неўзабаве з’явіліся на стале. А таксама — графін з вішнёвай налівачкай — усё гэта прынесла ўвішная дзяўчына з доўгай касой, выкладзенай на галаве вяночкам, і ў вышытай ільняной блузцы…

— Я спачатку хацеў запрасіць цябе ў кітайскі рэстаран, — сказаў, нібы апраўдваючыся, Юрый. — Але мне падалося, што гэта неяк недарэчна, не такія мы з табой арыстакраты, каб кітайскімі палачкамі рыс дзяўбці… А потым неяк выпадкова натрапіў на гэты, ён толькі нядаўна адкрыўся — і нібы ў госці да дзеда завітаў… Нечым сапраўдным, родным, спрадвечным тут павейвае. Якраз для такога ўрачыстага моманту… Я падумаў, што і табе павінна спадабацца гэтая вясковая атмасфера.

— Мне тут вельмі падабаецца, — развеяла яго сумненні Таццяна. — А што, у нас сёння нейкі асабліва ўрачысты момант? Мне здавалася — звычайная святочная вячэра з нагоды гадавіны нашага… гм-м-м… асабліва блізкага знаёмства...

— Так, безумоўна,— Юрый, здаецца, хацеў нешта сказаць і старанна падбіраў словы. — Але ўсё ж не зусім звычайная… Ва ўсякім выпадку, мне хочацца, каб яна была такой. Я на гэта спадзяюся.

Таня, усміхаючыся, назірала, як ён старанна падбірае патрэбныя словы… А ён, здаецца, не заўважаў гэтага: апусціўшы вочы, камячыў у руках ільняную сурвэтку.

— Таня, я хачу табе сказаць… Менавіта сёння, хоць гаварыць мне гэта хочацца штодня і штохвіліны…

Юрый на момант замоўк.

— Ты прабач, калі я не вельмі складна… Але ты павінна зразумець… Я хачу сказаць табе, Танечка… Ну, словам… Дзякуй табе за гэты год… І ўвогуле — за ўсё! За тое, што ты ёсць у маім жыцці. Верыш — я такім шчаслівым ніколі не быў. У мяне сэнс жыцця з'явіўся! Пасля ўсяго, што давялося перажыць — здраду жонкі, разлуку з сынам, незаслужанае зняволенне, хваробы маці, у якіх найбольш мая віна, — я жыў, нібы ляцеў на аўтапілоце: еў, калі было што, спаў, калі было дзе… Баяўся толькі зусім апусціцца, упасці на дно, каб маці і сястры не было за мяне сорамна — я і так прычыніў ім нямала болю. І сын — каб ён не лічыў, што яго бацька скончаны чалавек, нават калі яго ў гэтым пераконваюць. Хацелася, каб ён зразумеў — калі не зараз, то праз гады, — што бацька яго не такі нягоднік, як, напэўна ж, намалявала мяне ў сваіх расповедах яго матуля… Я веру, што некалі мы ўсё ж сустрэнемся і я яму ўсё раскажу. А нешта ён і сам павінен помніць, не зусім жа маленькім быў, калі ўсё гэта здарылася.

Юрый кіўнуў галавой, нібы адганяючы чорныя ўспаміны аб мінулым жыцці, і прадоўжыў больш рашуча:

— А цяпер, калі ў мяне ёсць сям'я… Ты, Андрэйка, Вася… Калі я ведаю, што дома мяне чакаюць, што мне заўсёды рады, што мяне прымуць — любога: стомленага, хворага… Я зразумеў, што я некаму патрэбен — не як дадатак да кашалька ці да кватэры, а сам па сабе, такі, які ёсць, са сваімі недахопамі і праблемамі — Юрый Аляксандравіч Кашавараў! Ты, напэўна, не ведаеш — і дзякуй богу, што не ведаеш, — як гэта страшна: адчуваць, што ты нікому не патрэбен, што калі нават заўтра цябе не стане — ні ў каго ў душы не ўзнікне пустата, хоць на некалькі хвілін… А можа, тыя, каго ты некалі любіў, дзеля каго жыў, і ўвогуле не заўважаць, што цябе не стала…

Юрый змоўк на хвіліну — і прадоўжыў ужо зусім іншым голасам:

— А цяпер, Танечка, дзякуючы табе я жыву — у самым поўным сэнсе гэтага слова. ЖЫВУ! — ты разумееш! У мяне душа спявае! Я ведаю, дзеля чаго існую на гэтым свеце! Ты за гэты год стала самым родным, самым дарагім чалавекам у маім жыцці — нават больш дарагім, чым мама, — хай яна мяне прабачыць, але гэта так… І я гатовы на ўсё, каб ты была шчаслівай. Разумееш — на ўсё!

— Я і так шчаслівая, Юра, — цёпла ўсміхнулася Таня і накрыла яго руку сваёй. — Як ніколі. Мне з табой так цёпла, спакойна і надзейна…

— Сапраўды? — Юрый закахана паглядзеў ёй у вочы. — Ну, то самы час перайсці да ўрачыстага моманту.

Ён палез у кішэню і дастаў аксамітную каробачку.

— Таня, я памятаю, што ты мне некалі сказала. Я згодзен чакаць, пакуль маё каханне не пераможа твой страх — як заўгодна доўга… Не хацелася б, вядома, каб гэта цягнулася бясконца, але хай будзе так, як ты хочаш, як патрабуе тваё сэрца. Але мне будзе прасцей чакаць, калі ў цябе на руцэ будзе вось гэта…

Ён падаў каробачку, Таццяна раскрыла яе — і ўбачыла на белым атласе тонкі сярэбраны, прыгожа інкруставаны золатам пярсцёнак.

Яна паглядзела недаверліва на падарунак, затым — на Юру…

— Гэта што, афіцыйная прапанова рукі і сэрца? — гулліва ўзняла бровы.

— Калі хочаш — так. Але мне больш падабаецца наша слова заручыны. Прабач, на брыльянты пакуль яшчэ не зарабіў… Але калі ты будзеш так марудзіць, то да вяселля якраз паспею, — ён прыняў яе жартаўлівы тон.

— Не трэба брыльянтаў, — засмяялася Таня. — Ні зараз, ні потым. Не навучылася насіць за жыццё — няма чаго і прывыкаць. А серабро — сама тое. Мой метал.

Яна ўзяла пярсцёнак і, крыху павагаўшыся, надзела яго на сярэдні палец правай рукі.

Юра аж заззяў ад шчасця.

— Шампанскага прынясіце! Калі ласка! — Гукнуў ён некуды ў глыбіню залы, дзе мільганула расшытая васількамі кашуля афіцыянткі.

— Шампанскага? З мачанкай? Але ж і густы ў цябе, шляхціц Кашавараў!— засмяялася Таня.

— Не перажывай, шампанскае — для разагрэву, — па-змоўніцку падміргнуў Юра. — А з мачанкай будзем піць налівачку. А хочаш — крамбамбулю?! Ты спрабавала калі-небудзь крамбамбулю? Ну, шмат страціла. Для заручынаў — сама той напой!

Таня засмяялася: хай сабе будзе крамбамбуля! Сёння яна ўвогуле была згодна на ўсё. Здаецца, нават той незразумелы страх, які варочаўся на самым донцы душы ўвесь гэты год, некуды знік. Сёння яна нарэшце паверыла, што таксама можа быць шчаслівай. Ну а чаму не, чым яна горшая за іншых?!!

…Пад раніцу, калі стомлены Юра заснуў — нават сонны ён, як маленькі, трымаў яе руку, нібы баяўся, што яна некуды знікне, — Таня паспрабавала ўспомніць і асэнсаваць учарашні вечар. Яна хацела запомніць да драбніцы кожны момант, слова, рух, жэст, усмешку, але чамусьці не магла: думкі нібы расцякаліся, засталіся адны пачуцці. На душы было цёпла і хораша, слёзы замілавання і шчасця ціхенька цяклі з вачэй…

Задрамала яна, калі за акном пачало світаць. Здаецца, нават і не прыснула — толькі змежыла на хвілінку вейкі. І амаль адразу ў мозг з болем, нібы выпушчаная некім нябачным куля, уварвалася залівістая тэлефонная трэль. Таня яшчэ не паспела расплюшчыць вочы, як адчула: гэта тое, чаго яна баялася ўвесь гэты год… Гэта — канец яе шчасця… Як толькі яна расслабілася, паверыла, адпусціла свой страх — той, невядомы, страшны, небяспечны, падсцярог яе, безабаронную — і вось зараз, у наступную хвіліну назаўсёды забярэ яе шчасце…

Яна, босая, з рассыпанымі па плячах валасамі, стала ў прыхожай над тэлефонам — і не магла працягнуць руку, каб зняць трубку. А тэлефон галасіў-разрываўся на ўсю моц — гэты перадранішні гук бяды чуў, здаецца, увесь іх шматпавярховы дом.

Нарэшце ў дзвярах спальні з’явіўся заспаны Юра:

— Таня, што здарылася?

І яна, заплюшчыўшы вочы, зняла трубку…

* * *

Яна дрэнна разумела тое, пра што гаварылі ёй незнаёмыя людзі. Вася… У паходзе… Ноччу… Бойка з мясцовымі… Нож у сэрца… Загінуў на месцы…

Таццяна слухала ўсе гэтыя словы, спачуванні, пытанні — і адна думка пульсавала ў галаве: «Вася… Сыночак… Васілёк… Кветка мая… Не зберагла…» Здаецца, яна шаптала гэтыя словы — а можа, крычала?

Юра забраў у яе з рук тэлефонную трубку, аб нечым гаварыў з тымі людзьмі, што прынеслі ёй страшную вестку. Затым адвёў Таню на кухню, наліў у шклянку вады, накапаў туды валяр'янкі, прымусіў выпіць. Зноў кінуўся да тэлефона, некаму званіў, аб нечым дамаўляўся, нешта прасіў.

Яна ж нібы здранцвела і, хістаючыся на крэсле, як маятнік, паўтарала шэптам: «Васечка… Сынок… Не можа быць… Ты не можаш са мною так абысціся… Ты не можаш мяне пакінуць… Госпадзі, зрабі так, каб гэта было няпраўдай! Я аддам усё — фірму, сваё шчасце, самую сябе — толькі хай акажацца, што гэта памылка, што з маім Васем не здарылася непапраўнае. Калі табе трэба ахвяра — забяры мяне! Толькі не сына… Хай акажацца, што ён хворы, паранены, нават калека — я выхаджу, вылечу, уратую — толькі каб жывы! Божачка, зрабі так! За што ты мяне так караеш — забіраеш самае дарагое? Чым я правінілася перад табой? Што адзін-адзіны год за ўсё жыццё была шчаслівай? Дык забяры гэтае шчасце — толькі вярні Васілька. Ты ж можаш, ты ўсёмагутны, ты ажыўляў нават мёртвых… А ён жа яшчэ не мёртвы — я не бачыла яго мёртвым. Зрабі так, каб гэта было недарэчнай памылкай!»

Але ўсё аказалася праўдай.

Перад ёю, як у сне, мільгалі асобныя кадры-карцінкі. Вось у кватэру ўнеслі труну, а ў ёй нейкі малады хлопец, нечым падобны да Васі — але зусім незнаёмы, з зачасанымі на бок валасамі — ён так ніколі не прычэсваўся, у новым дарагім касцюме… Незнаёмыя людзі падыходзяць да яе, спачувальна паціскаюць рукі, нешта гавораць — яна не разумее, што менавіта… Галосіць-прычытае маці, якраз так, як некалі на пахаванні бабы Параскі, — на нейкі момант ёй здаецца, што яна — у вёсцы, у сваім дзяцінстве, і аплакваюць бабулю, а не Васю… Але побач ціхенька хліпае, трымаючыся за яе руку, Андрэйка — і яна зноў разумее, не жадаючы ў гэта верыць, што ўсё — праўда… Патрэсквае агеньчык свечкі — ёй хочацца затушыць гэты трапяткі язычок полымя, бо ад яго, як ёй здаецца, па кватэры, па пад'ездзе, па вуліцы расплываецца ліпкі і халодны, як ранішні туман, водар смерці, ён перасядае ў горле, не дае дыхаць, — але маці не дазваляе, глядзіць строга, і яна спыняецца. Час ад часу недзе ў праёме дзвярэй, нібы ў іншым жыцці, мільгае ўчарнелы твар Юрыя: ён ловіць яе позірк, нібы просіць, каб абаперлася на яго, падзялілася сваім горам — але яна хавае вочы: не магу, гэты боль — толькі мой…

Раптам там, у дзвярах, на месцы Юрыя з'явілася постаць сівагаловага паўнаватага мужчыны — у яе ўзнікла незразумелае адчуванне, што яна некалі недзе бачыла гэтыя немагчыма блакітныя вочы, вельмі падобныя да Васевых. «Дачушка, ты прабач, але я паведаміла Сашу, ён некалі пакінуў мне свой тэлефон, прасіў табе перадаць, ды я не асмелілася, ты ж нават гаварыць пра яго не дазваляла. Усё ж Вася яго сын — грэх было не сказаць», — вінавата шэпча маці. І Таня разумее, што гэты чалавек з блакітнымі вачыма з'явіўся адтуль, з яе мінулага жыцця. Няўжо некалі ён быў самым дарагім, самым каханым, і гэта з-за яго здрады яна не хацела жыць? А цяпер ён прыйшоў сюды, каб развітацца з ЯЕ Васільком, каб забраць яго з сабою — у тое мінулае жыццё, дзе цвілі валошкі ў жыце і дзе яна была шчаслівай. «Ды як ён пасмеў!» — яна захлынулася ад гневу і крыўды. Выскачыла ў калідор, спатыкнуўшыся аб груваскі вянок з белымі ліліямі — на жалобнай стужцы паспела згледзець словы «…ад бацькі». Захацелася парваць гэтыя лілеі на дробныя шматкі, выкінуць у сметніцу — але наткнулася на поўны болю і спачування позірк Юрыя, які стаяў у калідоры, падпёршы плячом вушак уваходных дзвярэй, і спыніла сябе: можа, гэта вянок ад Юрыя, а яна…

Таццяна зайшла ў пустую кухню, уткнулася лбом у халаднаватую шыбіну, па якой звонку, як па яе душы, цяклі ручаінкі слёз. «Трымацца… Трымацца! — загадвала яна сабе. — Дзеля Васі. Я павінна, я не магу расслабіцца. Не магу плюнуць яму ў твар, выгнаць з кватэры… Я павінна пратрымацца хоць бы гэтыя два дні… Я змагу, сынок…»

За яе спінай ціхенька рыпнулі дзверы.

— Як ты магла не сказаць мне пра сына? — прамовіў замест прывітання блакітнавокі чалавек з яе мінулага жыцця, як толькі яна азірнулася.

Яе захліснулі боль, крыўда, злосць: як ён смее яе ў нечым папракаць?!! Ён, ён, які… У гэтую самую хвіліну!

— Што ты тут робіш? — яна ледзь стрымлівалася, каб не крычаць на ўвесь голас, — за тонкімі дзвярыма знаходзіліся людзі, многім з якіх ох як хацелася даведацца, з кім гэта Таццяна Аляксееўна зачынілася ў кухні і чаму так раптоўна ў яе вачах замест болю з’явіўся гнеў. — Пра якога сына ты хацеў даведацца? У цябе яго ніколі не было, ты адмовіўся ад яго, ненароджанага, і ад мяне, яго маці, больш за дваццаць гадоў таму — ці ты забыўся?! Ты цудоўна жыў без сына ўвесь гэты час. А сёння, у такі момант, з’явіўся сюды, каб папракнуць мяне ў тым, што ты нічога не ведаеш пра свайго сына? Ды як ты можаш?

— Я не ведаў аб тым, што ў мяне ёсць сын, — у яго голасе з’явіліся вінаватыя ноткі…

— Не ведаў, бо не хацеў гэтага ведаць! Вася — не твой сын! Ты нічога не зрабіў для таго, каб стаць яму бацькам — хоць якім: добрым, дрэнным…

— Ну чаму ж нічога? Я даў яму жыццё.

— Гэта я дала яму жыццё! Насуперак усяму, насуперак тваёй здрадзе. Ты нават не ведаў, ёсць у цябе сын ці не. Не ведаў, як мы жылі надгаладзь, пакуль ты цешыўся са сваёй пластмасавай Віялетай! У тваіх дзяцей, напэўна ж, было ўсё...

— У мяне няма дзяцей. І Віялеты даўно няма. У мяне нікога няма. Нікога, акрамя Васілька…

— І Васілька ў цябе няма! І ніколі не было!

Ён унурыў галаву і з роспаччу прамовіў:

— Так, зараз ужо няма і Васілька… Я страціў сына, не паспеўшы яго набыць…

Прыгорбленая постаць выглядала зусім старэчай, і на нейкі момант ёй стала шкада яго. Таня на хвіліну змоўкла, потым ціха прамовіла ўжо зусім іншым голасам:

— Ведаеш, я столькі гадоў марыла ў цябе спытаць: чаму? За што? Хацела, каб ты ўбачыў, якім вырас Вася — прыгожы, разумны, твой сын, ад якога ты адмовіўся, нават не пабачыўшы яго, і зразумеў, што ты страціў. А зараз — не хачу. Нічога не хачу — ні чуць цябе, ні бачыць, ні гаварыць з табой… Ідзі адсюль, калі ласка.

Ён доўга маўчаў. Пасля спытаў:

— Але я магу пабыць на пахаванні?

Яна ўявіла, што ў гэтыя самыя апошнія хвіліны, якія ёй так хочацца правесці сам-насам са сваім Васільком, ажывіць у памяці кожны момант, калі яны былі разам, успомніць яго маленькага, ласкавага і пяшчотнага, гарэзага падлетка, вясёлага жартаўлівага юнака — увесь час побач будзе гэты нахабны злодзей, які прыйшоў, каб украсці ў яе ўсё тое, чаго некалі не захацеў ведаць… Ёй захацелася завыць ад роспачы: толькі не гэта! Госпадзі, не дазволь…

Але яна стрымалася. Падумала: зрэшты, там усё роўна будзе натоўп чужых людзей. Гэта для яе яны — чужыя, а для Васілька, напэўна ж, былі сябрамі, прыяцелямі, знаёмымі. І кожны захоча з ім развітацца. Дык якая розніца — на аднаго больш ці менш? І хто ведае, як бы Вася паставіўся да бацькі, калі б ён раптам з’явіўся ў яго жыцці?

— Так, ты можаш пабыць на пахаванні, — пасля доўгай паўзы сказала яна амаль што спакойна. — Але больш ніколі — разумееш: НІКОЛІ!!! Я не хачу цябе бачыць.

— Але мы маглі б пагаварыць. Потым, як усё крыху ўляжацца. Дзенебудзь у спакойнай абстаноўцы. Усё ж нам ёсць што ўспомніць…

— Нам няма чаго ўспамінаць! — яна зноў пачала «заводзіцца». — І нішто ніколі не ўляжацца! Я ж ясна сказала: я не хачу цябе бачыць, не хачу цябе ведаць, не хачу пра цябе чуць — гэтак жа, як ты не хацеў ведаць і чуць пра нас усе гэтыя гады!

Таццяна выставіла ўперад рукі, нібы хацела адмежавацца ад свайго мінулага, якое раптам з’явілася ў яе жыцці ў вобразе гэтага блакітнавокага чалавека: знікні, прашу цябе, знікні…

На правай руцэ жанчыны бліснуў пярсцёнак — і ён, падобна, заўважыў гэты недарэчны сёння бляск шчасця. Не стрымаўся, усміхнуўся крыва:

— Ну, ты ўжо так моцна не строй з сябе няшчасную ахвяру, падманутую жаніхом-нягоднікам. Я бачу, што ўсё ў цябе ў парадку: дзеці, муж, жывеш, мяркуючы па абстаноўцы, нябедна… Вунь якія пярсцёнкі носіш!

Таццяна недаўменна паглядзела на яго, затым на свае рукі: аб чым гэта ён, які пярсцёнак? Але паціху стужка ў яе галаве пачала адмотвацца — здаецца, яна ўспомніла… І ў адно імгненне ранейшыя роспач, гнеў, спачуванне ў яе душы змяніліся спакоем — тым самым халодным спакоем, якога тыя, хто яе добра ведаў, баяліся больш за ўсё.

Яна схавала руку пад чорны шалік, што спускаўся з плячэй, і прамовіла.

— Так, у мяне ўсё ў парадку. Лепш, чым ва ўсіх. Зрэшты, як і заўсёды…

— Прабач, я не тое хацеў сказаць, — ён, здаецца, зразумеў, што ляпнуў недарэчнасць.

— Паслухайце, Аляксандр — прабачце, забылася, як вас па бацьку. Давайце падсумуем вышэйсказанае. Так, мой сын Вася — ён, на жаль, і ваш сын. Пра якога вы нічога не ведалі — гэта было маё рашэнне, і позна абмяркоўваць, правільнае ці не. І пра якога вы не хацелі ведаць — і гэта было ваша асабістае нежаданне. Здарылася вялікае няшчасце: Вася загінуў, і не можа зараз сказаць, хоча ён вас ведаць і прызнаваць сваім бацькам ці не. Пагэтаму я бяру на сябе смеласць дазволіць вам прысутнічаць на яго пахаванні. Я лічу, што гэта ваша бацькоўскае права — на жаль, апошняе, якім вы можаце скарыстацца. І на гэтым нашы з вамі стасункі заканчваюцца. Больш абмяркоўваць нам няма чаго. Да пабачэння.

Саша зразумеў, што працягваць размову няма сэнсу, і выйшаў, ціхенька прычыніўшы дзверы.

Таня зноў паглядзела на сваю правую руку, на прыгожы пярсцёнак, які так недарэчна пабліскваў на сярэднім пальцы. «Божа, як жа дорага я плачу за сваё такое кароткае шчасце», — падумала з болем. Затым зняла пярсцёнак і асцярожна паклала яго ў прыгожую фарфоравую цукерачніцу.

* * *

— Таня, нам трэба пагаварыць… — Юра крануў яе за плячо, і Таццяна расплюшчыла вочы.

— Юра, я не хачу. І не магу. Давай лепш заўтра…

— Таня, я прашу цябе аб гэтым вось ужо каторы дзень, кожны дзень чую адно: «Давай заўтра». Але далей адкладваць немагчыма, гэта сур’ёзна…

Таццяна нацягнула на галаву плед:

— Ты ж, напэўна, зноў будзеш гаварыць, што так нельга — цэлымі днямі ляжаць на канапе і глядзіць у столь. Будзеш казаць, што трэба ўзяць сябе ў рукі, што я моцная жанчына і не павінна раскісаць, што ў мяне ёсць яшчэ адзін сын і я павінна жыць дзеля яго, што калі не магу справіцца сама, то трэба звярнуцца да доктара, так? Ты мне гэта гаварыў ужо сто разоў, Юра. Я з табой цалкам згодная, я ўсё гэта ведаю і разумею. Заўтра я падымуся, памыюся і пайду на работу. А сёння — не магу і не хачу. Ні думаць, ні гаварыць… Прабач…

Юра цяжка ўздыхнуў:

— Таня, ты ўжо амаль тры месяцы ляжыш на гэтай канапе, пад гэтым пледам, у гэтым халаце. Я разумею тваё гора, але Васю ты гэтым не вернеш. Падумай — ці спадабалася б ты яму сёння, вось такая — нямытая, раскудлачаная… — паспрабаваў ён націснуць з іншага боку, зачапіць яе самалюбства.

— А навошта мне некаму падабацца?… Магу я пабыць такой, як мне хочацца? Я ўсё жыццё была такой, як трэба некаму, а не мне. А зараз я такая, якая ёсць. Не падабаюся? То я не трымаю… Наадварот — прашу, у каторы ўжо раз: пакінь мяне, калі ласка! Дай мне пабыць адной… Я нікога не хачу бачыць і нікога не хачу чуць…

— Таня, ну што ты такое гаворыш! — бездапаможна ўздыхнуў Юра.

…Увесь гэты час, як пахавалі Васілька, яна не падымалася з канапы. Пахаванне адстаяла, як стойкі алавяны салдацік — ні гуку, ні слязінкі. А вярнулася з могілак — і звалілася. Праспала амаль суткі — яе ніхто не будзіў. А калі прачнулася, не спяшалася падымацца: ляжала на канапе і глядзела ў адну кропку.

— Танечка, заплач, — прасіў Юра, пяшчотна пагладжваючы яе руку. — Паплач, лягчэй стане.

— Я не магу, Юра, — Таня прысела і ўткнулася яму ў плячо. — Я хачу, праўда — і не магу. Слёзы — яны недзе там, глыбока-глыбока, на самым донцы душы. Яны, здаецца, скамянелі і не могуць прабіцца на паверхню…

Ён пагладжваў яе па галаве, як маленькую, і маўчаў, не ведаючы, чым суцішыць яе боль, прыняць на сябе хоць малую яго часцінку.

— Мне так цяжка, Юра… Я адчуваю сябе такой вінаватай… — прашаптала Таня ледзь чутна.

— Чым жа ты вінаватая, любая? — адхінуў ён Таню ад сябе, каб зазірнуць ёй у вочы. — Што ты магла змяніць? Калі б ты нават прадбачыла ўсё і паспрабавала не пусціць яго ў той сплаў, то не змагла б. Вася — дарослы чалавек, і ты лепш за мяне ведаеш, які ён упарты…

— Я не ў тым вінаватая — канешне, я б не змагла яго ўтрымаць, калі ён нешта надумаў. Я ў іншым вінаватая — у галоўным. Я была вельмі шчаслівай увесь мінулы год. Проста немагчыма, недаравальна шчаслівай… Недзе ў маёй падсвядомасці жыло адчуванне, што так быць не можа, не павінна, што за ўсё давядзецца плаціць. Але я нават уявіць не магла, што такой дарагой цаной. Я сваім шчасцем справакавала зайздрасць багоў — я недзе чытала, што так бывае… І яны мне жорстка адпомсцілі… У той самы момант, як мы з табой

пілі крамбамбулю ў рэстаране… Ці нават тут, у кватэры… У той самы момант забівалі майго сына…

— Танечка, ну што ты прыдумляеш! Няма ніякай тваёй віны ў тым, што адбылося. Гэта няшчасце, трагічны збег абставін. Тых бандытаў, што забілі Васю, будуць судзіць. Яны былі п’яныя. Прычапіліся да дзяўчат, Вася кінуўся іх абараняць. У аднаго з тых адмарозкаў аказаўся нож. Ну і вось…

— Не, Юра, ты не разумееш. Усё, што адбылося — гэта толькі вынік. А прычына — гэта зайздрасць багоў. Нельга быць такой шчаслівай… Я тут падумала, Юра, — памаўчаўшы, прамовіла Таццяна. — Мы павінны расстацца. Нам нельга быць разам. Каб не выклікаць яшчэ большую зайздрасць і яшчэ большы гнеў…

— Таня, ну што ты выдумляеш! — амаль што раззлаваўся Юра. — Ты ўвогуле разумееш, што ты гаворыш? Нейкую зайздрасць багоў нафантазіравала… Ты ж хрысціянка, у царкву ходзіш, верыш у тое, што Бог — адзін, што ён — добры і літасцівы.

— Так, Бог — адзін. Але каля яго там труцца розныя бажкі — ну, не зусім богі, а такія, крыху падобныя на людзей, — тлумачыла яна яму, як маленькаму: і чаму ён не разумее? — Яны розныя бываюць — добрыя, злыя, зайздрослівыя. І ў іх ёсць магчымасць уплываць на лёсы людзей. Іх лепш не злаваць, бо яны могуць шмат бяды нарабіць. А я вось узлавала…— уздыхнула Таня. — І зараз расплачваюся…

— Але ж і напрыдумвала! Табе кніжкі пісаць трэба, фантазёрка! Няма ніякіх зайздрослівых бажкоў, ніхто табе не помсціць — няма за што. Так, у нас здарылася вялікае гора. Але змяніць ужо нічога нельга. І трэба думаць, як жыць далей з гэтым болем, з гэтым горам. Павер мне: у бядзе блізкія людзі павінны трымацца разам. Разумееш — РАЗАМ! Каб выстаяць, не зламацца, каб падтрымліваць адно аднаго, сілай дзяліцца. Бліжэй, чым ты, у мяне нікога няма. Табе зараз цяжка і я хачу падзяліцца з табой часцінкай сябе. Гэтак жа, як ты некалі падтрымала мяне сваёй сілай. А ты прыдумала — расстацца… Пасля таго, як я цябе знайшоў — адну-адзіную ў свеце — цяпер, калі нам так цяжка, — як я магу цябе адпусціць? Як сам магу застацца без цябе? Навошта — каб зламацца па аднаму?

Таня маўчала, яна сядзела, абхапіўшы калені рукамі і ўткнуўшы ў іх падбародак, і глядзела ў адну кропку…

— Ты з-за гэтых сваіх фантазій зняла мой падарунак? — памаўчаўшы, спытаў Юра аб тым, што непакоіла яго з таго часу, як ён заўважыў, што на руцэ ў Тані няма падоранага напярэдадні трагедыі пярсцёнка.

— Які падарунак? — паглядзела яна здзіўлена.

— Пярсцёнак. Твой заручальны пярсцёнак, — ён узяў яе правую руку і пяшчотна пацалаваў кожны пальчык.

— Пярсцёнак? — яна недаўменна разглядвала свае рукі. — Які пярсцёнак, Юра? Я нешта цябе не разумею… І ўвогуле — я так стамілася… Можна, я паляжу крышачку? Давай заўтра пагаворым…

І гэтае «заўтра» цягнулася вось ужо трэці месяц.

Пакуль быў дома Андрэйка, Таццяна яшчэ час ад часу падымалася, каб зварыць хлопчыку пельмені ці падсмажыць яечню. А калі ў верасні сын адправіўся на вучобу ў сувораўскае вучылішча, злегла зусім. Юра спрабаваў пагаварыць з ёй, выцягнуць на прагулку, прывозіў з вёскі маці, каб тая неяк паўздзейнічала на дачку, запрашаў псіхатэрапеўтаў, запіхваў у яе антыдэпрэсанты — Таццяна на ўсё і на ўсіх глядзела затуманенымі вачамі. І ўсім гаварыла адно і тое:

— Адчапіцеся ад мяне, я не хворая. Я проста вельмі стамілася. Вось паляжу крышку, адзін дзянёк, — і заўтра падымуся і пайду на работу. А сёння дайце мне адпачыць.

Накрывалася з галавой пледам і адварочвалася да сцяны.

Юра ўсур’ёз трывожыўся за яе душэўны стан, але не ведаў, як дапамагчы, як вывесці Таццяну з гэтай дэпрэсіі. Ён варыў ранкам яе любімую каву і прымушаў выпіць — яна піла яе, як пратэрмінаваны кефір, зморшчыўшыся, — і адразу ішла на канапу. Ён прыносіў з магазіна яе любімыя піражныя — Таня механічна жавала іх, не адчуваючы смаку. Ён варыў ёй аўсяную кашу і карміў з лыжачкі — яна паслухмяна з’ядала, дзякавала і зноў утрапёна глядзела ў адну кропку. Ён абуваў ёй красоўкі, надзяваў куртку і вёў вечарам на прагулку. Яна паслухмяна ішла побач, трымаючыся за яго руку, слухала Юраву балбатню пра справы на фірме, пра навіны гарадскога жыцця, але наўрад ці чула хоць слова. І паварочвала дахаты, калі ён стамляўся хадзіць і гаварыць ці заўважаў, што ў Тані заледзянелі рукі. У кватэры яна хуценька разувалася, распраналася і нырала пад плед, адвярнуўшыся да сцяны.

Але сёння ў Юры быў намер сур’ёзна пагаварыць з Таццянай. Справы фірмы былі такія, што дырэктару трэба было неадкладна заняцца імі — а дырэктар трэці месяц ляжала на канапе, і гэта, падобна, цалкам задавальняла некаторых супрацоўнікаў і калег. А Юра не ведаў, як давесці гэта да яе свядомасці, прымусіць думаць, разважаць, як вывесці Таццяну з таго нейкага амаль летаргічнага стану, у якім яна знаходзілася пасля смерці сына.

Вярнуўшыся з кухні, Юра крыху пастаяў ля ложка над ёй, такой роднай і дарагой, уздыхнуў, ціхенька прамовіў: «Прабач, так трэба», — і рашуча сцягнуў плед. Затым, не зважаючы, што Таццяна супраць, зняў з яе халат, узяў на рукі і панёс у ванны пакой. Пасадзіўшы ў ванну, стаў па чарзе ўключаць то гарачую, то халодную ваду і бязлітасна накіроўваць моцныя струмені ёй на плечы, рукі, ногі, галаву. Спачатку яна нібы не зважала на гэта, але праз нейкі час, нібы абудзілася: «Юра, ну што ты робіш… Ну хопіць, калі ласка, я прашу цябе…», а потым гнеўна крычала: «Ты што, закатаваць мяне тут вырашыў?!! Адпусці, зараз жа!»

Тады Юрый накінуў на яе махровы пушысты халат, аднёс на кухню, наліў у дзве шклянкі каньяку — ёй і сабе.

— Пі!

Яна са злосцю выпіла — і папярхнулася, доўга кашляла, хапала паветра ротам… Ён уважліва паглядаў на яе: што будзе...

Калі Таццяна ўрэшце аддыхалася, сярдзіта спытала:

— А закусіць ёсць што? Ці ты вырашыў мяне звесці на той свет?..

Яна злуецца! Яна папрасіла есці! Яна вяртаецца да жыцця... Юра моўчкі парэзаў, што было ў халадзільніку — вяндліну, агурок, сыр. Таццяна пачала прагна есці.

Калі ж урэшце добра пад’ела і ўзяла філіжанку з гарачай кавай, ён паўтарыў:

— Таня, нам трэба сур’ёзна пагаварыць…

— Пра што? Што, табе нарэшце надакучыла вазіцца з дэпрэсіўнай неўрастэнічкай, і ты мяне кідаеш? — усміхнулася яна. — Правільна! Я на тваім месцы даўно так зрабіла б!

— Дазволь табе не паверыць — ведаю, што не зрабіла б. І ты добра ведаеш, што я так не зраблю.

— Што, шкадуеш старую хворую жанчыну? — працягвала яна пад’юджваць яго ці сябе.

— Ну, не такую ўжо і хворую… І не вельмі старую. І не шкадую — кахаю…— развёў ён рукамі. — А каханне, як вядома, рэч злая…

Такі адказ, здаецца, збіў яе ваяўнічы настрой, і Таня, смакуючы каву, спытала, нібы нічога з ёй кепскага не было:

— Тады аб чым такім пільным ты хочаш са мной пагаварыць? Прычым прама сёння, а не заўтра і не паслязаўтра?

Памаўчаўшы крыху, Юра пачаў здалёк:

— Дазволь для пачатку задаць табе пару пытанняў. Толькі, калі ласка, адкажы шчыра і сур’ёзна. Скажы, Таня, хто і што для цябе дорага ў гэтым жыцці?

— І з гэтым філасофскім пытаннем ты не мог пацярпець да заўтра? — спахмурнела Таццяна.

Юра зразумеў, што сказаў не тое, што трэба, ды яшчэ ў такі момант: яна ўспомніла сына і зараз зноў заляжа на канапу… Але пачаў:

— Не магло. Я разумею, ты зараз падумала пра Васю. Але з адыходам нават самага дарагога чалавека жыццё не спыняецца. Ёсць жа яшчэ людзі і рэчы, якія табе дарагія, так?

— Канешне, — паціснула плячыма Таццяна. — Гэта Андрэйка, мама. І ты…

Апошняе слова Таццяна ледзь выдыхнула — нібы зноў баялася выклікаць зайздрасць багоў. Нешта цёплае варухнулася ў яго душы, захацелася абняць яе, пачаць цалаваць, але Юра стрымаўся: «Потым!» — загадаў ён сабе ў думках, і працягваў дапытвацца:

— А яшчэ?

Таня задумалася.

— А яшчэ — мая справа, — адказала яна ўпэўнена праз нейкі момант.

— Але чаму ты ставіш справу ў адзін шэраг з самымі дарагімі табе людзьмі?

— Ну як чаму? — паціснула плячыма Таццяна. — Таму, што гэта — МАЯ справа. Таму, што яна — як маё дзіця: я нараджала гэтую фірму, я яе расціла, падымала на ногі. Я хварэла разам з ёй, радавалася яе поспехам. Таму, што тут працуюць людзі, якія са мной з самага першага дня: яны некалі паверылі мне, хоць верыць, магчыма, і не было каму і чаму, — і зараз я адказваю за іх. Ну, і ўрэшце таму, што ад таго, наколькі паспяховай будзе мая справа, залежыць дабрабыт дарагіх мне людзей. Мне трэба падымаць, выводзіць у людзі Андрэйку, дагледзець маміну старасць.

Юра слухаў яе і не мог нарадавацца: перад ім была яго Таццяна — ранейшая, разумная, упэўненая ў сабе. З ёй ужо можна было сур’ёзна гаварыць і спрабаваць вырашаць праблемы, якія наваліліся на фірму. Надышоў час перайсці да галоўнага.

— А што б ты сказала, калі б даведалася, што твая фірма, справа твайго жыцця, знаходзіцца на парозе банкруцтва?

Таццяна засмяялася:

— Я б сказала, што гэта — глупства. Гэтага не можа быць — таму што такога не можа быць ніколі! Ну якое банкруцтва, Юра? Ты хоць разумееш, пра што гаворыш? Я не была на фірме два месяцы…

— Амаль што тры, — паправіў яе Юра.

— Ну, добра, няхай тры. Але там усё было добра: доўгатэрміновыя дагаворы з пастаўшчыкамі тканіны і фурнітуры, кантракт да канца года з палякамі. Заўваж, яны збіраліся яго пралангіраваць і на наступны год. У нас былі цікавыя прапановы ад расіян і славакаў — Святлана працуе над мадэлямі, якія яны

прапанавалі нам. Думаю, да гэтага часу мы пашылі ўжо эталонныя ўзоры, іх можна пасылаць заказчыкам на зацвярджэнне, а праз тыдзень-другі запускаць у лінію. Калі мы атрымаем гэтыя заказы, падпішам дагаворы на іх вытворчасць, нас нават не напалохаюць капрызы палякаў. А ты кажаш — банкруцтва. Ты мяне спецыяльна палохаеш, Юра, каб вывесці з дэпрэсіі? Не хвалюйся, я спраўлюся.

— Я ніколькі не сумняваюся, што справішся, — не вельмі весела ўсміхнуўся Юра. — Справа толькі ў тым — калі. Каб не было занадта позна. Зараз сапраўды прамаруджванне смерці падобнае. Я ні ў якім разе не збіраўся запалохваць цябе. Але прабач, Таня, калі ты, дырэктар фірмы, апошні раз глядзела бухгалтарскія дакументы, унікала ў эканоміку вытворчага працэсу?

Таццяна сумелася.

— Ну, гэтым зараз больш Валодзя займаецца, мы ж з ім падзялілі абавязкі. Як ты ведаеш, зараз я займаюся стратэгіяй развіцця, партнёрамі, менеджментам, а ён аператыўным кіраваннем. Але да чаго ты хіліш, нешта я не разумею.

— Я даўно хацеў з табой аб гэтым пагаварыць, ды ўсё неяк не выпадала. А потым усё гэта навалілася, і табе стала не да вытворчых спраў. Але зараз адкладваць ужо няма куды. Словам, я даўно падазраю, што Валодзя, прабач, Уладзімір Сямёнавіч… Словам, ён паводзіць сябе не вельмі прыстойна. У адносінах да сваёй сям'і, да цябе, да фірмы…

Таня ўсміхнулася і паглядзела на яго паблажліва — як на пяцікласніка, які сцвярджае, што вынайшаў вечны рухавік.

— Юра, я не ведаю, на чым грунтуюцца твае падазрэнні, але скажу адразу: ты памыляешся! Валодзю я веру, як самой сабе. Я ж расказвала табе: мы — аднакурснікі, пяць гадоў вучыліся ў адной групе. А потым разам пачыналі гэты бізнес, разам пазычалі грошы, разам шылі начамі першыя касцюмы і сукенкі, вазілі іх на рынак, адбіваліся ад рэкету. Што называецца, хлеба скарынку — і тую папалам дзялілі, такое сапраўды здаралася. Фірма — наша агульная справа, і банкруціць яе — гэта банкруціць сябе. Які яму ў гэтым сэнс, скажы? Фірма — такое ж яго дзецішча, як і маё. Заўваж, дабрабыт яго сям'і гэтак жа залежыць ад працвітання фірмы, як і маёй. Не, Юра, ты нешта не зразумеў, пераблытаў, «накруціў» сябе. Ці ты пачаў гэтую размову толькі для таго, каб падняць мяне з канапы? — ёй падалося, што яна разгадала, што ён надумаў. — Калі так, можаш лічыць місію выкананай: табе гэта ўдалося.

— Я рады, што хоць гэта мне ўдалося, — калі не ўдаецца растлумачыць табе ўсю сур'ёзнасць становішча. Павер, Таня: я не наганяю на цябе страх — я сам быў бы рады зразумець, што памыляюся. Але я бачу тое, чаго ты не бачыла раней і тым больш — у апошні час. У нас на фірме зараз творыцца нешта неверагоднае. Я табе спрабаваў пра гэта расказваць падчас нашых вечаровых прагулак, але ты мяне, я так разумею, не чула.

— Ну і што ж такога неверагоднага адбылося на фірме пакуль я адсутнічала? — Таццяна, склаўшы рукі на грудзях, скептычна паглядвала на Юрыя, твар якога быў змрочны. — Расказвай — на гэты раз я слухаю цябе вельмі ўважліва.

— Нават не ведаю, з чаго пачаць, — здаецца, ён разгубіўся.

— Ну, пачні з самага галоўнага і самага, па тваім меркаванні, страшнага.

— З гэтага я пачаў ужо, але ты мне не паверыла. Таму пачну з драбнейшых цаглінак.

Юра адчыніў фортачку, закурыў, працягваў:

— Ты тут гаварыла пра прапановы расіян і славакаў, пра тое, што, магчыма, мы зможам заключыць з імі кантракты. А між тым, Святлана, якая, па тваіх разліках, павінна была ўжо закончыць распрацоўку новых мадэляў і нават пашыць эталонныя ўзоры, звольнілася два месяцы таму.

— Як гэта звольнілася? Як яна магла, не выканаўшы нашы дамоўленасці? Света вельмі адказны чалавек, яна не магла так паступіць.

— Света — не магла. А Уладзімір Сямёнавіч — мог. Ён не прадоўжыў з ёй кантракт, які закончыўся якраз два месяцы назад.

— Ты сур'ёзна? Ён што, звар'яцеў? Дзе мы такога мадэльера знойдзем? Трэба яе вярнуць!

— Гэта наўрад ці ўдасца. Яе, наколькі я ведаю, як толькі пайшла ад нас, адразу ж запрасілі на работу нашы галоўныя канкурэнты. І зарплату прапанавалі ў два разы большую. Так што Святлана, як кажуць, у шакаладзе. Да таго ж у нас, як звальнялі, яе моцна пакрыўдзілі.

— Але чаму ты пра гэта не сказаў мне адразу?! — у роспачы ўсклікнула Таццяна — і асеклася: канешне ж, Юра гаварыў ёй, але яна, прыгаломшаная сваім горам, нікога і нічога не чула.

— Гэта яшчэ не ўсё, Таня. За апошнія два месяцы звольнілася не толькі Святлана, але і Насця — наша лепшая швачка, і Вера, закройшчыца, якія ўратавалі летась польскі заказ. Насця спазнілася на працу на паўгадзіны — праспала, мядовы месяц зараз у яе, а Вера дазволіла сабе недастаткова пачціва пагаварыць з Уладзімірам Сямёнавічам…

Таццяна нервова пакусвала вусны, не ведаючы, як рэагаваць на такія навіны. Яна не хацела верыць, што на самай справе ўсё так, як кажа Юра. Хаця пачынала задумвацца, што можна зрабіць у гэтай сітуацыі.

А ён працягваў:

— Затое ў нас, як ты памятаеш, з'явілася новая бухгалтарка.

— Ну, і што тут дрэннага? — стала злавацца Таццяна. — Люда пайшла ў дэкрэтны адпачынак. А гэтая дзяўчына разумная, з вышэйшай адукацыяй, з вопытам работы.

— Я б сказаў — вельмі разумная. І вельмі прыгожая. Уладзімір Сямёнавіч зараз з яе кабінета не выходзіць.

— Фу, Юра, не апускайся да бабскіх плётак — гэта непрыстойна, — паморшчылася Таццяна.

— Каб жа справа была толькі ў плётках — гэта можна было б перажыць, — мовіў Юрый. — Але давай пра больш важнае. Пра аснову нашага дабрабыту — дагавор з палякамі. Дык вось, Таня, я не здзіўлюся, калі яны забракуюць усё, што мы ім пашылі згодна з апошняй дамоўленасцю. Ці здзіўлюся, калі не забракуюць.

— Чаму гэта?

— Таму што Уладзімір Сямёнавіч закупіў тканіну, вырабы з якой і нашы базарнікі ўжо не бяруць. Яе кроіць немагчыма — яна рассыпаецца. Я ўжо не кажу пра тое, як швачкі мучыліся з гэтым заказам, як па тры разы кожную пашытую спадніцу прасавалі, а яна ўсё роўна, як з чамадана… А тут — палякі, з іх патрабаваннямі да якасці. А мы заплацілі за гэтую тканіну, між іншым, у паўтара раза больш, чым за папярэднюю партыю, якасць якой была — ты памятаеш якая, палякі толькі языком цмокалі.

— Але чаму Валодзя дапускае такое? — няўцямна глядзела на Юру Таццяна. — Ён жа вопытны. Тым больш, што ў нас ужо даўно надзейныя пастаўшчыкі.

— Толькі мы амаль з усімі імі разарвалі адносіны, — перабіў яе Юрый. — Заплаціўшы пры гэтым салідную няўстойку. Затое з'явіліся новыя парт-

нёры — без імені, без рэпутацыі, якія на рынку — без года тыдзень. І мы купілі ў іх тое, што я табе казаў, і па той цане, пра якую я гаварыў.

— Але чаму? Да ранейшых пастаўшчыкоў не было ніякіх прэтэнзій: салідныя фірмы, прыстойныя людзі…

— Я таксама не раз і не два задаваў сабе гэтыя пытанні, перш чым расказаць пра ўсё табе. І Уладзіміру Сямёнавічу задаваў.

— А ён што? — з надзеяй глянула на Юру Таня.

— А ён сказаў мне, каб я не лез не ў сваю справу. Параіў лепш сачыць за тым, каб станкі працавалі бесперабойна. Ды яшчэ — клапаціцца як след пра маладую жонку — пра цябе, значыць. Маўляў, глядзі, каб яна не перапрацоўвалася і заўсёды добра выглядала — размова была якраз перад гэтай бядой…

— Няўжо Валодзя не змог разабрацца — ні ў людзях, ні ў сыравіне?

— Баюся, Таня, што Валодзя цудоўна ва ўсім разабраўся… І новы бухгалтар яму ў гэтым дапамагла…

— Нічога не разумею.

— Ты адна не разумееш. Затое ўсе, хто бачыў, якую машыну купіў сабе нядаўна Уладзімір Сямёнавіч, усё разумеюць. Ёсць такое чароўнае слова — «адкат».

— Ты нічога не блытаеш, не згушчаеш фарбы? — спытала Таня і паглядзела на Юрыя з надзеяй: раптам скажа, што пажартаваў… Але вочы ў яго былі ўстрывожана-заклапочаныя. Ён сказаў:

— Таня, я не прашу цябе мне верыць, я прашу цябе пайсці на работу і самой ва ўсім разабрацца. У фінансах, з пастаўшчыкамі, з кадрамі… Бо тое, што робіцца на фірме, можа вельмі дрэнна скончыцца.

Таня доўга маўчала, пакручваючы ў руках пусты кубак з-пад кавы, затым сказала:

— Добра, Юра, заўтра я пайду на работу і ва ўсім сама разбяруся. Але прабач, мне здаецца, што ты моцна перабольшваеш. Не можа Валодзя падманваць мяне, весці за маёй спінай двайную гульню. Ты нешта не так зразумеў, можа, не валодаеш усёй інфармацыяй. Я разбяруся, і тады мы з табой пасмяёмся над тваімі выдумкамі.

— Я вельмі хацеў бы, каб было так, — Юра падняўся з-за стала. — А цяпер — пайшлі спаць, — рашуча прамовіў ён і, узяўшы яе за руку, павёў у спальню…

* * *

Назаўтра Таня прачнулася рана. Ціхенька выслізнула са спальні, зайшла ў залу, узяла са стала фотаздымак Васі, перавязаны чорнай жалобнай стужкай.

— Ты прабач мяне, сынок, што я так расслабілася, — ціха мовіла яна. — Засмуціў ты мяне моцна, не чакала я ад цябе такога. Як жа ты мог мяне вось так пакінуць, сынок? Я ж цябе ніколі не забывала, як цяжка мне ні было, а ты вось як са мой абышоўся… Напэўна, у цябе не было іншага выйсця, так, родны мой? Але ты не думай, я на цябе не крыўдую. Я буду жыць так, як быццам ты і зараз са мной — проста далёка… Вельмі далёка… І ты на мяне не крыўдуй. Табе не будзе больш за мяне сорамна, сынок. Ты заўсёды гаварыў, што ганарышся мной, — і я зраблю ўсё, каб ты і надалей мог мной ганарыцца. Ты толькі, калі можаш, дапамажы мне крышачку, падтрымай. Хоць адтуль, здалёку… Мне твая падтрымка заўсёды была вельмі патрэбна, а цяпер — асабліва…

Таня лёгенька дакранулася вуснамі да фотаздымка сына, да яго светлых валасоў, да ямачкі на шчацэ... Дакранулася і адчула халадок шкла... Уздыхнула, паставіла рамачку на стол і пайшла на кухню. Прыгатавала снеданне, зварыла каву, прычасалася, зрабіла макіяж… І ўжо збіралася садзіцца за стол, як у кухню ўвайшоў збянтэжаны Юра:

— Ты паднялася ўжо? Прабач… Нешта я сёння праспаў. Заснуў, як праваліўся. Здаецца, толькі вочы змежыў, прачынаюся, а цябе — няма… Я так спалохаўся. А ты што так рана падхапілася?

— Ну, я ўжо даўно выспалася, столькі часу было… А зараз на работу пара. Там, пакуль я адсутнічала, напэўна, накапілася шмат спраў. А ты ўчора казаў, што і праблем нямала… Ты снедай, а я пабягу. Дзень сёння, падобна, будзе цяжкі, — кінула яна, на хаду дапіваючы каву, і выйшла з кухні.

Юра з захапленнем паглядзеў ёй услед: толькі што перад ім была ранейшая Таццяна, нібы і не было ў яе сэрцы незагойнай раны, нібы і не была яна так доўга ў дэпрэсіі. Але на работу спяшалася прыгожая, крыху заклапочаная перад пачаткам працоўнага дня, упэўненая ў сабе жанчына. Хаця цёмныя кругі пад вачыма і зямлісты колер твару выдавалі, што яна шмат чаго перажыла...

Час быў ранні, рабочы дзень адміністрацыі яшчэ не пачаўся, і Таццяна вырашыла зайсці ў пашывачны цэх — тут пачыналі змену на гадзіну раней. Швачкі і сапраўды сядзелі за машынамі, але не працавалі — гарталі часопісы, ціха перагаворваліся, але было бачна, што яны нечым заклапочаны.

Таццяна павіталася, агледзела рабочыя месцы — знаёмыя твары можна было пералічыць на пальцах. Навенькія пераглянуліся з тымі, хто працаваў тут даўно, маўляў, хто такая?

Таццяна, не зважаючы на гэта, з усімі віталася аднолькава прыхільна: «Добры дзень...»

На кравецкім участку з перапалоханым выглядам разглядвала лякалы незнаёмая дзяўчына. У кабінеце мадэльера было пуста. Толькі ў каморцы майстра сядзела Міхайлаўна, якая адказвала за ўвесь вытворчы працэс, і нешта пісала. Таццяна з палёгкай уздыхнула: ну, дзякуй богу, хоць з некім можна пагаварыць…

— Дзень добры, Міхайлаўна, — усміхнулася яна жанчыне. — Ну як вы тут без мяне? Як справы?

Майстар паглядзела на яе ўважліва: усе, і яна таксама, ведалі пра гора, якое напаткала дырэктара, пра тое, што яна пасля пахавання сына хварэе, — а зараз як, паправілася? Здаецца… Выгляд так сабе. Але бывае і горшы…

Сумна ўсміхнуўшыся, Міхайлаўна няпэўна паціснула плячыма:

— Ну як нашы справы? Можна сказаць, што ніяк…

— А што так? — узняла бровы Таццяна.

— Чарговы заказ палякам адправілі два дні назад. Цяпер чакаем наступнага — канешне, калі ён будзе…

— А чаму так песімістычна? І чаму швачкі сядзяць у цэху, калі работы няма, — напэўна, лепш адпусціць іх дадому? Дарэчы, Міхайлаўна, а чаму ў нас столькі новых людзей, не ведаеце?

— Ой, Аляксееўна, пра гэта лепш вам ва Уладзіміра Сямёнавіча спытаць, — нявесела адмахнулася Міхайлаўна. — І аб тым, чаму людзі новыя, і пра тое, чаму трэба ў цэху сядзець, калі работы няма. У нас цяпер вельмі сур’ёзныя патрабаванні да працоўнай дысцыпліны, — дадала яна саркастычна: — За спазненне на пяць хвілін пазбаўляюць прэміі, на паўгадзіны — звальняюць па артыкуле, і няважна, ёсць работа ці няма.

— То, напэўна ж, за перапрацоўку прэмію дабаўляюць? — сказала Таццяна.

— А перапрацоўкі ў нас быць не павінна! — сумна ўсміхнулася майстар. — Уладзімір Сямёнавіч сказаў, што пасля змены і ў выхадныя мы працуем таму, што за змену дрэнна выконваем свае абвязкі. А таксама, што мы не ўмеем арганізаваць свой рабочы час. Таму нам за перапрацоўку не дабаўляюць прэмію. Кажа, наадварот, яе трэба здымаць. Дзяўчаты, калі шылі апошні заказ, без выхадных працавалі, дапазна — а заробак амаль напалову меншы, чым тры месяцы назад, калі былі і выхадныя, і адгулы. Таму і звальняюцца лепшыя швачкі — кваліфікаваныя майстры цяпер усюды патрэбны…

Таццяна маўчала, не ведаючы, што сказаць майстру: рабіць паспешлівыя вывады, а тым больш нешта абяцаць, не разабраўшыся, не хацелася. А жанчына яўна чакала, што на гэта скажа дырэктар.

— А вы зусім вярнуліся, Таццяна Аляксееўна, ці так, прыйшлі праведаць нас? — парушыла маўчанне Міхайлаўна, і, не чакаючы, пакуль дырэктар адкажа, дадала з сумам: — Вяртайцеся, калі ласка, хутчэй. Я разумею, як вам цяжка. Але нам так дрэнна без вас. Скажу шчыра: я сама ўжо колькі разоў заяву пісаць пачынала. А не звольнілася толькі таму, што вас чакала. Сумленне не дазволіла кінуць вас у такі момант. А ўвогуле складаная ў нас зараз сітуацыя. Я нават не ведаю, як можна было за лічаныя месяцы так развaліць наладжаную вытворчасць. І не ўяўляю, як зараз з гэтага можна выблытацца, — хіба толькі вы што прыдумаеце? Вы паглядзіце, з якой тканіны мы палякам апошні заказ пашылі, — яна паказала Таццяне кавалак сінтэтычнай анучы незразумелай расфарбоўкі. — Калі яны яго не забракуюць, то гэта будзе проста цудам. А калі забракуюць, то не ўяўляю, хто ў нас гэта возьме. Прадаць такое немагчыма нават у нас на базары, хоць мы і стараліся шыць якасна і надаць рэчам таварны выгляд, канешне, наколькі гэта было магчыма.

Таццяна пакруціла ў руках кавалак тканіны — выходзіць, Юра меў рацыю? Але ж не з рабочымі абмяркоўваць гэта…

— Не панікуй, Міхайлаўна, усё будзе добра! — Таццяна пастаралася бадзёра ўсміхнуцца. — І людзям скажы, што ўсё будзе добра. А сёння яны могуць адпачываць. І заўтра — калі трэба будзе, мы вас паклічам, няма чаго марнаваць час у цэху. Кожную з вас чакаюць дома.

У офіс Таццяна падымалася ў змрочным настроі. Выходзіць, усё, пра што гаварыў учора Юрый, — праўда. Аказваецца, становішча сапраўды вельмі сур’ёзнае. Што ж тады здарылася за гэтыя няпоўныя тры месяцы? Чаму Валодзя, вопытны і разумны кіраўнік, зрабіў столькі памылак? Юра нешта намякаў на новую бухгалтарку… Але пры чым тут бухгалтарка? Нават калі б Валодзя кінуўся ў нейкую любоўную авантуру — ад яго ў гэтым сэнсе ўсяго можна чакаць — то пры чым тут вытворчасць?..

Перш за ўсё Таццяна вырашыла зайсці да галоўнага бухгалтара. Пастукалася, прыадчыніла дзверы, павіталася — іх новы бухгалтар, якую яны прынялі на работу незадоўга да трагедыі з Васем, маладая яркая бландзінка, няспешна фарбавала вусны перад люстэркам і не звяртала на дырэктара ніякай увагі. Таццяна сумелася — не пазнала? Няўжо яна зараз так дрэнна выглядае?..

Дзяўчына пафарбавала вусны, доўга глядзелася ў люстэрка, усміхнулася і нарэшце паглядзела на Таццяну:

— Добры дзень, Таццяна Аляксееўна! З выхадам вас…

Было бачна, што бухгалтарка знарок усім сваім выглядам і паводзінамі імкнецца зняважыць яе. Але чаму — гэтага Таццяна зразумець не магла. Вырашала пакуль маўчаць — будзе яшчэ час і нагода паставіць гэтую пстрычку на месца.

— Дзякуй, Галіна Пятроўна, — стрымана адказала яна бухгалтарцы. — Так, я з сённяшняга дня вяртаюся да выканання сваіх абавязкаў дырэктара нашай фірмы і хачу пaглядзець бухгалтарскія дакументы за апошнія тры месяцы. Падрыхтуйце іх, калі ласка, і прынясіце ў мой кабінет — я буду ў сябе.

— Але гэта немагчыма, — чароўна ўсміхнулася бухгалтар.

— Чаму? — здзівілася Таццяна.

— Таму, што ўсе дакументы зараз знаходзяцца ва Уладзіміра Сямёнавіча. Ён забраў іх на подпіс.

— Што, адразу за тры месяцы?

— Так, за ўсе тры месяцы. Вы ж не падпісалі за гэты час ніводнай паперкі, хоць і атрымлівалі спраўна зарплату. На шчасце, Уладзімір Сямёнавіч таксама мае права подпісу, — у прытарна-салодкім голасе бухгалтаркі гучаў яўны здзек — але Таццяна не магла зразумець: чаму...

«Добра, зараз ва ўсім разбяруся, — падумала яна і выйшла на калідор. — Зараз Валодзя мне растлумачыць, што тут адбываецца. Хто тут кім кіруе, хто чым займаецца, хто над чым працуе…»

Таццяна без стуку адчыніла дзверы ў кабінет свайго намесніка і бліжэйшага паплечніка: якія між імі могуць быць фармальнасці? Яны некалі разам стварылі фірму і цяпер сумесна кіравалі ёй, падзяліўшы абавязкі. Без строгіх абмежаванняў некалі менавіта Валодзя пажадаў, каб яна лічылася дырэктарам, а ён — яе намеснікам, хоць усе правы, у тым ліку і юрыдычныя, у іх былі аднолькавыя. І зарплату яны таксама атрымлівалі аднолькавую — так рашыла Таццяна.

У кабінеце панаваў вэрхал: стол завалены паперамі, на крэслах ляжалі папкі і стаялі нейкія сумкі, дзверцы шафы расчынены. Валодзя стаяў ля акна і размаўляў па тэлефоне. Пачуўшы, як бразнулі дзверы, ён азірнуўся, убачыўшы Таццяну, спешна прамовіў:

— Ужо тут. Канешне, усё скажу. Я потым перазваню.

«Бухгалтарка», — здагадалася Таццяна, у чарговы раз пераконваючыся, што ўсё, пра што ўчора гаварыў Юрый, — праўда.

— Прывітанне, Танечка, — паклаўшы тэлефон на стол, Валодзя насустрач ёй раскрыў рукі, каб абняць. Але яна адшаснулася. — Ну як ты, крыху ачулася? — спытаў ён, апусціўшы рукі. — Вырашыла выйсці на работу? Магла б яшчэ пабыць дома — табе цяпер так цяжка.

У гэтых ягоных нібы спачувальных словах яна пачула той жа кепска прыхаваны здзек, як і ў словах бухгалтаркі.

Таццяна нібы не пачула таго, што ён сказаў, а задала тое галоўнае пытанне, якое не давала ёй спакою і якое патрабавала неадкладнага адказу:

— Валодзя, растлумач мне, калі ласка: што адбываецца?

— У сэнсе? — здзіўлена ўскінуў ён бровы.

— Што адбываецца на фірме? Чаму ты парваў адносіны з нашымі ранейшымі пастаўшчыкамі тканіны і закупіў для выканання польскага заказу такую туфту? Чаму ты звольніў лепшага ў горадзе мадэльера, лепшую закройшчыцу, лепшых швачак? З кім і з чым мы будзем працаваць? Як мы будзем з такімі кадрамі і з такой сыравінай выконваць заказы і развівацца?

Валодзя, склаўшы рукі на грудзях, з іранічнай усмешкай, уважліва слухаў яе, потым сказаў:

— Усё? Ці яшчэ нешта хочаш спытаць? А ты, я гляджу, дарма часу не губляла — цудоўна ведаеш пра нашы справы. А казалі: хварэе, не можа перажыць сваё гора… Ах, прабач, я ж зусім забыўся, што ў цябе ёсць цудоўны асабісты інфарматар, гэткі засланы казачок…

— Валодзя, маё гора — гэта маё гора, не чапай яго, калі ласка. І Юру не чапай. Я была ў цэху, размаўляла з людзьмі, бачыла тую тканіну, якую ты закупіў. Хацела яшчэ даведацца, па якой цане, але бухгалтар чамусьці не дала мне дакументы, сказала, што яны зараз у цябе. Дык магу я, як дырэктар, ведаць, што адбываецца? Чаму ты, чалавек вопытны і дальнабачны, так робіш, чаму ставіш пад пагрозу будучыню нашай фірмы?

— А што гэта ты раптам успомніла аб сваёй дырэктарскай пасадзе? Тры месяцы валялася на канапе, і цябе не цікавіла, як мы працуем, што купляем і па якой цане, — а цяпер раптам успомніла, што ты начальнік, прыбегла і пачала ўсіх строіць? Пазнавата, Таццяна Аляксееўна… Прабачце, шаноўная, але вы ўжо не дырэктар. Хоць не, пакуль яшчэ дырэктар — але ўжо не ўласнік гэтай фірмы, — нават не спрабуючы схаваць самазадаволеную ўсмешку, сказаў ён і паглядзеў на яе: як зрэагуе.

— Як гэта? — нібы аслупянела Таццяна. — А хто ж тады я?

— Вы, шаноўная, — ніхто, і прозвішча ваша — нічога не значыць, — здзекліва засмяяўся Валодзя. — Хочаце ведаць, чаму? Ды па той простай прычыне, што з сённяшняга дня нашай фірмы не існуе. Дакладней, яна існуе, але ўжо не мы яе ўласнікі.

Тані падалося, што зямля сыходзіць у яе з-пад ног... Ці яна сніць дурны сон? Што такое ён вярзе? Як гэта яна — не ўласніца фірмы? Яна, якая пачынала яе з першага рулона тканіны, з яшчэ мамінай машынкі «Зінгер», яна, якая не шкадавала свайго часу: днявала і начавала на фірме? Яна, якая з-за спраў абдзяляла сваіх дзяцей увагай, пашчотай і мацярынскім клопатам... Хто ж мог пазбавіць яе гэтага права? Быць уласнікам сваёй фірмы? Ці хто цяпер той уласнік, які так нахабна прысвоіў яе працу, яе час, здароўе, сілы, яе жыццё? І як ён мог гэта зрабіць?

Валодзя нават не спрабаваў схаваць свайго задавальнення ад яе здзіўлення і, як добры акцёр, вытрымліваў паўзу, чакаючы наступных пытанняў. Але Таццяна не магла прамовіць ні слова — яна няўцямна глядзела ў вочы сябра, нібы не разумела, пра што ідзе гаворка.

Урэшце Валодзя не вытрымаў:

— Дарагая мая былая кампаньёнка, шаноўная Таццяна Аляксееўна! З вялікім жалем і смуткам вымушаны вам паведаміць, што ўчора натарыус засведчыў падпісаны мной дагавор аб продажы фірмы «Элегант» аднаму нябеднаму чалавеку, якога вельмі зацікавіла наша вытворчасць. Вы ж, напэўна, памятаеце, што мы з вамі маем аднолькавыя правы на юрыдычнае засведчанне любой здзелкі? Так што ўсе вашы прэтэнзіі — па кадрах, пастаўшчыках, спажыўцах і гэтак далей — ужо не да мяне. Праўда, я сумняваюся, што новы ўласнік захоча адказваць на іх — хутчэй, пераадрасуе іх вам, як дырэктару фірмы. Зрэшты, наколькі я зразумеў, у яго свае планы наконт нашага былога прадпрыемства. Фармальна вы ўсё яшчэ з’яўляецеся дырэктарам гэтай фірмы і адказваеце за ўсё, што тут адбываецца. Але я ўжо звольніўся з пасады вашага намесніка і не маю ніякага дачынення да ўсяго гэтага. Што называецца — умываю рукі!

Таня глядзела на Валодзю — сябра юнацтва, калегу, з якім яны столькі гадоў ішлі разам, з якім рабілі адну справу і ад якога ў яе ніколі не было сакрэтаў, калі не лічыць асабістых. Яна заўсёды яму верыла, была ўпэўнена, што і ў яго ад яе таксама няма ніякіх сакрэтаў, што датычыць справы. І вось... Зараз яна не магла паверыць, што гэтыя ўедлівыя словы, гэтым здзеклівым тонам ёй менавіта гаворыць ён. Можа, ён жартуе? Мусіць, яны з Юрам дамовіліся такім чынам — метад шокавай тэрапіі — вывесці яе з дэпрэсіі. Але ж яна ўжо добра сябе адчувае. Але ж чаму ён працягвае так недарэчна яе разыгрываць?

— Што, не чакала? — пераможна ўсміхаўся Валодзя. — Можна сказаць, што сюрпрыз атрымаўся! Быў бы яшчэ лепшы, каб ты не надумалася сёння прыйсці на работу. Але так, можа, нават і лепш: даведалася не ад чужога чалавека — ад сябра, таму ніякіх сумненняў не застанецца.

— Валодзя, ты сур'ёзна? — Таццяна ўсё яшчэ не магла паверыць таму, што адбываецца. — Ці ты так недарэчна жартуеш?

— Больш, чым сур'ёзна, — Валодзя перастаў усміхацца. —Я вырашыў, што ўжо напрацаваўся за сваё жыццё, час і адпачыць. Грошай ад продажу фірмы хопіць, каб пажыць, як трэба. І не ў гэтай занюханай правінцыі, і не ў гэтай краіне. Ёсць месцы нашмат прыгажэйшыя і цікавейшыя. Ды і з бізнесам там разварнуцца прасцей, — здаецца, ён забыўся, што перад ім — Таццяна, і марыў услых. Ды ўрэшце злавіў на сабе яе позірк, у якім усё яшчэ не было нічога, акрамя недаверу і неразумення.

— Ты не перажывай, я распарадзіўся кінуць табе на картачку пару кавалкаў — нашых, вядома, не «зялёных». На першы час табе на хлеб з маслам хопіць. А потым знойдзеш якую-небудзь справу — ты ж у нас працаваць любіш, так што з голаду не памрэш. Хіба што дырэктарам ужо не будзеш — ну дык навучышся падпарадкоўвацца, не ўсё ж камандаваць! Для выканання загадаў у цябе каханы Юрачка застаецца, ён гатовы перад табой на задніх лапках стаяць і, як верны кабель, тапачкі ў зубах прыносіць. Ну, і пра дабрабыт каханай павінен паклапаціцца — не ўсё ж табе яго ўтрымліваць… Зрэшты, калі захочаш, то і для дваіх здолееш зарабіць, цягавітая…

На ягоны абразлівыя словы пра Юру — Валодзя заўсёды адносіўся да яго непрыязна, яна не зрэагавала. Таня не магла зразумець іншага: усё ж чаму Валодзя так зрабіў, пакуль яна адсутнічала. Спытала:

— Але чаму, Валодзя? Што здарылася за гэтыя тры месяцы? Цябе нібы падмянілі. Я цябе не пазнаю…

Валодзя змоўк, па яго твары прабег змрочны цень. Ён адвярнуўся і доўга маўчаў. Нарэшце загаварыў, усё яшчэ пазіраючы ў акно, — але ўжо зусім іншым голасам, не здзеклівым, а з нейкім стоеным унутраным болем:

— Можна падумаць, што ты ўвогуле можаш мяне пазнаць… Мы працавалі разам, але ты не ведала, не хацела ведаць, хто я такі, Валодзька Піваварчык, твой сябар і аднакурснік. Ды табе ніколі не было справы да таго, што ў мяне на душы, што я думаю, адчуваю, каго кахаю, — голас у Валодзі задрыжэў. Ён нервова прыкурыў і замоўк. Маўчала і Таццяна, не магла зразумець, у чым ён яе абвінавачвае. Не дакурыўшы і палову цыгарэты, Валодзя злосна скамячыў яе ў попельніцы і павярнуўся ад акна тварам да Таццяны: — Скажаш, што ты не ведала, што я кахаў цябе ўсе гэтыя гады? Або не хацела ведаць? Ды толькі сляпы не мог гэтага бачыць… А ты ж відушчая, ды яшчэ якая!

— Валодзя, ну што ты такое кажаш… — роспачна сказала Таццяна. — Калі мы пазнаёміліся, у мяне ўжо быў сын. А потым і ў цябе з'явілася сям'я… Якое каханне, ты пра што?

— Ах, сям'я… Ты быццам не ведаеш, як у мяне з'явілася сям'я! — Валодзя ўжо амаль закрычаў ёй у твар. — На тую вечарынку, на якой я пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай, я прыйшоў толькі таму, што твая сяброўка Анечка, сказала, што там будзеш ты! Так, ты там была. Але пасядзела паўгадзінкі — і дахаты — нашто табе аднакурснікі?! Са злосці на цябе і на сябе, што ніяк не магу да цябе падступіцца, я тады моцна напіўся. Ранкам прачнуўся — побач Анечка. А праз месяц яна паведаміла, што цяжарная… Вось так і ўзнікла мая сям'я. Праўда, праз тыдзень пасля вяселля я даведаўся, што Аня не цяжарная, а яшчэ праз пяць гадоў — што яна наогул не можа зацяжарыць. Але ж ты да

таго часу ўжо знайшла сабе пару, гэтага алкаголіка, Андрэйкавага бацьку… Калі вы разбегліся, я думаў: ну зараз перахаплю цябе, пакуль зноў хто-небудзь не апярэдзіў. Ды я, каб ведала, і справу гэтую прапанаваў табе разам адкрыць, бо думаў, што кожны дзень будзем разам, і ты ўрэшце ўбачыш, пераканаешся, што я ўмею быць верным, адданым, клапатлівым, што я — адзіны, хто цябе кахае па-сапраўднаму, хто зможа забяспечыць будучыню табе і тваім сынам. А ты на мяне нават не глядзела. Для цябе я быў заўсёды добрым сябрам, ці проста сябрам — і ўсё! Нібы ты не ведаеш, што не можа быць ніякага сяброўства паміж мужчынам і жанчынай!

— Валодзя, але ты ніколі не тое што не сказаў, а нават не даў зразумець, што ў цябе да мяне нейкія асаблівыя пачуцці, — недаўменна паціснула плячыма Таццяна.

— І гаварыў, і даваў зразумець. Але не кожны можа пачуць і не кожны здольны зразумець іншага чалавека. Ты на мяне заўсёды глядзела, як на пустое месца. Табе, вялікай начальніцы, нават у галаву не прыходзіла, што нейкі там Валодзька Піваварчык, які вымушаны быў ажаніцца з тваёй сяброўкай, а як жа, зацяжарыла, здольны на высокія пачуцці. Ты не разумела, што ён здольны кахаць, перажываць, пакутаваць... І я вырашыў: калі так, буду чакаць цябе, колькі заўгодна, хоць усё жыццё. Але некалі ж ты павінна ўсё ўбачыць, усё зразумець. А ты… Ты падабрала ў нейкай падваротні гэтага Кашаварава! — твар у яго аж перасмыкнуўся ад злосці і пагарды. — Ну чым, скажы, чым ён лепшы за мяне? — Валодзя падбег да яе, балюча сціснуў за плечы, страсянуў. — Чаму, скажы, яго можна пакахаць, а мяне — не? Нейкі бомж з цёмным мінулым, без граша ў кішэні для цябе аказаўся даражэйшы, чым я, які ўсё жыццё, як верны сабака, на дыванку ля тваіх ног: слухаюся, гаспадыня, чаго жадаеце, спадарыня дырэктар?!

— Валодзя, ты вярзеш абы-што! — не вытрымала ўрэшце Таццяна зняважі. — Калі гэта я сябе так паводзіла? Мы з табой заўсёды былі раўнапраўнымі партнёрамі, і адносілася я да цябе як да сябра і да партнёра. Пра твае пачуцці — калі ты, вядома, не напрыдумваў іх, — я нічога не ведала. Але калі б нават і ведала — так, ты маеш рацыю, узаемнасцю не адказала б. Гэта вашы з Аняй справы, як вы жаніліся і хто каго падманваў, але я сям'ю бурыць не стала б. Ведаю, які гэта боль…

— Ну, канешне, ты ж у нас — узор чэснасці і прыстойнасці! — зноў іранічна-здзекліва сказаў ён. — З цябе, пэўна, іконы хутка будуць пісаць… А я вось — не такі. Я — несумленны і непрыстойны.

А калі так, дык я хачу адпомсціць табе за ўсе твае здзекі, за пакуты, якія я перажыў па тваёй міласці. І за тваю здраду. І я гэта зраблю! Дакладней, ужо зрабіў. Вось так... — ён, уедліва ўсміхнуўшыся, працягваў: — Занадта ж доўга ты залізвала свае душэўныя раны, і гэтым самым дапамагла мне зрабіць тое, што я зрабіў. Калі задумваў, баяўся, што будуць праблемы. А тут... Мы з Галечкай, вядома, справіліся б і так, здолелі. Але ты так дарэчы расхварэлася — і мы ўсё паспелі зрабіць, як трэба. Так што цяпер, дарагая, няхай пра цябе твой Кашавараў клапоціцца, калі, канешне, зможа. Я, нарэшце, сустрэў жанчыну, якая мяне па-сапраўднаму кахае і якую кахаю я! Цяпер хачу жыць толькі для сябе і яе, у сваё задавальненне!

— Ты кідаеш Аню? — здзіўлена спытала Таццяна.

— Так, і без усялякага шкадавання — яна мне ўжо во дзе! — Валодзя сакануў рабром далоні па горле. — За першы год жыцця абрыдла, а я гэтую лямку цягнуў больш за два дзесяцігоддзі… Даўно б кінуў, калі б было для каго… А цяпер вось — з'явілася…

Дзверы ў кабінет прыадчыніліся, і бухгалтарка прытворна-тоненька спытала:

— Уладзімір Сямёнавіч, вы хутка? Машына ўжо чакае.

— Так, дарагая. Зараз іду, — гэткім жа голасам адказаў Валодзя і звярнуўся да Тані: — А вы, Таццяна Аляксееўна, здаецца, хацелі пазнаёміцца з бухгалтарскімі дакументамі? Яны тут, на стале, калі ласка…

Ён узяў сумкі, памкнуўся да выхаду. Гучна ляпнулі дзверы.

Таццяна, усё яшчэ дрэнна ўсведамляючы, што адбылося, нерухома сядзела, абхапіўшы галаву рукамі.

* * *

Яна не ведала, колькі часу прасядзела ў здранцвенні ў Валодзевым кабінеце, пакуль зноў не прыадчынілася дзверы і не пачуўся голас сакратаркі:

— Ой, Таццяна Аляксееўна, вы тут?! А я вас усюды шукаю! Вас усе пытаюць, казалі, што вы ў офісе, — а вас нідзе няма...

— Наташа, а хто мяне шукаў? —Таццяна ўзняла галаву.

— Юрый Аляксандравіч заходзіў некалькі разоў, пытаўся, дзе вы. Нерваваўся, казаў, што вам тэрмінова трэба пагаварыць… І палякі два разы тэлефанавалі, абяцалі пазваніць яшчэ. Як я зразумела, нешта там з заказам, які мы выканалі, не тое. Вой, зноў званок, пэўна, гэта яны! Пачакайце хвіліначку, я пераключу на гэты кабінет.

Таццяна хацела сказаць, што не трэба пераключаць, што не будзе яна ні з кім размаўляць, але не паспела. Падыходзячы да апарата, яна ўжо ведала, што ёй скажуць былыя партнёры, і што яны амаль дакладна — былыя…

— Алё, пані Таццяна, — пачула яна ў трубцы знаёмы голас Анджэя. — Вітаю вас! Вы ўжо выйшлі на працу? Я чуў, што ў вас здарылася вялікае няшчасце, — прыміце нашы самыя шчырыя спачуванні.

— Дзякуй.

— Вы доўга хварэлі… Як цяпер ваша здароўе?

— Дзякуй, усё ў парадку, — Таццяна ліхаманкава думала, што адказаць палякам, калі яны пачнуць гаварыць пра справу.

— Пані Таццяна, мне вельмі шкада, што я вымушаны вас у такую цяжкую хвіліну турбаваць размовамі пра нашы справы, але ў мяне няма іншага выйсця. Мне сказалі, што пана Вальдэмара няма на месцы і невядома калі будзе, а справа не цярпіць прамаруджвання.

— Я вас слухаю.

— Пані Таццяна, вы мяне прабачце, але я не ведаю, што сталася з вашай фірмай. У нас ніколі не было ніякіх прэтэнзій ні да якасці матэрыялаў, з якіх вы выконвалі нашы заказы, ні да тэрмінаў, ні да прафесійнасці вашых працаўнікоў. Але тое, што вы адгрузілі нам гэтым разам, — гэта проста, як у вас кажуць, не лезе ні ў якія вароты. Пры ўсёй павазе да вас і пры маім спачуванні вашаму гору мы не можам прыняць гэты заказ. Мы не знойдзем збыту для яго не толькі ў Германіі, але і ў польскай правінцыі. У Еўропе такога ўжо не носяць, — сказаў Анджэй.

«Такога ўжо і ў нас не носяць», — скрушна падумала Таццяна.

Анджэй доўга расказваў ёй пра тыя страты, якія панесла яго фірма, і ўрэшце закончыў тым, чаго Таццяна баялася больш за ўсё:

— Усю партыю мы сёння ж адпраўляем назад.

— Так, — адказала Таня. — Адпраўляйце…

— Але вы разумееце, што ўсе страты ад гэтага браку лягуць на ваша прадпрыемства?

— Разумею…

— І, акрамя таго, мы выставім вам свае прэтэнзіі — мы павінны абараняць свае інтарэсы.

— Выстаўляйце…

Пасля паўзы пан Анджэй устрывожана спытаў:

— Пані Таццяна, з вамі ўсё добра? Мне не падабаецца ваш голас.

— Не хвалюйцеся, пан Анджэй, асабіста ў мяне ўсё добра. Але мы дапусцілі брак. І не важна, па якой прычыне. Будзем за гэта адказваць. Адпраўляйце заказ назад, выстаўляйце прэтэнзіі — будзем разбірацца.

Анджэй яшчэ нешта гаварыў, прасіў прабачэння, але яна ўжо яго не слухала, паклала трубку — не было ні сіл, ні жадання заставацца ветлівай і выхаванай.

Чамусьці моцна закружылася галава. «Кава — мне зараз проста неабходны кубак моцнай кавы. Трэба супакоіцца і абдумаць, што рабіць, як жыць?.. Сапраўды — як жыць, калі здраджваюць лепшыя сябры? Каму зараз верыць? Юра — абавязкова трэба пагаварыць з Юрам. Ён нешта параіць, дапаможа, падтрымае. Але найперш трэба выпіць кавы...»

Яна паднялася, каб папрасіць Наташу зрабіць кавы, — і раптам перад вачамі ўсё паплыло, закружылася — і яна нібы правалілася ў цемру…

Калі расплюшчыла вочы, над ёй стаялі заплаканая сакратарка і жанчына ў белым халаце.

— Што з вамі? Вы мяне чуеце? — трэсла яе за плячо жанчына ў белым халаце, як зразумела Таццяна, урач.

— Так, чую. Са мной усё добра…

— Ды ўжо ж, бачу, як добра… У вас нічога не баліць? Вы нічога не пашкодзілі, калі падалі?

— А я падала? Не, здаецца, нічога… Галава толькі моцна кружыцца…

— Таццяна Аляксееўна нядаўна перажыла моцны стрэс, — шэптам сказала Наташа ўрачу. — У яе сын загінуў.

Урач памацала яе пульс, змерала ціск.

— Я параіла б вам паехаць з намі ў бальніцу, прайсці абследаванне.

Таццяне чамусьці стала абыякава — бальніца дык бальніца. Абследаванне — хай сабе… Што ёй яшчэ рабіць, чым заняцца — без пяці хвілін беспрацоўнаму дырэктару практычна неіснуючай фірмы…

Яе вадзілі па нейкіх кабінетах, бралі кроў на аналіз, слухалі сэрца, мералі ціск, рабілі кардыяграму, праводзілі ўльтрагукавое абследаванне… Яна паслухмяна выконвала тое, што ёй казалі: распраніцеся… уздыхніце-не дыхайце… кладзіцеся на кушэтку… Адказвала на нейкія пытанні пра сваё самаадчуванне. А сама ўвесь гэты час думала пра адно і тое: як жа Валодзя мог так абысціся з ёй, з Аняй, з фірмай, з імі ўсімі? Выходзіць, яна зусім не разбіраецца ў людзях. І што ёй цяпер рабіць?

Урэшце яе паклікалі ў кабінет да ўрача. Той, калі яна зайшла, уважліва гартаў яе медыцынскую карту, затым, як здалося Таццяне, заклапочана разглядваў рэнтгенаўскія здымкі. Ягоная заклапочанасць ёй не спадабалася: што ён там такое ўбачыў? Ёй яшчэ толькі праблем са здароўем не хапала — самы час хварэць…

— Ну што там, доктар? — не вытрымала нарэшце яна. — Жыць буду?

— Абавязкова! Даўно даказана, што калі пацыент хоча жыць, то медыцы-

на бяссільная, — доктар падтрымаў яе жартаўлівы тон. — Ёсць падазрэнне, што будзеце жыць не проста, а шчасліва. Праўда, гэта ўжо залежыць больш ад вас, чым ад нас…

— Нешта я вас не разумею.

— Ну, са здароўем у вас усё ў парадку. Гемаглабін нізкаваты, але гэта нічога: будзеце харчавацца нармальна, і ўсё ўсталюецца. А харчавацца вам трэба добра і правільна, у вашым становішчы гэта абавязкова.

— У якім такім маім становішчы? — спалохалася Таццяна.

— Вы так глядзіце на мяне, быццам не ведаеце, што ў вас дванаццаць тыдняў цяжарнасці…

— Дванаццаць тыдняў? У мяне? Адкуль? — здзівілася Таццяна.

— Ну, шаноўная, вам лепш ведаць адкуль, — усміхнуўся доктар.

Таццяне стала няёмка — ну, сапраўды…

— Прабачце, — прамармытала яна. — Гэта так, эмоцыі. Я пайду?

— Так, можаце ісці, — кіўнуў галавой доктар, і дадаў: — Вам трэба вырашаць: альбо станавіцца на ўлік у жаночай кансультацыі і дэталёва абследавацца — усё ж, прабачце, узрост, альбо прымаць радыкальныя...

Яна не даслухала, выйшла ў калідор. Разумела, што значыць «радыкальныя» меры.

У калідоры прысела на банкетку і прыхінулася да сцяны... Гэта было тры месяцы назад: гадавіна іх з Юрам сумеснага жыцця... Рэстаран у вясковым стылі, крамбамбуля, затым — бясконца доўгая і шчаслівая ноч… І тэлефонны званок на золку, які ўсё перакрэсліў у яе жыцці… Потым дні і тыдні на канапе пад пледам, калі яна не ўсведамляла, ноч за акном ці дзень, не памятала, ела яна сёння ці не, і наогул зусім не звяртала ўвагі на тое, што з ёй.

«Дарага ж мне абыходзіцца мая дэпрэсія… Фірму страціла, цяжарнасць праваронiла. Цяпер ужо, напэўна, і рабіць нешта позна. Ці яшчэ можна паспрабаваць?» — падумала яна.

І раптам зразумела, што ёй не хочацца нічога рабіць.

«Дзеўка, ты, мусіць, зусім звар'яцела — у тваім узросце нараджаць! Гэта проста непрыстойна! Дзеці дарослыя, магла б ужо ўнукаў мець, а тут… Сорамна! — спрабавала яна пераканаць сябе. — Напэўна, трэба прымаць «радыкальныя» меры…» — спрабавала пераканаць яна сябе. І тут жа сцепанулася: «Не! Гэта нехта звыш пасылае мне дзіцятка — сына, які сышоў з жыцця не па сваёй волі ў тую самую ноч... Гэта да мяне вяртаецца мой сынок!»

На душы адразу стала цёпла і радасна. Яна была ўпэўнена, што там, у яе ўлонні, расце, развіваецца менавіта сын — інакш і быць не можа! І ён абавязкова будзе падобны на свайго старэйшага брата. Яна дасць яму іншае імя, каб падмануць злых і зайздрослівых багоў, — потым прыдумае, якое. Але ён, несумненна, будзе такім, як Вася, — прыгожым, разумным, вясёлым. І абавязкова — шчаслівым!

Таццяна асцярожна паклала руку на жывот і ўсміхнулася: «Я з табой, мой родны… Я цябе нікому не аддам…» Яна ўзнялася з банкеткі, паволі пайшла да выхаду. Ішла і думала: «Трэба хутчэй Юру сказаць. Ён, напэўна, узрадуецца…»

Успомніла, што сёння бачыла Юру толькі ранкам, калі выходзіла на работу. Устрывожылася: чаму яны не сустрэліся на фірме? Але яна была занятая — цэх, размова з Валодзем… А чаму ён не пацікавіўся, што яна высветліла пра справы фірмы? Праўда, Наташка казала, што ён заходзіў некалькі разоў у офіс, шукаў яе, але чаму не знайшоў?

Таццяна падумала, што Юра або хацеў даведацца пра што яна гаварыла з Валодзем, або меўся нешта новае сказаць ёй пра фірму. І занепакоілася:

можа, у яго што кепскае здарылася... Трэба хутчэй ехаць дахаты, пра ўсё яму расказаць, падзяліцца радасцю. У іх будзе сын… Вось і вырашылася само пытанне: ісці ў загс ці не, — не можа ж дзіця расці бязбацькавічам!

Юра быў дома. «Дзіўна, што так рана», — падумала Таццяна, калі ён сустрэў яе ў прыхожай, дапамог зняць паліто, пацалаваў у шчаку.

— Таня, мне табе трэба нешта сказаць, — адразу выпаліў ён замест традыцыйнага вітання.

— Мне табе — таксама, — усміхнулася Таццяна. — І вельмі шмат.

— Ну, кажы, толькі хутчэй, то ў мяне мала часу.

— Што, прама тут, у калідоры? Давай хоць у пакой зойдзем. І куды ты так спяшаешся? — сказала Таня, праходзячы ў пакой. Увайшла і спынілася: пасярод пакоя стаяў раскрыты чамадан, у якім ляжалі Юравы сарочкі, па крэслах былі раскіданы іншыя яго рэчы.

— Ты некуды збіраешся?

— Так, Таня, збіраюся. Менавіта пра гэта я хацеў табе сказаць.

— Надоўга?

— Не ведаю. Як атрымаецца..

— Але што здарылася?

— Бяда…

— Яшчэ адна? Божа, колькі ж можна! — у роспачы села яна ў крэсла.

— Ты не хвалюйся, усё не так страшна. Але… Сёння ранкам мне патэлефанавалі… Адзін мой сябар юнацтва. У Зоі, былой маёй жонкі, знайшлі рак. Апошняя, чацвёртая стадыя. Зрабілі аперацыю, але прагнозы ўрачоў несуцяшальныя. Яна адна, зусім адна. Бацькі памерлі… Братоў і сясцёр у яе не было. Сваіх шматлікіх мужоў яна разгубіла. З ёю толькі сын. Мой сын, Вадзім. Але яму, падлетку, даглядаць за хворай бездапаможнай маці цяжка. І ўвогуле — жыць яму аднаму з ёй у кватэры, вырашаць усе бытавыя пытанні, не пад сілу. Ды і за што ім жыць? Баюся, каб ён ад бездапаможнасці не зрабіў нічога кепскага. Я вырашыў, што мне трэба паехаць да іх. Зразумей мяне, не магу кінуць аднаго сына ў такой сітуацыі. Ты прабач, што я так вырашыў, не параіўшыся з табой, але ўсё так імкліва закруцілася. Вестка гэтая, а цябе нідзе не было…

Таццяна доўга маўчала.

— Ты яе ўсё яшчэ кахаеш? — нарэшце спытала яна.

Юра горка ўсміхнуўся:

— Я б мог сказаць, што ненавіджу яе, — яна зламала маё жыццё, прычыніла столькі болю маме, адабрала ў мяне сына… Але нянавісць — занадта моцнае пачуццё, яна яго не заслугоўвае. Напэўна, я яе проста шкадую, як можна шкадаваць хворага бездапаможнага чалавека. А найбольш, вядома, я турбуюся пра сына.

— Так, Юра, ты павінен ехаць…— рашуча сказала Таццяна тыя словы, якія спачатку не хацела казаць. — Гэта твой сын, а яна — яго маці. Ты павінен ім дапамагчы.

— Ты таксама лічыш, як і я? — падхапіўся ён. — Ты сапраўды разумееш мяне?

— Канешне, разумею, — апусціла яна галаву і падумала пра сябе: «Я разумею, зразумеў бы хто мяне…»

— Я ведаў, што ты самая лепшая жанчына на свеце! Ты не думай, я ненадоўга, як толькі там усё наладзіцца, я адразу ж вярнуся! Я буду тэлефанаваць — часта-часта… Ты як сябе адчуваеш? Справішся тут адна, без мяне? — казаў ён, запіхваючы ў чамадан сарочкі, джынсы, шкарпэткі…

— Вядома, спраўлюся — спраўлялася ж усё жыццё…

— Пачакай, — ён раптам спыніўся. — Ты ж таксама хацела мне нешта паведаміць?

— Ды так, дробязь, — сумна ўсміхнулася Таццяна. — Потым раскажу, калі вернешся. Гэта не тэрмінова. Ты збірайся, а то на цягнік спознішся. Я пайду зраблю табе ў дарогу бутэрброды. Завару кавы. Дарэчы, не памятаеш, дзе тэрмас? І грошы вазьмі — напэўна ж, спатрэбяцца.

— Дзякуй, Танечка, — падышоў ён ззаду і пяшчотна абняў.

Яна ледзь трымалася, каб не загаласіць...

* * *

...Калі за Юрам зачыніліся дзверы, Таня зайшла ў спальню, зняможана ўпала на ложак і дала волю слязам, якія ледзь стрымлівала, пакуль дапамагала яму збірацца. «Божа, што ж за планіда ў мяне такая… Я зноў цяжарная і зноў адна! Божа, ты здзекуешся, ці проста выпрабоўваеш мяне на трываласць? Колькі ўжо можна, як усё гэта вытрымаць? Столькі ўсяго разам: смерць Васі, страта фірмы, цяжарнасць, ад’езд Юры… Чаму менавіта зараз, калі ён патрэбен мне больш за ўсё? Як, ну як мне выкараскацца з усяго гэтага? Божа, дапамажы, падкажы…»

Плакала яна доўга, затым, знясіленая, заснула.

Раніцой, прачнуўшыся, адчула, што ёй вельмі цяжка, вырашыла, падымацца не будзе. Навошта? Карміць няма каго, на працу спяшацца не трэба, гаварыць няма з кім. І нават няма перад кім адчуваць сорам…

І раптам успомніла, як вельмі доўга была ў дэпрэсіі, і як пасля было кепска — і рашуча адкінула коўдру: «Ну не, даражэнькая! Больш ты сабе такога дазволіць не можаш! Занадта дорага гэта каштуе!»

Пайшла ў ванны пакой, прыняла кантрасны душ. Затым зварыла моцную каву, хацела папіць, але высветлілася, што скончыўся цукар. «Ну вось, яшчэ і гэта! Кава без цукру — горш можа быць толькі цукар без кавы! Хоць бы якая цукерка дзе завалілася», — Таццяна пачала пераглядаць вазачкі і разеткі на стале, шукаючы цукеркі. Вось яна пераставіла далей старую фарфоравую цукерачніцу, каб не перашкаджала, не разбілася незнарок — ёй даўно не карысталіся, але бераглі, як памяць пра бабулю, і раптам у ёй нешта бразнула. Таня зняла накрыўку і ўбачыла на дне пярсцёнак. Той самы, які Юра падарыў ёй тады, у рэстаране, калі яны пілі крамбамбулю… Сапраўды, пасля размовы з Сашам у дзень пахавання сына яна зняла яго і палажыла сюды — лічыла, што шчасце яе скончылася… «Сапраўды скончылася?» — ці то спытала, ці то сказала сама сабе, пакручваючы ў руках Валодзеў падарунак. І нечакана для сябе надзела на сярэдні палец правай рукі — як тады, у рэстаране.

— Ты некалі пераконваў мяне, што мы павінны быць разам, нягледзячы ні на што, — сказала яна быццам побач быў Юра. — Ну, значыць, будзем разам…

Таццяна піла маленькімі глыткамі несалодкую, а таму нясмачную, каву і далей развазажала ўслых:

— Параіцца няма з кім, Юра паехаў і невядома, колькі часу будзе там, і наогул, ці вернецца, трэба быць гатовай і да гэтага… Ён кажа, што не любіць тую жанчыну, але ўсё роўна, яна — маці яго сына і цяжка хворая. Ён не кіне яе ў такім стане, дзеля сына не кіне. Значыць, будзем лічыць, што Юры ў нас няма. Пакуль няма ці зусім — пакажа час. І ці магу я нейкім чынам паў-

плываць на гэтую сітуацыю? Не, не магу, не маю на гэта ні маральнага, ні юрыдычнага права. Я не жонка яму і не магу ўплываць на яго рашэнні. А калі б была жонкай, то што змянілася б? Канешне, я б магла сказаць яму, што цяжарная. І ён, напэўна, застаўся б. І пакутаваў бы, і кідаўся б паміж сынамі — гэтым, яшчэ ненароджаным, і тым, якога некалі вадзіў у заапарк і на каток. А я пакутавала б ад усведамлення сваёй віны і комплексу непаўнацэннасці, думаючы, што ён са мной не з-за мяне, а з-за дзіцяці. Не, не варта… Значыць, адсунем пакуль Юру ў дальні куток свядомасці: калі ён цяпер не можа дапамагчы мне, то няхай хоць не перашкаджае. Калі, вядома, атрымаецца, — уздыхнула Таццяна, разумеючы, што не атрымаецца, — але ж паспрабаваць можна?

Яна хадзіла з кутка ў куток па пакоі і разважала ўслых — калі б яе ў гэтую хвіліну ўбачыў нехта чужы, падумаў бы, напэўна, што жанчына страціла розум. Але яна разважала цвяроза, ясна і лагічна, і ніхто гэтаму не перашкаджаў…

— Значыць, што мы маем? Я не магу паўплываць на сітуацыю з Юрам. А на што магу? Самае страшнае — смерць Васі, і гэта выправіць немагчыма. Гасподзь злітасціўся нада мной і пасылае яшчэ аднаго сына — трэба ўспрымаць гэта, як яго дарунак, які надта трэба берагчы. Так, цяжарнасць дадасць клопатаў, але не зараз, пазней: трэба будзе стаць на ўлік, паклапаціцца пра фінансы…

Дарэчы, пра фінансы... Трэба зайсці ў «кліент-банк», калі Валодзя не змяніў пароль, прагледзець, што там засталося на рахунку фірмы. Хаця, наўрад ці што там засталося. А можа, усё ж ён не зусім нягоднік, якім хацеў паказаць сябе, калі размаўлялі? Не можа ж чалавек так хутка змяніцца… Ці ўсё ж я яго проста не ведала, які ён ёсць?

Таня ўключыла камп'ютар, зайшла ў інтэрнэт, праверыла банкаўскі рахунак сваёй фірмы. Цуду не здарылася, на ім — нулі…

— А з улікам таго, што праз два тыдні трэба плаціць падаткі, праз тры — рахункі за электраэнергію, а праз месяц — зарплату людзям, што палякі вяртаюць заказ і, вядома ж, выставяць штрафныя санкцыі, — сітуацыя патавая, — хруснула пальцамі Таццяна. — І як я магу паўплываць на гэта? Хоць, зрэшты, чаму я павінна на гэта ўплываць? У фірмы ёсць новы ўласнік — няхай ён і турбуецца, як разбірацца з даўгамі, чым плаціць людзям зарплату — хоць людзей, хутчэй за ўсё, проста звольняць… А ты зараз з'яўляешся дырэктарам толькі юрыдычна, ды і то — пакуль. Так што патурбуйся лепш аб тым, за што жыць будзеш і дзяцей падымаць, — сказала сабе Таня, адкрываючы праз інтэрнэт-банкінг уласны рахунак. — Пра якія там «пару кавалкаў» гаварыў Валодзя на развітанне? Колькі гэта ў яго грашовай сістэме?

На асабістым рахунку таксама было не густа. «Пара кавалкаў», якія ёй, былой кампаньёнцы, адшкадаваў былы сябар, з якім некалі ўкладвалі ў гэтую фірму роўныя долі, складала крыху больш яе месячнай зарплаты.

— Ну, на месяц хопіць. Калі эканоміць, можна расцягнуць на два… А што рабіць далей? Той невялікі запас, што сабралі з Юрам за апошні год, аддала яму — там, пэўна ж, грошы спатрэбяцца. А як жыць самой? І яшчэ цяжарнасць гэтая… Праз нейкіх паўгода трэба столькі купіць немаўляці... А гэта грошы ды грошы. А з улікам таго, што працаваць яна нейкі час не зможа, нават калі будзе дзе… Ох, сынок, прабач, але ж ты так несвоечасова, — пяшчотна пагладзіла яна мяккі, незаўважны пакуль ні для каго домік свайго дзіцяці.

— Ну дык і на што ж з усяго, што звалілася за апошні дзень, можна рэальна паўплываць? — задала сабе амаль што рытарычнае пытанне Таццяна. —

Хіба што на цяжарнасць — але гэтага рабіць нельга, немагчыма. А ў астатнім, выходзіць, практычна — ні на што? Хіба толькі паспрабаваць разабрацца з фірмай. Падаць у суд на Валодзю? У фірмы — два ўласнікі, тады як натарыусы маглі засведчыць дагавор куплі-продажу з подпісам толькі аднаго? Так, у яго была генеральная даверанасць, але ўсё ж… Але судовыя разбіральніцтвы таксама патрабуюць грошай, і немалых. І яшчэ невядома, чым закончыцца працэс, нават калі ўдасца дамагчыся, каб ён пачаўся. Тым больш, што Валодзя намякаў, што хоча жыць не ў гэтай краіне. Напэўна, ён са сваёй бухгалтаркай паклапаціліся аб тым, каб знайсці іх было не проста, каб былыя кампаньёны ды суддзі з адвакатамі не перашкаджалі ім траціць украдзеныя ў яе грошы... Але, юрыдычнае пытанне падзелу ўласнасці таксама пакінем на потым, гэта не сённяшняга дня справа.

«А сёння, што можна зрабіць сёння?» — задумалася Таццяна. І ўрэшце вырашыла: «Сёння трэба паспрабаваць высветліць, што ж купіў нашу фірму, які рызыкант рашыўся на гэта, ведаючы, што ў прадпрыемства два ўласнікі? Трэба сустрэцца з гэтым чалавекам і ўсё высветліць — усё ж я пакуль яшчэ хоць дэ-юрэ, але дырэктар. Не лішне было б пацікавіцца і яго планамі наконт будучыні фірмы. А ўжо потым будаваць свае ўласныя: шукаць работу, шукаць грошы…»

Яна ўжо ўзялася за тэлефон, каб пазваніць свайму знаёмаму з камітэта эканомікі, які ўсё пра ўсіх ведаў у іх сферы, каб выведаць хоць якую інфармацыю. Але не паспела: зазваніў тэлефон і на дысплеі высвецілася «Наташа», сакратарка.

— Ой, Таццяна Аляксееўна, у нас тут такое робіцца! — усклікнула Наташа, забыўшыся павітацца і працягвала:. — Уладзімір Сямёнавіч як паехаў учора ранкам з Галінай Пятроўнай у банк — гэта ж яшчэ пры вас было! — дык больш на працы не з’яўляўся. І вы не прыйшлі… Ой, прабачце, як ваша здароўе? — здаецца, Наташа толькі цяпер успомніла, што ўчора дырэктара з работы забралі на «хуткай».

— Усё ў парадку, — адказала Таццяна. — Дык я не зразумела: што там у вас?

— Ну вось, у офісе няма ні вас, ні Уладзіміра Сямёнавіча, і ніхто не ведае, дзе вы і што. Чуткі розныя папаўзлі — быццам нашу фірму прадалі. А сёння, хвілін дваццаць назад, дзядзечка нейкі прыйшоў, сімпатычны такі, з высакароднай сівізной. І выпраўка, як у ваеннага. І сказаў, што цяпер ён з’яўляецца ўласнікам нашай фірмы! І што ён хацеў бы сустрэцца з дырэктарам. Папрасіў патэлефанаваць вам і запрасіць на сустрэчу. Я хацела было правесці яго ў кабінет Уладзіміра Сямёнавіча і кавы зрабіць, каб ён пачакаў, пакуль вы прыйдзеце, а потым падумала: а раптам ён махляр які? Ды ён нібыта думкі прачытаў, папрасіў прызначыць вам сустрэчу ў кафэ «Лаванда» на 13 гадзін. І пайшоў. Вось… Таццяна Аляксееўна, вы толькі не злуйцеся, я вам перадала, што гэты чалавек сказаў. Дарэчы, вельмі сімпатычны мужчына, — дадала Наташа.

— Наташа, добра, што ты мне пазваніла, — сказала Таццяна.

— Таццяна Аляксееўна, а што фірму прадалі гэта праўда? — спытала Наташа, крыху памаўчаўшы.

Таццяна хацела сказаць, што праўда, але ў апошні момант невядома чаму стрымалася.

— Пасля сустрэчы з гэтым чалавекам я прыйду ў офіс і ўсё ўсім раскажу. А пакуль справай займіцеся… — дадала ўжо зусім строга, па-дырэктарску —

хоць разумела, што ніхто ніякай справай займацца не будзе, тым больш, што і няма зараз там ніякіх спраў.

— Дарэчы, як я пазнаю гэтага чалавека? — спахапілася раптам Таццяна.

— Ён сказаў, што пазнаеце. А калі не, то ён сам вас пазнае.

Такі адказ Таццяну заінтрыгаваў. Выходзіць, новы ўладальнік фірмы нехта з яе знаёмых? Цікава… Канкурэнты перахапілі смачны кавалачак? Няма сярод іх падобных на сімпатычнага мужчыну з вайсковым мінулым — ва ўсякім выпадку, з тых, каго яна ведала. Нехта з былых знаёмых? Ім яе кравецка-швейны бізнес не цікавы, у гэтым трэба хоць крыху разбірацца. Былыя аднакурснікі? Дык у іх інстытуце ў асноўным дзяўчаты вучыліся, хлопцаў на пальцах адной рукі можна было пералічыць, і ў прафесіі застаўся, здаецца, адзін Валодзя.

«Зрэшты, што тут галаву ламаць? Праз дзве… Не, ужо праз паўтары гадзіны ўсё стане ясна. І добра, што ўсё так закруцілася, — на лаўца, кажуць, і звер бяжыць. Пабачым, хто ён такі, гэты новы ўладальнік яе фірмы, яе дзецішча…. Што ў яго ў галаве і за душой… Трэба збірацца на рандэву — спазняцца на такую сустрэчу дзелавая жанчына не мае права», — глянула на гадзіннік Таццяна.

* * *

Да «Лаванды», аднаго з лепшых кафэ ў іх горадзе, якое псавала, як на яе густ, толькі зашмальцаваная назва, Таццяна падышла за дзве хвіліны да прызначанага незнаёмцам тэрміну. Распрануўшыся ў гардэробе, разгублена прыпынілася ля ўваходу ў залу: хто з нешматлікіх наведвальнікаў прызначыў ёй сустрэчу?

Не заўважыла, як тым часам да яе падышоў малады чалавек у фірменным адзенні:

— Прабачце, вы — Таццяна Аляксееўна? Вас чакаюць… Дазвольце, я вас правяду…

— Куды? — здзівілася Таццяна. Здаецца, упершыню ўсярэдзіне варухнулася нешта падобнае на страх: хто гэты незнаёмы чалавек, што прызначыў ёй сустрэчу, што яму трэба ад яе? Але ісці адной на такія спатканні з невядомым чалавекам, якому раптам спатрэбілася яе фірма, было рызыкоўна.

Напэўна, гэтая занепакоенасць адбілася ў яе на твары, малады чалавек, мабыць, заўважыў гэта, прыязна ўсміхнуўся і далікатна крануў яе за локаць:

— Вы не хвалюйцеся, усё ў парадку. У нас у падвальным памяшканні ёсць спецыяльная зала для VIP-персон, дзе сур’ёзныя людзі могуць праводзіць дзелавыя перамовы, не апасаючыся чужых вушэй і вачэй. Там вас і чакае ваш візаві.

«Зрэшты, якая ўжо розніца — у сённяшнім маім стане? Што мне губляць, усё страціўшы?» — супакойвала сябе Таццяна, спускаючыся ў падвал на крутой вінтавой лесвіцы, якую асвятлялі тоўстыя свечкі, — парафін, што сплываў з іх разамлелых бакоў, утвараў дзівосныя сталактытавыя нарасты, нібы ў глыбокай пячоры. «Арыгінальная ідэя аздаблення інтэр’еру, асабліва падвальнага», — адзначыла яна між іншым, стараючыся не думаць пра тое, хто і што чакае яе там, у падвале.

— Вам туды, — сказаў малады чалавек, паказваючы рукою ўглыб пустой залы, дзе за сталом, асветленым мяккім святлом, віднелася адзінокая постаць мажнага мужчыны, больш у зале нікога не было, і шпарка затупацеў абцасамі

ўверх па лесвіцы. Таццяне захацелася кінуцца ўслед за ім, як мага хутчэй пакінуць гэтае ледзь асветленае памяшканне: куды яе заманілі, што ад яе хочуць?! Але яна стрымалася: трэба ж урэшце даведацца, што адбываецца…

Чалавек за столікам узняў галаву, мовіў:

— Праходзьце, калі ласка, Таццяна Аляксееўна, я вас чакаю. Не бойцеся, я не кусаюся. І не маю намеру прычыніць вам нейкую шкоду.

— А чаму вы вырашылі, што я вас баюся? — сказала Таня, стараючыся быць спакойнай і адначасова імкнучыся ўспомніць, дзе і калі яна чула гэты прыгожы барытон? Здаецца, зусім нядаўна…

— Што, ізноў не пазналі? — насустрач ёй узняўся высокі, крыху паўнаваты сівагаловы мужчына — і тады Таццяну нібы працяла токам: перад ёй стаяў Саша, яе першае каханне, Васеў бацька… Той Саша, з якім яна гаварыла зусім нядаўна, на пахаванні сына. Ды тады яна забараніла яму нават набліжацца да яе, а ён!

У яе перахапіла дыханне: яму, аказваецца, мала таго сораму і болю, якія ён прычыніў ёй у маладосці, дык ён вырашыў зноў вярнуцца ў яе жыццё. І як вярнуцца! У яго хапіла нахабства адабраць яе справу, пакінуць яе сям'ю без сродкаў для існавання. А да ўсяго яшчэ і запрасіць сюды на перамовы, каб убачыць яе, прыніжаную, зняважаную, каб пацешыцца сваёй перамогай, паздзекавацца... Які нягоднік! Ды я табе зараз… Зараз я…

Што яна зробіць зараз свайму крыўдзіцелю, разгневаная Таццяна прыдумаць не паспела.

— Ну, я бачу, што пазналі, — няёмка ўсміхнуўся Саша, напэўна, зразумеўшы, што яна зараз адчувае. — Праходзьце, сядайце, калі ласка. Даць мне аплявуху вы яшчэ паспееце. А пагаварыць нам у любым выпадку трэба. Вы згодны са мной?

— Не згодна! — апусцілася Таццяна ў крэсла — ногі яе не трымалі. — Нам няма пра што гаварыць! Калі ты памятаеш, я забараніла табе нават набліжацца да мяне, не тое, што размаўляць! — ёй хацелася ўчапіцца ў твар гэтаму дагледжанаму нахабніку, і выдраць гэтыя некалі любімыя, так падобныя на Васевы, вочы, што глядзелі на яе.

Саша перайшоў на «ты».

— Наколькі я памятаю, мне было забаронена набліжацца да цябе тады, у самы чорны для нас абаіх дзень. І ты не хацела мяне бачыць і чуць менавіта як бацьку твайго сына. А зараз у нас узнікла іншая тэма для размовы. Думаю, табе паведамілі ўжо, што з нядаўняга часу я з'яўляюся ўладальнікам фірмы, на якой ты працуеш дырэктарам. Так што пагаварыць нам ёсць пра што… Я спецыяльна прызначыў гэтую сустрэчу на нейтральнай тэрыторыі, каб твае эмоцыі ніхто не бачыў — прадбачыў, што яны будуць менавіта такімі, — працягваў ён.

Таццяна, ледзь стрымліваючы сябе сказала:

— Але дырэктарам фірмы «Элегант» я працую апошні дзень, магчыма, нават гадзіны. Я зараз жа паеду ў офіс і напішу заяву на звальненне. Ці, можа, зрабіць гэта проста тут? Дык лёгка! І ўсё, тэмы для нашых далейшых размоў будуць вычарпаны. Ва ўсякім разе, на бліжэйшы час. Але я думаю, мы яшчэ сустрэнемся. Хачу, каб ты ведаў: я збіраюся адсудзіць у цябе калі не ўсю фірму, то сваю палову — дакладна. Ты не мог не ведаць, набываючы яе, што мой кампаньён, які яе прадаваў, не адзіны яе ўласнік. І я нават здагадваюся, навошта яна табе спатрэбілася. Так што мы яшчэ сустрэнемся! А пакуль — да пабачэння! — Таццяна ўзнялася і памкнулася да выхаду.

Саша спыніў яе, мякка, але разам з тым рашуча, узяў за руку.

— Таня, не гарачыся! Нам сапраўды трэба пагаварыць. Спакойна, без злосці, без крыку, без абраз. Без спаборніцтва, хто каго ўкусіць больш балюча. Пра многае, не толькі пра фірму. Таму я цябе вельмі прашу: выдзелі мне гадзіну свайго часу. Выслухай. Можаш нічога не гаварыць ці гаварыць усё, што захочаш, але выслухай. Зрэшты, нават падсуднаму, перш чым вынесці прыгавор, даюць апошняе слова.

Здаецца, ён нешта закрануў у яе душы. Таццяна павольна, нібы вагаючыся, села ў крэсла. Скептычна падперла шчаку рукою:

— Ну, добра. Хай будзе гадзіна… Дык што ты хацеў мне сказаць? Я згодна выслухаць усё.

Адразу ж, нібы па сігнале, ля століка аднекуль узнік той самы хлопец: разаслаў абрус, паставіў прыборы, прынёс бутэльку дарагога віна і два бакалы, фрукты, запаліў свечкі.

— Ты прабач — я ўзяў на сябе смеласць зрабіць заказ, — нібы апраўдваючыся, прамовіў Саша. — Тваіх сённяшніх густаў не ведаю, таму выбіраў на свой.

— Гэта лішняе, — махнула рукой Таццяна. — Алкаголь я зараз не ўжываю, есці не хачу. Зрэшты, калі табе так хочацца, можаш заказаць мне каву. І бутэльку звычайнай вады, калі ласка.

Пакуль афіцыянт прыносіў яе заказ, яны маўчалі. Таццяна ўпотай разглядвала Сашу. Сівізны для яго гадоў мнагавата, зрэшты, гэта яму да твару. І чаму гэта Наташа вырашыла, што ён з ваенных? Паўнаваты ён для вайскоўца, нават былога. Хоць, магчыма, яна і мае рацыю: нешта такое ёсць — у паставе, у рухах… Але ж вучыўся ён у радыётэхнічным... «Зрэшты, якая табе розніца, колькі сівізны ў яго валасах і кім ён быў усе гэтыя гады, — зноў залавалася яна на сябе. — Ваенны, сівы, тоўсты — табе якая справа?»

Саша ўзяў бутэльку, Таццяна рашуча адставіла свой бакал, гнеўна бліснуўшы вачамі: я ж папярэджвала! Тады ён наліў сабе і выпіў бакал амаль што залпам.

— Ну вось, запрасіў на размову, можна сказаць, падманам заманіў, столькі хацеў сказаць — а зараз не ведаю, што і казаць, з чаго пачаць,— паціснуў ён плячамі.

— Мне неяк усё роўна, з чаго ты пачнеш і чым закончыш, — сказала Таццяна і наліла сабе ў шклянку вады. — Толькі, калі можна, пачынай ужо — хоць з чаго. У мяне мала часу, я спяшаюся.

— Ды нікуды ты не спяшаешся, — сумна ўсміхнуўся Саша. — Няма табе куды спяшацца, я ж ведаю. Я цяпер усё пра цябе ведаю.

— Бач ты, які дасведчаны! — саркастычна хмыкнула яна. — Чаму ж раней такім не быў? Нават аб тым, што ў цябе сын расце, не ведаў.

— Вось з гэтага давай і пачнём, — рашуча ўзняў на яе вочы Саша. — З той нашай вясны…

— Не з нашай — з тваёй вясны, — паправіла яго Таццяна. — У мяне тая вясна была ўжо без цябе.

— Ну, добра, хай будзе з маёй, — уздыхнуў Саша і яшчэ наліў віна. — Толькі, калі ласка, не перабівай мяне. Потым скажаш усё, што захочаш.

Яна хацела зноў сказаць нешта ўедлівае, але стрымалася: хай гаворыць, што хоча, яна памаўчыць. Урэшце, хай нават больш як праз дваццаць гадоў, трэба даведацца, што тады здарылася. Хоць бы дзеля цікаўнасці…

— Тады, вярнуўшыся ва ўніверсітэт пасля тых нашых з табой зімовых канікул, я як на крылах лятаў. Усе заўважылі, што са мной нешта здары-

лася, сталі дапытвацца, што ды як. Ну, я і расказаў сябрам, што каханая мяне чакае — самая лепшая ў свеце дзяўчына. І летам, як толькі абараню дыплом, мы пажэнімся.

Сталі яны з мяне пацвельваць — па-добраму, па-сяброўску: «жанацік», і ўсё такое… А як даведаліся, што вяселля не будзе і пагуляць ім не давядзецца — няма яго каму для нас ладзіць, сталі прыставаць: давай, маўляў, хоць хлапечнік зробім, выправім цябе ў дарослае жыццё, як належыць. Ну, хлапечнік дык хлапечнік, што ж тут дрэннага? — падумалася тады. Каб ведаць, чым гэта скончыцца…

Забурыліся мы на дачу да аднаго з нашых, мясцовых. Нешта пілі, песні ля вогнішча спявалі, ноччу купацца на возера хадзілі. Словам, весяліліся па поўнай.

Саша зрабіў паўзу, яшчэ адпіў віна.

— Заканчэння вечарынкі я ўжо не памятаў. Калі і як дзяўчаты на нашым хлапечніку з'явіліся — таксама. Ранкам прачынаюся — побач у ложку дзяўчына голая ляжыць, дачка рэктара, яна вучылася ў нашай групе, — вінавата апусціў галаву Саша.

Таццяна прыслухалася да сябе: што робіцца там, у душы? Недзе глыбока, на самым донцы, варухнуўся слабы адгалосак таго колішняга невыноснага болю, з-за якога яна не хацела жыць… А зараз — нібы котка лёгенька драпнула. «Вось ужо і сапраўды — час усё лечыць», — уздыхнула неўпрыкмет.

Ды Саша, здаецца, за ёй не назіраў. Гаварыў ён ціха, быццам сам сябе, не зважаючы, слухае яна яго ці не. Падалося, што ён упершыню спрабуе ўголас выказаць тое, што ўсе гэтыя гады важкім каменем ляжала на яго душы:

— Яна і раней да мяне заляцалася, з першага курса. Не ведаю, чым такім я зачапіў яе, — звычайны вясковы хлопец, за ёй не такія ўвіваліся. А яна мне праходу не давала. Ды я рабіў выгляд, быццам не разумею, што ёй ад мяне трэба. Канешне, мне трэба было адразу шчыра з ёй пагаварыць, растлумачыць, што паміж намі нічога не можа быць, што кахаю іншую, але не хацелася крыўдзіць дзяўчыну. А тут… Мусіць, яна даведалася, што я збіраюся жаніцца. Вось і вырашыла дзейнічаць.

Тым ранкам яна мне даволі рашуча заявіла: «Альбо ты на мне жэнішся, альбо я падаю ў міліцыю заяву аб тым, што ты сёння ноччу згвалтаваў мяне. А каб весялей баланда хлябталася, яшчэ і сяброў тваіх у кампанію гвалтаўнікоў запішу, за «групавуху» больш дадуць. Адмазвайцеся потым, калі зможаце. Нават калі ад турмы неяк адкруцішся, што наўрад ці, то з універсітэта вылеціш, як корак з бутэлькі, — гучна і далёка».

Такая вось узнікла ў мяне перспектыва: напярэдадні дзяржаўных экзаменаў, адвучыўшыся пяць гадоў, застацца без дыплома, без прафесіі і без будучыні. І гэта ў лепшым выпадку, а ў горшым — трапіць за краты…

— Бедны, бедны маленькі дурненькі хлопчык, — не вытрымала, здзекліва ўсміхнулася Таццяна. — У ложак яго сілком зацягнулі, у загс пад прымусам завялі…

— Ты ж абяцала памаўчаць, — Саша паглядзеў на яе з такім болем, што Таццяна асеклася. — Хоць пра дурненькага — гэта праўда. Блефавала Віялета, мэты сваёй дамагаючыся, не было ў тую ноч паміж намі нічога. У яе ўвогуле нікога да мяне не было, строіла толькі з сябе… Гэта потым ужо, пасля вяселля высветлілася. Але было позна.

Бутэлька віна неўпрыкмет апусцела. Саша заказаў яшчэ адну, зноў наліў бакал, працягваў:

— Пасля абароны дыплома цесць прапаноўваў мне ў нашым універсітэце застацца, выкладчыкам. Ды мне ўсё гэта было так агідна. А найперш я сам сабе быў агідны… Хацелася цябе ўбачыць хоць на хвілінку, усё растлумачыць. Але што сказаць? Што я слабак, нягоднік, баязлівец, здрадзіў свайму каханню, дзяўчыне, якую любіў больш за ўсё на свеце? Навошта? Каб ты плюнула мне ў твар? Ці пашкадавала? Але лепш бы ўжо плюнула… Неяк сустрэў школьнага сябра, той на Сахаліне служыў. Нам, кажа, радыёэлекроншчыкі патрабуюцца, ніхто ў такую глухамань ехаць не хоча. А для мяне — сама тое: далей ад людзей, ад цябе, ад сябе… Ну, я і напісаў рапарт. Віялеце гэта, канешне, не спадабалася — ды хто яе пытаў? Сталі мы матацца па гарнізонах… Людзі стараліся, каб куды бліжэй да горада, ці яшчэ лепш — у сталіцу, а я — куды далей. Зразумела, што доўга Віялета такога жыцця не вытрымала, падала на развод. А я і рады быў. Тым больш, што нішто нас не трымала, дзяцей у нас не было. Ды і быць не магло: я пасля першай шлюбнай ночы, калі зразумеў, як мяне падманулі, проста фізічна не мог да яе дакрануцца, мяне трэсла ад агіды і злосці.… Потым, як разышліся, яна вярнулася да бацькоў, выйшла замуж, нарадзіла дзвюх дачок — кажа, што шчаслівая. Ну і дзякуй богу!

А пра сына, Таня, я праўда не ведаў, — Саша нарэшце ўзняў на яе вочы. — Ты ж не напісала мне тады нічога. Я толькі праз некалькі гадоў, як да цёткі прыехаў, даведаўся, што ў цябе расце дзіця. Але адкуль я мог ведаць, што гэта мой сын? Зайшоў да тваёй маці, спытаўся твой адрас ці тэлефон — яна не дала. Свой пакінуў на ўсякі выпадак, доўга чакаў званка, спадзяваўся — ні гуку… Разумею, што моцна вінаваты перад табой, але калі б тады я ведаў…

— То што, пагадзіўся б у турму сесці? — горка ўсміхнулася Таццяна. — Ладна, Саша, не будзем пра былое, яно даўно быллём парасло. Мне ўжо даўно ўсё адбалела. Сёння я табе нават удзячна…

— За што? — здзіўлена ўскінуў ён бровы.

— Найперш — за Васю. Цудоўны ў нас з табой атрымаўся сынок, бачна, што ад вялікага кахання нарадзіўся. Ведаеш, чаму я яго Васільком назвала? У памяць аб тых валошках, што цвілі ў жыце, калі ты мне ў каханні прызнаўся… Шкада, што ты яго не ведаў. Але за гэта табе не мяне — сябе вінаваціць трэба. Я хіба ў тым вінаватая, што не зберагла сына, але і ў гэтым ты не маеш права абвінавачваць мяне. Тут я сама сабе суддзя...

Таццяна каўтнула даўкі камяк, што падступіў да горла, і прадоўжыла:

— А яшчэ я ўдзячна табе за тое, што навучыў мяне быць моцнай, спадзявацца ў жыцці толькі на сябе. Без тваёй здрады я наўрад ці змагла б стаць такой, як стала. Навука, канешне, дарагой аказалася, але надзвычай карыснай…

— Ты прабач мяне, Таня… — Саша накрыў яе руку сваёй і пранізліва паглядзеў ёй у вочы. На імгненне здалося — запаланіў яе душу амаль такім жа, як некалі, валошкавым святлом, толькі крыху палінялым.

Яна вышмаргнула руку з-пад яго рукі:

— Не трэба, Саша. Будзем лічыць, што я цябе даўно прабачыла. Тым больш, што маё прабачэнне ці непрабачэнне ўжо не мае ніякага значэння: у мяне — сваё жыццё, у цябе — сваё. Ты лепш скажы: навошта табе спатрэбілася мая фірма? Ты вырашыў адпомсціць мне такім чынам? Але за што? Які твой інтарэс, у якія гульні ты гуляеш і па чыім сцэнарыі? — задала яна нарэшце пытанні, якія сёння турбавалі яе найбольш.

— Ну што ж, давай пагаворым пра фірму, — Саша зноў наліў сабе віна. — Але лепш пра ўсё па парадку, каб зразумела было, што з чаго вынікае. Я ўжо казаў, што да Васевай смерці не ведаў, што гэта мой сын. І быў вельмі раз-

зламаны на цябе. Хто даў табе права пазбаўляць сына бацькі? Так, я нягоднік, але я — бацька! Калі б ты сказала мне аб гэтым раней, можа, усё павярнулася б зусім па-іншаму — і тваё жыццё, і маё.

— Саша, давай не будзем пачынаць спачатку. Ты сам павярнуў нашы жыцці ў тыя рэчышчы, па якіх яны затым пацяклі…

— Ты — таксама! Але хай будзе па-твойму — не варта зараз абвінавачваць адно аднаго, тым больш, што карысці з гэтага ніякай. Дык вось, калі я даведаўся пра Васю, мне стала цікава: як вы жылі ўсе гэтыя гады? Як ты змагла адна выгадаваць такога сына? Адкуль у цябе другое дзіця? Як ты жывеш зараз? І я стаў збіраць пра цябе інфармацыю — балазе, сябры паўсюль ёсць.

— Вось як? — здзівілася Таццяна. — І навошта табе спатрэбілася гэтая інфармацыя?

— Я ж кажу: хацелася даведацца пра цябе як мага больш.

— Ну і што ж ты даведаўся?

— Я ж ужо казаў — практычна ўсё. Пра мужа твайго, ад якога ты другога сына нарадзіла. Пра фірму. Пра кампаньёна. Пра сённяшняга твайго… г-мм... кавалера…

— І што гэта табе дало?

— Не паверыш — вельмі шмат. Больш, чым ты можаш сабе ўявіць. Збіраючы пра цябе інфармацыю, я даведаўся, што твой кампаньён цудоўна дурыць табе галаву, вядзе за тваёй спінай двайную гульню, забаўляецца «адкатамі» і клапоціцца найперш пра свой уласны дабрабыт. А пазней высветлілася, што ён шукае пакупніка на вашу фірму, не асабліва трымаючыся цаны: галоўнае для яго было, як я зразумеў, каб грошы паступілі ўсе і адразу, пажадана наяўнымі, і каб патэнцыяльны кліент не задаваў шмат пытанняў. Няцяжка было зразумець, што ты, прыгаломшаная сваім горам, аб гэтым нічога не ведаеш. Калі б я спрабаваў сказаць табе пра гэта, ты б мне не паверыла. Ды што там — ты б увогуле не стала мяне слухаць.

— Што праўда, то праўда, — пагадзілася Таццяна, успомніўшы свой нядаўні стан.

— Тады я вырашыў, што ў мяне няма іншага выйсця, як купіць тваю фірму, пакуль яе не перахапіў хто іншы.

— Цікава, адкуль у былых ваенных такія грошы? — недаверліва глянула на яго Таццяна.

— Прабач, але гэта мая асабістая справа, — адказаў Саша. — Скажу толькі, што я не крымінальны аўтарытэт і свае грошы зарабіў сумленна. Мне нядрэнна плацілі, і не палічы мяне нясціплым, а спецыяліст я ў сваёй галіне класны, такіх было вельмі мала ў Саюзе. А траціць грошы, як я ўжо казаў, не было на каго… Каб пра сына ведаў, хоць бы яму дапамагаў, а так…

— Ды хто б прыняў тваю дапамогу. Без цябе справіліся, — сказала Таня.

Саша, здаецца, не звярнуў на яе рэпліку ніякай увагі, працягваў:

— Пасля, як пачала бурыцца вялікая краіна, я змог перавесці рублі ў валюту. Увесь гэты час не сядзеў склаўшы рукі. І цяпер працую, пакуль запатрабаваны. Так што чалавек я, Таня, нябедны і купіў такую фірму, нават не ўлазячы ў даўгі. Хаця, калі б спатрэбілася, пайшоў бы і на гэта.

— Радая за цябе, — хмыкнула Таццяна. — Але аднаго ніяк не магу ўцяміць: навошта? На халеру табе, радыёэлектроншчыку, ды яшчэ, як ты кажаш, класнаму, спатрэбілася швейная вытворчасць? У сваёй справе ты, можа, і спецыяліст, але ў шавецка-кравецкай, падазраю, — поўны прафан.

— Затое ты ў ёй, як я даведаўся, — профі.

— І што? Спадзяешся, раз ты купіў з вантробамі ўсё, што я стварала па нітачцы, па кропельцы, то зможаш наняць мяне да сябе ў парабчанкі? Каб я працавала на цябе і прымнажала твае капіталы — у знак нашага агульнага мінулага? Выбачай, але мушу расчараваць: не атрымаецца… Мне, вядома, вельмі дарагая мая справа, але ўсё ж не даражэй, чым уласны гонар. Ты ж павінен памятаць: мы, хутаранскія, хоць бедныя, але ганарыстыя…

— Як жа, памятаю, — міжволі засмяяўся Саша, узгадаўшы яе вясковую мянушку. — Але ў парабчанкі наймаць цябе я не збіраюся. У мяне іншая прапанова. Дакладней, нават дзве — узаемна выключаючыя адна другую…

— Вось як? — заінтрыгаваная Таццяна паглядзела на яго з цікаўнасцю. — І што ж гэта за прапановы?

Саша пакруціў у руках пусты бакал, нібы разважаючы, гаварыць ёй зараз усё, што хочацца сказаць, ці не? Але, мусіць, вырашыў, што іншай нагоды для такой шчырай размовы можа і не быць, рашуча пачаў:

— Пачну з першай прапановы. Толькі спачатку дазволь задаць табе адно пытанне… Можа, не зусім тактоўнае, але вельмі важнае для мяне. Скажы, калі ласка, наколькі ў цябе сур'ёзныя адносіны з гэтым, як яго… Юрыем Кашаваравым…

— А табе што за справа да маіх адносін з кім бы то ні было? — абурылася Таццяна.

— Разумею, што недарэчна ўсё гэта, не той час, не тыя абставіны, — сказаў ён. — Але па-іншаму, відаць, не выйдзе — трэба ўсё сказаць сёння і зараз. А то заўтра цябе, магчыма, ужо не выцягнеш на размову. Дык вось, Таццяна, я сур'ёзна хачу зрабіць табе прапанову, як гэта прынята гаварыць, рукі і сэрца. Калі прасцей, то прашу: выходзь за мяне замуж. Мы пазнаёміліся не ўчора, у нашым жыцці было многа рознага: і шчаслівых хвілін, і горкіх, і непаразуменняў, і страт. Але мы яшчэ ў тым узросце, што можам выправіць усе памылкі і ўсе пачаць спачатку.

Таня ўважліва глядзела на яго. Можа, ёй сніцца? Ці гэта сапраўды Саша, яе першае і самае балючае каханне, які раптам з'явіўся з яе мінулага жыцця і хоча, каб яна стала яго жонкай? Прапануе, калі ўжо няма іх Васілька, калі яна адна столькі пражыла і перажыла… Слёзы міжволі пацяклі з яе вачэй…

Ён працягнуў руку, каб абняць яе, але Таццяна адсунулася.

— Не, Саша, — усміхнулася яна скрозь слёзы. — Занадта позна. Немагчыма двойчы ўвайсці ў адну і тую раку. Таго блакітнавокага юнака, якога я некалі кахала, даўно няма. І той наіўнай закаханай дзяўчынкі, што цалавалася з табой у жыце — таксама. Я зараз іншая, ты нават не ўяўляеш, наколькі. Думаю, што і ты — таксама іншы. І не варта варушыць попел — быламу агню ўжо не разгарэцца.

— Значыць, ты яго ўсё-ткі любіш, — уздыхнуў Саша. — Ну што ж… Я падазраваў, што ты адкажаш менавіта так. Але я павінен быў спытаць, каб пасля не думаць, што магло б быць, калі б… Нам з табой ужо хопіць непаразуменняў. Ты адмаўляешся. У такім разе, ёсць другая прапанова, — сказаў ён ужо зусім іншым голасам, спакойным і дзелавітым. — Нават не прапанова, а маё рашэнне, даўно абдуманае і прынятае. Я перапісваю на цябе фірму. Ты становішся яе адзіным і паўнапраўным уласнікам. А заставацца табе пры тым яе дырэктарам ці наняць каго іншага — гэта ўжо тваё асабістае. А каб выйсці з той сітуацыі, у якой яна апынулася з ласкі твайго кампаньёна, я інвестую ў яе пэўную суму — на першы час хопіць.

— Саша, я разумею: ты жартуеш, — засмяялася Таццяна. — Лічы, што я ацаніла тваё пачуццё гумару…

— Усе неабходныя дакументы афармім заўтра ж, — працягваў ён, нібы не чуў яе смеху, і Таццяна зразумела, што гэта сур’ёзна. Яна злавала: ды ён лічыць, што можа распараджацца яе жыццём. Ці не зашмат на сябе бярэ?

— Шаноўны ўладальнік заводаў, газет, параходаў! — пачала яна здзекліва і гнеўна. — Я не ведаю і ведаць не хачу, адкуль у вас такія грошы, — Таццяна зноў перайшла на «вы». — Але павінна вам сказаць, што ў падачках з барскага стала не маю патрэбы. Я таксама не самы горшы спецыяліст у сваёй галіне і змагу пракарміць сябе і сваіх дзяцей. Так што, як кажуць, дзякуй за ўвагу! — Таццяна паднялася з-за стала, ледзь стрымліваючыся, каб не пляснуць яму па твары.

— Таня, я не хацеў цябе пакрыўдзіць, — прамовіў Саша. — І як разумею, размова наша скончылася. Але на развітанне ўсё ж нагадаю, што я, як уласнік прадпрыемства, маю права распараджацца сваёй уласнасцю, як хачу. Так што заўтра фірма «Элегант» будзе перапісана на ваша імя, — ён таксама перайшоў на «вы». — А што рабіць з ёй далей — ваша асабістая справа. Можаце перапрадаць некаму, як зрабіў ваш кампаньён — абяцаю, што я яе больш не куплю. Можаце і далей шыць сукенкі ды спадніцы на радасць айчынным ды еўрапейскім модніцам. Можаце нічога не рабіць і чакаць, пакуль яна абанкруціцца, — да гэтага засталося зусім не шмат. Мне ўсё роўна…

Таццяна яго не слухала — яна павярнулася, каб хутчэй пайсці адсюль.

Ён ціха прамовіў ёй услед:

— Лічы, што гэта — маральная і матэрыяльная кампенсацыя за маю віну перад табой. І перад сынам… Разумею, што гэта не верне таго, што я не дадаў вам у жыцці, — але хоць так…

* * *

Выйшаўшы з кафэ, Таццяна зразумела, што паехаць у офіс у такім стане не можа: не ведала, што гаварыць людзям пра лёс іх прадпрыемства. Але хто цяпер з’яўляецца ўласнікам фірмы, ці застаецца яна дырэктарам, ці будзе ў людзей праца і заробак, чым яны стануць займацца ў бліжэйшы час, яна не ведала.

Таццяна спыніла таксі, назвала хатні адрас — больш за ўсё зараз ёй хацелася застацца адной, каб усё абдумаць, усвядоміць, што адбылося і вырашыць, што рабіць далей.

Было жаданне вярнуцца назад, плюнуць у твар гэтаму дабрадзею, адмовіцца да яго шчодрага падарунка. А затым? Затым можна ўладкавацца кудынебудзь на працу — тэхнолагам ці загадчыкам вытворчасці. Нічога, не прападзе і на такіх пасадах. Будзе жыць, дзяцей гадаваць, маці даглядаць — жывуць жа людзі і пры меншых даходах. І яна некалі жыла, і дзяцей падымала пры маленькім заробку.

Калі б гэта было не яе прадпрыемства, яна абавязкова так і зрабіла б. Але ж гэта была яе фірма, якую яны з Валодзем стваралі, як кажуць, з нуля. Столькі клопату, столькі працы ў яе ўкладзена! І вось у адзін час фірмы не стала, людзі ў адчаі: як ім жыць далей? Кінуць іх на волю лёсу, забраўшы ўсё да капейкі, маўляў, жывіце як хочаце?.. Ды многія з іх з першага дня былі разам з ёй. Несумненна, некаторыя не прападуць. І тая ж Міхайлаўна знойдзе сабе працу… І разгаворлівая Наташка таксама… І швачкі — канкурэнты іх, як кажуць, з рукамі адарвуць такіх прафесіяналаў. Не звальняліся жанчыны, ведаючы, што з фірмай нелады, спадзяваліся на нешта. Ды не «на нешта», а найперш на яе, дырэктара. Яны трывалі, шчыра спачувалі яе гору, не маглі пакінуць аднаго свайго кіраўніка ў такі час…

А яна, выходзіць, можа? І з-за чаго? З-за таго, што гонар не дазваляе ёй прыняць падачку ад чалавека, з-за якога яна столькі пакутавала.

А чаму, зрэшты, падачку? І чаму — не можа? Што там Саша гаварыў услед ёй, калі яна, ледзь стрымліваючы сябе, каб не расплакацца перад ім, шыбавала да выхаду? Казаў, што гэта — кампенсацыя за тое гора, што ён ім прычыніў? Ну вось і трэба ўспрымаць гэта менавіта як кампенсацыю. Хай будзе так…

Ад разваг яе адарваў тэлефонны званок. Таццяна спалохана здрыганулася — яна ўжо баялася тэлефонных званкоў, апошнім часам яны прыносілі ёй толькі дрэнныя весткі. Але праз момант усміхнулася: мелодыя мабільніка паведамляла, што тэлефанаваў Юра. Яго званка яна чакала найбольш, ён быў патрэбен ёй, як ніколі! Гэты званок быў першым з таго часу, як ён паехаў у суседні горад да сына і былой жонкі, каб дапамагчы ім у цяжкую часіну. Але Таня разумела, што ў яго цяпер таксама не самы лепшы час, і не крыўдавала. Зараз яна ўзрадавалася: ну вось, нарэшце… Юра ж такі разумны, дальнабачны, памяркоўны, ён яе разумее, як ніхто. Ён абавязкова дапаможа ва ўсім разабрацца, растлумачыць, параіць, што рабіць, як сябе паводзіць у гэтай сітуацыі…

Голас у Юры быў стомлены і нейкі чужы, таму адразу яна не рашылася, як хацела, расказаць яму пра ўсё сваё, што хвалявала, не давала спако.

— Ну як ты там? Што новага?— спытала Таццяна.

— Дрэнна ўсё,— уздыхнуў ён. — Горш, чым я мог уявіць…

— Госпадзі, што яшчэ здарылася?

— Зоя памерла сёння раніцай. Пахаванне заўтра…

— Божа, — толькі змагла вымавіць яна, спрабуючы здагадацца, што адчувае ў гэтую хвіліну ён, яе каханы, які некалі любіў тую жанчыну, якой зараз не стала і якая нарадзіла яму сына...

— А як Вадзім? — спытала яна праз хвіліну.

— Вельмі дрэнна, — уздыхнуў Юра. — Увогуле, Таня, мне табе трэба столькі расказаць… Але не зараз, не па тэлефоне. Я прыеду, праз дзень ці праз два, і тады мы пра ўсё пагаворым.

— Так, пагаворым, — адгукнулася Таццяна, успомніўшы, што яшчэ хвіліну таму яна сама хацела пагаварыць з Юрам, прасіць ягонай падтрымкі і парады.

Юра, здаецца, адчуў, што расказваючы пра сваё, не спытаў пра яе справы.

— А што ў цябе? — спахапіўся ён. — Што з фірмай?

— З фірмай?

Таццяна сумелася — столькі ўсяго адбылося з таго часу, як яны гаварылі апошні раз… З чаго пачаць размову: з ад’езду Валодзі, з весткі аб сваёй цяжарнасці, з Сашавай прапановы? Усё важнае, усё галоўнае, і ўсё не для гэтай завочнай размовы. Ёй трэба бачыць яго вочы.

— Юра, мне таксама трэба многае табе расказаць. Але таксама — не па тэлефоне. Прыязджай хутчэй,— амаль прашаптала яна. — Мне так цябе не хапае…

— Мне — таксама, — голас у яго, як падалося Таццяне, быў вінаваты…

* * *

Назаўтра офіс сустрэў Таццяну растрывожаным гулам галасоў. Але, убачыўшы дырэктара, усе замоўклі і ўважліва, з надзеяй глядзелі на яе. Людзі хацелі ведаць, што з імі будзе далей?

— Наташа, збяры, калі ласка, праз трыццаць хвілін у актавай зале ўсіх супрацоўнікаў, — сказала яна, пераступіўшы парог прыёмнай. — Цэх, калі там хто ёсць, таксама пакліч...

Зайшоўшы ў свой кабінет, яна ўключыла камп'ютар і адкрыла праграму «кліент-банк» — за надзеяй і страхам: што на рахунку. Глянула і скаланулася: замест учарашніх нулёў на рахунку была даволі прыстойная сума.

«Так, — падумала Таццяна. — З падаткамі ў гэтым месяцы разлічыцца хопіць. За электраэнергію заплаціць — таксама. Гэта добра, абыдземся без пені. Зарплату давядзецца заплаціць мінімальную. Нічога, людзі пагодзяцца пачакаць, калі да гэтага часу не разбегліся. Штрафныя санкцыі палякам… Мабыць, калі з імі пагаварыць, пачакаюць нейкі час. Вернецца партыя, якую яны забракавалі, трэба будзе паглядзець, можа, нешта куды-небудзь збудзем, хай па сабекошце ці нават са стратамі... Але гэта — заўтра-паслязаўтра, калі вернецца заказ. Сёння ж найперш трэба знайсці новага бухгалтара. Пытанне: каго? Ды такога, каб чалавек адразу мог заняцца справай. Значыць, трэба папрасіць Люду вярнуцца, хоць часова, хоць не на поўны дзень, пакуль знойдуць іншага чалавека. Тым больш, што знайсці некага на замену дэкрэтнага не так і проста. А Люда ж з маці жыве, тая, здаецца, ужо на пенсіі, можа, паглядзіць дзіця. Трэба пагаварыць, Люда — дзяўчына талковая, прыстойная, можа, і пагодзіцца выручыць. Ці хоць параіць каго-небудзь… Але самае галоўнае і самае цяжкае — вярнуць Святлану. Чаго б гэта ні каштавала, на любых умовах, на любую зарплату, якую яна папросіць! Такога мадэльера ў горадзе больш няма, ва ўсякім выпадку, яна такога не ведае. Калі ўдасца вярнуць Святлану, то мы вельмі хутка зможам распрацаваць арыгінальныя мадэлі для расіян і славакаў, запусціць у лінію новыя заказы і тады нават штрафныя санкцыі палякаў будуць не страшныя. У любым выпадку, дзякуй табе, Саша, — мо ўпершыню з цеплынёй падумала яна пра яго, сваё першае каханне. Падумала, і ціха мовіла, быццам ён быў побач. — Ты прабач — мусіць, я сапраўды думала аб табе горш, чым ты ёсць на самай справе. Крыўда не дазваляла думаць інакш. І за сына прабач — мабыць, ты сапраўды меў права звацца яго бацькам. Я не толькі цябе пазбавіла гэтага права, але і пазбавіла сына бацькі… Толькі што ўжо цяпер гаварыць… Не вернеш назад ні Васю, ні таго, што было. А за фірму — дзякуй. Вось ужо сапраўды не ведаеш каму верыць, на каго спадзявацца. Чалавек, якога я лічыла самым верным і надзейным сябрам, забраў у мяне ўсё. А ты той, каго лічыла нягоднікам і здраднікам, многае мне вярнуў. І ў жыцці, і ў працы. І давай не будзем гэта лічыць кампенсацыяй, як ты згарача сказаў, кампенсацыяй за тваё і мае памылкі нашай далёкай маладосці. Хай гэта будзе проста твой падарунак мне... Дзякуй, Саша».

Здаецца ёй стала лягчэй, калі яна так вырашыла: падарунак...

Таццяна накіравалася ў актавую залу, дзе ўжо сабраўся ўвесь не вельмі шматлікі калектыў фірмы — ад сакратаркі да прыбіральшчыцы.

У зале стаяла цішыня. Усе пільна глядзелі на дырэктара і чакалі, што яна скажа.

Таццяна таксама нейкі час маўчала, даўкі камяк падступіў да горла: вось яны, людзі, якія ёй вераць, якія не пакінулі фірму, ведаючы, што яна перастае існаваць.

Першай не вытрымала Наташка:

— Таццяна Аляксееўна, дык скажыце нам нарэшце: што з намі будзе?

І ўслед за ёй, перабіваючы адна адну, загаварылі жанчыны:

— Гэта праўда, што ў нашай фірмы цяпер іншы гаспадар?

— Нам што, трэба звальняцца?

— А вы застаяцеся, Таццяна Аляксееўна?

— А хто купіў нашу фірму?

— Што гэта за чалавек?

— Навошта яна яму? Што ён тут будзе рабіць?

— Куды падзеўся Уладзімір Сямёнавіч? Гэта ён прадаў наша прадпрыемства?

Таццяна ўрэшце пракаўтнула камяк, што не дазваляў прамовіць ні слова, усміхнулася.

— Колькі пытанняў! Давайце па парадку. Перш за ўсё я хачу падзякаваць вам усім за тое, што вы засталіся на прадпрыемстве, ведаючы, што яно амаль знішчана. Хто зрабіў гэта, пакуль я хварэла, вы ведаеце таксама... Хаця і з сябе я не здымаю віны і прашу вас мне дараваць. Але хачу вас супакоіць, што чуткі пра смерць нашай фірмы моцна перабольшаны. Так, нам сёння вельмі цяжка, былі ў нас і больш спрыяльныя часы. Але былі і больш складаныя, так што, думаю, перажывём і гэта.

На тварах жанчын з'явіліся асцярожныя ўсмешкі: можа, і сапраўды ўсё не так дрэнна?

— Але ўсё ж хацелася б ведаць, што адбываецца на самай справе, — сказала Тамара, галоўны эканаміст прадпрыемства, якая ва ўсім і заўсёды любіла дакладнасць.

— Не буду хаваць ад вас: Уладзімір Сямёнавіч без майго ведама прадаў нашу фірму. Але не стану ўдавацца ў падрабязнасці, што і як адбывалася потым, толькі цяпер я з'яўляюся аднаасобным уладальнікам фірмы і па сумяшчальніцтве — яе дырэктарам. Так што фірма засталася нашай.

Зала зашумела, загаманіла, пачуліся галасы.

— Дык гэта ўсё мяняе...

— Будзем працаваць...

— А што будзе з польскім заказам?

— І што цяпер з зарплатай? Нам тры месяцы не плацілі за перапрацоўку.

— Я ж кажу: становішча ў нас сёння складанае, — развяла рукамі Таццяна. — Палякі вяртаюць забракаваную партыю прадукцыі і да таго ж выстаўляюць штрафныя санкцыі. Так што ў бліжэйшы час заплаціць вам даўгі па зарплаце мы наўрад ці зможам. І ўвогуле — з фінансамі цяпер туга, давядзецца патрываць некалькі месяцаў, пакуль увойдзем у нармальны графік работы і заробім грошы. А для гэтага ўсім нам давядзецца даволі напружана папрацаваць. Пакуль за невялікія грошы. Тым, хто захоча, вядома. Я вам шчыра намалявала нашу няпростую сітуацыю. Калі хто захоча звольніцца, трымаць не буду — гэта ваша справа. Тым, хто паверыць мне, як верыў і раней, я абяцаю, што ў бліжэйшыя тры-чатыры месяцы, максімум — паўгода мы вернемся на ранейшы ўзровень вытворчасці, і я пастараюся кампенсаваць вам усе панесеныя страты. Такі вось расклад на сённяшні дзень. Так што заставацца ці звальняцца — кожны павінен вырашаць самастойна. Дзякуй вам за ўсё, — дадала яна і пакінула залу.

Таццяна зайшла ў свой кабінет, села за стол, разгарнула нейкую папку, са страхам прыслухоўваючыся да таго, што робіцца ў прыёмнай. Баялася: раптам усе, хто быў у зале прыйдуць сюды, каб напісаць заявы на звальненне? Што яна тады будзе рабіць? Грошай мала, спецыялістаў не будзе...

Тым часам у прыёмнай пачулася нейкая валтузня, нехта ўсхліпнуў, неўзабаве адчыніліся дзверы, і на парозе з'явілася заплаканая Наташка:

— Таццяна Аляксееўна, вам кавы зрабіць?

— Так, калі ласка. Хаця не — лепш гарбаты. Зялёнай, без цукру. І, калі можна, з малаком… А ты чаму плачаш? Пакрыўдзіў хто?

— Так, — уздыхнула Наташка. — Коля, вадзіцель. І Насця, наша маладая швачка. Вы яе не ведаеце, яна прыйшла, калі вы хварэлі. Яны заявы на звальненне напісалі. Сказалі, што няма тут больш чаго лавіць.

— Ну дык і чаму ты расплакалася? Кожны ж шукае, дзе лепш.

— А я лічу, што гэта — здрада! Ну, хай сабе Насця, яна з вамі не працавала, не ведае нічога, зялепуха! А Коля?! Хто яго на работу прымаў? Хто дапамагаў, калі жонка хварэла, калі маці памерла? А ён зараз, калі ў вас бяда, хутчэй у кусты, як той заяц… Мужчына называецца!

— Ну, дарэмна ты так, Наташка, — пастаралася ўсміхнуцца Таццяна. — Колю ж таксама трэба сям'ю ўтрымліваць, дзяцей вучыць…

— І Міхайлаўне трэба! І Тамары! Яна ўвогуле адна з дзецьмі, але не кінулася лепшага месца шукаць. А гэты… Здраднік!

— Наташа, ніколі не раскідвайся такімі словамі! — строга сказала Таццяна. — Ты ж не ведаеш, чаму чалавек так робіць. Гэта яго права — працаваць там, дзе яму лепш. І ваша, дарэчы, таксама — ва ўсіх сем'і…

— Ды як вы можаце, Таццяна Аляксееўна? — пакрыўджана надзьмулася Наташка. — Мы з вамі столькі пражылі разам. Ды з вамі — хоць у бездань!

— Добра-добра, — засмяялася Таццяна. — Але ў бездань не трэба, выкараскаемся, горшае бачылі. А вось гарбаты зрабі, калі ласка… І, калі можна, знайдзі мне тэлефон Святланы, нашага былога мадэльера. І Люды, бухгалтаркі.

Таццяна моцна спадзявалася на Люду — думала, што тая пагодзіцца выручыць фірму ў цяжкі момант. Але Люда, ледзь не плачучы, адмовіла. Не можа яна выйсці на працу: дзіця яшчэ зусім малое, грудзьмі корміць. А маці хварэе, немаўля на яе не пакінеш… Муж увесь час у камандзіроўках.

Таццяна ўсё разумела, падумала, цяжка ім будзе без акуратнай і дакладнай ва ўсім Люды, ды яшчэ з улікам сённяшняга развалу ў бухгалтэрыі.

Праўда, Люда падказала магчымае выйсце: параіла звярнуцца да сваёй свякроўкі, тая нядаўна пайшла на пенсію, таксама працавала галоўным бухгалтарам, хоць і ў іншай сферы — у будаўніцтве. Таксама сказала, яна, Люда, дапаможа новаму бухгалтару, свякрові, ці каму іншаму ўвайсці ў курс спраў, будзе кансультаваць, калі трэба.

«Ну што ж, не самы горшы варыянт з магчымых, — думала Таццяна, падсумоўваючы вечарам вынікі гэтага цяжкага, у многім пераломнага дня. — Трэба запрасіць на работу Людзіну свякроў. Калі дасць згоду, гэта будзе няблага, Люда ёй дапаможа, падкажа. Працавала бухгалтарам у будаўніцтве? Ну і што? Затое вопыт вялікі ў бухгалтарскай справе, а гэта мае яшчэ якое значэнне...»

Пакуль званіць Людзінай свякрові Таццяна не стала: пазней... Пазваніла Святлане. Дзяўчына, пачуўшы яе голас у трубцы, не хавала сваёй радасці: распытвала пра здароўе, пра справы фірмы. А пачуўшы прапанову вярнуцца, адразу ж пагадзілася, удакладніла толькі, ці праўда, што Уладзімір Сямёнавіч больш на фірме не працуе. Сказала, што на новым месцы яна не атрымлівае ніякага задавальнення ад сваёй работы: суцэльная шэрая руціна. Гаспадары эканомяць літаральна на ўсім, мадэлі прымушаюць ствараць просценькія, без усялякага палёту фантазіі — з такімі і студэнтка-першакурсніца справіцца. Тканіну купляюць самую танную, фурнітуры — самы неабходны мінімум: ні даць, ні ўзяць — спецадзенне шыюць. Да таго ж у калектыве пануюць звады, сваркі, плёткі — цяжка ёй там, сумна... І нават прыстойная зарплата, якую ёй плацяць, не трымае яе.

Святлана паабяцала, што заўтра прыйдзе, каб усё абмеркаваць, а праз тыдзень прыступіць да работы: вельмі сумуе па тых мадэлях, якія пачала ствараць для славакаў і расіян, але не паспела закончыць.

— Не паверыце — яны мне па начах сняцца, — прызналася дзяўчына Таццяне.

«А заўтра, у крайнім выпадку паслязаўтра, прыедзе Юра — і ўсё будзе добра. Мы ўсё абмяркуем, вырашым — і будзем разам працаваць. Разам — гэта не адной…» — думала Таня, уладкоўваючыся пад цёплай коўдрай з адным жаданнем: хутчэй заснуць, каб хутчэй наступіла заўтра…

* * *

Але назаўтра Юра не з'явіўся. І не пазваніў. Гэта ўсур'ёз занепакоіла Таццяну. Яна хвалявалася: што ў яго яшчэ здарылася? Але сама тэлефанаваць баялася — ці мала чым ён там заняты, яе званок можа быць не ў час, недарэчы…

Толькі на наступны дзень вечарам ён пераступіў парог кватэры. Адчыніў дзверы сваім ключом, і калі яна, пачуўшы гэта, радасная выйшла ў калідор, не распранаючыся абняў яе. Некалькі хвілін — ёй падалося, што цэлую вечнасць, — стаяў, прыпаўшы вуснамі да яе вуснаў і сціснуўшы ў абдымках плечы так, што яна нават не магла варухнуцца.

Юра маўчаў, і яна маўчала, з першага погляду зразумеўшы, што яму зараз вельмі цяжка… Ён быў непадобны сам на сябе — нейкі разгублены, ніякаваты, учарнеўшы, нібы пастарэў за гэты тыдзень на некалькі гадоў.

Таня асцярожна вызвалілася з яго абдымкаў і, пакуль Юра мыўся, разагрэла вячэру, паставіла на стол — усё моўчкі. Калі і ён нарэшце сеў за стол, уладкавалася насупраць і, падпёршы рукой шчаку, моўчкі глядзела, як ён еў — акуратна, але прагна, падумала, мабыць, згаладаўся. І толькі калі ён пад'еў, паставіўшы на стол кубкі, для яго з кавай, сабе — з гарбатай, прамовіла:

— Ну, расказвай…

— Давай ты першая… — узняў вочы Юра. — Што там, на фірме?

— Ат, — махнула яна рукой. — Па-рознаму. Спачатку было вельмі дрэнна, цяпер пачынае паціху наладжвацца.

— Дык што дрэнна? І што пачало наладжвацца? — узняў вочы Юра. Але было бачна, што цяпер найперш не гэта турбуе яго.

— Калі расказваць падрабязна, то вечара не хопіць. А калі ў двух словах, дык усё прыкладна так, як ты казаў, толькі яшчэ горш. Валодзя прадаў без майго ведама фірму, забраў усе грошы і разам з бухгалтаркай знік у невядомым кірунку. Палякі вяртаюць заказ і выстаўляюць штрафныя санкцыі.

— А што ж тады наладжваецца?

— Тое, што фірму ўсё ж удалося вярнуць. Не пытайся, як — аб гэтым пазней. Святлана пагадзілася вярнуцца на працу. Люда параіла кандыдатуру новага бухгалтара, сваю свякроў. Так што яшчэ паваюем. Але не гэта зараз галоўнае. Ты лепш раскажы: што там у цябе?

Юра не спяшаўся гаварыць. Ён марудна піў каву, паглядваючы ў акно, здаецца, не бачыў ні яе, ні кватэры, ні таго, што адбываецца за акном. Здаецца, ён глядзеў у сваё мінулае.

— Ведаеш, Таня, я адчуваю сябе нягоднікам, — нарэшце ён пачаў гаварыць. — Усе гэтыя гады я жыў з крыўдай на Зою за тое, што яна зламала маё жыццё, як абышлася з маёй мамай. Я ўвесь час шкадаваў, што не змог пасля

ўсяго, што адбылося, пагаварыць з сынам. Але думаў, спадзяваўся, верыў: Вадзім падрасце, стане самастойным і мы абавязкова сустрэнемся, я ўсё яму растлумачу, і сын мяне зразумее. Я не думаў, што магу спазніцца… Не думаў, што ён увесь гэты час чакаў мяне — і не ведаў, чаму я не прыязджаю, не разумеў, што я адкладваю нашу сустрэчу да яго паўналецця. Ды і адкуль ён мог гэта ведаць? І ўвесь гэты час, пакуль мяне не было побач з ім, пакуль я чакаў моманту, калі нам можна будзе пагаварыць, з ім гаварылі іншыя і тлумачылі мае паводзіны, як хацелі. Увесь гэты час, пакуль я адкладваў нашу сустрэчу, у яго былі іншыя настаўнікі ды выхавацелі. І, заўваж, не лепшыя. А ён быў дзіця.

Было відаць, што Юру вельмі балюча, што кожнае ягонае слова нібы прадзіраецца праз вострыя цвікі, праз яго скрываўленую душу…

Тані вельмі хацелася ўзяць яго за руку, прытуліцца да пляча, каб ён зразумеў, адчуў: яны — разам. Але яна баялася парушыць гэтую хвіліну шчырасці і таму моўчкі, з невыказным спачуваннем, глядзела на яго.

— Як высветлілася, Зоя пасля таго, як «уладкавала» мяне ў турму, мяняла як пальчаткі мужоў, месца жыхарства, кватэры — таксама. І паціху співалася… Урэшце, без працы, з букетам хвароб апынулася разам з Вадзімам у нейкім брудным пакойчыку ў камуналцы. Яны галадалі. Затое на гарэлку грошай у яе заўсёды хапала! Напакутаваўся сын… Але ўсё роўна шкадаваў яе: маці ж. І лічыў, што я ва ўсім вінаваты: Зоя яму расказала, што гэта я іх тады кінуў, а потым трапіў у турму. Пра грошы, што я ім пасылаў, нават калі сам на вакзале начаваў, Зоя, вядома ж, сыну нічога не казала. А падарункі — і мае, і маміны да дня нараджэння і Новага года выдавала за свае… Словам, я быў адгароджаны ад сына, і ён лічыў мяне кепскім чалавекам.

Юрый змоўк і апусціў галаву. Маўчаў ён доўга, нібы збіраўся з думкамі, каб сказаць галоўнае. І сказаў:

— Таня, сына я амаль што страціў. Вельмі спадзяюся, што амаль, што яшчэ можна нешта зрабіць. Вадзім падлетак ужо, але, як кажуць, цяжкі. Школу кінуў год таму, маці не было справы да таго, вучыцца ён ці бадзяецца па вуліцах. А яму трэба было карміць сябе і маці, ды яшчэ знаходзіць ёй грошы на выпіўку. Хлопец курыць, выпівае, стаіць на ўліку ў камісіі па справах непаўналетніх — папаўся, калі краў булачкі ў магазіне.

— Дык ён, мабыць, хацеў есці! — усклікнула Таццяна і замоўкла.

Змоўк і Юра. Зноў надоўга. Таня хацела спытаць яго пра многае, але адчувала, што яму трэба выгаварыцца…

— Так, ён хацеў есці. Уяўляеш, мой сын хацеў есці, — уздыхнуў Юра. — Таму краў. У гэтым вінавата не толькі яго маці, якой ужо няма, а і я. Увогуле я вінаваты ў тым, што ён такім стаў. Ён выхоўваўся так, што неўзлюбіў людзей, стаў азлобленым, а я ў гэты час жыў сваім жыццём… А цяпер маці яго няма, і я адзін у адказе за сынаву будучыню. І не толькі за тое, каб ён быў адзеты і абуты, сыты, а каб вярнуўся ў школу, вырас чалавекам. Галоўнае сёння не адштурхнуць яго ад сябе, памагчы яму зразумець, ягонае жыццё павінна быць іншым, сапраўдным. Я не ведаю, ці атрымаецца гэта ў мяне, але паспрабую. Толькі...

— Юра, дзе зараз Вадзім?! — не вытрымала, перарвала яго Таццяна. — Дзе твой сын?

— Я забраў яго з сабой, — узняў на яе вочы Юрый. — Не мог жа пакінуць хлапчука аднаго ў пустой кватэры, у горадзе, дзе ў яго нікога роднага няма.

— Гэта зразумела. Але чаму ты прыйшоў сюды адзін? Дзе твой сын? — паўтарыла яна.

— Я адвёз Вадзіма да сястры.

— А чаму не сюды? — Таццяна глядзела на Юрыя з дакорам.

— Таня, па-першае, нам з табою трэба было пагаварыць, абмеркаваць усё тое, што здарылася за гэтыя дн. — Юра мякка крануў яе за руку, нібы прасіў прабачэння. — А па-другое… — ён апусціў галаву і зноў замоўк.

— І што — па-другое? — не вытрымала Таццяна.

Юра падняў галаву і пранізліва паглядзеў ёй у вочы:

— Таня, па-другое, і гэта самае галоўнае — я не магу абцяжарыць цябе Вадзімам. Ён вельмі няпросты падлетак. Баюся, што табе з ім будзе складана.

Тані здалося, што Юра яе моцна ўдарыў, наводмаш: недзе там, у сонечным спляценні, моцна забалела і пацямнела ў вачах — яна аж задыхнулася…

Мусіць, гэты боль адбіўся на твары, бо Юра ўскочыў і спалохана кінуўся да яе:

— Танечка, што з табой? Табе дрэнна? Што здарылася? Можа, «хуткую» выклікаць?

Таня расплюшчыла вочы:

— Так, Юра. Мне дрэнна. Мне вельмі баліць. Але «хуткую» выклікаць не трэба. Бо гэты боль прычыніў мне ты…

— Я? Чым?

— Ты не здагадваешся? — яна горка ўсіхнулася. — Ты, які тры месяцы назад падарыў мне вось гэты пярсцёнак, — Таня падняла правую руку, на сярэднім пальцы якой зіхацеў яго падарунак.

Юра ад нечаканасці апусціўся ў крэсла: яна зноў надзела пярсцёнак, яна прыняла яго прапанову! Але ж — позна…

А Таня працягвала з болем і крыўдай у голасе:

— Ты ратаваў мяне ад дэпрэсіі, паіў мяне чаем і амаль што сілком выводзіў на прагулку, калі я праганяла цябе з гэтай кватэры і са свайго жыцця. Ты прымусіў мяне выйсці на работу і пераконваў, што толькі РАЗАМ мы зможам усё пераадолець і ўсё вытрымаць… І сёння, калі ў цябе здарылася бяда, ты не лічыш магчымым падзяліцца са мной сваім болем. І пры гэтым ты не разумееш, ці робіш выгляд, што не разумееш, чаму мне баліць, чым ты мяне пакрыўдзіў. Я аднаго не магу ўцяміць: ты так мала мяне ведаеш ці так дрэнна пра мяне думаеш?

Юра прысеў на дыбачкі і ўткнуўся тварам у яе дрыготкія калені. Таня гладзіла яго непаслухмяныя валасы, не звяртаючы ўвагі на салёныя ручаінкі, што сцякалі па шчоках.

Урэшце ён узняў галаву:

— Таня, я цудоўна цябе ведаю — можа, нават больш, чым ты сама сябе. Я неаднойчы гаварыў і гатовы паўтараць гэта бясконца, што ты — самая лепшая з усіх жанчын, якіх я сустракаў у сваім жыцці. І я кахаю цябе, як ніколі нікога ў жыцці не кахаў, — Юра абхапіў яе галаву рукамі і стаў пяшчотна цалаваць салёныя ад слёз вочы, шчокі, шыю…— Але ж, Танечка, мілая, зразумей мяне — ты ж заўсёды мяне разумела… — ён адхінуўся і сеў насупраць: — Паўтараю, Вадзім не проста падлетак — ён цяжкі падлетак. Вельмі цяжкі… Ты нават не ўяўляеш, які ён. Мне здаецца, ды я перакананы, што ён цябе не прыме, якой бы добрай з ім ні была б. Асабліва цяпер, калі яшчэ свежыя ўспаміны пра маці. Яна была зусім іншай, не такой, як ты, — і ўсё роўна ён яе любіў… А ты ў яго разуменні — жанчына, якая адабрала ў яго бацьку, забрала шчасце ягонай маці, зламала жыццё яго сям'і. Павінен прайсці час, пакуль ён зразумее, што гэта не так, калі ўвогуле зразумее. Я, толькі я —

сам, адзін павінен растапіць лёд у яго душы, прымусіць зноў паверыць у людзей. І, магчыма, потым, пасля ўсяго, мы зможам зноў паспрабаваць жыць усе разам

— Пасля ўсяго… — Таня выцерла слёзы. — І колькі, ты думаеш, прадоўжыцца гэтае «пасля ўсяго»?

— Я не ведаю, Таня, — паціснуў плячыма Юрый. — Я не думаю, што хтонебудзь увогуле можа гэта ведаць…

— А ты не думаеш, Юра, што за той час, пакуль будзеш ратаваць аднаго сына, ты можаш страціць другога?

— Ты пра што гэта? — ён глядзеў недаўменна. — Якога яшчэ другога сына?

— Нашага з табой сына, Юра…

— Андрэйку? — Юрый вырашыў, што зразумеў, аб чым яна гаворыць. — Але, Таня, я ж не адмаўляюся ад Андрэйкі! Я буду яго наведваць, дапамагаць вам… Але зразумей мяне правільна — у Андрэя ёсць ты. А ў Вадзіма — нікога… Зусім нікога — акрамя мяне…

Таня паглядзела на Юрыя пранізліва, нібыта вырашала: казаць ці не? Можа, хай ідзе з Богам, калі ён так вырашыў, калі лічыць, што яе падтрымка яму непатрэбна. І яна без яго дапамогі абыдзецца. Справіцца, не ўпершыню!

І раптам яе позірк упаў на Васеў фотаздымак — сын уважліва глядзеў на яе з-за шкла Сашавымі разумнымі блакітнымі вачыма.

«Не, я не маю на гэта права — сіраціць свайго ненароджанага сына, аднаасобна вырашаць яго лёс. Хопіць, аднойчы ўжо зрабіла гэта — да скону буду раскайвацца. Ёсць рэчы больш важныя, чым уласны гонар…»

І ўздыхнуўшы, Таццяна ціха прамовіла:

— Юра, зараз я гаварыла не пра Андрэйку. Я — пра іншага твайго сына.

Юра паглядзеў на яе недаўменна:

— Ты аб чым, Таня? Я цябе не разумею…

— Юра, ты быў настолькі заняты сваімі праблемамі, што так і не знайшоў часу пагаварыць пра мае справы. Ці, дакладней, пра нашы агульныя.

Юрый сумеўся:

— Сапраўды… Ты прабач… Але ж я пытаўся, а ты ўсё — потым, потым…

— Ну вось, гэтае «потым» нарэшце надышло, — сумна ўсміхнулася Таццяна. — Час, можа, не вельмі падыходзячы, але так атрымалася… Дык вось, Юра, дазволь табе паведаміць галоўную навіну нашага з табой жыцця: я цяжарная. Тры месяцы. Думаю, што гэтае дзіця — вынік той самай нашай ночы, — яна зноў узняла ўгору правую руку з пярсцёнкам на пальцы.

Ён пільна глядзеў на яе і не мог прамовіць ні слова.

— Не ведаю, што ты думаеш з гэтай нагоды, але адразу хачу папярэдзіць: што б ты зараз ні сказаў, як бы ні ўспрыняў гэтую навіну, я ўжо прыняла рашэнне, і яно — канчатковае і беспаваротнае: я буду раджаць! — рашуча сказала Таццяна.

— Таня… Танечка… — нарэшце загаварыў Юрый — і голас у яго задрыжэў. — Я… Я нават не ведаю, што сказаць… Гэта праўда? Ты мяне не разыгрываеш? Але чаму ты маўчала ўвесь гэты час?

— Ну, ты ж памятаеш, якой я была гэтыя тры месяцы, — уздыхнула Таццяна. — Я часам сама не разумела, жывая ці мёртвая. А потым, у той дзень, як ты паехаў… Тады столькі ўсяго здарылася… Словам, я страціла прытомнасць, мяне забралі ў бальніцу — а там усё і высветлілася.

— Дык чаму ж ты мне не сказала адразу, як даведалася?

— Табе было не да таго. Ты быў заняты сваімі праблемамі, і я не хацела нагружаць цябе новымі.

— Так, сапраўды — я быў не вельмі ўважлівы. Але потым… І сёння, зараз — гэта ж самае галоўнае! А ты маўчыш!

— Нават больш важнае і галоўнае, чым Вадзім? — паглядзела Таццяна яму ў вочы.

Юра сумеўся.

— Ну, можа, і не больш… Але — і не менш! І потым — гэта ўсё мяняе! Літаральна ўсё!

— Гэта сапраўды ўсё мяняе, Юра, — Таня пяшчотна кранула яго за руку. — Я спадзяюся, што ты ўрэшце пагодзішся са мной: мы павінны жыць разам, адной сям'ёй, не дзелячы дзяцей, радасці, праблемы, клопаты. Калі ты захочаш і дазволіш, калі ты паверыш мне, Юра, то ў Вадзіма будзе самая сапраўдная сям'я. І я ўпэўнена, што твой сын рана ці позна прызнае і сваіх братоў, і мяне — калі не як маці, я не магу прэтэндаваць на гэта, хоць і вельмі хацела б, то хоць бы як тваю жонку! Любоў і шчырасць многіх — гэта больш, чым любоў аднаго, нават самага дарагога чалавека! І яна можа многае! — упэўнена сказала Таццяна. — І, як ты пераконваў мяне некалі, разам мы зможам усё пераадолець. А паасобку — толькі ламацца лёгка. Так што давай заўтра паедзем да тваёй сястры, забяром Вадзіма — і будзем вучыцца жыць разам…

— Але, Таня, табе будзе вельмі цяжка, — зноў унурыў галаву Юрый. — Можа, хай ён пажыве пакуль у сястры? Я думаю, Валя пагодзіцца, не адмовіць мне.

— Ты разумееш, што ты гаворыш, Юра? Нават калі ты зможаш растлумачыць сыну сваю адсутнасць у яго жыцці на працягу ўсяго гэтага часу, то, калі ты пакінеш яго зараз, ён не даруе табе гэтага ніколі. І мне — таксама. Так што давай паспрабуем будаваць новую сям'ю. Разам паспрабуем: ты, я, Вадзім. Потым Андрэйка прыедзе, яны ж амаль равеснікі, думаю, знойдуць агульную мову. Затым малыш з'явіцца — Вадзім не зможа не палюбіць свайго брацікa.

— Адкуль ты ведаеш, што гэта — сын? — ужо зусім іншым, раўніва-клапатлівым тонам запытаў Юра. — А можа, дачка?

— Я не ведаю — я так адчуваю, — засмяялася Таццяна, а потым сур'ёзна дадала: — Мне здаецца, што гэта Бог пасылае нам сына замест Васілька.

— Ну добра, хай будзе сын, — крыху падумаўшы, кіўнуў галавой Юра. — Але паабяцай мне, што ты народзіш яшчэ і дачку! Я так мару, каб у мяне была дачушка, падобная на цябе!

— Ты звар'яцеў, Юра, — радасна засмяялася Таня. — У маім узросце…

— У тваім узросце ўсё да твару: і вясельная сукенка, і вялікі жывот, і каляска! Так што заўтра ідзём у загс, затым — забіраем Вадзіма! Ты згодна?

Яе адказ патануў у доўгім пяшчотным пацалунку…



Рагнед МАЛАХОЎСКІ

# ГАРАЧАЕ СЭРЦА ПАЭТА

* * *

Я вярнуўся
З чужынскіх мясцін,
Болей лёс мой
Там крочыць не хоча.
Тваe рукі —
На целе маім, —
Як пяшчотныя хвалі Нарочча.

Мы пакрочым па ціхай вадзе...
Светлячок дыяментавай зоркі
Адзінокі па небе брыдзе
Асвятляць прыбярэжныя ўзгоркі.

Беражэ нас азёрны спакой
Ад спакусаў вірлівага свету.
Дакраніся адданай рукой
Да гарачага сэрца паэта.

У дыханні святой цішыні —
Надвячорак рубінава-росны.
Толькі падаюць зорак агні,
Дзе шумяць нарачанскія сосны.

* * *

Ценем затуманенага саду
Ціхі вечар вусны мне кране.
Я хмялеў ад рэха лістападу,
А яно смяялася з мяне.

---

***Малахоўскі Рагнед Юр'евіч*** *нарадзіўся 5 верасня 1984 года ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці (Расія). У 1987 годзе сям'я вярнулася на радзіму ў Нарачанскі край. Скончыў факультэт фінансаў і банкаўскай справы Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта (2009).*

*Працаваў у часопісах «Полымя», «Бярозка», «Маладосць».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Беражніца» (2005), «У дзённай мітусні» (2012).*

Ля агню,
Што грэў душу шыпшыне,
Грэшны —
Шлях жыцця сваго знайшоў.
Па самотнай восеньскай сцяжыне
Я, нібы да споведзі, ішоў.

Ты насустрач крочыла, як мара.
Ты — спакуса,
Я — сляпы адчай.
Пад пажадным поглядам пажару
Аднаго мяне не пакідай.

Танчаць цені вогненнага саду,
І адчай спакусы не міне...
Стаць бы мне самому лістападам.
Ды ці зразумееш ты мяне?

* * *

Як да спакусы
Ў снах не дахаджу,
Каханне
З галавы дурноцце выб’е.
І зноў надрыўна
Клічнікі дажджу
Крычаць аб вечным
На дрыготкай шыбе.

## ПАМЯЦЬ НОЧЫ

Пыл асеў.
Наўкол астылі папялішчы.
І прыкінулася ноч
На памяць хвораю...
Покуль кулі
Над галовамі не свішчуць,
Пераможцы перапісваюць гісторыю.

* * *

Я кінуў шмат
Кахання слоў на вецер
І столькі шчырых слоў
Недасказаў!..
Ці зменіць штосьці
Ў закаханым свеце
На гэты раз
Апошняя сляза?

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

# БОЛЬ У ВАЧАХ

*Запісы, вершы*

***Кожнае чалавечае жыццё — свая аповесць. Яна пішацца тады, калі гарыць зямная свечка. Бывае, наўздагон гаворым душэўныя словы, якія варта б сказаць прылюдна, услых. Шкада, спазняемся, не паспяваем рабіць дабро.***

***Блакноты ваеннага часу Эдзі Сямёнаўны Агняцвет даўно ляжаць у сямейным архіве. І толькі цяпер гэтыя ўнікальныя запісы прачытваюцца нанова. Прыемна, што такі давер дадзены мне. Захавальнік іх, пляменнік Эдзі Сямёнаўны Бахціяр Бахціяраў, усе гэтыя гады беражліва захоўваў папку з рукапісамі.***

***Трапяткое хваляванне ахоплівае, калі ўяўляеш, што старонкі сваіх рукапісных блакнотаў паэтэса запаўняла ў гады ліхалеццяі адразу пасля яго. Хай поле бою было далекавата ад месца яе эвакуацыі, але бяда адчувалася ў той час паўсюдна, кранала кожную чуллівую душу.***

***Запрашаю ў ваенны свет мрояў, роздуму і клопатаў незабыўнай Эдзі Агняцвет. Для мяне яна заўжды ў сэрцы і памяці. Яе пасляваенная кніжачка вершаў «Васількі» прыпадае на той час, калі я навучыўся чытаць і атрымаў у падарунак ад вясковай настаўніцы Аляксандры Лявонаўны Рудкевіч менавіта агняцветаўскія «Васількі». Пазней Эдзі Сямёнаўна рэкамендавала мяне ў Саюз пісьменнікаў, дала згоду быць членам рэдкалегіі «Вясёлкі», якую ўзначальваю па сёння.***

Уладзімір ЛІПСКІ

* * *

Поле, як мора, шырокае, зялёнае. Не схамянецца шэрая світка за сінія хмары. Маладзіца. Ігрышча-свішча. Тануля-зязюля. Пакіну-мякіну. Неслухмяны. Вяроўкі шыбенец. Смык. Звон сярпа і касы. Мёд ліп. Хмурны край. Гранне — ранне-стане. Цветам — летам. Восень — сосен. Як дзецел, сеўшы на галінку, зімовую песню загудзіць. Зімою лес у крышталях. Купіны. Бусел хаваецца ў гняздо. У дрымоце — пры плоце. Залатое зерне з жмені — каменні. Мухаморы — гараць іх каўнеры. Баравік аб пень абпёрся, злы стаіць. Як пралеска, дзяўчынка. Гаспадыня — скрыня. Адно пёрка — горка. Буслы імкліва ляцелі на вырай. Глыбокая задума…

* * *

Дзядуля! Як той жаваранак прыляціць, то няхай мне хустачку прынясе, а мне — дудку і коніка. У жаваранка — чорныя вочкі, сам — шэранькі. Яны пяюць ад святла да змяркання, ім заўсёды добра і весела жывецца. Вясна ўжо блізка. Вось-вось за лесам вялікім, за рэчкай стаіць. Мох — мог. Хмара з хмарай пайшлі ў гулі. Узнялася б, здаецца, расінкай на хмары, а хмарам ды ветрам сказала я гнаць. Далёка-далёка, дзе сняцца яшчэ мне чары, дзе боры густыя над Нёманам шумяць. Бусел на гумне кляўкоча. Суравежкі. Знак — сваяк. Па бярозках сойка скача.

### У нямецкай няволі

Колькі болю ў вачах хмурых,
Колькі скаргі з губ збялелых,
Колькі срэбра ў косах густых,
Колькі поту з рук абялелых!..
А за гэта вам дзве дошкі
І крыж з хвоек ледзьве збіты.

* * *

Палеткам-кветкам. Адцуралася. Ноч, як мора бяскрайняе. Старац. Суніцы.

* * *

Тэма для дзіцячага верша: «Мая мама».

У мяне мама зусім маладая. У мяне ёсць сівая, добрая бабулька. Ну, а тата, там дзе ўсе добрыя таты — на вайне. Учора мамка гаварыла да сівой-сівой бабулі:

— Я паеду ў шахты.

— Мама, што такое шахты? І куды ты, мама, едзеш?

Мама абняла мяне і на вушка прашаптала:

— Бачыш, там садок маёвы? Я хачу, каб цвіў яшчэ садок на зямлі, і таму буду я працаваць пад зямлёй. Каб ззялі твае вочкі-вугалёчкі, — я буду вугаль здабываць. Каб татка твой вярнуўся з перамогай, — я вугаль буду здабываць.



*Старонка з запісных кніжак Эдзі Агняцвет.*

От, якая ў мяне мамка! Проста цуд, а не мамка! Ну, няхай яна паедзе. Я з бабуляй застануся, буду трохі сумаваць, у садку сваім гуляць.

* * *

Думка горнецца. Дрэўца. Сэрца гатова было разарвацца. Глухія сцежкі. Стагоднія хвоі шумелі надвечным роўным шумам. Пагарэлец. Я над ім калінаю стану, каб не пякло сонца, не таптлі ягонай магілы. Вясна пазычыла ў вясёлкі ўсе колеры яркія. Ноч, як мора. Пакланюся магіле тваёй. З-за блакітнай Дзвіны да мяне далятаюць словы і, як дзеці, мяне абдымаюць і кажуць: хоць нам цяжка ў няволі было, а мы верылі ў волю, не паддаліся мове чужой, нямецкай.

* * *

Пяцігадовую дзяўчынку схапілі немцы, білі яе. Дзяўчынка плакала і прыгразіла: «Прыедзе мой тата і ўсіх вас застрэліць». Яе забілі на месцы.

Самарканд. Бяздоннае неба. Блакітнае, як старажытныя ізразцы, павісла над горадам Цімура. Стройныя мінарэты на Рэгістане імкнуць свае верхавіны ўвысь. Праменні заходзячага сонца струменяць па калярова-вычварнаму арнаменту. Хваля святла прабягае, быццам жывая з зубчатай верхавіны да самага падножжа мінарэта мячэці Шыр Дар.

Пяць стагоддзяў глядзяць гэтыя гіганты на шматлюдны Самарканд, які шуміць ля іх падножжа.

* * *

Ліст у бяссмерце (прысвячаю брату).

Гэты ліст я пішу да цябе у бяссмерце. Цябе няма на свеце. Адтуль не прыходзяць. Калі вецер у коміне вые — мне здаецца, твая душа просіцца ў хату…

* * *

Маленькі хлопчык упершыню ўбачыў люстра. Ён глядзіць на сябе (сваё адлюстраванне) і кажа: «Да пабачэння, бывай!» І махае рукой свайму сябру ў люстры.

* * *

Адзін чалавек ехаў у тралейбусе і пасварыўся з другім. Той пасмяяўся з яго, а чалавек усхваляваўся і кажа: «Чего смеётесь? Думаете, у вас лазурный смех? Нет, у вас — черноглазый, злой смех!»

* * *

Яму патрэбна была не гэтая жанчына, а наогул жанчына, як адчуванне нечага мяккага, цёплага.

* * *

Дуэт маці і дачкі: чаму ты, доня, сумная такая, можа, хворая? Дачка адказвае, што надвор'е кепскае, што сонца мала. Раптам выглянула сонейка, а дачка ўсё сумуе. Нарэшце, яна прызнаецца маці — яна любіць. Прышлі мне кавалак узбекскага сонца! Прышлі!

* * *

Адна жанчына гаварыла, што кахае свайго мужа, як маці любіць сына. Яна гатова за яго аддаць, адсячы сабе руку, але яна не адчувае сябе з ім, як жанчына-жонка, каханка. Яна хоча адчуць сябе жанчынай у поўным сэнсе гэтага слова.

* * *

Ціхая галубка — так называлі яе.

* * *

У маёй бабкі пасля першага дзіцяці было шмат малака лішняга. Ёй прапанавалі карміць шчанё.

На чалавечым малацэ шчанё вельмі хутка расце і існуе такое павер’е, што ўкус ад такога сабакі смяротны. Да яе прыехала сястра. Сабака накінуўся на незнаёмую жанчыну. Пакусаў яе. Бабка так спалохалася, што ей млосна стала, пасля ў яе было хворае сэрца. А з сястрой нічога не здарылася, яна была жыва-здарова.

* * *

Калі я была маленькай, над маім акном заўсёды спявала птушка. Я любіла гэтую шэрую пявунню ластаўку. Кожнай раніцай выскоквала на двор, і яна садзілася на маю руку і ела хлеб, зярняткі.

Аднойчы нечы кот схапіў маю сяброўку. Я гналася за ім, біла яго кіём. Ён выпусціў яе з зубоў, але ластаўка памірала. Яна ў апошні раз тоненька заспявала: цірлі-цірлі. І памёрла. Я пахавала яе ў садзе. Пасадзіла на магілку кветак.

Другая ластаўка прыляцела, заспявала над яе магілай. Мабыць, гэта сястра яе?

* * *

У нашым доме шэсць кватэр. Прывезлі ў кожную кватэру па гадзінніку. Кожны гадзіннік б’е па-рознаму. Адзін б’е дванаццаць, другі — праз пяць хвілін.

Прыйшоў у дом майстар, наладзіў усе гадзіннікі. Б’юць яны хорам, і спяваюць хорам, а трэці — праз пятнаццаць і рэха разносіцца па ўсім доме. Адзін сусед прыходзіць рана на працу, другі спазняецца. Як зрабіць, каб яны правільна адмервалі час?

* * *

Ты назваў мяне ільдзінай? Будзь маім паўдзёным сонцам, каб я стала паводкай веснавою.

* * *

Яны ішлі ўдваіх па халоднай восеньскай вуліцы. Яна праводзіла яго на вакзал. Доўга яны гулялі, чакаючы цягніка. Было дажджліва, вецер дзьмуў у твар. Яна трохі засталася ззаду яго, хаваючыся за яго плячо. Ён сказаў: «Я б хацеў, каб ты ўвайшла ў жыццё, гэтак жа трохі хаваючыся за мной».

* * *

Лівень. У вядры быў лівень. Здаецца, ён граў, пераліваўся вясёлкамі. Вядро напоўнена да краёў нядаўнім ліўнем. Сонца ззяла, у небе хмарак не было, а мне здавалася, што лівень ідзе. Пад вадасцёкавай трубой вядро стаяла.

* * *

У аўтобусе ехалі дзеці. Яны весела гутарылі аб тым, што пойдуць у кіно, купяць там марожанага. Дарослыя глядзелі на іх і ўсміхаліся. Адна жанчына сказала: «У іх толькі і ёсць дзве мары — кіно і марожанае». А побач сядзела васьмігадовая дзяўчынка і сказала:

— Ёсць яшчэ і трэцяя мара!

— Якая?

— Кніга!

— Якія ж ты кнігі чытаеш?

І яна паважна адказала:

— Кнігу «Родная мова».

* * *

Адна бабка ідучы паслізнулася і ўпала на снег. Тут жа стаялі маладыя хлапцы, паднялі яе і спыталіся:

— Аб чым жа ты, бабка, задумалася?

А яна адказвае:

— Я задумалася над тым, як цяжка паміраць чалавеку.

* * *

У германскіх канцэнтрацыйных лагерах знаходзіліся нашы беларускія жанчыны. Яны былі страшэнна галодныя, ім выдавалі па маленькаму кавалку хлеба. Была там адна дзяўчына Зося, яе вельмі ўсе паважалі і любілі. Да вайны яна была інжынерам, але ў палоне не казала аб сваёй прафесіі і працавала на цяжкай чорнай рабоце грузчыка. Дзяўчаты зрання аддавалі ёй свае кавалкі хлеба, каб не з'есці іх адразу і ўмольвалі яе, каб яна не аддавала ім хлеба. Зося казала: «Добра, я не дам, толькі вы не прасіце ў мяне». Праходзіла гадзіна і адна, самая хворая і змарнелая, пачала ўпрошваць:

— Зося, дай мой хлеб.

— Не дам, што ж ты ў абед будзеш есці?

— Аддай мой хлеб! — крычала тая.

— Не дам!

— Аддай, я задушу цябе Гэта — ж мой хлеб, мой.

І Зося аддавала хлеб.

Праз гадзіну яе сяброўка крычала:

— Навошта ты дала мне хлеб? Навошта! — і падала непрытомная, галодная на чужую нямецкую зямлю.

* * *

Яны вучыліся ў школе, затым паступілі ў інстытут і ніколі не звярталі ўвагі — ні ён на яе, ні яна на яго. Аднойчы трэба было паставіць п'еску на студэнцкім вечары. Яны абое былі членамі драматычнага гуртка. Яна іграла ролю нявесты, ён — жаніха. Яны закахаліся сваімі ролямі, а ў выніку… пакахаліся і пажаніліся.

* * *

Да маці прыйшлі таварышы яе сына, загінуўшага на фронце. Сярод таварышаў — маладая жанчына. Калісьці яна была першым каханнем яго. Пасля яна выйшла замуж. Доўгі час яны не бачыліся. Але памяць аб ім жыла ў яе сэрцы. Яна моўчкі абняла маці, і доўга яны сядзелі і размаўлялі без слоў. Маці пацалавала яе ў вочы: «Я шчаслівая глядзець у вочы, у якія глядзеў мой сын…»

* * *

Народныя прыказкі (словы цёткі Міхаліны).

Гэта не хлопец, а нейкі крутадух!

Нездарма кажуць, што вясна і восень едуць на рабым кані — то сонца, то дождж, хвіліну так, а хвіліну гэтак!

От дзеўка лятала, лятала і вылетала сабе героя! (яе суседка выйшла замуж за Героя Савецкага Саюза).

Свату — першая чарка і першая палка!

* * *

Для маці кожны яе сын, ці дачка ўжо дарослыя здаюцца маленькімі. Я назірала, як маці праводзіла свайго васямнаццацігадовага сына ў адпачынак (у сына косткавыя сухоты). Яна заплакала: «Мамачка мая, сыночак, папраўляйся», — шмат разоў цалавала і ўсё не магла развітацца.

* * *

На вакзале бачыла сцэнку: у цёмным кутку, недалёка ад сходняў стаяў малады афіцэр (у камеры хавання), са сходняў ішла, як сляпая, расставіўшы рукі, старэнькая ў плюшавай шубе і белай хустцы: «А, мой ты сыночак, я ж нічога не бачу! Цёмна тут». Сын падхапіў яе, маленькую, яна абняла яго. Потым сын пайшоў са сваёй жонкай на платформу, а маці гледзячы яму ўслед, крыкрнула: «Дзетка ты мая, маленькая!» — і, закрыўшы твар, лягла на рэчы. Падышоў нейкі мужчына:

— Што, маці, сына сустрэла?

— Сына, сына!

— Дык, чаго ж расхвалявалася?

— Шэсць гадоў не бачыла…

І зноў упёрлася тварам у сынавы чамаданы.

* * *

З Ленінграда ехаў са мною ў адным купэ стары майстар-начальнік цэха аднаго з заводаў. Разгаварыліся. Я пахвалілася, што еду на вяселле, сасватала свайго дзядзьку. А ён смяецца і кажа: «А я еду ад вяселля. Я сасватаў аднаго свайго знаёмага, замовіліся, што 1-га Мая будзе вяселле, ажно трах! — Трэба мне ехаць у камандзіроўку. Мае маладыя звар'яцелі: «Як жа гэта вяселле без свата, ды такога шаноўнага!» Пасля супакоіліся і кажуць: «Перанясём вяселле на Дзень Перамогі — 9-га Мая, а ты абавязкова прыязджай!»

Мы з суседам — сват і свацця — усю дарогу смяяліся, жартавалі: «Сваты гарбату п'юць!», «Сваты задрамаць захацелі»

Гэты ж «сват» расказаў мне адзін цікавы эпізод. Яго жаніху трыццаць пяць год. Сваіх бацькоў не ведае — падкідыш. Раптам яму захацелася ў 35 гадоў знайсці сваю маці. Паехаў ён у Маскву, там дазнаўся аб той мясцовасці, дзе ён быў пад-

кінуты. Узяў торбу за плечы і паехаў у тое сяло, дзе яго знайшлі. Сяло ад чыгункі далёка. Пайшоў ён пеша, па дарозе прысеў адпачыць пад дрэвам, ля яго ж сеў стары селянін. Наш спадарожнік расказаў яму, куды ён едзе, і дзед пачаў углядацца ў яго. Глядзеў-глядзеў, поты і кажа: «Ведаеш што, ідзі ты ў адну хату, там па-мойму жывуць твае сваякі!» — і паказаў куды ісці. Той і пайшоў па гэтаму адрасу. Прыходзіць, яго сустрэлі не зусім ветліва, ён пачаў расказваць пра свае пошукі.

Тады стары кажа: «А і праўда, ты сын нашай нявесткі». Яна засталася рана ўдавою і жыла ў сваіх свёкраў (г. зн, у іх). Да яе пачаў заляцацца мясцовы поп, нарадзілася дзіцё, якога яна падкінула.

Старыя пачалі частаваць яго: «А ты ж наш родны, госць дарагі». Аказалася, што поп гэты паехаў з гэтага сяла, а маці з ім паехала ў якасці парабчанкі.

Госць не змог даесці вячэры і адразу рушыў у суседнюю вёску, куды паехала яго маці. Прыйшоў туды і пытаецца: «Дзе поп?», а яму і кажуць: «Папа выгналі мы адсюль».

— А дзе парабчанка, якая ў яго працавала?

— Яна засталася тут.

— Дзе ж яна жыве, паклічце яе калі ласка.

— А яна ў мінулым годзе памёрла…

Так я знайшоў сваю маці.

З пустой торбай за плячыма пайшоў да чыгункі, а адтуль у горад…

* * *

Мой сусед па купэ вельмі жартаваў з дзяўчынай, у якой фарбаваныя валасы, бровы. «Валасы светлыя, бровы павышчыпаныя, танюсенькія, як мыш, што ў дрожджы трапіла. Ну, праўда, як мыш з дрожджаў выглядае!»

* * *

Пасля перасадкі я пазнаёмілася з другім маім суседам. Гэта быў малады хлапец — усе грудзі ў ордэнах і медалях. Ён з пачатку вайны быў партызанам. З групай дэсантнікаў спушчаны ў тыл ворага. Іх атрад складаўся з трынаццаці чалавек, а ўжо ў апошнія часы дасягаў 1060 чалавек. Вялікае злучэнне партызанскіх атрадаў. Запомніўся яго аповед: «Я сам працаваў на мінах, падарваў асабіста дванаццаць варожых эшалонаў. Работа падрыўнікоў самая небяспечная. Недарма ж кажуць, што падрыўнік памыляецца толькі адзін раз у жыцці. Трохі недалічыў, прамахнуў — і ўжо смерць.

Аднойчы з групай падрыўнікоў трапіў у акружэнне, пачалі прабівацца, я застаўся адзін. Гэта было на Палессі. Іду я, іду. У мяне компас, ведаў я, што наш атрад на Паўднёвым Усходзе. А лес быў такі непраходны, што дзіву даваўся я. Ніцыя лозы ў мой рост, трапляліся сцежкі звярыныя, не відно, ці ваўкі іх зрабілі, ці алені. А там, дзе сцежкі спыняліся, я ламаў сам гэтыя ніцыя лозы, не ведаю, адкуль і сілы браліся… Некалі ў школе я чытаў вершы пра куцыя лозы і захапляўся вершамі, апяваючымі прыгажосць чуткіх такіх дрэваў. Але цяпер адзін у глухім лесе я праклінаў гэтыя ніцыя лозы! Навокал была дзіўная ціша, глухмень. Хоць бы птушка якая заспявала! Я б падстрэліў птушку, бо есці вельмі хацелася. Так ішоў я трое сутак. На чацвёртыя суткі лес стаў больш рэдкім, але зноў ані гуку. Я іду і думаю: няўжо прыйдзецца памерці галоднай смерцю, ніхто і костачак маіх у такой глушы не знойдзе.

Я плакаў голасна, і крычаў, і смяяўся — а нічога ў адказ не пачуў, нават рэха было глухім. Рашыў я стрэліць, думаю, калі свае адгукнуцца, то добра, калі ж немцы, то лепш памру ў бойцы, чымся галоднай смерцю. Стрэліў я з кулямёта — чую нейкі крык здалёк. Пайшоў на гэты крык, зноў стрэльнуў — зноў нехта закрычаў, на гэта раз ужо мацней. Я выйшаў на палянку, бачу дзяўчынка карову

пасвіць. Як убачыла мяне, спалохалася, у лес уцякла. Я пайшоў за ёю і знайшоў нейкія зямлянкі, курані. Аказалася пасля, што тут жылі сяляне, якія ўцяклі ад немцаў і разам з хатняй жывёлаю размясціліся ў лесе.

Пачулі мае стрэлы і ўцяклі.

Я зайшоў у адзін курэнь, які быў лепшым, пад'еў сабе і лёг спаць. Прачнуўся, ажно стаяць чатыры дзяды і пытаюцца:

— Ты хто такі?

— Я — свой.

Пачалі гаварыць, распытваць. Я ў іх чатыры дні гасцяваў, еў-піў, адпачываў. А пасля пайшоў да хлопцаў, якія па мне памінкі справілі.

Ужо гэтыя дзяды мне сказалі, што прыбегла дзяўчынка-пастушка, страшэнна напалоханая. Самыя старэйшыя пайшлі аглядаць курэнь, думалі, што я немец. Потым убачылі чырвоную партызанскую палоску на майцы і пачалі чакаць майго абуджэння. Чакалі яны гадзін дваццаць, пакуль я прачнуўся. А я прачнуўся і думаю — куды ж я трапіў, што за дзяды тут нада мной схіліліся?..»

* * *

«Быў у нас у атрадзе хлапец-украінец Пеця Тэрэшчанка. Адважны ваяка, нічога не баяўся. Аднойчы ў нас была стычка з немцамі. Пецю забілі. Насіў ён нямецкі шынель, і немцы ледзь не пахавалі яго разам з сваімі. Потым убачылі чырвоную палоску на шапцы і кінулі яго.

Мы пасля бою знайшлі Пецю, пахавалі яго пад вялікім дубам. Быў ён хлопец прыгожы, кучаравы, мы яго называлі «Залатыя кудры». І пад дубам паклалі кучаравым. Зямлю капалі кінжаламі і рукамі, рыдлёвак не мелі. А маці яго, можа, і дагэтуль не ведае, дзе ён пахаваны».

* * *

«А вось аднойчы дазналіся мы, што адна бабуля за карову і каня прадалася гестапа і павінна была атруціць студні, з якіх мы пілі і паілі нашых коней. У нас агентура добра працавала. Нам было загадана абшукаць на дарозе ўсіх жанчын. Мы нікога не прапусцілі, нават усіх мужчын абшукалі. Стаялі гэтак цэлы дзень, недалёка ад лясной дарогі. Бачым ідзе нейкая жабрачка маленькая, у рыззі, у лахманах.

Спынілі яе:

— Куды, бабка, ідзеш?

— А так, шынкі, пабіраюся! — яна была зусім бяззубая.

Абшукалі яе. Пачалі аглядваць валасы (нам было вядома, што атрута захавана ў яе космах).

— А што, бабка, ты скажаш, калі мы знойдзем у тваіх космах нешта?

— Шукайце, шыночкі, можа, толькі вошы знойдзеце!

Мы знайшлі ў яе валасах чатыры пакецікі з надпісам «Вош».

— Што гэта ў цябе?

— А гэта ад хенці, — абыякава адказала яна.

Прывялі мы яе ў штаб, пачалі дапытваць. Яна не прызнавалася. Урач паказаў, што ў гэтых парашках быў стрыхнін. Пазней гэтая старая гадаўка прызналася, што яна згадзілася атруціць студні і прадалася немцам за каня і карову.

Мы яе, паганку, нагамі дагары павесілі».

* * *

«Быў у нашым атрадзе дзед гадоў каля 70-ці. Ён у мінулую, грамадзянскую вайну быў партызанам і цяпер з намі, маладымі, партызаніў. Бывала едуць па

дарозе немцы ў фаэтоне, а ён раз! — кіне ў іх гранату, — фаэтон з немцамі ўзлятае ў паветра. А дзед хуценька ідзе ў лес і рагоча: ге-ге! Хай палётаюць, як анёлы боскія!»

* * *

Адзін дзед прыйшоў у клініку, хадзіў па калідоры, бачыць усюды людзей багата, ля кожнага кабінета. Ён ткнуўся туды, дзе было менш народу. Уваходзіць у зубны кабінет, урач пытаецца:

— Што ў вас баліць?

Дзед адказвае:

— Корань!

— Пакажыце ваш корань!

Дзед рашпіліў штаны, ды і пачаў паказваць тое, што ў яго баліць.

Урач (маладая жанчына), стрымліваючыся, запытвае: «Вы рот адкрыйце, там я пашукаю ваш корань».

Хворы адказвае: «Зубы ў мяне здаровыя. А вось гэты корань баліць. З яго ўсё сямейнае дрэва, усе дзеткі-галінкі растуць. А што мне зубы…»

* * *

Ляжаў у клініцы стары. У яго быў рак страўніка, урачы прадракалі хуткую смерць, а ён кажа: «Мне ў мінулым годзе адзін віленскі ўрач сказаў, што я пражыву да Вялікадня (г. зн. тры месяцы). Думаю, ну што ж зробіш, хай сабе тры месяцы! Ажно дзе там! Прайшлі тыя тры месяцы, прайшло і болей, ледзь не паўтара года, а я ўсё жыву і жыву, ды і паміраць не збіраюся… А надоечы сказаў маёй дачцэ тутэйшы доктар, што мне засталося жыць адзін месяц. Дачка ў слёзы! А я думаю — адкуль ён ведае. Колькі мне жыць засталося, чаму месяц? А, можа, два тыдні! Я і сам адчуваю, што хвароба мая разрастаецца, але ўсё ж не так ужо кепска, каб праз месяц памерці. Адкуль жа гэты доктар усё наперад ведае?

Вось мая жонка захварэла язвай страўніка, дык яна льняное семя запарвала і піла, цэлую зіму піла — і вылечылася. У яе слабое сэрца было, дык у нас на вёсцы доктар даў ёй параду (а быў гэты доктар стары, даўнейшы), каб узялі мы сэрца ваўка, парылі яго і пілі — тады і сэрца падужэе. Я папрасіў паляўнічага, каб ён падбіў ваўка. Вось мы скарысталі параду доктара. Жонка запарыла сэрца ваўка, піла настойку і падужэла. Куды там! Не пазнаеш яе!

Гэтага старога прозвішча Казак, а ў палаце, дзе ён ляжаў яго празвалі атаманам — за вясёлы нораў, за яго вечна незгасаючы, народны гумар. Казак-Атаман на пяты дзень пасля аперацыі падняўся і кажа: «Чаго там ляжаць? Хопіць, нечага залёжвацца, я яшчэ жыць збіраюся!»

* * *

Адзін стары дрывасек аказаўся гадальшчыкам. Ён гадаў мне: «Усё ў цябе ёсць — сям'я, муж, але жывеш адна, як палец. Не трэба смуткаваць, мае дзеткі. Ад смутку чалавек на дзесяць год раней памірае… У кожнага чалавека на руцэ відны лініі яго лёсу. У цябе няма гандлёвых рысаў. Ты купіш за грыўню, а прадасі за пятак. Толькі такія рысы ў цябе ёсць — можаш быць вялікім чалавекам, вядомым. У чалавека пры жыцці на руцэ ўсе лініі бачны, а калі чалавек памірае, дык рука робіцца гладкай, бо знікаюць усе лініі лёсу чалавека разам з яго смерцю… Пры немцах я гадаў людзям і данеслі на мяне, што я гадаю партызанам. Выклікалі ў гестапа, прыгналі ў пакой чатырох вялікіх сабак, тыя ходзяць ля мяне, абнюхваюць, зубамі шчэрацць. А галоўны іхні начальнік пытаецца: — Ты, дзед, партызанам гадаў?

— Я людзям гадаў, не ведаю, ці партызаны яны, ці хто…

— Пагадай, дзед мне! — Я ўзяў яго руку, паглядзеў і кажу: — У вас ёсць жонка і цвай кіндэр.

Той начальнік заплакаў, а я кажу:

— Не плачце, пан, хутка вы з імі пабачыцеся.

Той узрадваўся:

— Хутка, кажаш?

— Вельмі хутка, можа, і ў гэтым месяцы.

Ён з вялікай радасцю ўзяў і выпусціў мяне. А праз два тыдні наша армія, як пачала гнаць паганцаў фашыстоўскіх, дык аж пыл закурэўся на дарогах. Пэўна, той нямецкі начальнік і пабачыўся з жонкай!

* * *

Быў на рынку такі выпадак: ходзіць жанчына і прадае рыбу, а рыбіна вялікая, пэўна, з пуд, жывая яшчэ. Жанчына трымае яе на руках, як дзіцё. Хвост цягнецца па зямлі. Баба спачатку вельмі ганарылася — бачыце, якая рыбіна! І запрасіла 320 рублёў. Пакупнікі падыходзілі, усміхаліся: што ты здурнела, гэта ж нясмачная рыба. Яна пачала зніжаць цану — усё роўна ніхто яе не купляе, кажуць: «У рыбы галава вялікая, а што рабіць з ёй?» Нарэшце, баба ўзмалілася: «Забярыце ў мяне гэтую пачвару, а божа ж мой, яшчэ ж мне ўсе рукі пакусала! Каб ён прапаў, мужык мой! Хто яго прасіў такую рыбу вылоўліваць. Што ж мне рабіць?» І пачала плакаць…

* * *

Наглядаючы за палётам самалёта, які лёгка лунаў у сінім небе, я падумала, што лётчык ведаў нейкую своеасаблівую радасць, невядомую «зямному» чалавеку. Радасць палёту.

* * *

На круглой площади стоит камень — здесь будет сооружён памятник воинам Советской Армии, которые сражались за освобождение Белоруссии от немецко-фашистских захватчиков. Бахтя каждый раз останавливается у этого камня, просит прочесть надписи и говорит: «Это памятник нашему Боре, его убили фашисты, а я убью фашистов. Я никого не боюсь».

* * *

Дети-малолетки просили тётю словить руками рыбок. Тётя вошла в речку и как ни старалась, а рыбки не могла словить. Бахтя смотрел-смотрел и высказался: «Рыбка любит червячка, а не тётины пальцы!»

* * *

— Мама, какая красивая луна (вокруг луны было необычайное сияние), а какие звёзды! Когда я вырасту, я стану лётчиком, я полечу высоко, сниму с неба луну, звёзды и брошу их тебе, чтобы ты их повесила на ёлку.

* * *

У дзіцячым садзе быў выпускны ранішнік. Дзяцей фатаграфавалі, але фатограф загадаў ім не смяяцца.

— Чаму?— запратэставалі некаторыя. — Заўсёды нам усе казалі — смейцеся, а сёння вы забараняеце.

Аказваецца, усе «выпускнікі» былі бяззубыя, або шчарбатыя (мяняліся зубы!) і ўсе засняліся са сціснутымі вуснамі.

Але затое, якія хітрыя, смяшлівыя вачаняты!

* * *

Бахця вучыць першыя музыкальныя ўрокі. Паставіў каля нот партрэцік Глінкі: «Глинка присутствует!»

* * *

**Лірычны верш**

Лыжніца.

Гарадскі сад. Імчыцца на лыжах дзяўчына. Светлыя валасы развяваюцца на хаду.

Ёй вельмі добра! Хто за ёй ляціць? Гэта вецер. Яна не заўважае, што лыжнік у касцюме сінім, а не вецер, даганяе. Ці дагоніць яе?

**Сасонка**

На маёй радзіме ў лесе
Ёсць заветная сасонка.
Як плыве над ёю месяц, —
Салаўі спяваюць звонка.

Як праходзіць дождж над гаем, —
Зелянее кожнай голкай.
А ў снежні ў голлях грае
На сасне маёй вясёлка.

Ты заўсёды на світанні
Умывалася расою.
Як дзяўчына на спатканні
Ружавела ты вясною.

Як прымчалася навала,
Як падзьмуў віхор суровы,
Верхавінай заківала
Ты над гаем,
                над сасновым
І сказала:
            — Сёстры, будзем
Мы на варце родных шатаў,
Дапаможам добрым людзям,
Хай заб’юць германца-ката!

Зашумелі сёстры ў згодзе:
— Дапаможам, дапаможам!
А як толькі дзень заходзіў, —
У сасонніку прыгожым

Нашы хлопцы сход збіралі,
Працавалі хлопцы разам,
Ямы воўчыя капалі —
Хай загіне ўся зараза!

А сасонка гаманіла:
— Падпаўзуць чыжынцы ў злосці, —
Шкадаваць не буду сілы
І зялёнай маладосці.

Ім хутчэй падстаўлю ногу,
Упаду ім на галовы.
А сабе на дапамогу
Клікну я мароз суровы.
І прымчыцца, і заскача,
Ён работу знае тонка!
Так, недарма з год дзіцячых
Я люблю цябе, сасонка!

11.02.42 г.

## Мы прыйдзем

На беразе Свіслачы любай
Магутны раскінуўся сад,
Там дуб узнімаўся ля дуба.
Таполяў сярэбраны рад.

Звінеў.
І зайздросцілі хвалі
Яго мілагучным лісткам.
Найлепшыя птахі спявалі
І марыць хацелася там.

Шумела ўвесну асока,
Туманы паілі зямлю.
І там, пад калінай высокай,
Пачула я слова:
— Люблю…

О, добрая, ціхая Свіслач,
Спазнацца прыйшлося з бядой!
Аж хвалі сцямнелі, як звісла
Трывога вайны над табой.

Навекі запомню руіны
І дымам ахутаны дом,
І енкі, і клёкат птушыны
Над кожным разбітым гняздом.

Пакутнаю тою хвілінай
Мне сэрца скрывавілі там.
І я паклялася калінам
І спаленым, мёртвым кустам:

— Мы вернемся ў родныя хаты,
Прагонім навек чужакоў!
Пахучаю ружаю-мятай
Павее ад вольных лугоў.

Мы прыйдзем са Свіслачы любай,
Дразды засвісцяць над ракой.
І ўзнімецца дуб каля дуба,
Пасоджаны рупнай рукой.

1—2.04.42 г.

## Рукавіцы

Каханаму я рукавіцы звязала —
Хай носіць на шчасце,
хай помніць мяне.
Майго ўсхваляванага сэрца кавалак
Ён возьме ў далоні свае на вайне.

І, можа, убачыць на міг праз мяцелі
Мясціны, дзе мы сустракаліся з ім.
Згадае, як мірна таполі шумелі, —
І ў бойку памчыць на кані вараным.

А я пачакаю.
Парой, лістаносец
Падыдзе, прамовіць:
— Ну, сёння скачы!
Махоркі сабе ў падарунак папросіць.
І ліст перачытваць я стану ўначы.

Ён прыйдзе!
А покуль на долы, на ўзгоркі
Пасеяла зерне сівое зіма.
Гляджу я на ціхія, чыстыя зоркі
І вестак чакаю,
а вестак няма…

Мінае паволі за месяцам месяц
І зерне сівое усходзіць травой.
Ізноў малады па-вясноваму месяц
Маўкліва плыве над маёй галавой.

Ізноў расцвітаюць духмяныя ружы.
Іду я на ганак,
Мо здрадзіў мне зрок?
Бяжыць лістаносец, душэўны мой дружа,
І маша, і маша лістом мне здалёк:

— А ты сумавала.
Чытай, залатая!
Чытаю, чытаю…
Туман навакол…

Стаіць лістаносец
І больш не пытае,
Махоркі не просіць, глядзіць ён на дол.

Мне піша каханы рукой незнаёмай:
— Твае рукавіцы я сябру аддаў.
А мне не насіць іх.
Забудзем, што дома
Цябе я нявестай сваёй называў…

Чытаю, чытаю і плачу душою.
Няўжо ты падумаў, мой родны,
мой друг,
Што я адвярнуся і стану чужою,
Калі на спатканне ты прыйдзеш без рук?
Па кроплі ты кроў аддаваў за краіну,
За шчасце маё, за святую зямлю.
Цябе я ніколі ў жыцці не пакіну,
Прыходзь, мой жаданы,
Цябе я люблю!

28.11—1.12.42 г.

**Каліна**

Ой, віхор у полі
Вее без спачынку.
Нахіліла голлі
Да зямлі калінка.

Не пяе, не грае, —
Стогне над крыніцай,
Чуе, — хтосьці з гаю
На кані імчыцца.

Ён дарогі знае,
Ён каня спыняе:
— Адкажы, каліна,
Дзе мая дзяўчына?

Зналі аб каханні,
Аб маіх спатканнях
Толькі ты і месяц.
Дзе ж мая Алеся?

І ніжэй калінка
Голлі нахіліла:
— Бачыш ты расінкі?
Гэта слёзы мілай.

Рукі ёй звязалі
Злыя ліхадзеі.
Птушкі мне сказалі,
Што яна сівее.

Ды за Рэйнам гіне,
Дзесьці на чужыне…
Глянуў конік строга,
Не сказаў нічога.

Выпіў ён расінкі, —
Горкі след дзяўчынкі.
І хутчэй ад птаха
Ён памчаў на захад!

1943 г.

## Для цябе

Для цябе, мой харошы, мой дружа,
Я прыходжу з завода ўначы.
Я хачу, каб насіў на плячы
Ты, здабытае мною аружжа.

Ты не думай, што толькі ласкавай
Будзе жонкі малая рука.
Я хачу, — ад майго, ад станка,
Каб твая пачыналася слава.

Ты далёка цяпер, так далёка,
Што і ветры мой сум не дамчаць!
Я ўмею чакаць і чакаць,
Мне нястрашна за працай нялёгкай.

Ты з вінтоўкай убачышся новай, —
Зноў успомні тады пра мяне,
Як кахаліся мы па вясне,
Як любілі мы водыр кляновы.

Помніш сад салаўямі багаты,
Помніш, мілы, той бэзавы май?
Ты чужынцаў насмерць забівай,
Каб не лезлі ў нашыя хаты!

26.05.42 г.

**Віктар ШНІП**

# ЗАЎТРА БЫЛА АДЛІГА

## Студзень. 2013

* * *

1.01.2013. Упершыню за апошнія чатыры гады мама і тата Новы год сустрэлі разам — на Ракаўскіх могілках…

* * *

7.01.2013. Прыснілася. З мамай вярнуўся з поля, дзе выбіралі бульбу. Папілі вады і залезлі на печ грэцца сярод падушак. Печ цёплая. Мама кажа: «Кінулі бацьку. Не глядзелі. Не бераглі, і ён памёр…» Я не апраўдваюся, але кажу: «Усе памром. Ніхто вечна жыць не будзе…» Мама хоча нешта сказаць, але не можа, бо з рота цячэ вада…

* * *

10.01.2013. Прыходзіў сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч. Прынёс рукапіс кнігі пра Янку Маўра для выдавецтва, а для мяне кнігу з серыі «ЖЗЛБ» «Якуб Колас. У думках, у сэрцах, у песнях» з дэдыкацыяй: «Стараўся, назбіраў я — успамінаў кіпу! За іх выданне — дзякуй Шніпу!»

* * *

11.01.2013. Чытаю рукапіс славацкага паэта Яна Замбара ў перакладзе Вікторыі Ляшук. Цікавая еўрапейская паэзія. Цяпер і ў нас так пішуць і нават лепей. Запомніліся радкі:

*О, лагод агрэсарка, вітаю.*
*Тваё цела — набітая зброя,*
*кожны твой рух — бліскавіца стрэлу.*
*Асеў,*
*скошаны двухстволкай тваіх ног.*

* * *

13.01.2013. Люда пастрыгла мяне. Накідка, якой яна прыкрывала мяне ад стрыжаных валасоў, яшчэ пахне бацькам, якога я стрыг напачатку лістапада…

* * *

14.01.2013. Яшчэ ўсё палохаюся тэлефонных званкоў, бо здаецца, што мне скажуць: «Гэта звоняць з Ракава. З бальніцы. Ваш бацька памёр. Заўтра прыязджайце і забірайце…» А мінула ўжо тры тыдні, як я пачуў гэтыя словы…

* * *

14.01.2013. Ранкам на працы, як развіднела, зірнуў у акно. І ўбачыў горад белы, як намаляваны крэйдай…

* * *

15.01.2013. Каля кнігарні «Светач» сустрэў Алеся Разанава, з якім мы, гаворачы пра жыццё-быццё, праклалі па снезе пункціры нашых слядоў да Нямігі…

* * *

16.01.2013. Бацькі жывуць ува мне…

*Усё сыходзіць і знікае,*
*І не паўторыцца ані*
*Ні восень рыжа-залатая,*
*Ні шэрыя, як мышы, дні…*

* * *

17.01.2013. На вуліцы снегу, як у дзяцінстве…

* * *

18.01.2013. Сумна і адзінока, як у бяскрайнім заснежаным полі…

* * *

18.01.2013. Да бацькавых слоў «мама была добрая…» дадалося «бацька быў добры…»

* * *

24.01.2013. Бацькі памерлі, а страх, што яны вось-вось памруць, і сёння жыве ўва мне…

* * *

25.01.2013. Нараджаемся і жывём, каб пахаваць тых, хто памрэ раней за нас…

* * *

25.01.2013. Нечакана зарыфмавалася:

*Жыццё забівае паэтаў*
*Дурной галавой аб асфальт.*
*Чытаем пра гэта з газетаў,*
*І кожны, хто піша — Уайльд.*

* * *

26.01.2013. Снег, як белая моль, над намі лятае…

* * *

26.01.2013. Хадзіў да цешчы. Калі падыходзіў да дома, здалёку ўбачыў над дзвярыма, якія былі ўпрыгожаны каляровымі стужкамі і шарыкамі, плакат: «Нявеста. Цілі-цілі-цеста! З нашага пад’езда!». Зайшоўшы ў пад’езд, дзе стаялі тры мужыкі, пачуў: «Вы жаніх?»

* * *

26.01.2013. Цешча расказвае: «Калі Люда была малая, я ў час адпачынку павезла яе ў Малдавію. Адпачывалі каля возера. Сядзім на беразе. Загараем. Раптам бачу, што Люды няма. Куды дзелася? І тут бачу: стаіць мая Люда сярод возера на вадзе…»

* * *

26.01.2013. Размаўляючы з цешчай, пачуў: «Калі памерла мая мама, я доўгі час ездзіла ў Чыжоўку да яе магілы. І неяк, папраўляючы свечку, так апякла палец, што аж узнік велізарны пухір. А ў мяне дома бялізна замочаная з параш-

ком. Як цяпер мыць? І расказала я пра гэта памерлай маме, і, калі прыехала дамоў, на пальцы і знаку не было ад апёку…»

* * *

30.01.2013. Зарыфмаваўся настрой:

*Нас штодня забівае самота*
*І не можа да смерці забіць,*
*Бо мы ходзім-паўзём на работу*
*Хоць не хочам нікуды хадзіць,*
*І самота вандруе за намі,*
*Спакушае да вусмерці піць,*
*Каб мы п'яныя вылі ваўкамі:*
*«Аніхто нас не хоча любіць!»*

* * *

30.01.2013. Ранкам па рэдакцыйных справах тэлефаную ў Быхаўскі райвыканкам: «Добры дзень!» — «Здароў!» — чую ў адказ. «Добры дзень!» — паўтараю. «Здароў!» — бурчыць мужык. «Гэта Быхаў?» — пытаюся. «Я не бухаў!» — чуецца крык, і я кладу трубку, разумеючы, што патрапіў не туды, куды хацеў…

* * *

31.01.2013. Яшчэ знайшоў пару слоў пра свайго сваяка: «Усе беларускія паломніцтвы ў Кальварыю, якія ладзіліся перад Другою сусьветнаю вайною, не абышліся безь ягонага (Глякоўскага) удзелу, а ў 1939 г., калі ўжо былі выселены зь Вільні ксяндзы Станкевіч і Талочка, ксёндз Глякоўскі ачольваў беларускае паломніцтва. Маючы на сэрцы справу рэлігійнага жыцьця моладзі, ён заснаваў першы беларускі рэлігійны часапіс для дзетак «Пралескі» і выдаваў яго да 1939 г.

Для беларускіх студэнтаў ён зарганізаваў у часе Вялікага Посту рэкалекцыі; толькі ў 1939 г. ня сам кіраваў рэкалекцыямі, а папрасіў дапамогі беларускага езуіта айца Шніпа, які быў прэфэктам малое езуіцкае духоўнае сэмінарыі ў Вільні. А для самога сябе ён браў духовую ежу ў малітве перад Вострабрамскім абразам Маці Божае. Агулам дзейнасьць ксяндза Глякоўскага была тою душпастырскаю дзейнасьцю, якая найбольш патрэбна ў парахвіях і моладзі ў школе».

## Люты

* * *

1.02.2013. У сасновым лесе карэнне дрэў віднеецца з зямлі, як утаптаныя ў зямлю змеі і вужакі…

* * *

4.02.2013. Сёння заходзіў да мяне змардаваны жыццёвымі праблемамі пісьменнік, які за апошнія два месяцы пахудзеў на трыццаць кілаграм. Гаворачы пра жыццё-быццё, ён прызнаўся: «Калі б не праца над кнігай, я б павесіўся!»

* * *

5.02.2013. У снах цікавей і весялей, чым у жыцці. Там бацькі жывыя…

* * *

6.02.2013. Маме было кепска і яна ела з талеркі тварог, як снег…

* * *

6.02.2013. Другі месяц у выдавецтве чытаем рукапісы, у якіх шмат сексу. Мы не супраць сексу, але ж… Апошні хіт з прачытанага: «Ён зняў з яе трусікі ў кветачкі, а яна тут жа ўхапілася за яго свабодны мікрафон…»

* * *

7.02.2013. Цэлы дзень адпрацаваў на выставе. Цяпер у вачах людзі і кнігі, кнігі і людзі, і бесперапынны выдавецка-чытацкі гуд, у якім нараджаюцца і адразу гінуць непаўторныя вобразы нашага часу…

* * *

8.02.2013. На кніжнай выставе сустрэў Юру, які ў 2002 годзе, калі ствараўся холдынг «ЛіМ», курыраваў мяне як галоўнага рэдактара штотыднёвіка. Павітаўшыся і пазнаёміўшы з Анатолем Длускім, ён адразу ўспомніў мой верш «Беларускае мора» і прапанаваў з яго нарэшце зрабіць песню. Цяпер Юра займаецца пчоламі…

* * *

9.02.2013. Прадаваў свайго «Пугачоўскага цырульніка». Няёмка, што дарага. 65 тысяч. І страшнавата, калі купляюць тыя, пра каго ёсць у кніжцы, а такіх вельмі шмат. Сёння кнігу купіў знаёмы мастак. Спадзяюся, што ён не здагадаецца, што гэта пра яго: «Прыходзіў мастак, які ўжо шаснаццаць гадоў піша вершы. Творы цікавыя і месцамі вельмі нядрэнныя. Праўда, рыфмы не ўсе дакладныя. Амаль паўгадзіны давялося даказваць, што «рэдзька — феня» і «река — вода» не рыфмуюцца...»

* * *

11.02.2013. Ранкам, ідучы на працу і думаючы пра бацькоў, узгадаў слова «дабро», якое яны ўжывалі, гаворачы пра жыта: «У нас там яшчэ пару мяшкоў дабра ёсць. Трэба адзін на муку змалоць…»

* * *

13.02.2013. Прыснілася, што еду ў вёску на аўтобусе. У Ракаве даведваюся, што бацька і мама хочуць дома пабыць адны, таму просяць, каб я прыехаў праз тыдзень. Што рабіць? Вяртацца назад у Мінск? Не. І я паехаў у Валожын. Вечар. Тэлефаную Міхасю Курылу: «Можна, я ў цябе пераначую?» Сябра кажа, што ён развёўся і цяпер яму самому няма дзе жыць. Успамінаю пра гасцініцу, у якой калісьці начаваў. Прыходжу. Плачу за адну ноч 65 тысяч і сам сабе думаю: «Чаму столькі каштуе ноч у гасцініцы, як мая кніжка «Пугачоўскі цырульнік»?» Людзей у гасцініцы шмат, і ўсе лысыя. І я пачынаю ўспамінаць бацькоў, якія цяпер адны ў вёсцы, і прачынаюся…

* * *

15.02.2013. Сёння год, як мама адышла ў лепшы свет.

*Ужо аніколі мне ў роднае хаце*
*Не будзе больш бацькі, не будзе больш маці,*
*І мне ў роднай хаце таксама не жыць.*
*Між мною і хатай крыж чорны ляжыць,*
*Якім перакрэслена сонца маё.*
*Лістота на дрэвах, нібы вараннё,*
*Чарнее ды з дрэваў не хоча злятаць…*

* * *

19.02.2013. Ідучы ў Музей гісторыі беларускай літаратуры на прэзентацыю кнігі Навума Гальпяровіча «Сюжэт для вечнасці», спыніўся на мосце праз Свіслач, каб паназіраць за качкамі. Праз хвіліну да мяне падышла жанчына і, пагля-дзеўшы, куды я гляджу, сказала: «А ў нас, у Лідзе, лебедзі сёлета зімуюць…» — «Качкі падобныя на вялізарных каларадскіх жукоў…» — працягнуў размову я. «Сапраўды…» — адказала жанчына і пайшла да станцыі метро «Няміга»…

* * *

20.02.2013. Вершы ў кнізе, як чорны пясок на белым лёдзе…

* * *

20.02.2013. Вяртаючыся з працы і марачы пра вясну, нашаптаў:

*Белы свет у траве, як зялёнае мора,*
*У якім усе мы кожны міг патанаем,*
*І, крыжамі сваё пазначаючы гора,*
*Мы ратунку ад мора сабе не шукаем…*

**Харошая паэтка**

21.02.2013. Сёння на працы да мяне на прыём было шмат народу, нібы ў час грыпу ў паліклініку. Пад абед знаёмы выкладчык прывёў (сам тут жа ўцёк) жанчыну, якая піша вершы. На маю просьбу даць пачытаць рукапіс жанчына сказала, што яна ўсе свае творы ведае на памяць, і тут жа пачала: «Хороший город Ленинград…» Закончыўшы чытаць, паэтка сказала: «А цяпер паслухайце пра Машэрава! Харошым быў у нас Машэраў…» Праслухаўшы некалькі строф пра Машэрава, я пацікавіўся: «Можа, у вас ёсць вершы пра каханне, пра прыроду?..» І тут жа пачуў: «Ёсць! Слухайце! "Харошае было між нас каханне… Харошая цяпер у нас прырода…"»

* * *

22.02.2013. Аляксандр Твардоўскі, які працаваў рэдактарам, зайздросціў Някрасаву-рэдактару: «Некрасову было хорошо. Он мог прочесть две строчки и швырнуть рукопись в камин. А я не могу, меня потянут куда следует». І я не магу, і не толькі я…

**Чаму?**

25.02.2013. Сёння паэту Алесю Пісьмянкову было б 56 гадоў. З гэтай нагоды ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры прайшла прэзентацыя ягонай новай кнігі выбраных твораў «Не знікай». На вечарыне было шмат слухачоў, шмат успамінаў, вершаў Алеся і песень на яго словы. Не было ні жонкі паэта, ні сыноў, і ўсе адзін у аднаго пыталіся: «Чаму?»

**Багушэвіч і бурак**

25.02.2013. Калі закончылася прэзентацыя кнігі Алеся Пісьмянкова «Не знікай», да мяне падышоў Уладзімір Содаль і запытаўся: «А ці ведаеце, чаму ў Францішка Багушэвіча адзін з псеўданімаў быў Мацей Бурачок?» — «Не!» — адказаў я. «У той час, калі жыў і тварыў Багушэвіч, бедныя людзі не мелі падсвечнікаў для свечак і таму яны ставілі свечкі ў бурак. Свечка ў бураку была своеасаблівым светачам, і Багушэвіч быў светачам, таму ён і ўзяў псеўданім Мацей Бурачок. Трэба будзе сказаць мастакам, каб яны намалявалі Багушэвіча з бураком, у якім, як у падсвечніку, гарыць свечка!»

* * *

25.02.2013. Тэлефанаваў Леанід Маракоў, у якога нядаўна ў «Мастацкай літаратуры» выйшла кніга «Галоўная вуліца Мінска (1880 — 1940гг.). Доўга скардзіўся, што да яго дазванілася старая жанчына і накрычала на яго: «Вы напісалі хлусню! У майго прадзеда, які быў вядомым лекарам, у 1914 годзе не было дзвюх кватэр! Ён быў бедным! У яго была адна пяціпакаёвая кватэра!»

**Спакойна!**

25.02.2013. Калі адзін чалавек цябе хваліць, то гэта толькі адзін чалавек, а не мільён. І калі цябе адзін крытыкуе, то гэта адзін чалавек, а не мільён. І калі цябе

журы, у якім 10 чалавек, прызнае лепшым, то гэта толькі думка дзесяці чалавек, а не 10 мільёнаў. І калі цябе 10 чалавек журы пракінулі, то гэта толькі дзесяць чалавек, а не 10 мільёнаў. І таму няма чаго радавацца, што цябе хваляць, і таму няма чаго перажываць, калі цябе пакрытыкавалі…

## Паэты

26.02.2013. У старога паэта быў дзень народзінаў. Паэт адчуваў сябе кепска, таму яму было не да гасцей. З самага ранку не заціхалі тэлефонныя званкі. Стары паэт радаваўся, як дзіця, што пра яго не забыліся сябры і знаёмыя. І раптам званок у дзверы. Павіншаваць старога паэта прыйшоў немалады паэт. Прыйшоў з пляшкай каньяку і з фатографам. Праз паўгадзіны немалады паэт выпіў сваю пляшку каньяку, а фатограф зрабіў каля сотні здымкаў двух паэтаў. А яшчэ праз некалькі хвілін у вітальні старога паэта засталіся дзве невялікія брудныя калюжыны ад расталага снегу, што быў на ботах гасцей…

* * *

26.02.2013. Мужчыну прыснілася жонка, якая, сагнуўшыся ў тры пагібелі, мые падлогу. Паглядзеўшы, што нікога паблізу няма, мужчына разагнаўся і нагой даў жанчыне пад зад. Ачнуўся ў бальніцы з пераломам нагі, якой у сне стукнуў у сцяну…

## Сакавік

* * *

2.03.2013. Быў у майстэрні Алеся Квяткоўскага. Палюбаваўся новай карцінай «Паэт Віктар Шніп. Граждан і Сабака». Алесь рыхтуецца да выставы «Песні дрыгвы» па маіх белых вершах. Казаў, што ў нашай дрыгве некаторыя ўжо бачаць болей, чым напісана і намалявана…

* * *

4.03.2013. Да мяне на працу заходзіў Вячаслаў Рагойша. У наступным годзе нашаму Ракаву спаўняецца 550 гадоў. Вячаслаў Пятровіч думае, як адзначыць гэты юбілей і хоча падключыць да правядзення мерапрыемства мяне і Люду. Мы не супраць, а тым больш, што цяпер крыжамі маіх бацькоў мы прыбіты да Ракаўскай зямлі…

* * *

4.03.2013. Вада ў Свіслачы амаль цалкам вызвалілася з-пад лёду і цяпер, як ртуць у градусніку, паказвае на вясну…

* * *

5.03.2013. Гляджу праз акно на людзей, якія няспешна на светлафор пераходзяць вуліцу, і раптам кажу знаёмаму: «Пераходзяць вуліцу, як ваеннапалонныя...» — «Чаму, як ваеннапалонныя?» — «Таму, што няспешна і ўнурыўшы галовы ў плечы…»

* * *

5.03.2013. З акна кожны дзень бачу, як на месцы філфакаўскага інтэрната капаецца катлаван пад будаўніцтва новага будынка. І чамусьці заўсёды думаецца, што катлаван капаецца, як велізарная магіла…

* * *

6.03.2013. На працы, перабіраючы старыя паперы ў шуфлядах, знайшоў

паперчыну з фрагментам свайго верша, якога цалкам, здаецца, у мяне няма. Занатаваў у сваім дзённіку з-за трэцяга і чацвёртага радкоў:

*...Гучыць і над зямлёй плыве*
*Праз нашы душы, як вякі,*
*Дзе чорныя чарнавікі,*
*З якіх, нібы з раллі, ўстае святло*
*Самотнае, як тое, што было,*
*І вечнае, як закапаны клад...*

* * *

6.03.2013. Калі прыйшоў час памерці, то ніякія дактары цябе не ўратуюць. Учора памёр прэзідэнт Венесуэлы Уга Чавес. І што мне тут казаць пра свайго бацьку, які быў пастухом…

* * *

6.03.2013. Гляджу як будуецца высотны дом. На будаўніках чырвоныя каскі, як божыя кароўкі, якія грэюцца пад вясновым сонцам…

* * *

7.03.2013. Праглядаючы навіны «TUT.BY», натрапіў на «Выбираем самых успешных белорусок», дзе ў спісе з 41-й жанчыны ўбачыў імя Людмілы Рублеўскай. Выбар «топ-10 паспяховых беларусак» арганізаваны ў межах сумеснага праекта «Сакрэт поспеху» Фонду ААН у галіне народанасялення і LADY.TUT.BY. Не магу крычаць, што мая Людміла самая паспяховая ў нашай краіне, але тое, што яна самая працавітая — гэта факт…

* * *

8.03.2013. Яна ішла па снезе, як па белых ружах…

* * *

10.03.2013. Нядзельная раніца. Па нашым двары ходзяць вароны і галубы, нібыта ўсе людзі ператварыліся ў гэтых птушак…

* * *

10.03.2013. Праз сквер вяртаюся з крамы па сцяжыне, па якой хадзіў да бацькі. Іду і спінай адчуваю, што бацька глядзіць мне ўслед. Адварочваюся і бачу на сцяжыне сініцу…

* * *

13.03.2013. Заходзіла адзінокая жанчына гадоў сарака. Піша вершы і прозу. Яшчэ нідзе не друкавалася. Скардзілася амаль на ўсё на свеце. Пайшла, а ў мяне зарыфмавалася:

*У словах тваіх адзінота*
*Схавана, бы ў снезе вада.*
*Жывеш (хоць і жыць не ахвота),*
*Як кошка жыве без ката...*

* * *

15.03.2013. З самага ранку да мяне на працу прыйшла пажылая жанчына і заявіла: «Вы не паверыце! У мяне кот напісаў верш!» — «НапісАў ці напІсаў?» — запытаўся я. «Я ж сказала напісаў!» — «НапісАў ці напІсаў?» — «Не дурыце мне галаву сваім пытаннем!» — разлавалася жанчыны і, бразнуўшы дзвярыма, выйшла з кабінета…

* * *

16.03.2013. У горадзе снегу, як у лесе…

* * *

16.03.2013. Вясна. Жабы яшчэ не прачнуліся, а графаманы адзін за адным ужо ходзяць па рэдакцыях…

* * *

16.03.2013. Праз гурбы прабіраюся да крамы. У галаве гучыць радок: «Як пасля снежнага выбуху!»

* * *

17.03.2013. Машыны ў снезе, як рознакаляровыя цукаты ў белым зефіры…

## У Слонім і дамоў

20.03.2013. З Уладзімірам Мазго ездзіў у Зэльву на адкрыццё Тыдня дзіцячай кнігі…

Ехалі на мікрааўтобусе «Радзіміч». Наглядзеўшыся ў акно і нагаварыўшыся з Валодзем, я кінуў вокам у люстэрка, якое ў кабіне кіроўцы, і ўбачыў, што наш кіроўца — стары і сівы — плача. Праз хвілін дзесяць кіроўца пачаў нешта сам сабе гаварыць і смяяцца. Пасмяяўшыся, стары прыклаў руку да сэрца, пасля чаго пачаў смаркацца і кашляць. Яшчэ праз хвілін пяць кіроўца зноў заплакаў. Потым зноў смяяўся хвілін дзесяць. І я ўжо не глядзеў у акно, а ўсю дарогу да Баранавіч сачыў праз люстэрка за паводзінамі кіроўцы. На прыпынку да нас падышоў мажны з адным зубам мужык, які ехаў з намі, і сказаў: «Хачу вам прызнацца, што мы, відаць, дамоў не даедзем! Нешта з нашым кіроўцам здарылася! Ён то смяецца, то плача! Вы заўважылі гэта?» — «Заўважылі!» — адказаў я, і адназубы стаў распавядаць пра тое, што ён кіроўца аўтобуса з саракагадовым стажам і ён ужо тры гады на пенсіі. Пенсія малая. Мільён дзевяцьсот. І ён па сённяшні дзень працуе на аўтобусе. Плацяць мала і таму, вось такія старыя, як наш кіроўца, нас і возяць. Пасля размовы з адназубым мы з Валодзем усю дарогу да Зэльвы глядзелі толькі ў люстэрка, у якім наш кіроўца то плакаў, то смяяўся…

Выступілі два разы. Адзін раз у бібліятэцы перад школьнікамі малодшых класаў, другі раз у вялікай зале перад старшакласнікамі і жыхарамі Зэльвы. Усё было цудоўна. На развітанне дзеці хацелі нам зрабіць музычны падарунак, але хлопец, які адказваў за музыку, хвілін пяць пракорпаўшыся ў сваёй апаратуры, так і не змог уключыць фанаграму…

За плотам каля царквы бюст Ларысы Геніюш. Праз дарогу хата, дзе жыла паэтка. Побач з ёй двухпавярховы дом, дзе была кватэра, у якой гадаваўся Уладзімір Мазго…

З Зэльвы выехалі на дызелі да Баранавіч. Абапал дарогі лес і снег, як у Сібіры. «А дзе ваўкі, ласі, лісіцы, дзікі?» — гледзячы з акна, час ад часу я задаваў сам сабе пытанне. На маю радасць за Слонімам я ўбачыў казулю, якая выйшала з лесу і спынілася, глядзячы на дызель…

У Слоніме Шчара не замерзла і не замялася снегам. Узгадаліся Сяргей Новік-Пяюн, Алег Лойка, Анатоль Іверс. Вада ў Шчары, як халоднае расплаўленае жалеза, з якога робяць кайданы і зброю…

Недаехаўшы кіламетраў пятнаццаць да Баранавіч, наш дызель спыніўся. Стаяў хвілін дваццаць. Потым раптам мы паехалі назад. Праехалі кіламетраў дзесяць. Зноў спыніліся. Пастаялі хвілін дзесяць і паехалі па другім шляху ў Баранавічы. Усё адбывался без тлумачэнняў з боку кіроўцаў дызеля…

У дзевяць хвілін на дзявятую гадзіну выехалі з Баранавіч на швейцарскай электрычцы. Ехалі, як ляцелі на самалёце…

* * *

23.03.2013. Прачнуўшыся, зірнуў у акно і ўбачыў над высотным домам у белым небе чырвонае сонца. Японцы захапілі нас? Ды не! Гэта яшчэ не скончылася зіма…

* * *

24.03.2013. На шафе пыляцца рукапісы, як фанера, якая праляцела над Парыжам…

* * *

25.03.2013. Прыходзіў Анатоль Клышка, падарыў мне сваю кніжку «Тысяча арэшкаў» (Загадкі для дзяцей і дарослых), а таксама маю кніжку «Пошук радасці» (1987), якую ён купіў перад тым, як я падарыў яму з аўтографам. А цяпер амаль усе маладыя кніжак сваіх не дораць старэйшым, а старэйшыя амаль усе маладых не купляюць…

* * *

26.03.2013. Учора быў настрой, што жыць не хацелася, і я разумеў мільярдэра Барыса Беразоўскага, які гэты свет пакінуў. А сёння сонца і віншаванні з днём народзінаў, і мне радасна, што свеціць сонца і я яшчэ патрэбны ў гэтым несправядлівым жыцці…

* * *

26.03.2013. А сёння «неба чыстае, як шклянка», якая чакае святочнай вячэры…

* * *

26.03.2013. Жыццё цудоўнае, як запаленыя свечкі на святочным торце…

* * *

28.03.2013. Жыццё сумнае, як запаленыя свечкі каля труны…

* * *

28.03.2013. Думаў, што журавы лятуць, а прыгледзеўся — вароны…

* * *

28.03.2013. Тэлефанаваў Адам Мальдзіс. Павіншаваўшы з добрым і арыгінальным «Пугачоўскім цырульнікам», сказаў: «Вы мяне згадваеце, пішучы пра вечарыну Шамякіна: «Найбольш з усяго запомнілася тое, што Адам Іосіфавіч выглядаў, як ксёндз». А я і павінен быў стаць ксяндзом, бо хацеў бацька, аднак, убачыўшы, што я ўсё нешта пішу і друкуюся, змірыўся з маім жаданнем быць пісьменнікам…»

* * *

29.03.2013. За апошнія тры месяцы, дзякуючы інтэрнэту, наладзіў сувязь з некаторымі сваякамі, якіх не бачыў па гадоў 20 ці наогул не ведаў пра іх існаванне. На мінулым тыдні пазнаёміўся з траюраднай сястрой Наталляй Каральковай. Мая бабуля Параска і яе бабуля Дуня — родныя сёстры. Сёння Наталля даслала мне здымкі нашых прадзеда Андрэя і прабабулі Магдалены. Іх прозвішча — Сарока. Сярод атрыманых мною здымкаў ёсць і здымак вучняў Беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны ў Радашковічах, дзе вучыўся муж Еўдакіі Бародзіч Уладзімір Ігнатавіч (1907—1997), які ў той час быў добра знаёмы з Максімам Танкам…

* * *

30.03.2013. Думаючы пра вясну, перабіраў адзенне. З маёй чорнай кашулі выпала паперчына: «Крыж каштуе 104 тысячы…»

### Валерый Залатухін

30.03.2013. Інтэрнат Літаратурнага інстытута. 1986 год. Мой сябра, паэт з Чалябінска Генадзь Суздалеў, запрасіў да сябе ў пакой, каб разам чакаць прыезду ў госці ягонага сябра, артыста Валерыя Залатухіна. Тады мабільных не было і мы з Генадзем сядзелі ўсю ноч у чаканні. Не дачакаліся. Сёння прыйшла вестка, што народны артыст Расіі Валерый Залатухін памёр…

* * *

31.03.2013. Сумна, што няма вясны. Сумна, што няма бацькоў. Ад самоты з'явіліся радкі:

*Ты плывеш у труне*
*Праз лясы і палі.*
*Ты плывеш ад мяне*
*На край роднай зямлі,*
*Дзе крыжы, камяні*
*І сухія вянкі,*
*Як пражытыя дні,*
*Як былыя вякі…*

* * *

31.03.2013. Каля суседняга пад'езда ходзіць кот, як з «Майстра і Маргарыты»…

* * *

31.03.2013. Амаль паўтары гадзіны размаўляў па тэлефоне з Анатолем Блашчыцыным. Успаміналі Пугачы і сваякоў. Ад Анатоля даведаўся, што мой траюрадны брат Антон Янушкевіч у школе пісаў вершы для насценнай газеты. Мінула больш як пяцьдзясят гадоў, а Анатоль памятае Антонава:

*Патрыс Лумумба — пламенны герой.*
*Ён за свабоду Афрыкі*
*Сваіх неграў*
*Смела вядзе ў бой…*

## Красавік

### а. Адольф Шніп

3.04.2013. Дзякуючы «Жывому Часапісу» і фрэнду jacviah прачытаў «Колькі словаў пра а. Адольфа Шніпа, Альбярцін і беларускіх езуітаў» і даведаўся, што мой сваяк Адольф Шніп нарадзіўся 30 лістапада 1906 года ў рымска-каталіцкай сям'і Вінцэнта Шніпа ў вёсцы Пугачы (сёння — Валожынскі раён Мінскай вобласці) і памёр 4 студзеня 1985 года ў Польшчы ў вёсцы Ваўжэньчыцы Уроцлаўскага павета Ніжнесылескага ваяводства.

«Адольф Шніп — беларускі каталіцкі сьвятар лацінскага і бізантыйскага абрадаў, сьвятар з Таварыства Ісуса, адзін з выдаўцоў беларускага рэлігійнага часопісу «Злучэньне», актыўны дзяяч дабрачыннага каталіцкага таварыства «Карытас».

Да езуітаў уступіў у Альбярціне 21 лютага 1927 г. На сьвятара бізантыйскага абраду высьвячаны ў Ковелі 16 чэрвеня 1935 г. Належаў да духавенства Віленскай рымска-каталіцкай архідыяцэзіі.

Ва Усходняй місіі айцоў-езуітаў у Альбярціне пэўны час быў кіраўніком дому, асыстэнтам кіраўніка навіцыяту (соцыюш магістра навіцыяту), адным з рэдактараў беларускага ўнійнага штомесячніка «Да Злучэньня» / «Злучэньне», які выдавалі беларускія езуіты.

У 1937—39 гг. у Вільні быў адміністратарам каталіцкай парафіі Маці Божай Суцяшэньня бізантыйска-славянскага абраду. Гэтай уніяцкай парафіяй апекаваліся езуіты, а для рэлігійных патрэбаў ёй у 1926 г. быў перададзены былы аўгустынскі касьцёл.

Вядома, што ў 1939 быў таксама прэфэктам малой езуіцкай духоўнай сэмінарыі ў Вільні. Праводзіў духоўныя рэкалекцыі для беларускіх студэнтаў, што навучаліся ў Вільні.

У 1940—41 гг. у Кракаве прайшоў трэці этап выпрабаваньняў на шляху сваёй духовай фармацыі (звычайна ў езуітаў гэта 8—10 мес.), які прадугледжаны Канстытуцыяй Таварыства Ісуса перад складаньнем вечных зарокаў. Вядома, што затым працаваў на Падляшшы ў Кожухаве.

У пасьляваенны час жыў у Польшчы пад Уроцлавам, служыў у лацінскім абрадзе. Вядома таксама, што 01.07.1946 а. Адольф Шніп па нейкіх прычынах пакінуў Таварыства Ісуса.

У 1945—1949 гг. быў першым пробашчам шматнацыянальнай парафіі Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі ў Беляве пад Уроцлавам, утворанай на атрыманых пасьля вайны ад немцаў землях. У 1948 годзе вялікая парафія ў Беляве была падзелена на 2 часткі: горная і дольная, пробашчам апошняй быў кс. Адольф Шніп.

Наступным месцам служэньня кс. Адольфа Шніпа была парафія Найсьвяцейшага Сэрца Ісуса ў Жаруве (Уроцлаўская архідыяцэзія), дзе ён быў пробашчам у 1951—1953 гг.

Пасьля Жарува ў 2-й палове 1950-ых ён працаваў пробашчам у парафіі Пекары-Уданін. Быў удзельнікам усіх зьездаў і канферэнцыяў мясцовага каталіцкага дабрачыннага таварыства «Карытас» Уроцлаўскай архідыяцэзіі.

За актыўную дабрачынную дзейнасьць у часы камуністычнай Польшчы кс. Адольф Шніп згодна з ухвалай Рады дзяржавы быў двойчы ўзнагароджаны «Залатым крыжам заслугі». (Другі раз гэтую ўзнагароду атрымаў 19 ліпеня 1954 г. «з нагоды 10-й гадавіны Народнай Польшчы за заслугі ў грамадзкай працы».

У літургічным календары Легніцкай дыяцэзіі на 2011 год падаецца дзень малітоўнай памяці (дзень сьмерці) кс. Адольфа Шніпа: 4.01.1985 і мясцовасць, дзе ён пахаваны — Ваўжэньчыцы.

У кнізе ўспамінаў супрацоўнікаў «Карытасу» («Księża Caritas. Wspomnienia») змешчаны ўспаміны кс. Адольфа Шніпа «Znad Dniepru nad Odrę».(Ks. Adolf Sznip. Znad Dniepru nad Odrę / Księża Caritas. Wspomnienia. — Warszawa, Wydawnictwa Caritas, 1984. S. 391—400.)

* * *

5.04.2013. Сумна, быццам з дуба зваліўся…

* * *

6.04.2013. Сонца няма, але дома сонечна — сёння дзень народзінаў у нашай дачкі Веранікі і ў майго брата Валодзі…

* * *

7.04.2013. У «Беларускім гістарычным зборніку» № 18 надрукаваны артыкул «Беларускія гімназіі ў жыцці Заходняй Беларусі (1920—1930-я гг.)», у якім напісана: «Унікальнай з’явай культурнага жыцця заходнебеларускага краю з’яўляліся беларускія гімназіі. Хоць іх было няшмат — у пачатку 1920-х гадоў працавалі 6 такіх сярэдніх школ (у Вільні, Гродне, Нясвіжы, Навагрудку, Радашковічах, мястэчку Гарадок Вілейскага павета), аднак яны захоўвалі і развівалі традыцыі беларускай нацыянальнай школы.(…) Пазіцыі беларускіх гімназій увесь час слабелі. Не вытрымаўшы ўціску і фінасавых цяжкасцей, спыніла сваё існаванне беларуская гімназія ў Гродне. З-за тых жа праблем, а таксама аддаленасці ад густанаселенай мясцовасці, кіраўніцтва гімназіі ў Гарадку з 1922 г. спрабавала перанесці яе ў Валожын, але праз 2 гады польскія

ўлады наогул закрылі школу. Такі лёс напаткаў і гімназію ў Нясвіжы». Гарадок знаходзіцца ў кіламетрах шасці ад Пугачоў і некалькі маіх аднавяскоўцаў вучыліся ў Гарадоцкай беларускай гімназіі. Пра гэта я даведаўся недзе дваццаць пяць гадоў таму, калі яшчэ жылі тыя старыя, у якіх можна было шмат пра што распытацца, але, але…

* * *

7.04.2013. Думаючы пра роднае і родных, занатаваў:

*Родны край напоўнены слязамі,*
*Быццам Храм святымі абразамі.*
*І жыву-гляджу на абразы,*
*Як на водсвет божае слязы…*

* * *

9.04.2013. У словах «хутчэй бы на пенсію!» праслухоўваецца гатоўнасць памерці…

* * *

11.04.2013. З-пад снегу на асфальтаваную дарогу цячэ вада, як з белай травы ручаіна…

* * *

15.04.2013. Дастаў старыя летнія туфлі з каробкі, як з труны…

* * *

15.04.2013. Захад чырвоны, быццам царкоўнае віно…

* * *

16.04.2013. Пасля смерці бацькоў адчуў, што дзяцінства, якое ўспаміналася, як блізкае мінулае, стала такім далёкім, нібыта яно наогул мне прыснілася…

* * *

16.04.2013. Вяртаючыся з абеда на працу, прайшоў міма народнага артыста Расціслава Янкоўскага, з якім нядрэнна знаёмы і ў якога, калі рыхтавалася кніга пра яго для серыі «ЖЗЛБ», бываў дома і некалькі гадзін разам з ім поўзаў па падлозе, выбіраючы з альбомаў фотаздымкі для друку. Я прайшоў міма, не вітаючыся, бо Расціслаў Іванавіч ішоў прыгожа і так, нібыта навокал не было нікога, акрамя яго…

* * *

17.04.2013. «Ён моліцца толькі на свой пуп!» — характарызуючы аднаго вядомага творцу, сказаў Алесь Масарэнка. Думаю, што такіх вядомых творцаў у нас, на жаль, набярэцца больш як дзясятак…

* * *

17.04.2013. Прыходзіў сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Данёс некалькі матэрыялаў да кнігі пра Янку Маўра, якую мы збіраемся выдаць да канца года. Гаворачы пра жыццё-быццё, Міхась Канстанцінавіч прапанаваў выдаць паэму Якуба Коласа «На шляхах волі», над якой паэт працаваў трыццаць гадоў і якая яшчэ ніколі не выходзіла асобнай кнігай…

* * *

17.04.2013. На месцы філфакаўскага інтэрната БДУ выкапаны катлаван, глыбінёй метраў пяць. Будаўнікі ў ім ужо больш за паўгода змагаюцца з вадой, якая перашкаджае працаваць. Палова катлавана, якая бліжэй да Свіслачы, чорнага

колеру — ляжыць торф, а другая палова — пясчаная.Назіраючы за будаўніцтвам, я ўвесь час думаю, што ў торфе будаўнікі павінны знайсці калі не косці маманта, дык рыцарскія латы…

**Пісьменніца і зубы**

18.04.2013. У пісьменніцы памерла маці. Прыехаўшы ў вёску на пахаванне, яна дастала з рота ніжні зубны мост і паклала на відным месцы за шкло ў сервант. Потым, вярнуўшыся з могілак, пісьменніца зазірнула ў сервант, каб забраць свае зубы, а іх там і няма. Перашукала ўсюды, дзе толькі магла, але зубоў так і не знайшла. І пісьменніца вырашыла, што нехта яе зубы паклаў маці ў труну, думаючы, што гэта зубы памерлай. Да ўсяго яна з братам узгадала, што, калі хавалі бацьку, то забыліся пакласці яму ягоныя зубы, і потым брату давялося прыкопваць іх да бацькавай магілы. Цяпер пісьменніца ўжо амаль месяц думае толькі пра свой ніжні зубны мост, які пахаваны разам з маці…

* * *

18.04.2013. Нарэшце пабачыў шпакоў, якія вярнуліся з выраю. Шпакі чорныя, як афрыканцы…

* * *

18.04.2013. У катлаване на месцы інтэрната філфака БДУ ў тарфяной жыжы капаюцца будаўнікі, як мележаўскія людзі на балоце…

**«Солео» па-беларуску…**

18.04.2013. Усміхнуўся, прачытаўшы ў «Камсамолцы» інфармацыю: «На працягу месяца чытачы «Камсамолкі» прысылалі свае варыянты песні «Солео» на беларускай мове. Усяго прыйшло каля 70 беларускіх тэкстаў. Пісалі Ланской выкладчыкі, мовазнаўцы, паэты… Але найбольш спадабаўся тэкст мінчанкі Вікторыі Салаўёвай. Ад Алены Ланской Салаўёва атрымае ў якасці прыза білет на першы паўфінал «Еўрабачання-2013» на 14 мая, дзе выступае Беларусь.

*Soleo, soleo*
*У крыві хутчэй агонь запалі.*
*Soleo-лілея —*
*Быццам кветка ў сэрцы маім.*

*Soleo, soleo*
*Гэтай ноччу мы з табой візаві.*
*Сагрэе, сагрэе*
*Нас сагрэе танец любві.*

* * *

18.04.2013. Зямля заўсёды сырая…

* * *

18.04.2013. Царква на другім беразе ракі, як у іншым свеце…

* * *

19.04.2013. Растаў снег і на клумбе жоўтыя і белыя недапалкі, як абляцелыя пялёсткі кветак смерці…

## Першае вяртанне…

20.04.2013. З братам Вовам, сястрой Валяй і яе мужам Віцем ездзілі ў вёску…

Адразу заехалі на Ракаўскія могілкі да бацькоў. Снегу няма. Помнікі сумныя, як сіроты…

Непадалёку ад бацькоўскіх магіл завіхаліся далакопы. Мы падышлі і даведаліся, што ў Ракаве памёр былы пажарнік, якому было 73 гады. У доле вада і мужчыны накідалі яловых галін, але яна ўсё роўна прасвечваецца праз іх. «Гэта не бяда! Некалькі дзён таму мы тут паблізу капалі. Выкапалі, чакаем труну, а тут раптам хлынула вада з зямлі і нацякла аж па самыя берагі. Давялося закопваць і ісці на новае месца. А вада тут усюды, бо крыніцы б'юць!» — расказаў старэйшы далакоп…

Над могілкамі праляцелі жуправы, нібыта спецыяльна, каб мы паглядзелі ў неба…

Ходзячы па могілках натрапілі на сціплую магілу, на якой напісана: «Тут спачывае нястомны працаўнік настаўнік Адам Малахавіч Прышчэпаў (11.07. 1894—22.05.1964)».

Могілкі — гэта нашы каменныя энцыклапедыі, у якіх болей таямніц, чым тлумачэнняў...

У вёсцы каля хат суха і толькі каля нашай стаіць вада — няма каму з ёй змагацца…

У хаце на сценах два замоўклыя гадзіннікі. Адразу падумалася, што адзін мамін, а другі бацькаў…

Суседка Зіна Мальчыкава падышла да плота пагаварыць. Расказала, што два тыдні таму ў Мінску памёр яе брат Коля. Пахавалі ў Дубровах. Яму было 56 гадоў. Узгадалася, як Коля ішоў у войска. Я быў на выправах. З роднага дому ў невядомы свет Колю павезлі на грузавой машыне і цяпер на грузавой машыне Коля вярнуўся ў родную зямлю…

Суседзі з нашых бяроз і клёна спусцілі сок. Трохлітровыя слоікі пад дрэвамі свецяцца на сонцы і асвятляюць тыя часіны, калі жылі бацькі…

У хлеве поўна вады, як у басейне…

Па вуліцы швэндаецца моладзь, нібыта заблудзіўшыся…

У садзе пад яблынямі там-сям ляжаць яблыкі. За зіму не змерзлі і іх можна есці…

Кусты агрэсту, як скруткі калючага іржавага дроту…

Брат расчыніў стары чамаданчык, у якім мама захавала мае лісты і газетныя публікацыі вершаў. Усё пажаўцелае, нібыта з фронту…

Пасаджаныя мамай касачы вось-вось закрасуюць…

У паштовай скрынцы рудая лістота, як попел…

З сястрой вырашылі, каб зямля не дзічэла, пасадзіць грады…

Зайшліся да бацькавага стрыечнага брата Шуры, які ўжо 21 год, як з жонкай Дзінай пераехаў з Маладзечна. Падарыў дзядзьку «Пугачоўскага цырульніка»…

У горад вярталіся, як з планеты, на якой жылі бацькі…

* * *

23.04.2013. Сяджу дома. Нікуды не хачу ісці і нічога рабіць не хачу, і няма каму прымусіць мяне. Тэлефонныя званкі, як званкі для праверкі: «Ці яшчэ жывы ён там?»

## Язэп Драздовіч і мы

24.04.2013. З Вячаславам Рагойшам, Яўгенам Лецкам, Ганнай Запартыка і Людмілай Рублеўскай ездзіў у Маладзечна на канферэнцыю, прысвечаную жыццю і творчасці Язэпа Драздовіча, якую арганізаваў Міхась Казлоўскі…

У вагоне электрычкі поўна старых. Едуць на лецішчы, як у іміграцыю…

Па вагоне прайшла цыганка з дзецьмі. Ніхто нічога не даў…

«Не паліце сухую траву!» — кожны год вясной усё гучыць і гучыць з дынамікаў у вагонах. А трава ўсё гарыць і гарыць…

Лапікі снегу абапал чыгункі, як шкура з вялікай белай змяі, якая прачнулася пасля зімы і цяпер мяняе свой колер…

Сонца, як шчасця, няма…

Чым далей ад Мінска, тым больш пусцеюць вагоны. Старыя выходзяць на сваіх станцыях, як паміраюць у свой час…

Мы гаворым пра літаратуру, нібыта больш няма пра што гаварыць…

У Маладзечне на вакзале вецер, нібыта п’яны дворнік, які нядаўна прачнуўся, мяце туды-сюды смецце і пыл…

Нас сустрэў Міхась Казлоўскі, як тутэйшы Ной…

Да бібліятэкі імя Максіма Багдановіча ідзём па вуліцы Прытыцкага. Вуліца пешаходная, як маскоўскі Арбат…

На канферэнцыю сабралася народу поўная зала. Запомніўся пытаннем мастак Кастусь Харашэвіч: «Да якога рэалізму можна аднесці творчасць Язэпа Драздовіча?», на якое тут жа сам і адказаў: «Да нацыянальнага рэалізму!»…

Па-за планам канферэнцыі выступіла настаўніца Маладзечанскай СШ № 12 Алена Сымановіч. Дваццаць гадоў таму яна вучылася на філфаку ў Вячаслава Рагойшы. Пачала выступленне з віншавання Вячаслава Пятровіча з ордэнам Скарыны, а закончыла: «Мне, Вячаслаў Пятровіч, Ваш падручнік па літаратуры не падабаецца. Ён вельмі складаны. Не для нашых дзяцей!»…

Ад’язджалі са станцыі «Фестывальная». Міхась Казлоўскі, паказваючы на могілкі, якія непадалёку, сказаў: «Там на ўзгорку пахаваны Мікола Ермаловіч…»

Пасля Ермаловіча ўзгадалі Міколу Капыловіча. «На вечарыну, якая была прысвечаная Міколу, з Мінска аніводзін ягоны таварыш-пісьменнік не прыехаў, хоць і абяцалі…» — уздыхнуў Міхась Казлоўскі і перавёў размову на весялейшае, на Язэпа Драздовіча…

Дамоў ехалі, гаворачы пра літаратурную крытыку. Людміла ўсё запісала на дыктафон, каб не прапалі цікавыя думкі Вячаслава Рагойшы, Яўгена Лецкі і Ганны Запартыкі…

Абапал дарогі высякаюцца кусты і выразаюцца вялікія дрэвы. Пні, мокрыя ад соку, свецяцца ў рудой траве, як патэльні, на якіх пячэцца наша будучыня…

Вярнуліся дамоў, нібыта пабываўшы ў гасцях у Язэпа Драздовіча. І радасна на душы, і сумнавата…

* * *

25.04.2013. З сябрам ездзілі на лецішча. Дапамог яму разгрэбці кратавінне ў агародзе…

Вецер выганяў сухое лісце з двара. Здавалася, што лісце само ўцякае, баючыся, што мы зараз раскладзём вогнішча і спалім яго…

Шпакі чорныя, а песні ў іх светлыя…

Муха праляцела па пакоі, радуючыся, што перазімавала…

Шкельцы ў траве, як ільдзінкі, што яшчэ не расталі…

Бусел стаіць у буслянцы, як чалавек пасля доўгай жыццёвай дарогі на споведзі…

Буслянка з буслом, як цэнтр вясны…

Вада ў азярыне, якая нядаўна вызвалілася з лёду, рудаватая, як гарбата з лясных і палявых зёлак…

Коцікі на вярбе, як чмялі, якія п’юць мёд з вясновага сонца і паветра…

Хвалі б’юцца аб бераг, нібыта будзяць траву…

Лапікі снегу, як белая шчыгрынавая шкура…

Ялінам няёмка, што яны зялёныя…

Дзот каля дарогі. Стаіць, нібыта зімой была вайна…
На раллі чорныя вораны. На могілках чорныя помнікі…
Вярталіся ў горад, як у клетку…

* * *

28.04.2013. Дождж. На дрэве пад маім акном мокне варона, як чорная ануча…

* * *

28.04.2013. За акном на вуліцы цішыня, нібыта спыніўся час…

* * *

28.04.2013. Цэлы дзень ішоў дробны дождж і каля майго акна цэлы дзень на дрэве сядзелі вароны, нібыта чакалі, калі я засну і яны змогуць выкляваць мне вочы…

* * *

29.04.2013. Пішучы вершы без рыфмаў і рытму, некаторыя адразу думаюць пра перакладчыкаў, якім будзе лягчэй рабіць сваю чорную справу…

* * *

29.04.2013. Праз расчынены балкон заляцела муха, думаючы, што нікога дома няма...

* * *

29.04.2013. Другі дзень дзве вароны сядзяць на дрэве, што каля майго акна. Не анёлы ж гэта…

* * *

29.04.2013. Нашы няшчасці ад чужога шчасця…

* * *

29.04.2013. Забіў муху. Першая ў гэтым годзе…

* * *

29.04.2013. «Мне ўжо не быць прыгожым!» — уздыхнуў сусед Дзіма, гледзячы на шпака, што сядзеў на шпакоўні…

## Смілавічы і Хаім Суцін

30.04.2013. Дзякуючы нашай сяброўцы Надзі Вусавай з Людай з'ездзілі ў Смілавічы, дзе наведалі музей, прысвечаны Хаіму Суціну…

Мастак нарадзіўся 13 студзеня 1893 года ў Смілавічах (Мінская губерня, зараз Чэрвеньскі раён), а памёр 9 жніўня 1943 года ў Парыжы як французскі мастак-экспрэсіяніст, ураджэнец Беларусі, адзін з найбольш вядомых прадстаўнікоў Парыжскай школы жывапісу ў 1920-х — 1930-х гг.

«Хаім быў дзесятым з адзінаццаці дзяцей у сям'і. Яго маці Сара была жанчынай добрай і ледзь паспявала накарміць і абслужыць шматлікую сям'ю. Бацька быў краўцом (па іншых звестках, сінагогальным служкам) і знаходзіўся ў самым нізе сацыяльнай іерархіі мястэчка. У адных кнігах пра Суціна гаворыцца, што бацьку звалі Борух, у іншых яго называюць Саламонам. Хутчэй за ўсё, і тое, і другое — праўда,— напэўна, імя бацькі мастака было Борух-Шалом. Ён не быў ні выбітным эрудытам, ні чалавекам, які бясконца верыць у сілу розуму. Ён верыў у свае рукі працаўніка і быў адзіным карміцелем цэлай плоймы галодных ратоў», — так пішацца ў адной з кніг пра Хаіма Суціна.

Музей знаходзіцца ў двух пакоях у доме «Цэнтра дзіцячай творчасці». Арыгіналаў няма, але копіі карцін добра глядзяцца і ствараюць уражанне каштоўнасці таго, што бачыш…

Да нашага прыезду сярод дзяцей быў праведзены конкурс на лепшую варыяцыю карцін Хаіма Суціна. Усе ўзнагароды атрымалі дзяўчаты, а хлопцы, здаецца, у конкурсе і наогул не ўдзельнічалі…

У музеі шмат фотаздымкаў таго часу, калі ў Смілавічах жыў Хаім. Глядзіш на фотаздымкі і забываешся, што ты знаходзішся ў мястэчку, дзе ўжо «няма таго, што раньш было…»

Раней, да бальшавікоў, у Смілавічах былі царква, касцёл, сінагога і мячэць. Цяпер толькі царква і мячэць…

На месцы хаты, у якой нарадзіўся будучы мастак, збудаваны вялізарны катэдж…

Паглядзелі палац Ваньковічаў-Манюшкаў. Дзяржава яго ахоўвае, а ён разбураецца…

Хацеў заглянуць у палацавае падзямелле, але дарогу мне перапоўз паўметровы вуж і я пабаяўся ісці далей…

Парк вялікі і прыгожы. Еўропа…

На беразе Волмы вялізарныя вербы. Многія паваліліся і ляжаць у мінулагодняй траве, як мёртвыя беларускія цмокі…

Вада ў рацэ няспешная, як наша агульнае беларускае разуменне, што палац Ваньковічаў-Манюшкаў у Смілавічах — гэта наша нацыянальнае багацце, якое гіне на вачах…

Каледж пчалаводаў. Дзясяткі вулляў. Пчолы гудуць навокал, быццам ты сам знаходзішся ў вуллі…

У парку дым — дагараюць кучы мокрага мінулагодняга лісця. Адчуванне, нібыта нядаўна была асада палаца Ваньковічаў-Манюшкаў і асаднікі, на нейкі час захапіўшы палац і разбурыўшы яго, сышлі з нарабаваным у невядомасць…

Не толькі ў назве мястэчка Смілавічы, але і ў самім мястэчку ёсць шмат мілага, нашага даўняга мінулага, беларускага, ад чаго хочацца жыць і вандраваць па роднай зямлі…

## Травень

* * *

1.05.2013. Сёння нашаму з Людмілай Максіму 20 гадоў. Ён студэнт другога курса Беларускай акадэміі мастацтваў. А я ў яго ўзросце разам з былымі турэмшчыкамі і дзейснымі алкаголікамі працаваў грузчыкам на лікёра-гарэлачным заводзе «Крышталь». Меў дзве клікухі — «Вожык» і «Шніцаль», і ў мяне наперадзе было яшчэ пяць «рамантычных» гадоў дармаедства…

## Ровар

3.05.2013. У Лягезах, дзе я гадаваўся ў бабулі, было дзесяць хат і ровароў у людзей не было. Я ўпершыню ўбачыў ровар, калі мне было шэсць гадоў і мама на ім прыехала да мяне. Мамін ровар быў з кошычкам, у якім яна прывезла пазнаёміць са мной маю малодшую сястру Валю. Потым, калі мяне бацькі забралі дамоў у Пугачы хадзіць у школу, на нашым ровары ездзіў толькі я. Ён часта псаваўся, і я днямі калупаўся ў ім. Рамантаваць ніхто мне не дапамагаў, таму, бывала, па некалькі месяцаў на ровары нікуды не выязджаў. Адрамантаваўшы, гойсаў па вуліцах як угарэлы. Скончылася ўсё тым, што я на хуткасці паваліўся і пагнуў кола і да ўсяго парваў ланцуг. Пасля гэтага ровар некалькі гадоў іржавеў у паветцы. Калі я паехаў вучыцца ў горад, бацька вынес ровар у лясок і выкінуў…

## Піла

3.05.2013. Піла была старая і ржавая. Бацька, за зіму і вясну навазіўшы ў двор усякага ламачча і дачакаўшыся маіх школьных канікул, аднойчы ранкам, калі ў мяне былі свае планы, казаў: «Ну, хлапец, пайшлі пілаваць!» І мы цэлае лета амаль кожны дзень, калі бацька вяртаўся з працы, пілавалі дровы на зіму. Напачатку я пілаваў спакойна, а праз некалькі тыдняў пачынаў ленавацца і злавацца. Прыдумляў, што мне баляць жывот, галава, рукі, ногі. Словам, я прыдумляў сабе хваробы, а бацька тут жа мяне лячыў абяцаннем даць магчымасць пакатацца на ровары. Часам, я хаваў пілу ад бацькі, але ён заўсёды знаходзіў яе. Бывала, я крывіў у піле зубы, а бацька тут жа іх раўняў. І мы зноў пілавалі і пілавалі дровы. Піла была старая і ржавая…

## Сячкарня

3.05.2013. Сячкарня стаіць у пуні. Я доўгі час баяўся яе. Бацька з мамай раз на тыдзень рэзалі сечку, а я, хлапчук, здалёку праз расчыненыя дзверы назіраў і слухаў рытмічнае: «Чах! Чах! Чах! Чах!» Аднойчы мама выйшла з пуні і сказала: «Віця, ідзе дапамажы бацьку!» З таго дня сечку для каровы рэзаў бацька толькі са мной. Першых хвілін дваццаць было лёгка, а чым далей, тым усё цяжэй было круціць кола сячкарні. Праўда, бацька, убачыўшы, што я стаміўся, мяняўся са мной і я клаў канюшыну і салому ў латок, па якім яны з’язджалі да нажоў. Праз некалькі гадоў дзядзька Барыс прывёз з Мінска дзвіжок да сячкарні і мы з бацькам за гадзіну нарыхтоўвалі сечкі на цэлы месяц. Сёння ў мяне няма ні мамы, ні бацькі, а сячкарня ўсё стаіць у пуні, і мне ўсё бліжэй і гучней чуецца: «Чах! Чах! Чах! Чах!»

* * *

3.05.2013. Дождж. Змрочна. Сяджу ў кватэры, як у камандзірскай зямлянцы…

## Лапата

4.05.2013. Некалькі тыдняў таму ездзіў у вёску. У людзей у дварах было суха, а наша хата стаяла сярод вады, як на востраве. Такога не было б, калі б жыў бацька. І я, узяўшы лапату, накапаў раўчукоў, па якіх тут жа вада пачала сцякаць з нашага двара. Чаранок у лапаты быў цёплы, нібыта за яго толькі што трымаўся бацька, і я, капаючы раўчукі, увесь час думаў пра бацькоў. Зрабіўшы справу, паставіў лапату ў сенцы, дзе яна ўжо стаіць без працы амаль два гады…

## Плуг

4.05.2013. Калі памёр мой дзед, плуг забраў сабе мой бацька. Калі памёр мой бацька, плуг забралі невядомыя мне людзі…

## Мяшок бульбы

5.05.2013. Яны мелі машыну і па выхадных ездзілі ў вёску, дзе засталася хата ад бацькоў. Ездзілі не адпачываць, а вырошчваць бульбу. У іх быў малалетні сын, які заўсёды прасіўся, каб бацькі ўзялі яго ў вёску. «Ты тоўсты! Я лепей лішні мяшок бульбы прывязу!» — казаў бацька і не браў малога з сабой.Так працягвалася яшчэ гадоў дзесяць і, калі бацькі захацелі, каб сын паехаў з імі ў вёску дапамагчы выбіраць бульбу, хлопец адказаў: «Я тоўсты! Вы лепей мяшок бульбы прывезяце!»

* * *

5.05.2013. Вялікдзень. Пчолы з вярбы забралі золата…

* * *

6.05.2013. Сяджу ў адпачынку, як схаваўшыся ў бульбе…

## Дзядзька Віця

6.05.2013. Сёння мамінаму брату Віцю, які жыве ў Лягезах, 80 гадоў. Я патэлефанаваў яму і павіншаваў з юбілем. Дзядзька паскардзіўся, што са здароўем не вельмі добра, але трымаецца. Узгадалася далёкая вясна, калі я жыў у Лягезах у дзядзькі Вані і цёткі Алі. У адзін цудоўны дзень, калі нікога не было дома, я, шасцігадовае хлапчаня, расклаў вогнішча на ганку дзядзькавай хаты. Не ведаю, чым бы скончылася тое маё вогнепаклонніцтва, калі б не дзядзька Віця, які ішоў з працы. Ён накрычаў на мяне і, патушыўшы вогнішча, крыху прайшоўся дзягай па маім мяккім месцы. Гэта было даўно, але гэта было…

* * *

8.05.2013. «Пры Саветах касцёл у Дубровах падпалілі мясцовыя камсамольцы, і ён тры дні гарэў. Побач з разваліналі касцёла знаходзіцца магіла ксяндза Мурончыка, якога ў вайну забілі быццам бандыты, за тое што «пашкадаваў» аддаць хромавыя боты. Я ведаю, што гэта былі за бандыты, але не скажу, бо баюся…» — расказвае стары, але, убачыўшы, што я пачынаю запісваць, кажа: «Ай! Нічога я не памятаю!»

## Тадэвуш Рэйтан і мы

10.05.2013. Дзякуючы запрашэнню кіраўніка арт-суполкі імя Тадэвуша Рэйтана Зміцеру Юркевічу з Людмілай схадзілі ў Музей сучаснага выяўленчага мастацтва на вечарыну «Вяртанне Героя на Бацькаўшчыну», прысвечаную дэпутату ад Наваградскага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага на Варшаўскі Экстраардынарны сойм 1773 года Тадэвушу Рэйтану. З выступленняў даведаўся, што Рэйтаны паходзяць з прускіх немцаў, як і мой продак Герман Шніп (1760—1830), які ў графа Патоцкага быў упраўляючым. На вечарыне мне было прапанавана выступіць, і я прачытаў «Баладу Тадэвуша Рэйтана». З Людмілай паглядзелі выставу, якая складаецца з мастацкіх, навуковых і публіцыстычных твораў, што прысвечаны Рэйтанам. Дарэчы, пляменнік Тадэвуша Станіслаў быў даволі цікавай асобай і пісьменнікам. Адзін з яго твораў — «Як было ў нас» прадстаўлены на выставе. У творы распавядаецца пра падзеі на Літве (Беларусі), літвінаў і палякаў пачатку і сярэдзіны XIX стагоддзя. На выставе шмат фотаздымкаў грушаўскіх краявідаў і той спадчыны, якую пакінулі пасля сябе Рэйтаны (аўтар — мастак-краязнавец Сяргей Чарановіч). На жаль, як і большасць таго, што нам засталося ад нашых продкаў, хоць і мае шыльды «Ахоўваецца дзяржавай», разбураецца часам і людзьмі…

* * *

11.05.2013. У бясхмарным небе птушка, як парушынка ў воку…

* * *

11.05.2013. У кнігарні «Ў» набылі кнігу Зоські Верас «Я помню ўсё», у якой змешчаны ўспаміны і лісты. Чытаю, нібы жыву побач з Людвікай Антонаўнай і яна мая родная бабуля…

* * *

11.05.2013. Цягнік, як тромб…

* * *

12.05.2013. Дзень быў доўгім, як дарога праз незнаёмы лес…

* * *

12.05.2013. На могілках сярод чорных помнікаў чорныя машыны, як помнікі. Нумары на машынах, як дні жыцця…

* * *

12.05.2013. Быў у Барыса на лецішчы. Нашы Людмілы садзілі грады, а мы з Барысам і Алесем рабілі цяжэйшую працу…

Жаўранкі высока ў небе, буслы на гнёздах, шпакі ў траве і каля шпакоўняў. Іншых пушак амаль не бачна, нібыта іх няма…

Навокал жоўтыя дзьмухаўцы, як залатая Арда…

У кустах на беразе возера барадаты рыбак, як лесавік…

На старых могілках вёскі Навасёлкі Дзяржынскага раёна помнік Карусю Каганцу, які быў пастаўлены ў 1988 годзе. Магіла паэта дагледжаная, а навокал у траве і ў кустах валяюцца ржавыя крыжы і пабітыя надмагільныя пліты…

Варона на дрэве, як магільны сторож…

У цэнтры Волмы на ўзгорку касцёл святога Яна Хрысціцеля. І здаецца, што тут самае высокае месца ў Беларусі, а не гара Дзяржынскага, якая ў некалькіх кіламетрах ад мястэчка…

Стары млын на замку і вокны з забітымі дошкамі, нібыта вочы волата-млынара, закрытыя пальцамі…

Мясцовыя дзеці хочуць залезці ў млын, але ў іх гэта не атрымоўваецца і яны хваляцца нам, што знайшлі ў балоце ржавы гаршчок, які тут жа выцягваюць на дарогу: «А можа, ён залаты?»

У Волме сядзіба Ваньковіча XIX стагоддзя. Цяпер тут тэрыторыя інстытута імя Сахарава. На адным з будынкаў, дзе, магчыма, раней быў герб роду Ваньковічаў, вялікая савецкая зорка…

Падышоў сторож і загаварыў па-беларуску: «Вы тут доўга не будзьце! Калі начальства ўбачыць вас, дык мяне з працы могуць выгнаць!»

Па дарозе да капліцы Ваньковічаў праз рэчку невялікі мост. Дзеці пад ім рукамі ловяць рыбу. Рыба дробная, як мінулагодняе пасівелае лісце з вербалозаў, што растуць на беразе…

Красуе чаромха. Пчолаў не бачна і не чутна. Камары радуюцца нашаму прыходу…

Ад капліцы Ваньковічаў засталася адна цагляная сцяна. Чырвоная, як кроў, што запяклася пад сонцам…

**Хата анямелая…**

14.05.2013. Я з Людай і сястра Валя з мужам і дачкой Надзяй ездзілі ў Пугачы. Наша хата без бацькоў за зіму пастарэла. Люда ўзгадала мой даўні верш:

*Хата анямелая, сівая,*
*З шэраю буслянкай, як вянком,*
*Вокнамі задумна пазірае,*
*Склаўшы рукі на дзярах замком…*

У двары буяе трава. Асабліва дзьмухаўцы і лопух. Падумалася: «Як у Чарнобыльскай зоне…»

У хаце ні павукоў, ні мух…

Дзядзька Толя прывёў каня, каб пасадзіць бульбу і зрабіць грады. Зямля пасля начнога дажджу вільготная. Раней па раллі, збіраючы чарвякоў, хадзілі куры з пеўнем, а цяпер адзінокі шэры верабей скакаў…

У абед з пашы ў вёску вярнуліся каровы. Наша не прыйшла і не прыйдзе…

Абкасіў траву каля хаты і хата павышэла…

На яблыні шпакоўня, а шпакі ў ёй не жывуць…

У паштовай скрынцы павуціна, як трэшчынкі на маім вясковым жыцці…

Ад'язджаючы да бацькоў на Ракаўскія могілкі, нарвалі цюльпанаў, якія садзіла мама…

**Вялікі камуніст і капліца**

15.05.2013. Па справах да мяне на працу заходзіў Вячаслаў Рагойша. Гаварылі пра Радаўніцу і Ракаўскія могілкі. Ад Вячаслава Пятровіча даведаўся, што на месцы цяперашняй капліцы, што непадалёку ад могілак, раней была іншая капліца, да якой прыходзілі людзі па святую ваду. Пры Саветах мясцовы начальнік, які быў вялікім камуністам, уздумаў разбурыць капліцу. Па яго загадзе быў прыгнаны трактар, але трактарыст адмовіўся тросам зрываць купал. Начальнік сам не мог сесці ў трактар, бо быў аднаногі, і тады ён сказаў свайму сыну школьніку сесці за руль, і хлопец сеў і зрабіў усё, што хацеў бацька. Разбурыўшы капліцу, вялікі камуніст надумаў да ўсяго заараць крыніцу. Доўга не мог знайсці трактарыстаў, якія б згадзіліся на такую справу, але ўсё-ткі знайшоў двух мясцовых мужыкоў. Пасля гэтага праз нейкі час гэты вялікі камуніст некуды паехаў на машыне і прапаў. Доўга шукалі. Знайшлі яго выпадкова піянеры з піянерскага лагера разам з машынай у рэчцы каля Новага Поля. Праз год памёр адзін трактарыст, які заараў крыніцу са святой вадой, а яшчэ праз год і другі памёр…

* * *

16.05.2013. Раніцай сцюдзёна. Кветкі на каштанах, як марозіва…

* * *

17.05.2013. Тэлефанавала жонка Хведара Жычкі. Ёй 82 гады. Скардзілася: «Майго Хведара ніхто не ўспамінае, нібыта яго на свеце і не было. Мінула шэсць гадоў, як ён памёр, а я ўсё ніяк не магу помнік паставіць…»

* * *

20.05.2013. Тэлефанаваў мастак Андрэй Смаляк. Запрасіў на пятніцу на праспект Незалежнасці на адкрыццё выставы «Ажыўшыя карціны». Будзе прадстаўлена 110 рэпрадукцый, якія будуць вісець на плоце парку Чалюскінцаў да першых маразоў або да таго часу пакуль іх не папсуюць неабыякавыя гледачы…

* * *

20.05.2013. Прыснілася, што мы з Міхасём Казлоўскім нясём з Вішнева ад Канстанцыі Буйло і Пятра Бітэля дзве цяжкія сумкі з рукапісамі новых твораў. Стаміліся. Тут раптам з кустоў выходзіць стары ў міліцэйскай форме і кажа: «Кіньце гэтыя рукапісы! Іх ніхто не надрукуе!» Мы не слухаем старога і цягнемся далей са сваёй ношай. На зжатым полі сярод куч саломы знаходзім машыну. Я саджуся за руль, і мы едзем па дарозе да Валожына, куды нядаўна перабраліся ўсе выдавецтвы. Праз нейкую хвіліну Міхась кажа: «Як ты едзеш? Ты ж на шафёра не вучыўся!» — і тут жа машына развальваецца, а мы, упаўшы на зямлю, бачым як сумкі з рукапісамі нашых зямлякоў Канстанцыі Буйло і Пятра Бітэля ператвараюцца ў авечак і ўцякаюць ад нас…

### На роднай зямлі…

22.05.2013. Ездзіў у Івянец на сустрэчу са школьнікамі…

Па мяне да Каменнай горкі прыехалі на машыне настаўнікі: Людміла Уладзіміраўна і Валянціна Васільеўна. Усю дарогу гаварылі, нібыта сто гадоў знаёмыя…

У Івянцы жыве каля пяці тысяч чалавек. Вучняў у школе 730. Вучацца ў дзве змены. Паслухаць мяне ў актавую залу прыйшло больш за трыста дзяцей…

Вучні чыталі мае вершы і спявалі песні. Я адказваў на пытанні, жартаваў, раздаваў аўтографы. Сядзеў на сцэне, як на Парнасе…

Пасля імпрэзы папрасіў Людмілу Уладзіміраўну паказаць касцёл, які быў збудаваны ў 1705 годзе. Чыста ў двары. Усё па-беларуску. Пахадзілі па па касцельных сутарэннях, нібы па мінулых стагоддзях…

Пры касцёле жывуць манашкі. З іх дзве нядаўнія выпускніцы Івянецкай школы. Прыгожыя, як Мадонны Рафаэля…

Увесь час хмурылася, але я не адмовіўся ад жадання паехаць у родныя Пугачы. Ехалі з Валянцінай Васільеўнай праз Яршэвічы. Навокал усё зялёнае, прыгожае і роднае да слёз…

Пайшоў дождж, як пачатак патопу…

Прыехаў дамоў. Хата самотная. Парасчыняў дзверы, каб праветрыць пакоі. Завёў насценны гадзіннік, які ўжо каля двух гадоў маўчаў, і ён затукаў, нібыта сэрца…

У хату заляцела муха. Палётаўшы і нічога для сябе не знайшоўшы, вылецела на вуліцу…

У двары зноў трава вырасла. Дзьмухаўцы адкрасавалі і цяпер стаяць белыя, як створаныя з дыму майго мінулага…

У хаце раптам захацелася паклікаць маму і бацьку. Паклікаў. Ніхто не адгукнуўся і ніколі ўжо не адгукнецца…

На куце каля іконы заўважыў засохлыя вербныя галінкі. Відаць, іх там яшчэ мама прымацавала…

Грады абышлі. Травы няма, нібыта мама іх прапалола перад маім прыездам…

Прыціх дождж, і я выйшаў на вуліцу. Побач пустыя хаты. У адной яшчэ нядаўна жыў Дзяўго. На двары, як і ў нас, поўна травы. Куст бэзу каля ганка, як вялізарны букет…

Насупраць нас жыў Сашка Балотнік. Вось ужо 7 гадоў, як мой аднакласнік на Дубраўскіх могілках. Хату купілі нейкія людзі, і цяпер у двары Сашкі іншыя парадкі. Трава скошана, ламачча і смецце прыбраны. Хата падрамантавана. Гляджу ў двор і бачу школьнікаў — Сашку і сябе, якія сядзяць на ганку і гуляюць у карты…

Далей жылі Геня і Манька Балотнікі. Памерлі… Далей… Памерлі… Памерлі… Памерлі…

Асфальтаваная вуліца паміж пустымі дамамі, як плаха…

У агародзе ўбачыў цётку Валянціну Іосіфаўну. 85 гадоў. Жыве адна. Дзеці прыязджаюць на пару гадзін і з’язджаюць у горад. «У іх сваіх клопатаў хапае…» — уздыхае Валянціна Іосіфаўна, і мне хочацца падысці да яе і абняць. Плот перашкаджае…

Самая старая пугачоўская хата (150 гадоў), дзе раней жылі Вярбіцкія, развальваецца. На страсе там-сям трава, як зялёны агонь…

На беразе сажалкі, у якой гадоў дзесяць таму я з Барысам Пятровічам і Андрэем Федарэнкам лавілі рыбу, сядзяць хлопцы з вудамі. А можа, гэта і цяпер мы там сядзім?

Каля плоту, за якім была школа, дзе я вучыўся, вялікая лужына. А ў лужыне дзіцячыя сляды, як Млечны Шлях у небе…

Іду па вуліцы, і час ад часу міма мяне праязджаюць машыны і трактары. З некаторых шафёры, вітаючыся са мной, махаюць рукой, а гэта значыць, што ў Пугачах не ўсе мае знаёмыя вымерлі. Няхай жывуць як даўжэй!

На аўтобусным прыпынку толькі я…
Сеў у аўтобус. Еду. Мая душа дагнала мяне пад самым Мінскам…

* * *

24.05.2013. Вайна закончылася амаль 70 гадоў таму, а ў мінулым годзе ў Валожынскім раёне (мне расказалі знаёмыя) унукі расстралянай сямейнай пары, даведаўшыся, хто яе расстраляў і знайшоўшы былога паліцая, прыйшлі ноччу і пакаралі смерцю забойцу сваіх дзядулі і бабулі…

* * *

24.05.2013. Я не магу выпіць ні грама віна з закрытай пляшкі, але я магу яе цалкам разбіць…

* * *

25.05.2013. Апошнім часам адчуваю, што я пачаў пакрыху вызваляцца ад трывогі за старых бацькоў, якія памерлі ў мінулым годзе. Мне гэтае вызваленне ўяўляецца так — пеўню на калодцы адсеклі галаву, а ён бегае па родным двары…

* * *

29.05.2013. Каля Храма лётае тапалёвы пух, нібыта грэшныя душы мітусяцца…

* * *

29.05.2013. Яны хацелі яго забіць. Ён жа ноччу падрыў лаз пад сцяной і ўцёк з хлеўчука. Каляды святкаваліся без свежаніны…

### Землякі

30.05.2013. Учора ў Валожыне і ў мястэчку Вішнева, дзе нарадзіўся (2 жніўня 1923 года) будучы прэзідэнт Ізраіля Шымон Перэс, прайшлі імпрэзы, прысвечаныя яго 90-годдзю. Дачка Перэса Цвіі Вальдэн і пасол Ізраіля Іосіф Шагал адкрылі выставу «Шымон Перэс: шлях ад Віленскай вуліцы ў Вішневе да Прэзідэнцкай вуліцы ў Ерусаліме». На месцы, дзе стаяў дом сям'і Перскіх і дзе нарадзіўся хлопчык Шымон, быў усталяваны памятны знак. Шымон Перэс жыў у Вішневе да 11 гадоў, у 1934 годзе разам з сям'ёю эміграваў у Палесціну. Усе ягоныя сваякі, якія засталіся ў Вішневе, загінулі ў час Другой сусветнай вайны. Ад сядзібы Перскіх у Вішневе захаваўся калодзеж. На пачатку 1990-х Перэс, будучы міністрам замежных спраў Ізраіля, наведваў роднае мястэчка. Мастак Алесь Квяткоўскі, які нарадзіўся ў Валожыне, думаючы, што на сваё 90-годдзе Шымон Перэс прыедзе ў Вішнева, намаляваў партрэт нашага славутага земляка, каб яму яго падарыць. Аднак, відаць, Шымон Перэс больш не прыедзе ў Вішнева. Шкада, але, думаю, ягоны партрэт, намаляваны Алесем Квяткоўскім, не прападзе…

* * *

30.05.2013. Прайшла навальніца, як цягнік па затопленым небе…

## Чэрвень

* * *

1.06.2013. З Людай на аўтобусе ездзілі ў Пугачы. Нейкіх 54 кіламетры, а ехаць трэба дзве гадзіны. Было паўнютка народу. З вёдрамі, з торбамі, з катамі, з сабакамі. У Пугачы прыехалі два чалавекі — Люда і я…

Зайшлі ў краму. Прадаўшчыцай працуе мая траюрадная сястра Люда — унучка Уладзіміра Бародзіча, які ў свой час у Радашковічах вучыўся з Максімам Танкам. З Мінска можна нічога не везці. Асартымент, як у горадзе, і аніякай чаргі…

Хата нас чакала. Зайшоўшы, тут жа парасчынялі дзверы і акно, каб праветрывалася. Праз пару хвілін у пакоі наляцела мух. Мінулы раз, калі мы прыязджалі, толькі адна муха, як разведчыца, заляцела і тут жа вылецела…

Два тыдні таму заведзены насценны гадзіннік, якому гадоў пяцьдзясят, не спыніўся. Я зноў падкруціў спружыну, думаючы пра тое, каб заводу хапіла да наступнага нашага прыезду…

Люда палола грады, а я граблямі бульбу баранаваў. Падышоў сусед Анатоль. Пагаварылі пра вясковае жыццё-быццё. Суседу хутка 60 гадоў. Нядаўна выпісаўся з бальніцы, куды трапіў з інсультам. Яшчэ рука і нага слаба слухаюцца, але сусед ужо касіў: «Няма на каго спадзявацца!»

На яблыні ў шпакоўні вывеліся шпачкі. Прыгожыя і крыклівыя…

У двары зноў трава па калена. Я крыху пакасіў, Люда пакасіла і мяне пакрытыкавала, гаворачы, што яна з касой спраўляецца лепей за мяне. А я і не стаў пярэчыць. Няхай косіць!

За працай праляцеў дзень. У горад вярталіся стомленыя і задаволеныя, што добра папрацавалі і пасаджанае ў агародзе паціху расце…

* * *

2.06.2013. З Максімам у Дубравы выехалі на электрычцы ў 10 гадзін 50 хвілін. На наступным прыпынку да нас далучыўся Анатоль Блашчыцын — наш сваяк. Народу быў паўнюткі вагон. Паблізу ўсю дарогу нейкі стары гучна гаварыў пра Амерыку, пра Расію, пра геяў і лесбіянак і пра каларадскіх жукоў, за якіх пры Савецкім Саюзе плацілі па 50 капеек за штуку і пра гэта было напісана на кожным школьным сшытку…

У Дубравах на станцыі нас сустрэў наш сваяк Леанід Жыткевіч. На машыне ён нас адразу ж прывёз да могілак. Я больш як дзве гадзіны хадзіў сярод помнікаў, нібы па полі бою, шукаючы яшчэ жывых…

## Мужчына

7.06.2013. На працу да мяне прыходзіў Валерый Ярмоленка. Падарыў кніжку «За небасхілам спякотнага Турана», якая выйшла ў серыі «Нашы славутыя землякі» ў выдавецтве «Тэхналогія». Кніжка пра Мікалая Пржавальскага (1839 — 1888) — славутага падарожніка, першага даследчыка Цэнтральнай Азіі. Даведаўшыся, што я родам з Валожынскага раёна, Валерый Аляксандравіч сказаў: «А я 8 і 9 клас канчаў у Валожыне! Мой бацька быў кэгэбістам і яго часта перакідвалі з аднаго горада ў іншы». Успамінаючы бацьку, Валерый Аляксандравіч расказаў цікавую гісторыю. У 1945 годзе Аляксандр Андрэевіч Ярмоленка, старшы лейтэнант Смерша, прыехаў у вёску Забрэззе Валожынскага раёна, каб арыштаваць мужыка, які ўкраў у калгасе шэсць вёдзер бульбы. Зайшоўшы ў хату, ён адразу каля парога наткнуўся на шасцярых малых паўголых дзяцей, якія поўзалі па земляной падлозе. Дома былі і маладыя бацькі. Смершавец, агледзеўшы хату, запытаўся: «Гэта вашы дзеці?» Пачуўшы «Нашы!», ён стаў кругамі хадзіць па хаце, паўтараючы: «Шэсць вёдзер! Шэсць дзяцей! Шэсць гадоў турмы!» Хадзіў хвілін дзесяць, а потым дастаў ордэр на арышт і парваў. Выехаўшы з Забрэззя, Аляксандр Андрэевіч спыніўся, схапіўшыся за галаву: «Што я нарабіў! Цяпер мяне расстраляюць! Трэба ехаць і забіраць мужыка!» Недзе з паўгадзіны смершавец думаў над сваім учынкам і нарэшце сам сабе сказаў: «Я ж мужчына! Я не павінен мяняць сваё рашэнне!» Дамоў у Мінск ён вярнуўся позна. Жонка, убачыўшы бледнага мужа, тут жа занепакоілася: «Што здарылася?» Аляксандр Андрэевіч расказаў усё як было, і жонка параіла яму заўтра з самага ранку ісці да Цанавы і пагаварыць з ім. І вось смершавец зайшоў у кабінет да Цанавы і тут жа пачуў:

«Старлей, чаму не забраў мужыка?» «Я вырашыў параіцца з вамі», — адказаў Аляксандр Яроменка. «А ў чым справа?» — палагаднеў Цанава, пачуўшы, што смершавец з ім хоча параіцца. І тут старшы лейтэнант расказаў Цанаву прыдуманую размову з мужыком, якога ездзіў арыштоўваць. А прыдумана было, што мужык паведаміў пра «лясных братоў», якія хаваюцца ў Міёрскім раёне і іх ён дапаможа злавіць. Цанава, выслухаўшы смершаўца, сказаў: «Даю табе званне капітана! Паедзеш у Міёры і там зоймешся барацьбой з бандытамі!» Капітан Аляксандр Яроменка паехаў на новае месца службы, дзе хутка сапраўды разбіў банду «лясных братоў». У 1980 годзе сын Аляксандра Андрэевіча Яроменкі Валерый Аляксандравіч са сваімі студэнтамі трапіў на бульбу ў Забрэззе, дзе пазнаёміўся са святаром, які па выхадных прыязджаў служыць у мясцовай царкве з мястэчка Краснае Маладзечанскага раёна. І вось, раззнаёміўшыся і размаўляючы пра жыццё-быццё за гасцінным сталом у царкве, бацюшка раптам запытаўся: «Скажыце, а кім з'яўляецца вам кэгэбіст Аляксандр Андрэевіч Яроменка?» «Гэта мой бацька», — адказаў Валерый Яроменка. Бацюшка са словамі «Можна я вас абдыму?» тут жа ўстаў і абняў свайго суразмоўцу. Высветлілася, што бацюшка — родны брат таго мужыка, які ў 1945 годзе ўкраў шэсць вёдзер бульбы і які не быў арыштаваны смершаўцам, дзякуючы чаму ўсе шасцёра дзяцей выраслі…

**Пісьменнік і зямля**

10.06.2013. Да мяне на працу прыходзіў пажылы пісьменнік. Хоча выдаць кніжку. Гаварылі доўга. З усёй размовы запомніліся пісьменніцкія пальцы з даўно неабстрыганымі пазногцямі, пад якімі чорная зямля…

* * *

10.06.2013. Невысокія дзяўчаты і маладыя жанчыны паабувалі туфлі на абцасах па 20 сантыметраў і цяпер ходзяць, як высокія…

* * *

10.06.2013. Вычытаў: «Люди оскорбляют тремя способами. Они могут сказать, что ты глуп, назвать тебя рабом, упрекнуть в бездарности. Если такое случилось с вами, вспомните простую истину: только дурак назовет этим именем другого, только раб ищет ничтожество в другом, только бездарь оправдывает то, чего не понимает сам, чужой тупостью. Поэтому никогда ни на кого не обижайтесь и не оскорбляйте сами, чтобы не прослыть глупыми бездарными рабами»…

* * *

1.06.2013. Размаўляў з Валерыем Аляксандравічам Яроменкам. Ён мне расказаў, што на востраве сярод балота каля возера Дрывяты да 1951 года ў забітаніраваных зямлянках, абвешаных дыванамі, хаваліся «лясныя браты». У бандзе было 70 чалавек. Час ад часу бандыты рабілі вылазкі і публічна вешалі старшынь калгасаў і камуністаў. З вёсак забіралі дзяўчат і гвалтавалі да смерці. Былы староста паліцыі, які быў камандзірам банды, пасля распраў над камуністамі, набраўшыся нахабства, тэлефанаваў мясцоваму начальніку КДБ Аляксандру Андрэевічу Яроменку і пытаўся: «Як там твой сын вучыцца? Скажы яму, калі не будзе слухацца бацьку, то я прыйду і пакараю яго!»

* * *

11.06.2013. На ўсе мышалоўкі бясплатнага сыру не набярэшся…

* * *

12.06.2012. У вёсцы за плотам маёй роднай хаты нехта скасіў траву, а ўсю крапіву і лапухі пакінуў мне…

* * *

12.06.2013. На жаль, хата без бацькоў стала больш роднай, чым была пры іх жыцці…

* * *

17.06.2013. Каля мурашніка спелыя суніцы, як чырвоныя ліхтары на мурашынай вуліцы…

* * *

17.06.2013. Іржавыя цвікі на асфальце, як мёртвыя дажджавікі…

**Уладзімір Стальмашонак і газеты**

19.06.2013. Калі я вадзіў дзяцей у пачатковыя класы мастацкай школы, што на Камуністычнай вуліцы, то часта па пятніцах каля кіёска на Старажоўскай сустракаў мастака Уладзіміра Стальмашонка. Аднойчы я запытаўся: «А ці не лепей выпісаць «ЛіМ» і «Культуру», чым хадзіць і кожны раз іх купляць?» Уладзімір Іванавіч усміхнуўся і сказаў: «Калі б не газеты, то я сядзеў бы дома цэлымі тыднямі і мы ніколі б не сустрэліся і не пагаварылі…»

* * *

19.06.2013. Усё чытаю і чытаю чужыя рукапісы. Добрыя творы, як родныя, радуюць душу, а кепскія толькі раздражняюць, як галодныя бяздомныя сабакі, якім у мяне няма чаго даць…

* * *

22.06.2013. Ездзіў у родныя Пугачы…

Аўтобус ішоў праз Русакі каля Лягез, дзе я да школы гадаваўся ў бабулі Ганны. З-за дрэў, якія выраслі, вёскі амаль не бачна. Бачна толькі тое, што помніцца з дзяцінства…

У вёсцы Салаўі, праз якую я з мамай хадзіў у Лягезы, салаўёў не чуў, а кожны раз сабакі гаўкалі…

Кудзяўцы… Карнюткі… Звяркі… Караблі… За кожнай назвай вёскі ў мяне цэлыя гісторыі, перажытыя мной, і яны ўва мне, як у скарбонцы, захоўваюцца…

Гляджу на азярыну ў Хмарышках і на беразе бачу сябе малога з вудай. Чырвоны паплавок то знікае ў вадзе, то выплывае, а я ўсё не выцягваю леску, бо нельга два разы злавіць адну і тую ж рыбіну…

З пашы гоняць калгасных кароў. Яны ідуць, як ваеннапалонныя, якіх расстраляюць…

На гары стаяць тры кароўнікі. У крайнім справа працавала мая мама даяркай. І я, будучы школьнікам, часта дапамагаў ёй даіць кароў. А можа, і не часта. Я і цяпер бы пайшоў на кароўнік дапамагаць маме, але…

На прыпынку ў Пугачах нікога няма. Была б мама, яна б стаяла і сустракала аўтобус…

Роднай хаты з-за бяроз і яблынь адразу не бачна, таму думаецца: «Ці цэлая там хата?»

Насценны гадзіннік не спыніўся. Жыццё ў хаце не спынілася…

У кране няма вады. Няўжо нам адключылі? І ў калонцы на вуліцы няма. Ужо крыху весялей…

У агародзе ўсё расце. Найбольш трава…

За працай час ляціць, як першае жоўтае лісце з дрэў…

Захмурылася. Узяўшы свайго «Пугачоўскага цырульніка», пайшоў у госці да Шнапса (Лёнькі Шніпа). Мама да яго не пусціла б…

З часу пасадкі бульбы я ўжо, здаецца, шосты раз у вёсцы. З кожным прыездам усё ўпэўненней іду па вуліцы і ўсё больш атрымоўваю задавальнення ад роднай прыгажосці, якая не хаваецца ад мяне…

Зайшоў да Лёнькі Шніпа ў двор. Ціха. Можа, нікога дома няма? Не. Бачу Лёнькаву жонку ў градах. Ды і Лёнька раптам з'явіўся. Абняліся, як родныя, і нібыта толькі ўчора развіталіся. А не бачыліся мы гадоў 20…

Жонка ў Лёнькі з Ракава. На гадоў 20 маладзейшая за яго. А Лёнька нарадзіўся ў 1949 годзе…

«Пугачоўскага цырульніка» Лёнька ўжо крыху чытаў — прыносіла Ліда Шніп. «Можа, я там абы-чаго пра вёску і вяскоўцаў панапісваў?» — пытаюся. «Усё правільна!» — усміхаецца суразмоўца і прапануе: «Самагонка? Віно? Кава? Гарбата?» — «Гарбата!» — адказваю. «А я ўжо 15 гадоў як закадзіраваны! Цяпер жыву як чалавек!» — кажа Лёнька і разлівае па кубках травяны напой.

На вуліцы пачынаецца навальніца, а я грому амаль не чую, бо слухаю распавед пра Пугачы, пра якія не ведаю…

«Мой дзед Канстанцін Пятровіч Шніп за ваенную кампанію 1877 года на Шыпцы атрымаў у Пугачах добры кавалак зямлі. І вось гэтая хата, якая стаіць у садзе, была ім збудавана…»

«Бацька твой служыў у берыеўскіх войсках… І яшчэ адзін вясковец быў у тых войсках…» Пачуўшы гэта, я падумаў: «Дык вось чаму бацька нічога пра службу з 1950 года па 1953 не расказваў. І гэта таму пасля войска яму прапанавалі быць міліцыянерам у Чысьці. І, відаць, быў бы, калі б ягоная маці не сказала: «Не хапала тут нам паліцыянтаў! Ідзі і аддай назад гэтыя балаханы!» І бацька пайшоў у Радашковічы і аддаў міліцэйскую форму. Праўда, пасля гэтага працаваў усё жыццё на ферме то падвозчыкам, то пастухом…

«Бацька мой, Канстанцін Канстанцінавіч Шніп, служыў у войску польскім. Калі пачалася вайна і нас захапілі Саветы, бацьку ў ліку дзвюх тысяч польскіх салдат гналі з Радашковіч на расстрэл пад Мінск. Аховы было чалавек 10. Можна было ўцячы, але ўсе былі сяляне і ўсе пакорна ішлі насустрач сваёй смерці. Гэта было, калі ўжо жыта красавала. За Радашковічамі раптам над калонай, страляючы па ўзбоччы дарогі, праляцелі нямецкія самалёты. Пачалася паніка і ўсе палонныя разбегліся па жыце. Бацька вярнуўся дамоў і ўсю вайну прасядзеў у падполлі…»

«У 1939 годзе, калі ў вёску прыйшлі Саветы, у бацькі забралі цэлы воз кніжак і розных дакументаў, якія ён меў. Два мяшкі кніжак бацька закапаў, і яны цяпер у мяне ёсць. Кніжкі на польскай і на беларускай мове…»

«Найлепшая бібліятэка ў тваёй цёткі Валянціны Іосіфаўны. У яе ёсць кніжкі 20-х і 30-х гадоў, а таксама выданні, што выходзілі ў час нямецкай акупацыі…»

«Маці мая Вольга Аляксееўна Мятліцкая нарадзілася ў Кудзяўцах, а бацька яе быў недзе з Палесся. Яна ў 30-я гады была добра знаёмая з Сяргеем Пясецкім, які жыў у Ракаве і потым стаў вядомым пісьменнікам. Пясецкі прапаноўваў ёй выйсці за яго замуж, але мая будучая маці выбрала Шніпа Канстанціна Канстанцінавіча…»

«Пры паляках на плоце былі шыльды з пазнакай дома і такія ж шыльды былі на вазах. Калі на базары конь накладаў кучу, то штраф выпісваўся ў памеры пяці злотых. За 10 злотых можна было купіць 4 пуды жыта. 10 злотых каштаваў 1 даляр. Бацька мой не любіў золата. Карыстаўся папяровымі грашыма…»

«На цэлы павет быў адзін паліцыянт і яго хапала…»

«У Гарадку пры паляках быў зямельны банк, дзе можна было браць грошы. Давалі не ўсім. Глядзелі, які чалавек. Ці п'яніца, ці рабацяга? Толькі пасля пяці гадоў трэба было вяртаць грошы і то паўтара працэнта гадавых…»

«Вярбіцкая хата пры паляках належыла пану Юркоўскаму. Там была крама. Можна было браць у доўг…»

«У 1968 годзе ў раёне Івянца ў пушчы былі знішчаны апошнія “лясныя браты”…»

Незаўважна пад мелодыю навальнічнага дажджу праляцела амаль тры гадзіны. Мы з Лёнькам сфатаграфаваліся і дамовіліся, што я, прыехаўшы ў Пугачы, не буду мінаць яго хаты…

* * *

25.06.2013. Да мяне на працы ў кабінет зайшла жанчына з прапановай купіць губную памаду. «Навошта мне памада? Я ж мужчына!» — сказаў я. «А я вось дзесяць гадоў таму пісала вершы і прыносіла ў ваша выдавецтва Дранько-Майсюку! Ніякага толку! Цяпер памаду прадаю! І мяне палова Мінска ведае!» — усміхнуўшыся на развітанне, жанчына выйшла з кабінета…

**Дома ў Быкава**

27.06.2013. Хадзіў да Ірыны Міхайлаўны Быкавай. Насіў на подпіс дамову на выданне кнігі «Пакахай мяне, салдацік!» Васіля Быкава. Ішоў з нейкай незразумелай трывогай, нават са страхам, што яна адмовіцца ад выдання кніг у «Мастацкай літаратуры». Хваляванне было дарэмным. Ірына Міхайлаўна сустрэла мяне з даверам, адразу ж прапанавала пачаставацца. Пасля таго, як я расказаў пра сустрэчы з Васілём Уладзіміравічам і пра добрыя адносіны з нашымі агульнымі знаёмымі, Быкава яшчэ больш параднела. Менавіта параднела, бо я стаў сябе адчуваць як дома ў роднага чалавека. Учора ў Ірыны Міхайлаўны ў гасцях было 16 чалавек і яна недзе паклала акуляры і цяпер дрэнна бачыць, таму я паказваў, дзе распісацца, і яна распісвалася. Завёўшы ў кабінет Быкава, сказала: «Музейцы хацелі ўсё забраць, каб вызваліць кабінет. Я адмовілася, бо тут душа Васіля Уладзіміравіча!» У кніжнай шафе за шклом на паперы фламастарам напісана: «Бывай, родная хата! ….. вітанне новым гаспадарам! Васіль Быкаў. 20.07.2000 г.». «Гэта Васіль напісаў, калі пакідаў назаўсёды кватэру. Ён адчуваў, што ўжо ніколі сюды не вернецца, хоць пасля гэтага пражыў яшчэ тры гады. Калі ў вас ёсць якія аўтографы Быкава, то прынясіце мне — я іх збіраю для музейнай экспазіцыі». Пасля паўгадзіннай размовы мы дамовіліся, што як выйдзе кніга, то я прынясу пару экзэмпляраў. Развітваючыся, Ірына Міхайлаўна выйшла за мной на лесвічную пляцоўку і сказала: «Прыходзьце ў госці з жонкай, з Барысам Пятровічам! Не забывайцеся!» А я, вяртаючыся на працу, падумаў: «Вось такімі душэўнымі і гасціннымі, як Ірына Міхайлаўна, павінны быць жонкі ў пісьменнікаў!»

* * *

28.06.2013. Па выдавецкіх справах прыходзіў Васіль Зуёнак. Узгадалі Янку Сіпакова. Гаворачы пра нечаканую смерць Івана Данілавіча, Васіль Васільевіч сказаў: «У Сіпакова была анкалогія, але ён пра гэта нікому не казаў. Ён быў скрытны. Блізкіх сяброў на старасці не меў. Ды і пры жыцці ён сябраваў, здаецца, толькі з Барысам Сачанкам. Сачанка памёр, і Сіпакоў застаўся адзінокім…»

* * *

30.06.2013. На выходных быў у Мосары, Глыбокім, Шаркаўшчыне і на двух Браслаўскіх азёрах. Вярнуўся дамоў, нібыта дома не быў цэлы тыдзень…

Таццяна ШАМЯКІНА

# МЕМУАРЫ АД ДУШЫ

Мемуары Івана Шамякіна маглі б скласці вялікую кнігу. Побач з напісаным у апошнія гады жыцця цыклам навел «Начныя ўспаміны» да яго мемуарнай прозы можна аднесці дакументальную аповесць «Тайна драмы. Аповесць пра сябра», што мела ў свой час шырокі рэзананс, а таксама нататкі пра розных пісьменнікаў, якіх аўтар добра ведаў, з якімі працаваў, у якіх вучыўся. Неабходна падкрэсліць адну важную акалічнасць: *з усіх беларускіх пісьменнікаў пасляваеннага пакалення Шамякін пакінуў найбольшую колькасць успамінаў пра калег* і гэтым унёс неацэнны ўклад у гісторыю беларускай літаратуры. Сам ён ва Уступе да «Начных успамінаў» сказаў: «Успаміны сталасці — гэта ў асноўным партрэты людзей, з якімі жыў, працаваў, сутыкаўся пазітыўна ці негатыўна». Прычым неаднаразова звяртаў увагу на галоўны стымул для напісання ім мемуараў — «абавязак перад памяццю таварыша, які пакінуў глыбокі след у роднай літаратуры. Гэта абавязак грамадскі, творчы і проста душэўны».

Творы І. Шамякіна мемуарнага жанру варта назваць, па сучаснай моднай тэрміналогіі, эга-дакументамі. Эга-дакумент валодае спецыфічнымі рысамі і асаблівасцямі, якія вызначаюцца менавіта паняццем «эга». Паводле Зігмунда Фрэйда, «эга» — тая частка чалавечай асобы, якая ўсведамляецца як «я» і знаходзіцца ў самых розных стасунках з акаляючым светам. Сапраўды, мемуарная літаратура, у якой аўтарская мова гучыць намнога больш выразна, чым у мастацкіх творах, так ці інакш малюе вобраз і самога мемуарыста. Бясспрэчна, ва ўспамінах І. Шамякіна аўтар — на першым месцы: гэта не толькі *яго* аповеды пра калег, але *яго* эмацыянальныя ўражанні ад сустрэтага на жыццёвым шляху чалавека ці значнай падзеі, *яго* ўспрыняцце часу, *яго* ацэнка эпохі — савецкай пасляваеннай. Асоба аўтара з'яўляецца тут сэнсаўтваральным і структураўтваральным цэнтрам: памяць, рэфлексія і ўласныя інтэрпрэтацыі жыццёвых з'яў празаіка Шамякіна абумоўліваюць уласна характар кожнага тэксту. Прычым, калі б нехта заняўся вывучэннем мемуарных твораў Шамякіна, іх варта было б разглядаць разам, у адной звязцы, з яго дзённікамі: успаміны і дзённікі ў яднанні не толькі дапаўняюць, але і прыкметна павялічваюць значнасць адно другога. Акрамя таго, паміж мастацкімі творамі майстра і яго ж мемуарамі існуе складаная, можна сказаць, шматканальная творчая сувязь. Фактычна ўсе навелы і нататкі памяці, артыкулы і аповесць у сукупнасці з'яўляюцца своеасаблівым дакументальным раманам — яшчэ адным раманам Шамякіна, надзвычай насычаным па жыццёвым матэрыяле, па прадстаўленых каларытных характарах, па перададзеным духу эпохі, па ўсведамленні ўласнага шляху ў мастацтве, свайго пісьменніцкага лёсу, свайго прызначэння. Мала спадзяванняў, што каму-небудзь калі-небудзь удасца ўбачыць раманную сутнасць кнігі і прасачыць сувязь паміж успамінамі і ўласна мастацкай творчасцю Івана Пятровіча, між тым, такі пошук мог быць прадуктыўным у плане развіцця навуковага літаратуразнаўства і гісторыі айчыннай літаратуры.

Ва ўспамінах І. Шамякіна, сапраўды, прысутнічаюць у сінтэзе рысы мастацкай і дакументальнай літаратуры. Мастацкай не ў сэнсе наяўнасці вымыслу, а ў самой манеры падачы матэрыялу, даходлівасці, яскравасці стылю, эмацыяналь-

насці, раскаванасці, адкрытасці тэксту. Выключная любоў, прыязнасць да сяброў і настаўнікаў, пры ўсёй аб'ектыўнасці іх паказу, літаральна асвятляе кожную старонку, надае асаблівую душэўнасць, цеплыню, шчырасць мемуарнай прозе пісьменніка. Ужо тое, што ён самы, бадай, заняты са сваіх калег, заўсёды знаходзіў час, каб напісаць пра іх, сведчыць аб пачуццях Шамякіна, яго адчуванні абавязку перад блізкімі па літаратурным цэху людзьмі.

У той жа час і ўзровень дакументальнасці твораў Шамякіна надзвычай высокі. Яго насычаныя фактурай мемуары ўключылі ў сябе найбагацейшы матэрыял назіранняў за пяцьдзясят гадоў нашага жыцця, убачаных і асэнсаваных чалавекам дасведчаным і мудрым. Праўда, шматлікія ўспаміны і артыкулы пра калег пісаліся ў розны час, але заўсёды — з нязменнай павагай да таварышаў па пяры і настаўнікаў.

Самы велічны з настаўнікаў — Якуб Колас. Шамякін усё жыццё быў удзячны лёсу, які звёў яго з Майстрам, хоць адбылося гэта ўжо ў апошнія гады жыцця класіка. Іван Пятровіч перажываў, што напісаў пра «дзядзьку Якуба» няшмат: «Пра Коласа я напісаў мала і слаба, гэта хутчэй артыкулы, чым успаміны. Але розніца ў сорак гадоў не давала мне спазнаць яго чалавечыя рысы так, як спазнаў я Андрэя ці Глебку». Праўда, аўтару гэтага пасляслоўя неаднаразова прыходзілася чуць вусныя ўспаміны бацькі пра Я. Коласа, акрамя таго, пра апошняга вяліся гутаркі з сынам песняра — Данілам Канстанцінавічам, з якім Шамякін шчыра на працягу многіх год сябраваў і часта сустракаўся. Тым не менш, у паўнацэнны мемуарны твор ўспаміны не аформіліся. Думаецца, асаблівая пачцівасць, характэрная Шамякіну, не дазволіла яму пісаць пра слыннага пісьменніка так, як пра іншых калег. Хацелася неяк асабліва, але як — Шамякін так і не прыдумаў. Можна толькі пашкадаваць. Таму ён абмяжоўваўся простым пераказам пэўных фактаў, напрыклад, як любілі Коласаву «Новую зямлю» леснікі, і ў тым ліку бацька Івана Пятровіча. Адносна асабістых сустрэч з класікам аўтар піша: «Упершыню я асабіста сустрэўся з Якубам Коласам у 1949 годзе. Дагэтуль я бачыў яго толькі на нашых пісьменніцкіх сходах, пленумах, чуў выступленні, але непасрэдна гутарыць з ім не даводзілася. І вось аднойчы ўлетку група маладых пісьменнікаў — Антон Бялевіч, Кастусь Кірэенка, Іван Мележ, Янка Брыль, Аляксей Русецкі, Анатоль Вялюгін, Іван Грамовіч і я — наведала Якуба Коласа. Канстанцін Міхайлавіч сустрэў нас у маладым садзе, які пасадзіў уласнымі рукамі. Адразу павёў глядзець палоску жыта, якую пасеяў новым спосабам, вычытаўшы пра яго ў Гваніны (пасля ён пісаў пра свой эксперымент у газеце «Звязда»). Ён расказваў нам пра гэта жыта і пра сад. Расказваў з глыбокім веданнем справы».

Паводле згаданага вышэй мемуарнага накіду «Сустрэчы з настаўнікам», спачатку малады пісьменнік адчуў некаторае расчараванне: яму хацелася, каб сталы майстар адразу пачаў вучыць маладых, як пісаць. Але час ішоў, а Канстанцін Міхайлавіч працягваў гаварыць пра вёску, надвор'е, жыта, яблыкі. У размовах пра розных знаёмых людзей Колас дзвюма-трыма аб'ёмнымі рысамі ствараў характар чалавека. А калі расказвалі маладыя, слухаў уважліва, часта смяяўся. «Смяяліся яго добрыя вочы, якія гадзіну назад, калі ён глядзеў у спякотнае неба, засцілаў смутак. Цяпер яны свяціліся радасцю. Чаму ён радаваўся? Ці таму, што ёсць у народзе такія цікавыя людзі, такія тыпы — жывыя героі напісаных і ненапісаных кніг? Ці, можа, таму, што маладыя пісьменнікі здолелі ўбачыць іх і ўмеюць пра іх расказваць?» Пад канец сустрэчы маладому Шамякіну ўжо не хацелася размоў на спецыяльна літаратурныя тэмы. «Я зразумеў: усё, што было сказана за час сустрэчы, не было выпадковасцю. Проста, без надакучлівых павучанняў, Якуб Колас вучыў нас самаму галоўнаму: як пісьменнік павінен ставіцца да жыцця, да людзей».

У далейшым Шамякін і Колас сустракаліся не раз — малады творца, якога выбралі сакратаром партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў, прыходзіў да класіка браць партыйныя ўзносы. Натуральна, вяліся гутаркі па шматлікіх жыццёвых пытаннях. «Характэрна, што самыя глыбокія, арыгінальныя думкі ён

выказваў як бы між іншым, не падкрэсліваючы іх, не высоўваючы на першы план. А звычайна ён любіў размовы простыя, жыццёвыя — пра людзей, іх справы, іх паводзіны, больш за ўсё — пра сялянскі побыт. Любіў расказваць сам і слухаць, як расказваюць іншыя — асабліва прымаўкі, казкі, анекдоты, якія характарызавалі мудрасць, вытрымку і сілу беларускага селяніна».

Дарэчы, жыццёвыя ўстаноўкі Майстра моцна паўплывалі на маладога Шамякіна: ад Коласа ён успрыняў такую ж манеру весці размову. Увогуле, складваецца ўражанне, што старэйшы калега глыбока і назаўсёды вызначыў шмат якія каштоўнасныя арыенціры Івана Пятровіча. Яны адбіліся і на мемуарных творах: найбольш іх аўтар цаніў у аб’екце свайго паказу блізкасць творцы да народа, таму што пісьменнік, нават з маленькім талентам, не можа жыць толькі для сябе — яго сэрца належыць людзям, павінна быць раскрытым для іх. З такім разуменнем прызначэння працы літаратара Шамякін жыў усё жыццё і зыходзячы з гэтага разумення ацэньваў калег.

Вялікі ўдзел у яго пісьменніцкім лёсе ўзяў Міхась Лынькоў. Яшчэ ў студэнцкія гады, да вайны, Шамякін напісаў апавяданне і паслаў яго ў часопіс «Полымя рэвалюцыі», галоўным рэдактарам якога быў Міхась Ціханавіч. Апавяданне было слабенькае, але, на здзіўленне аўтара, яму адказаў — з дэталёвым разборам твора ажно на трох старонках — сам галоўны рэдактар і ён жа старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі. У мемуарных нататках «Спакойная мудрасць і мужны талент» Шамякін успамінае: «Пісьмо тое і цяпер не перастае здзіўляць мяне. З’еўшы, як кажуць, не адзін пуд солі ў літаратуры, я ведаю, што нямногія галоўныя рэдактары літаратурных выданняў самі адказваюць маладым аўтарам, ды гэта і натуральна, бо хапае ў галоўнага іншай працы, да таго ж яму трэба пісаць і свае творы. Здараецца, што для пераканальнасці, аўтарытэту адказ маладому, напісаны кансультантам, літсупрацоўнікам, падпісвае галоўны. Не, апавяданне маё Міхась Ціханавіч чытаў сам і пісьмо напісаў сам. Пераканаўся я ў гэтым праз пяць гадоў. У снежні сорак пятага быў скліканы першы пасляваенны пленум праўлення Саюза пісьменнікаў. Хоць які мог быць пленум, калі членаў праўлення засталася жменька, ды і членаў Саюза было ўсяго 47 чалавек. Гэта, па сутнасці, быў з’езд, толькі без выбараў, але з глыбокай справаздачай старшыні праўлення Міхася Лынькова аб тым, што напісалі беларускія пісьменнікі за ваенныя гады... Менавіта па ініцыятыве Міхася Лынькова, які вельмі дбаў аб папаўненні страт, аб пасляваенным прызыве (у добрым разуменні гэтага слова) у літаратуру, на пленум была запрошана вялікая група маладых, сярод якіх быў і я, аўтар толькі што прынятай у «Полымі» аповесці «Помста». Тады на тым пленуме я з душэўным трапятаннем упершыню асабіста пазнаёміўся з Міхасём Ціханавічам, як і з іншымі вядомымі майстрамі — Якубам Коласам, Кандратам Крапівой, Петрусём Броўкам, Васілём Віткам, Максімам Танкам, Анатолем Астрэйкам і са сваімі равеснікамі. Міхась Ціханавіч са сваёй мудрай прастатой і характэрным гумарам сказаў: «А я, уюнаша, помню тваё апавяданне. Многа ты ў ім нагарадзіў патрэбнага і непатрэбнага. Сцёбнуў я цябе ў пісьме. Але, выходзіць, на карысць. Вунь як тваю аповесць Вітка пахваліў». Васіль Вітка рабіў на тым пленуме даклад аб творчасці маладых».

Але, нягледзячы на пахвалу старэйшых таварышаў, Шамякін тады не бачыў сябе пісьменнікам. І толькі ў чэрвені 1947 года яго запрасілі ў сталіцу з мэтай прыёму ў СП.

«Начныя ўспаміны» І. Шамякіна адкрываюцца навелай «Літэрны паёк». Яна якраз пра тое, як прымалі ў Саюз пісьменнікаў аўтара мемуараў — лёсавызначальны момант, з якога фактычна пачынаецца яго творчая біяграфія. Жыў тады Шамякін, ветэран вайны, з жонкай і старэйшай дачкой у далёкай правінцыі — у вёсцы Пракопаўка Гомельскай вобласці, працаваў настаўнікам і завочна вучыўся ў Гомельскім педінстытуце.

У Мінску Саюз пісьменнікаў тады размяшчаўся ў Доме ўрада ў дваровым крыле. Працэдура прыёму была простая і зусім не фармальная. «Членаў прэзі-

дыума было нямнога — чалавек сем. Столькі ж і нас, навабранцаў. Але прысутнічалі калегі, якія рэкамендавалі. Кіраваў старшыня саюза, на дзіва сівы Міхась Лынькоў, белы-белы, як шапка Арарата, якую я ўбачыў значна пазней. Пасля мне расказалі трагедыю Лынькова — фашысты спалілі ў Трасцянцы яго жонку і сына... Прысутныя — прызнаныя геніі — задавалі пачаткоўцам пытанні. Больш іх дасталося Алене Васілевіч. Аляксей Русецкі і Мікола Аўрамчык чыталі вершы... Галасаванне было адкрытым, яно доўга заставалася такім і тады, калі я рабіў у Саюзе пісьменнікаў намеснікам старшыні. Усіх прынялі аднагалосна».

Усё жыццё Шамякін ставіўся да М. Лынькова з выключнай павагай і нязменнай удзячнасцю — менавіта як да свайго бацькі ў літаратуры. Ні адной негатыўнай рысы ён ніколі не заўважаў у сваім настаўніку. Наадварот, чым далей, тым болей адкрываў у ім значнае і высокае. Для Шамякіна Лынькоў — прыклад на ўсё жыццё. Постаць Міхася Лынькова, ва ўяўленні мемуарыста, магла б стаць узорнай як увасабленне мужнасці і мудрасці беларускага пісьменства. А ва ўспамінах Шамякіна аб ім раскідана шмат жывых чалавечых рысак. Скажам, такая: «Гумару нямала ў лынькоўскіх творах, але ў вусных расказах яго было яшчэ больш; пры ўсіх жыццёвых нягодах, што выпалі на яго долю, Міхась Ціханавіч умеў хораша пасмяяцца нават з самога сябе, да такой самакрытычнасці нямногія ўздымаюцца. Гэта адзнака глыбокага розуму і таленту».

Маладыя пісьменнікі вельмі любілі слухаць аповеды Лынькова — асабліва на «яго» вогнішчах у Доме творчасці «Каралішчавічы». Гэта быў сапраўдны вячэрні ўніверсітэт. Аўтару гэтага артыкула бацька на працягу ўсяго свайго жыцця расказваў шмат цікавых фактаў з гісторыі літаратуры, якія ён сам пачуў ад Лынькова. Ва ўспамінах Шамякін узнаўляе той воблік Міхася Ціханавіча, які назаўсёды занатавала яго памяць: «Лынькоў заставаўся ля кастра. Адзін. Я неаднойчы праз акно пакоя, дзе жыў, назіраў за ім. Міхась Ціханавіч падкідваў ашчадна галлё ў касцёр. Сядзеў на лавачцы, памешваў кіем вуголле. Курыў. Як правадыр племя. На галаве — берэт, паліто ці куртка, звычайна накінуты на плечы, нават калі было і па-восеньску холадна. Было ў гэтай адзінокай постаці чалавека ў трапяткім святле начнога агню нешта велічнае, бессмяротнае — так сядзеў наш далёкі продак! — і разам з тым нешта трагічнае, у маім уяўленні, ва ўсякім разе». Патрыярхам, мудрым дарадцам маладых лічыў мемуарыст Міхася Ціханавіча. У той жа час яго вобраз намаляваны фатаграфічна — яго рэальна ўяўляеш.

Яшчэ аднаго свайго настаўніка — Пятра Глебку — Шамякін успамінае з такой жа цеплынёй і нязменнай удзячнасцю, хоць і не з такім філасофскім пафасам. З Глебкам наша сям'я жыла ў адным пад'ездзе «пісьменніцкага» дома па вуліцы Карла Маркса, 36: мы на чацвёртым паверсе, ён — на трэцім, акурат пад намі, у такой жа чатырохпакаёвай кватэры. Нас, пісьменніцкіх дзяцей, ён навучыў рабіць «сакрэты», магчыма, упершыню даўшы ўяўленне пра неабходнасць мець у жыцці таямніцу і тым абудзіўшы прагу да загадак рэчаіснасці. (Уявіце сабе занятак для тады ўжо акадэміка — вучыць маленькіх дзяўчатак калупацца ў зямлі і закладаць у яе нейкія важныя для іх каштоўнасці!) А нашых бацькоў ён зрабіў бібліяфіламі. П. Глебка меў самую лепшую ў Беларусі прыватную бібліятэку, якую пачаў фармаваць ледзь не падлеткам. У выніку ў яго аказаліся рарытэтныя выданні, напрыклад, маладнякоўцаў. І ў сталым жыцці, маючы, натуральна, больш магчымасцей, ён працягваў збіраць кнігі, «заразіўшы» гэтым усіх сваіх суседзяў. Праўда, Шамякін у сваіх успамінах на кніжных зборах асабліва ўвагу не акцэнтуе, а ўспамінае іншыя жывыя эпізоды свайго сяброўства з Глебкам. А яны менавіта сябравалі, хоць мелі вялікую розніцу ва ўзросце.

Умелі тады сябраваць. Шамякін на гэты конт піша: «З першых дзён знаёмства з жыццём невялікага тады, адразу пасля вайны, пісьменніцкага калектыву на мяне моцнае ўражанне зрабіла шчырая дружба гэтых трох выдатных беларускіх пісьменнікаў — Кандрата Крапівы, Пятра Глебкі і Петруся Броўкі. Усе, хто з імі сустракаўся, ведаюць, што людзі гэтыя розныя па характары, па тэмпераменце, нават па творчасці, аднак гэта не перашкаджала сябраваць ім на працягу многіх

дзесяцігоддзяў. Такія адносіны старэйшых майстроў, нашых настаўнікаў, паміж сабой былі як бы ўзорам для нас, маладых; безумоўна, яны рабілі дабратворны ўплыў на ўсю маральную атмасферу жыцця творчай арганізацыі. Няма чаго таіць, атмасфера гэтая не заўсёды бывае такой, якой павінна быць, па ўсёй логіцы, паміж людзьмі, што служаць адной ідэі і робяць адну высакародную справу. Ёсць яшчэ ў нас і зайздрасць, і групаўшчына, хоць часам некаторыя блытаюць разуменне групаўшчыны з дружбай некалькіх чалавек».

Як і ў выпадку з М. Лыньковым, размовы з Глебкам надзвычай узбагачалі малодшых калег: «... з яго расказаў, успамінаў, сур'ёзных і жартаўлівых, дасціпных, шырокіх разваг, дасканала аргументаваных, з глыбокімі сацыяльнымі, палітычнымі, філасофскімі абагульненнямі я даведаўся пра жыццё і літаратуру 20—30-х гадоў больш, чым з многіх кніг спецыяльных даследчыкаў — гісторыкаў і літаратуразнаўцаў. Ды і не толькі пра гэтыя перыяды. Пятро Фёдаравіч быў чалавек шырокай эрудыцыі. Ён выдатна ведаў гісторыю ўвогуле і гісторыю Беларусі — на гэтую тэму ён асабліва часта і многа разважаў, спрачаўся са сваімі апанентамі. Увогуле спакойны, павольны, памяркоўны, Глебка рабіўся вельмі зацятым палемістам. Яны часта спрачаліся па гісторыі літаратуры з Броўкам. Але ў гарачага, імклівага, нецярплівага Петруся Усцінавіча не заўсёды хапала цярпення давесці спрэчку да канца — ён часам адмахваўся: «Ат, завёўся гэты Нонік...» Глебка ж ніколі не здаваўся — заўсёды стараўся пераканаць апанента, давесці сваю думку». Чытаючы мемуарны нарыс пра выключна абаяльную асобу П. Глебкі, не перастаеш з сумам здзіўляцца: як жа мы, беларусы, не ведаем і не цэнім сваіх выдатнейшых людзей...

Ва ўспамінах І. Шамякіна старэйшыя калегі паўстаюць сапраўднымі інтэлігентамі ў самым высокім сэнсе слова. Пры тым, што па характарах, па тэмпераментах яны ўсе, сапраўды, — абсалютна розныя. Пятрусь Броўка — яшчэ адзін блізкі Шамякіну чалавек. Яны доўгія гады працавалі разам: Броўка старшынёй Саюза пісьменнікаў, Шамякін — яго намеснікам. Шамякін шанаваў старэйшага калегу, яго партрэт вісіць у ягоным кабінеце, хоць ва ўспамінах прадстаўляе Пятра Усцінавіча асобай не без супярэчнасцей у паводзінах. Скажам, не раз згадвае, што Броўка не вельмі любіў займацца руцінай, але ўмеў падначаленых прывучыць да дысцыпліны. «А характар у яго быў бурлівы, імклівы, няўрымслівы, часам нават супярэчлівы. Ён гарэў на рабоце, быў душой любой кампаніі. Ён мог успыхнуць і ўмеў папрасіць прабачэння ў пакрыўджанага, калі віна ў таго была не такая ўжо вялікая. Пісаць пра такіх вельмі ж зямных людзей пры жыцці цяжка, ды і проста неяк няёмка — трэба стаць нейкім педантычным рэгістратарам».

Шамякін ні ў адной са сваіх мемуарных нататак не выступае раўнадушным рэгістратарам: ён выхоплівае самыя характэрныя, на яго думку, рысы той ці іншай асобы, дзеліцца ўражаннямі ад сустрэч, якія найбольш запалі ў душу, і яны, гэтыя ўражанні праніклівага назіральніка, найлепш высвечваюць чалавека, часам раскрываюць у ім самае істотнае. Напрыклад, ён успамінае, як Броўка чытаў свае вершы, якім быў выдатным знаўцам фальклору: «Многія дзесяткі разоў я з вялікай асалодай слухаў, як ён спявае народныя песні. Расказчык у застольнай бяседзе ён таксама быў цудоўны».

У навеле «Трымай дыстанцыю» мемуарыст успамінае, як, пад уплывам жонкі, Пятро Усцінавіч дапусціў несправядлівасць у адносінах да таварыша — Міхася Калачынскага. Але яго грызла сумленне, і ён загладзіў сваю віну: у хуткім часе Міхася Калачынскага прызначылі галоўным рэдактарам часопіса «Беларусь». «А без Саюза пісьменнікаў у той час такія прызначэнні не рабіліся — наш орган. Быў час, была эпоха. Захоўвалася дыстанцыя. Але была і дэмакратыя. Абмежаваная? А дзе яна не абмежаваная? У які час, у якой краіне?» Дарэчы, такімі сентэнцыямі часта заканчваюцца аповеды аўтара. У мемуарах ён выступае не толькі летапісцам эпохі, але і яе філосафам.

У асаблівую заслугу старэйшаму таварышу — Пятру Усцінавічу — Шамякін ставіць арганізацыю Беларускай энцыклапедыі, якая цяпер носіць імя П. Броўкі, і

абсалютна заслужана. Сам Шамякін пасля смерці Пятра Усцінавіча таксама з'яўляўся галоўным рэдактарам энцыклапедыі на працягу дзесяці год. За перыяд яго рэдактарства выйшлі такія выданні, як «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі» ў 5-ці тамах, «Энцыклапедыя прыроды Беларусі» ў 5-ці тамах, «Біблія» Ф.Скарыны ў 3-х тамах, «Янка Купала», «Сямейная энцыклапедыя», «Энцыклапедыя сельскага гаспадара», «Культура питания», «Меліярацыя», «Бульба» і шмат іншых энцыклапедычнага характару кніг. Дзякуючы ім гэты перыяд можна лічыць асабліва плённым у культурным жыцці Беларусі. Аднак Шамякін пра свае заслугі і не ўспамінае. Ён сведчыць, што імпульс усяму даў П. Броўка. У прыватнасці, адзначае: «За нейкія восем гадоў праароблена агромністая па сваім аб'ёме навуковая праца, якая, смела магу сказаць, зрабіла жыццятворны ўплыў на развіццё эканомікі, навукі, культуры рэспублікі: артыкулы ў энцыклапедыі вымушалі пэўныя ўстановы больш дэталёва вывучаць сваю галіну, яе гісторыю, яе сённяшні стан і перспектыву развіцця. Прыгадваю ў гэтай сувязі пісьмо, якое галоўны рэдактар энцыклапедыі П. У. Броўка ў пачатку сваёй дзейнасці накіраваў у Савет Міністраў з пералікам таго, што не зроблена па вывучэнні гісторыі помнікаў культуры, этнаграфіі, мовы беларускага народа, прыроды рэспублікі. І што варта было б хутчэй зрабіць. Напрыклад, да выхаду БелСЭ не было поўных замераў плошчы азёраў, даўжыні рэк, слаба была распрацавана навуковая і тэхнічная тэрміналогія, не было поўных звестак аб Героях Савецкага Саюза, якія атрымалі высокае званне за подзвіг на беларускай зямлі, не было апісання месцаў баёў у гады Вялікай Айчыннай вайны і многа іншага».

Яшчэ адзін чалавек, які нязменна захапляў І. Шамякіна, — Максім Танк. З ім таксама пашчасціла разам ісці нямала гадоў. Пасля Броўкі менавіта М.Танк стаў старшынёй СП, а Шамякін пры ім — першым сакратаром. Можна сказаць, што пад іх кіраўніцтвам Саюз пісьменнікаў Беларусі перажываў свае зорныя часы. Быў пабудаваны новы будынак Дома літаратара на Фрунзе, 5. Будынак проста шыкоўны, які сёння, на жаль, далёка не ўвесь належыць пісьменнікам. Узняўся і новы Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач» — таксама ў многім выдатнае для свайго часу архітэктурнае збудаванне, надзвычай камфартабельнае, зручнае для працы і адпачынку пісьменнікаў. У ліхія 1990-я гады новыя кіраўнікі СП бяздарна, літаральна па-зладзейску, яго загубілі. Цяпер ён для пісьменнікаў назаўсёды страчаны. А колькі было стаpанняў, колькі нерваў, сіл, часу каштавала — асабліва Шамякіну — курыраваць такія вялікія будоўлі. Сам Шамякін пра свае заслугі фактычна ні ў адным з мемуараў не згадвае. Яго найперш цікавіць асоба аб'екта ўспамінаў. Адносна Яўгена Іванавіча ён піша: «З Максімам Танкам я не быў так блізка, як з Андрэем Макаёнкам. Але роўна паўстагоддзя мы ішлі плячо ў плячо ў адной шарэнзе, па адной дарозе, да адной і той жа мэты. Не дайшлі. Але гэта ўжо іншая тэма, сумная. Галоўнае, што ў асобе Яўгена Іванавіча я з першай сустрэчы і да апошняй бачыў Чалавека з вялікай літары, Асобу і Паэта, зноў-такі з вялікай літары. Таму напісаць пра яго мяне вымушае і сяброўская вернасць, і абавязак літаратара, які доўгі час знаходзіўся ў эпіцэнтры жыцця і барацьбы вялікага і яркага адрэзка ў гісторыі нацыянальнай літаратуры, культуры».

Яшчэ ў першую сустрэчу — адразу пасля вайны, на пісьменніцкім пленуме, — М. Танк уразіў маладога Шамякіна: «Асаблівую ўвагу і нейкую ўнутраную сімпатыю выклікаў Максім Танк. Высокі, прыгожы тварам, з хвалістымі светлымі валасамі, ён здаваўся ўвасабленнем самой Паэзіі». Такім і застаўся для Івана Пятровіча на ўсё жыццё. Асабліва падрабязна піша Шамякін у артыкуле «На камні, жалезе і золаце» пра рэдактарскі перыяд у жыцці М. Танка неўзабаве пасля вайны, калі ўсе яны былі яшчэ маладымі людзьмі: «Я захапляўся яго жартамі, афарызмамі. Феерверк гумару! Але, разам з тым, адчуваў, што ўвесь яго гумар бытавы, ніякай палітыкі! Жартаваў ён як бы азіраючыся. Мяне гэта здзіўляла, а часам нават расчароўвала. Пазней я зразумеў прычыну такой насцярожанасці і асцярожнасці, зразумеў і Танкаву мудрасць. Паэт, які, здавалася, узносіўся ў паднябессе ў вершах, быў цвярозым рэалістам». Інакш кажучы, ён не вельмі спадзяваўся на

сваю палітычную абароненасць: «Максім Танк не верыў у індульгенцыі, ахоўныя граматы, якія ўручыла яму падполле ў Польшчы, вайна з фашызмам. Адгэтуль і асцярожнасць ці насцярожанасць, якую я тады, ідэаліст, не мог вытлумачыць». Пазней гэта, безумоўна, не адчувалася.

У меморыі пра М. Танка Шамякін успамінае не столькі працоўныя будні, колькі кулуарныя гутаркі, святочныя дні, сустрэчы, паездкі. Напрыклад, паездку ў Польшчу. Як заўсёды, Шамякін даволі іранічны сам да сябе: «Я дык стараўся і не станавіцца побач з Максімам, бо ён сапраўды быў танк, а я — куцая, тоўстая танкетка, хоць і маладзейшая на восем гадоў. На вечарынах, у застоллі, а палякі ўмеюць іх ладзіць, Яўген Іванавіч ачароўваў сваёй дасведчанасцю, дасціпнасцю: чытаў на памяць Міцкевіча, Норвіда, якога і самі палякі слаба ведалі, Канапніцкую, Тувіма, сыпаў каламбурамі, жартамі, анекдотамі». Ён ва ўсім быў Асобай.

З сумам, болем, шкадаваннем піша Шамякін пра апошнія гады паэта. Шамякін у 1991 г. страціў сына, М. Танк — дачку. Гора яшчэ больш зблізіла іх. Памятаю, што часта перазвоньваліся, Шамякін хадзіў да Яўгена Іванавіча і дадому, і ў бальніцу, бо той пачаў часта хварэць. У гутарках, піша Шамякін, «я захапляўся цвёрдасцю яго перакананняў, яснасцю розуму, памяці, непрымірымасцю да «новага класа» — спекулянтаў, хапуг, злодзеяў, хабарнікаў». А падчас апошняй сустрэчы сяброў «у Яўгена Іванавіча, які трымаўся за жыццё, як сасна над абрывам, раптам вырвалася: «Хутчэй бы...» Мяне скаланула гэтае жаданне хутчэй скончыць зямны шлях. Стаміўся чалавек... Такое маё слова пра вялікага нацыянальнага Паэта, імя якога, не сумняваюся, нашчадкі выб’юць на *камні, жалезе і золаце*!»

Шмат старонак прысвяціў І. Шамякін сябрам-аднагодкам ці калегам, блізкім па ўзросце. Праўда, ва Уступе да «Начных успамінаў» ён адзначаў, што хацеў бы напісаць пра Пімена Панчанку і Аркадзя Куляшова. З абодвума Шамякін не тое, што сябраваў, але знаходзіўся, бясспрэчна, у добрых прыяцельскіх стасунках, ва ўсялякім разе, сустракаліся яны часта і з прыязнасцю. Але Пімена Емяльянавіча Іван Пятровіч «не злавіў». Палічыў «няўлоўным». Яшчэ больш загадкавым быў для Івана Пятровіча Аркадзь Куляшоў, хоць як паэта ацэньваў яго надзвычай высока.

Яшчэ пры жыцці Шамякін сам складаў кнігу сваіх мемуараў. З іх цэнтральнае месца займала «Тайна драмы. Аповесць пра сябра», прысвечаная Андрэю Макаёнку.

Шамякін і Макаёнак былі абсалютна розныя па тэмпераментах, па псіхатыпах, па характары талентаў, але тым не менш сябравалі вельмі шчыра, па-чалавечы, па-мужчынску, на працягу трыццаці гадоў — ажно да заўчаснай смерці Андрэя Ягоравіча ў 1982 годзе. Адразу пасля адыходу ў нябыт Макаёнка і з’явілася шамякінская «Тайна драмы».

Аповесць пісалася на адным дыханні. Гэта шчыры, праўдзівы, мужны аповед пра сябра. Ёсць тут той пафас, які абавязкова ўздзейнічае на чытача і робіць і яго нераўнадушным да аб’екта паказу. Шамякін і Макаёнак і пасябравалі таму, што адчулі адзін у адным неардынарнасць, рамантызм і менавіта пераможны пафас — тую феерычную радасць Перамогі, якая не адразу заўважалася на фоне цяжкага, беднага пасляваеннага быту ў людзях простых, звычайных. А тут пры першых сустрэчах эмоцыі не хаваліся: «... валодала намі тады неўсвядомленае ўсеабдымнае шчасце: выжыў! застаўся жывы! І перад табой такія прасторы! Мы прагнулі жыцця, кахання, работы. Мы былі маладыя, вайна не скалечыла нашы душы, як героям Хемінгуэя. Мы былі поўныя надзеі і, нягледзячы на беднасць, верылі ў сваю будучыню. Мы, безумоўна, не ўяўлялі, што дажывём да заможнасці — да высокіх ганарараў, прасторных дач. Але тады нам і не трэба было ніякае багацце. Хацелася аднаго — вучыцца і пісаць. Пісаць! Такой прагі творчасці, як тады, мы не мелі нават у гады свайго літаратурнага прызнання».

Шамякін апісвае Макаёнка гарачым, узрыўным, няўрымслівым, крытычным да многіх з’яў жыцця. Сябе пры гэтым Іван Пятровіч называе артадоксам. Але я заўважала не раз: ён знарок, наўмысна супярэчыў сябру, каб пачуць ад яго палы-

мяныя прамовы, доказы з тымі словамі, часта гумарыстычнымі, якія, можа, не прыходзілі яму на розум самому. Але і Макаёнак любіў слухаць Шамякіна — ён яго таксама наводзіў на свежыя думкі. Яны духоўна ўзбагачалі адзін аднаго.

Неаднаразова ў характары сябра Шамякін адзначае цыганскія, на яго думку, рысы: «Моцная воля, рашучасць, смеласць, весялосць, рызыкоўнасць, жыццёвая ўчэпістасць, але разам з тым і нейкая дзіўная паэтычная мяккасць, своеасаблівая дабрыня — тая дабрыня, якая нярэдка пераходзіць у супрацьлегласці — то ў жорсткасць, то ў залішнюю спагадлівасць, у душэўны дальтанізм, калі не адрозніваюцца адценні розных колераў». Гэта надзвычай дакладная, па-майстэрску выпісаная характарыстыка. Рысы характару Андрэя Ягоравіча абумовілі яго асабістую драму. Аповесць у асноўным ёй і прысвечана — драме кахання, любові, сям'і. Безумоўна, у творы Макаёнак паўстае шматгранна, у самых розных эпізодах, адносінах з людзьмі, у творчасці, у тым ліку творчасці не толькі драматурга, але і таленавітага мастака-жывапісца, разьбяра па дрэве, акцёра. Шамякін выступае тут і як праніклівы навуковец, які тонка разумее псіхалогію творчасці, законы стварэння твораў. Скажам, ён піша: «У жыцці мы — адны, у творчасці — іншыя. У палітычных, філасофскіх разважаннях Андрэй часцей за ўсё ішоў ад факта, эпізоду, здарэння. У творчасці — нярэдка ад філасофіі жыцця. Часам мне здавалася, што замысел яго ідзе ад ідэі, якую ён колькі дзён назад развіваў, і сітуацыі адарваны ад рэальнай глебы. А пачне пісаць — і ўсё становіцца на трывалы грунт, нават такія, на першы позірк, «сачынёныя» рэчы, як «Святая прастата» ці апошняя камедыя «Дыхайце эканомна». Здаралася і ў мяне, што «імпульсам» была агульная думка («напісаць бы вось пра гэта!»), але пасля я шукаў рэальную аснову — характары, асяроддзе, час, фон, «сачыняў» толькі сюжэт. Андрэй умеў сачыняць і герояў. Думаю, што гэта вышэйшая адзнака мастацкай натуры. Часам наша крытыка ўзнімае пісьменнікаў, якія, што сляпыя да плота, прывязаны да фактаў уласнай біяграфіі. Гэта не *сачыніцелі* ў тым ганаровым высокім значэнні гэтага слова, якое надавалі яму, калі гаварылі пра Пушкіна, Гогаля, Талстога, Чэхава, гэта — бытаапісальнікі, мясцовыя летапісцы. Дарэмна мы занядбалі слова «сачыненне», «сочинитель» — нават па-руску. Ды і ў нашай беларускай мове яно арганічнае».

Шамякін выступае за белетрызм у лепшым сэнсе гэтага слова. Ён і не хавае, што быў белетрыстам, — у наш час дэградуючага прыгожага пісьменства гэта лепшае сведчанне праўдзівасці паказу жыцця і павагі да сваіх чытачоў, якія маюць магчымасць адчуць асалоду ад ужывання аўтарам самых разнастайных рэалістычных прыёмаў. І менавіта гэтыя якасці абумовілі каласальную папулярнасць у чытацкай аўдыторыі твораў Шамякіна. А ў дачыненні да Макаёнка ён гнеўна аспрэчваў тых, хто, зайздросцячы драматургу, называў яго п'есы кан'юнктурай: «Макаёнак — кан'юнктура? Што ж тады «Рэвізор» для свайго часу? П'есы Астроўскага? Нават «Вішнёвы сад»? Выходзіць, пастаноўка вострых праблем сучаснасці ды яшчэ асвятленне адмоўных з'яў у такім вострым камедыйна-сатырычным плане, як рабіў гэта найлепшы савецкі камедыёграф (другога такога, як Макаёнак, на жаль, няма), — кан'юнктура?! Дай жа, як кажуць, божа, больш такой кан'юнктуры!»

Сказана бліскуча. На жаль, негатыўныя ацэнкі Макаёнка чуюцца да сёння — часам брудная плётка вызначае на дзесяцігоддзі прыярытэтныя адносіны публікі да творцы. Зноў паўтараю: як жа мы, беларусы, не ўмеем цаніць таго значнага і цікавага, што ў нас ёсць! А справа ўсяго толькі заключалася ў тым, што некаторыя асобы, каго Андрэй Ягоравіч у свой час востра крытыкаваў, магчыма, і крыўдзіў, помсцілі яму пасля яго смерці. І помсцілі жорстка: былы галоўны рэжысёр тэатра імя Янкі Купалы катэгарычна не ставіў яго п'ес, і тэатралы пра Макаёнка забыліся...

Сваёй аповесцю Шамякін адказваў тым мсціўцам — людзям дробным, нізкім, пошлым, аспрэчваў іх зласлівасць у адносінах да драматурга. Ва ўсіх сваіх мемуарных нататках Іван Пятровіч поўнасцю адступае ад свайго прынцыпу апірышча на вымысел, характэрнага для мастацкіх твораў, нічога не прыдумляе, якраз

тут гранічна праўдзівы. Асабліва гэта хацелася б падкрэсліць адносна «Тайны драмы». Аўтару важна было разабрацца ў перадумовах сямейнай драмы сябра, бо і сам адчуваў сваю віну за яе. Ён быў залішне мяккі, і, баючыся крыўдзіць таварыша, толькі назіраў — з болем, нават з адчаем, — як той шкодзіць сам сабе і сам сябе знішчае. «У творчасці ён застаўся смелым да апошняй камедыі «Дыхайце эканомна», а ў асабістым жыцці ў апошнія чатыры-пяць гадоў страціў цвёрдасць, трываласць, упэўненасць. Чаму? У гэтым чаму — разгадка сакрэту драмы».

А пра сябе, зноў-такі вельмі адкрыта і шчыра, Шамякін пісаў: «У мяне не хапіла смеласці гаварыць з Андрэем на правах старэйшага, я ў нашай кампаніі заўсёды быў малодшы, лідэрстваваў ён. Ведаючы яго «цыганскі характар», я баяўся, што ён можа сур’ёзна ўзлавацца. А я занадта даражыў нашым сяброўствам. Безумоўна, гэта мая слабасць. Пры большай рашучасці і цвёрдасці я мог бы ўплываць на яго так, што гэта было б на карысць менавіта яму і ў яго заблытаных адносінах з першай жонкай, і ў не менш складаных з другой, па іншай прычыне ўжо». У аповесці Шамякін не столькі развенчвае другую жонку сябра, колькі імкнецца разабрацца, як сталася, што нікчэмная, пошлая мяшчанка здолела забраць уладу над такой, літаральна велічнай асобай, як Андрэй Макаёнак. Гэта, аднак, так і засталося сакрэтам. Разгадаў яго Шамякін ужо намнога пазней пасля напісання «Аповесці пра сябра»...

У «Тайне драмы», творы па памеры вялікім, паўнацэннай аповесці, Шамякін успамінае і іншых сваіх сяброў, бо іх кампанія, на самай справе, складалася з чацвёркі — яшчэ Аляксея Кулакоўскага і Пятра Васілеўскага. Сышліся яны адразу пасля таго, як у 1948 годзе Шамякін пасяліўся ў Мінску і пачаў вучыцца ў Вышэйшай партыйнай школе. Ён увогуле з большым задавальненнем успамінае ў аповесці маладыя гады, чым сталыя. А іншыя сябры таксама атрымалі характарыстыкі, часам — дзякуючы ўсяго некалькім дэталям. Скажам, пра Аляксея Кулакоўскага аўтар заўважае: «Ён умеў быць шчодрым нават з пустым кашальком — неяк выкручваўся». І гэтым многае сказана пра чалавека, таксама ветэрана вайны, добрага празаіка. Задумваўся мемуарыст і пра лёс Пятра Васілеўскага, кінасцэнарыста і рэжысёра, які ў маладыя гады падаваў вялікія надзеі: «Тады Пятро здаваўся самым таленавітым сярод нас, ва ўсякім разе самым начытаным, эрудзіраваным. Думаю, што стаць сапраўдным рэжысёрам яму перашкодзілі дзве рэчы: бесклапотнасць і пэўны скептыцызм да выяўленчых сродкаў кіно. Такім ён быў тады, такім застаўся на доўгія гады, хіба цяпер, у старасці, пасур’ёзнеў. Мяне ў першыя гады дружбы цешыла Пятрова весялосць, яго сарказм у адносінах да ўсіх і ўсяго, у тым ліку і да самога сябе. Машу яго жарты часта крыўдзілі. Андрэй, гумарыст і весяльчак, таксама не прымаў многіх жартаў свайго школьнага сябра. Пасля я зразумеў, што гумар іх якасна розны: у Макаёнка — стваральны, сцвярджальны, у Васілеўскага — не, не разбуральны (гэта была б сіла!), а проста смех дзеля смеху, каб пацешыць некага, выставіць сваю дасціпнасць. Так, мы былі розныя. Кулакоўскі і я такім гумарам, як у Андрэя і Пятра, не валодалі. Мы былі «сур’ёзныя», хоць, магчыма, ніхто гучней не смяяўся з жартаў і розыгрышаў, як я». Але галоўнае: «Жылі мы, маладыя пісьменнікі, дружнай сям’ёй, непараўнаўча больш дружнай, чым нашы маладыя калегі сёння». І пры гэтым, кожны ставіўся да жыцця, любіў яго па-рознаму. «Андрэй любіў як змагар, даследчык, пераўтваральнік, нястомны барацьбіт за яго чысціню і прыгажосць». Так заканчвае «Аповесць пра сябра» І. Шамякін.

Зусім па-іншаму, чым «Тайна драмы», напісаны мемуарны нарыс «Палёт над Палессем» — пра Івана Мележа. Шамякін і Мележ — землякі, аднагодкі, больш за тое, доўгі час суседзі па кватэрах — жылі на адной пляцоўцы, і нават, калі раз’ехаліся, заставаліся суседзямі па лецішчах. Нядобразычліўцы прыпісвалі абодвум Іванам патаемнае саперніцтва. Яго не было. Пісьменнікі аказаліся вышэй гэтага, мудрэйшыя за паклёпнікаў. Яны разумелі, што ў іх таленты — розныя, і калі адзін быў больш папулярны ў чытачоў, то другі затое атрымаў больш высокія афіцыйныя ўзнагароды. І па знешнасці, па лёсе: Мележ — высокі, прыгожы,

але Шамякін калегу шкадаваў — у таго і здароўе намнога горшае, і жонка не такая клапатлівая, як у яго, і дзяцей удвая менш... Карацей, баланс вытрыманы. А блізкае суседства, пастаянныя душэўныя размовы нараджалі прыязнасць і павагу адзін да аднаго.

Шамякін напісаў пра Мележа выключна цёпла, сапраўды па-сяброўску, прытым прадэманстраваў і добрае разуменне творчасці калегі: «Раманы Івана Мележа — сапраўдныя сімфоніі народнага жыцця, беларускага, сялянскага...» Ён надзвычай высока ацэньваў кнігі Мележа, лічыў яго стыль самым гарманічным, найбольш, так бы мовіць, «беларускім» з усіх.

Шамякін паказвае ў нарысе, як апантана працаваў сусед, бо меў магчымасць гэта пастаянна назіраць (паміж кабінетамі абодвух класікаў на дачах — не больш за 25 метраў). Праўда, і ацэньваў сам сябе Мележ высока, а таму крытыку не цярпеў: «Больш балюча, чым многія з нас, грэшных, перажываў Мележ крытыку ўласных твораў. Маладзейшыя, мы бяскрыўдна кпілі з гэтага. Пазней я пачаў разумець свайго сябра і суседа. У кожны твор ён укладваў часціну сваёй душы, бо творчасць была сутнасцю яго жыцця, твор нараджаўся ў душэўных пакутах, крывёю сэрца... Я да сваіх крытыкаў, нават да тых, што добра-такі кусалі мяне, адносіўся больш паблажліва. Амаль з кожным з іх пасля наладжваў добрыя адносіны. Мележ за гэта папракаў мяне ў беспрынцыпнасці. Я разумеў яго маральную патрабавальнасць, але прыняць такія метады адносін са сваімі калегамі не мог. Кожны з нас чалавек, і кожны можа памыліцца».

Некаторую крыўдлівасць Мележа Шамякін тлумачыў выключна яго хваравітасцю, дрэнным самаадчуваннем пасля цяжкіх раненняў. Але Іван Пятровіч здолеў ва ўспамінах вылучыць на першы план самыя станоўчыя, сутнасныя, велічныя якасці калегі. Напрыклад, пастаянна падкрэсліваў яго самаахвярнае працалюбства. Або звяртаў увагу на літаральна культ прыроды, што сцвярджаў Іван Паўлавіч у жыцці, на пасаджаныя сябрам бярозы, пра якія Мележ кранальна клапаціўся і бярог, як найвялікшую каштоўнасць. Часам пахвалу сябру Шамякін укладае ў вусны іншых. Распавядае, як Пілiп Пестрак — яшчэ адзін наш сусед па дачы — «з характэрным сваім захапленнем і замілаваннем, цмокаючы і ківаючы галавой, неаднойчы выгукаў, гледзячы з майго балкона на мележаўскія бярозы: «Паэт! Паэт!» І яшчэ прыгадвае аўтар успамінаў, як, прачытаўшы «Людзей на балоце», Піліп Сямёнавіч прыйшоў да яго з пляшкай віна: «Мы сядзелі да позняй ночы, і старэйшы наш сябра, вядомы рэвалюцыянер, чалавек дзіўнага лёсу і вельмі складанага характару, расказваў мне сюжэт рамана, хоць я прачытаў кнігу раней, па-свойму, па-пестракоўску, вытлумачваў характары і гэтак жа часта выгукаў: «Паэзія, браце! Сапраўдная паэзія!» Гэта была яго вышэйшая ацэнка твора». Але ж гэта і ацэнка Шамякіна.

Дарэчы, пра П. Пестрака мемуарыст неаднаразова згадваў у розных успамінах. Напісаў і толькі яму прысвечаную працу — «Звястун і бунтар». У назве — дакладная характарыстыка пісьменніка. Іван Пятровіч лічыў Піліпа Пестрака самай каларытнай асобай у пасляваеннай беларускай літаратуры. Пра яго Шамякін нават хацеў пісаць раман. Пестрак з яго незвычайнай біяграфіяй быў варты эпапеі. Праўда, у выпадку Піліпа Сямёнавіча асоба аказалася больш значнай, чым творца. Таму Шамякін у нарысе аналізуе не столькі кнігі Пестрака, колькі факты яго біяграфіі, сапраўды, незвычайнай. У Заходняй Беларусі ён быў камуністам, узначальваў падпольны райкам. За сваю рэвалюцыйную дзейнасць польскія ўлады яго асудзілі. Перажыў адзінаццаць гадоў турмы, з іх тры — у адзіночцы. Але Шамякін не збіваецца на пераказ біяграфіі, а асвятляе толькі самыя незвычайныя факты жыццёвага шляху Піліпа Сямёнавіча. Напрыклад, яго жаніцьбу. Сустрэўся з дзяўчынай у турме, на прагулцы ў турэмным двары, прычым вязень лічыў, што пазнаёміўся менавіта з той, з якой доўга перастукваўся праз сценку і ў якую, не бачачы яе, рамантычна закахаўся. Аказалася, зблізіўся з іншай. Але ажаніўся. Без кахання. Нарадзіліся блізняты — хлопчык і дзяўчынка. На другі дзень вайны маладыя бацькі згубілі дзяцей пад бамбёжкай у Баранавічах. Доўга

шукалі. Знайшлі хлопчыка. І толькі праз сямнаццаць год высвятліліся звесткі пра дзяўчынку. Я добра памятаю тую гісторыю, хоць сама яшчэ была зусім малая. Мы жылі з Пестракамі ў адным «пісьменніцкім» доме, і жанчыны ў двары на ўсе лады абмяркоўвалі неверагодную жыццёвую гісторыю. Гэтую, у прынцыпе тыповую для пасляваеннага часу сітуацыю і намаляваў падрабязна Шамякін у нарысе. Як ездзіў Піліп Сямёнавіч з жонкай у Томск, як плакала прыёмная маці, якая выратавала пад бамбёжкай і выгадавала чужое дзіця, як адразу пазнаў дачку Піліп Сямёнавіч у школьным класе, як дырэктар школы ўгаворваў іх не ламаць лёс дзяўчынцы. І яны згадзіліся не забіраць яе — у многім таму, што родная маці, жонка Пестрака, аказалася раўнадушнай да дачкі, якую не расціла. Гэтага ён да канца жыцця не мог жонцы дараваць.

Ён увогуле нікому нічога не дараваў. «Піліпа паважалі, асабліва мы, маладыя, але і баяліся — бескампраміснасці яго баяліся: калі нехта «саліў» яму — а былі і такія! — Пестрак таму не дараваў. Самае небяспечнае ў свой час было тое, што ў непрыяцеляў сваіх ён шукаў класавую сутнасць, і калі даведваўся, што нехта ў маленстве жыў заможна, не саромеўся таму наляпіць ярлык: «Кулак!» Тады такой характарыстыкі баяліся. У той жа час як чалавек ён быў добры і рахманы, а смяяўся так, што «гледзячы на яго, слухаючы яго, нельга было не смяяцца». Пры гэтым «больш абачлівыя, навучаныя, як Пятро Глебка, ніколі не ішлі ў тую кампанію, у якой быў Піліп. Я называю Глебку, бо ён папярэджваў мяне: «Усе мы пад чаркай балбатуны, а Піліп асабліва. А побач з намі заўсёды “вуха”».

Шамякін, нязменна праўдзівы ў апісанні савецкіх рэалій, адзначае, што іх пасляваенная «багема» адрознівалася ад блокаўскай, купрынскай ці ясенінскай. «Наша багема, калі яе можна было гэтак назваць, была разгарненнем учарашніх воінаў, партызан. Мы былі патрыёты і верныя сыны Сталіна. Але сачылі і за намі. Хутка мы навучыліся распазнаваць «вушы», некаторых ведалі ў твар. А здаралася, што агента не было — няўпраўка, дык праз гадзіну з’яўляўся наш верны сябра Алесь Кучар. Здзіўляліся: якім сабачым нюхам ён вынюхвае, дзе мы «засядаем?» У сувязі з гэтым, характэрным для пэўнага часу, аспектам пісьменніцкага жыцця Шамякін распавядае забаўныя выпадкі не толькі ў артыкуле пра Пестрака, але і ў многіх іншых.

Шамякін увогуле любіў забаўныя факты і быў да нешчаслівых у яго жыцці 1990-х гадоў, уласна кажучы, да старасці, на дзіва смяшлівы. Нярэдка смешнымі, на яго думку, аказваліся выпадкі, у якіх сутыкаліся творчыя людзі і бяздушная дзяржаўная машына ў асобах бюракратаў. У нататках «Што сказаў Маўр?» Шамякін апісвае сітуацыю 1950-х гадоў, калі чыноўнікі правяралі, як у Саюзе пісьменнікаў праходзіць палітвучоба. Дзве правяральшчыцы пажадалі пагаварыць з самым старым пісьменнікам — Янкам Маўрам. Шамякін як сакратар партарганізацыі вымушаны быў папрасіцца наведаць яго. Прыйшлі проста на кватэру — Маўр жыў у тым самым «пісьменніцкім» доме, а ён стаяў якраз насупраць Саюза пісьменнікаў, на той час — на вуліцы Энгельса. «Маўр быў дзіўным чалавекам — разумным, хітрым, дасціпным», — падкрэслівае Шамякін і апавядае, як Маўр камічна ўспрыняў сітуацыю, яўна смяяўся з недалёкіх розумам чыноўніц. На іх пытанне, ці памагае «Капітал» Маркса ў працы, адказаў: «Ой, памагае, галубка. Ой, памагае! — разгарнуў «Капітал», узяў лісток. — Раней, калі не вучыўся, сяду да стала, макну пяро ў чарніла і пішу, і пішу. А цяпер, калі пачаў вучыцца, напішу сказ і… закрэслю. Напішу — і закрэслю… Во як памагае».

На бюро райкама адна з правяральшчыц, Ніна Георгіеўна, гнеўна кляйміла Шамякіна за паказуху, за тое, што не ходзяць да яго на партвучобу пісьменнікі, за іх апалітычнасць, а адносна Маўра сказала: «А калі мы папрасілі з кім-небудзь пагутарыць з тых, хто вывучае марксізм-ленінізм самастойна, сакратар павёў нас да нейкага старога камедыянта…» Шамякін не вытрымаў — абурыўся: «Не нейкі камедыянт, а старэйшы беларускі празаік Янка Маўр. На яго кнігах мы вучыліся». Перадаў дыялог з Маўрам. У выніку атрымалася зусім не тая рэакцыя членаў бюро, на якую разлічвала функцыянерка, — яны смяяліся. Шамякіна паўшчувалі,

але далікатна, паміж радкоў — з адабрэннем. Тым не менш, і чыноўніца рухалася па кар’ернай лесвіцы: «Ніну Георгіеўну пазней выбралі сакратаром райкама па ідэалогіі. Але я, стаўшы намеснікам старшыні СП, здаў партыйнае сакратарства сябру свайму, прынцыповаму, добраму чалавеку, цікаваму пісьменніку Аляксею Кулакоўскаму. Многа крыві папсавалі яны адзін аднаму — Ніна і Аляксей. Цяпер, пенсіянеры, мы зрэдку сустракаемся ў парку, і бабуля Ніна Георгіеўна выказвае надзвычай «смелыя» думкі пра наш час, пра новае кіраўніцтва. Дэмакратка!»

Іван Пятровіч пагарджаў тымі, хто пасля развалу СССР на 180 градусаў пераняніў свае погляды, а такіх аказалася шмат у 1990-я гады, у тым ліку сярод калег аўтара. А ці былі ў іх увогуле калі-небудзь погляды? Хутчэй за ўсё яны заўсёды кіраваліся эгаістычнымі, шкурнымі інтарэсамі — матэрыяльнага дабрабыту і кар’еры.

Шамякін жа — чалавек шчыра ідэйны, таму не даспадобы быў для тых, хто пры савецкай уладзе трымаў велізарную дулю ў кішэні і пры гэтым атрымоўваў усялякія даброты. Сёння здзіўляешся: ім не прыходзілася нават ніякіх намаганняў прыкладаць — усё за іх рабілі кіраўнікі СП. Старшыня і яго намеснік выпрошвалі ў чыноўнікаў для сваіх калег узнагароды, кватэры, званні і прэміі. У выніку Шамякіну прыйшлося ўсё жыццё мець справу з партыйнымі, дзяржаўнымі кіраўнікамі. Сярод іх былі, безумоўна, розныя. Апісваючы тыя ці іншыя сітуацыі, ён не ўтрымліваецца і дае некаторым дзеячам лаканічныя, але трапныя характарыстыкі. У мемуарнай навеле «Звястун і бунтар» паказваецца, як былы рэвалюцыянер і вязень «Лукішак» Піліп Пестрак увайшоў у канфлікт з магутнай па сваіх уладных магчымасцях асобай П. К. Панамарэнкі: «Піліп Сямёнавіч не мог мірыцца з дыктатарскімі замашкамі першага сакратара, з яго бытавой распушчанасцю. І Панамарэнка даў яму адстаўку з усіх пасад — добра, што толькі звальненне!» З таго часу Пестрак Панамарэнку ненавідзеў. А Шамякін аб’ектыўны, у розных месцах ён адзначае і негатыўныя, і пазітыўныя рысы ў мінулым гаспадара Беларусі: «Можна па-рознаму ставіцца да былога сакратара ЦК КПБ, начальніка Цэнтральнага партызанскага штаба Панцеляймона Панамарэнкі, нямала, як цяпер высвятляецца, на яго сумленні розных «спраў» у 1938—1941 гадах, асабліва ў дачыненні да беларускіх пісьменнікаў, іншых творчых дзеячаў. Але справядлівасць патрабуе адзначыць, што ў вайну ён засцерагаў кадры творцаў ад гібелі, пра гэта мне казалі Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Пятро Глебка». Згаданыя пісьменнікі былі для Шамякіна вышэйшым аўтарытэтам, ён ім верыў.

Ды і сам Шамякін ведаў Панамарэнку яшчэ з першага пасляваеннага пленума СП, на які яго, маладога аўтара, запрасілі старэйшыя калегі. Тады Панцяляймон Кандратавіч уразіў не толькі маладых. «І заваражыў ён не толькі мяне, галыша, але і патрыярха Якуба Коласа, самотнага Міхася Лынькова, бадзёрага Петруся Броўку, на якіх я ледзьве не маліўся, як на багоў. Па-першае, Панамарэнка гаварыў не па пісаным, на рускай мове, але граматна і вобразна. Па-другое, смела — пра становішча ў гарадах, у вёсках, так смела ніхто з нас, летапісцаў часу, не адважваўся і пазней, да «адлігі», напісаць: «Што можна Юпітэру, нельга быку». І пра ваенную літаратуру — з веданнем яе, са «Сцяга брыгады» колькі радкоў прачытаў на памяць».

У далейшым Шамякін слухаў выступленні Панамарэнкі не раз і быў заўсёды зачараваны. Асабліва імпанавала пісьменнікам, што першы сакратар і адначасова старшыня Саўміна рэспублікі так добра ведаў беларускую літаратуру. У пачатку 1950-х гадоў яго выклікалі ў Маскву і зрабілі міністрам культуры СССР. У адной з лепшых сваіх мемуарных навел «Панцеляймонава кіно» Шамякін распавядае пра тое, як яго, ужо даволі вядомага аўтара, лаўрэата Сталінскай прэміі, запрасілі ў Маскву да Панамарэнкі. Пры сустрэчы міністр як быццам шчыра цікавіўся новым раманам Шамякіна і прапанаваў яму ехаць у расійскі Дом творчасці на семінар кінасцэнарыстаў. У каторы раз падзейнічаў сваёй харызмай на маладога пісьменніка.

Але на самай справе, як аказалася, запрасіў ён Івана Пятровіча зусім для іншага. Дзве гадзіны распавядаў Панамарэнка літаральна дэтэктыўны сюжэт, як

ён у 1938 годзе, паехаўшы, прычым патаемна, да Сталіна, ратаваў ад рэпрэсій групу беларускіх пісьменнікаў — самых таленавітых, самых вядомых. Прыводзіць у навеле Шамякін словы міністра-апавядальніка: «Так замест ордэраў завяліся ордэны. Я ратаваў Купалу, Коласа, іншых. Ды, скажу шчыра, і сабе памог: слежку за мной спынілі», — расказваў мне Панамарэнка. І хіба мог я ўсумніцца ў праўдзівасці расповеду такога чалавека? Папярэджання, каб не разглашаў яго расказ, не было. І я, як толькі вярнуўся ў Мінск, перадаў пачутае Броўку, нават расказаў на нейкім пасяджэнні. Мне паверылі. Не мне — Панцеляймону Кандратавічу, аўтарытэт якога трымаўся высока і пасля яго ад'езду. Нават такі крытык сталіншчыны, як Андрэй Макаёнак, паверыў. На сустрэчах з чытачамі расказвалі: во які ён, наш Панамарэнка! Пры наведванні Якуба Коласа за партузносамі я расказаў і яму. Канстанцін Міхайлавіч здзівіў — без захаплення сказаў: «Я, братачка, чуў гэта з яго вуснаў».

Шамякіна ўразіла, што стары мудры Колас чуў такое і нікому не паведаміў. А сам Іван Пятровіч расказваў не раз — і калегам, і чытачам. Ды толькі аказаўся ашуканы і сам іншых міжволі ашukваў, паколькі менавіта ад яго пайшла легенда пра «подзвіг» Панамарэнкі. У 1990-я гады адкрыліся архівы, і ў друку з'явіўся ліст Панамарэнкі да Сталіна, дзе ён заклікае пакараць пісьменнікаў-нацдэмаў. Шамякін быў у шоку: «Глыбока расчараваны, мацюкнуў я і Панамарэнку, і Платонава, і ўсіх палітыканаў. Я здаўся. Хэндэ хох! Праз сорак гадоў дапяў. Да лямпачкі было Панцеляймону тое кіно, тым больш мой раман; ён шукаў магчымасці, як адмыцца. Знайшоў: выклікаць маладога беларускага пісьменніка, аўтарытэтнага (лаўрэат!), расказаць яму, які добры ён быў, безумоўна ж, пісьменнік раскажа легенду калегам, старым і маладым, нехта запіша яе... Але не лепшы ён быў сцэнарыст, забыўся пра адну істотную дэталь — пра архіў, які папоўніў сваімі пісьмамі...»

Праўда, мяне ўсё ж грызе сумненне: пісьменнікаў жа сапраўды не пакаралі, а далі ім ордэны. Дык што ж на самай справе было? І чаму Шамякін не стаў дашуквацца да праўды?

Але калі Панамарэнка ўсё ж асоба далёка не адназначная, то іншыя партыйныя кіраўнікі паўстаюць ва ўспамінах Шамякіна зусім пэўна. У навеле «Выхавацель» апісваюцца сустрэчы пісьменніка з В. Ф. Шаурам, сакратаром ЦК КПБ па ідэалогіі, якога пазней з Беларусі забралі ў Маскву, дзе ён стаў правай рукой М. А. Суслава, узначаліў аддзел культуры ЦК. Пра іх з патронам «выхаваўчую» дзейнасць варта было б напісаць літаральна тамы. Шамякін, натуральна, за такое не браўся, але асобу беларускага ідэолага высвеціў яскрава: яго чыноўніцкую пыху, яго пагарду да простага чалавека, яго некампетэнтнасць, яго бюракратычны фармалізм, яго грубасць. У далейшым, «калі Гарбачоў і Якаўлеў з дапамогай Шауры развалілі партыю, і былы загадчык аддзела мусіў ачысціць дачу ЦК, то разам з іншым дабром вывез 200 (!) арыгінальных карцін мастакоў з усіх рэспублік. Плюс скульптуры, адлітыя з каштоўных металаў». Выхоўваў мастакоў і на сябе не забываўся. Такія былі «выхавацелі».

Апавядаючы пра паездку за акіян на сесію ААН у 1963 г., Шамякін прыгадвае сваю дзейнасць пад кіраўніцтвам тагачаснага міністра замежных спраў Беларусі Генадзя Кісялёва, які любіў выпіць, часта спыняўся каля бараў і пасылаў па выпіўку сваіх падначаленых, у тым ліку Шамякіна: «Сам не выходзіў і даляраў ніколі не даваў, наравіў, каб мы выдаткоўвалі свае мізэрныя сутачныя, за якія трэба было харчавацца, плацілі і на дачы, і ў прадстаўніцтве, і вядома ж — у сталоўцы ААН — і хацелася ж зэканоміць, каб купіць падарункі жонкам, дзецям». Высокія чыноўнікі, аднак, пра матэрыяльныя справы сваіх падначаленых не задумваліся.

Нельга сказаць, што Шамякін да ўсіх уладароў крытычны. Ён умеў бачыць добрае ў любым чалавеку, незалежна ад яго пасады. У навеле «Памятны юбілей» ён апавядае пра святкаванне юбілею П. Броўкі ў яго доме, дзе пры высокіх гасцях у літаральным сэнсе развалўся святочны стол. Кірыл Трафімавіч Мазураў разам з Піменам Панчанкам палезлі з малаткамі пад стол — рамантаваць. «Глебка і я

давалі «раманцёрам» «мудрыя» парады. Старшыні Саўміна!» Безумоўна, уявіць Шауру з малатком пад сталом было б абсалютна немагчыма, а вось былога арганізатара партызанскага руху на Беларусі, выдатнага кіраўніка пасляваеннай гаспадаркі Мазурава — зусім рэальна. Так што і кіраўнікі былі розныя.

Заўсёды з нязменнай сімпатыяй пісаў Шамякін пра Машэрава. Ёсць асобныя пра Пятра Міронавіча ўспаміны, але згадваў яго Іван Пятровіч і ў іншых нататках не раз. Так, у «Тайне драмы» ён заўважае: «Пётр Міронавіч не ўсё прымаў у камедыях Макаёнка. Але крытыкаваў ён драматурга па-гаспадарску і часта даваў разумныя і трапныя падказкі, асабліва калі абмяркоўвалася п'еса пра сяло. Машэраў любіў пагутарыць з драматургам. У яго была слабасць: пры субяседніку, які глядзеў яму ў рот, ён больш гаварыў сам. Макаёнак з ім спрачаўся, і Пятро Міронавіч цаніў гэта, яму было цікава з чалавекам, які не прызнаваў «табеля аб рангах».

У навеле «Пагарэльцы» Шамякін успамінае, як лёгка і проста вырашыў Машэраў праблему з будаўніцтвам новай дачы Макаёнка, калі старая згарэла. А пасля вырашэння гаспадарчага пытання «гадзіны дзве размовы пра літаратуру і тэатр. Што напісана. Што пастаўлена — у нас, у Маскве. Інструктары, загадчык аддзела, міністр — так расказаць не маглі — скоўвала субардынацыя, ды і не ведалі яны таго, што ведаў Макаёнак пра тэатр, я — пра новыя раманы. Мы таксама не зявалі — тут жа ставілі наспелыя ў Саюзе пісьменнікаў, у тэатрах пытанні. Нярэдка вырашаліся некаторыя з іх хутчэй і больш поўна, чым тыя, якія выкладаліся ў пісьмах — тых, што доўга хадзілі па інстанцыях і нярэдка не даходзілі да таго, каму адрасоўваліся». Бюракратыя — яна ва ўсе часы бюракратыя. Але да першага чалавека ў дзяржаве вядомыя пісьменнікі маглі трапіць даволі проста.

Машэраў ніколі не быў бюракратам, фармалістам — наадварот, чалавекам шырокіх поглядаў на жыццё, сапраўдным дэмакратам. Нельга сказаць, што ён быў для Шамякіна і Макаёнка ідэалам дзяржаўнага кіраўніка ва ўсім, але ў яго метадах яны шмат што прымалі і як чалавека глыбока паважалі. Намнога пазней, з вышыні часу, Шамякін уважліва прааналізаваў дзейнасць Машэрава і зрабіў выснову, што «яго» час для літаратуры аказаўся, магчыма, найбольш спрыяльны.

Што ж тычыцца іншых кіраўнікоў дзяржавы, у тым ліку СССР, потым і Расіі, то Шамякін не стрымліваўся — даваў ім кароткія, ёмістыя і ў многім вычарпальныя характарыстыкі, часткова — праз вусны сябра Андрэя Макаёнка: «Дзіўна: гумарыст Макаёнак любіў Хрушчова і пасля вельмі не любіў Леаніда Ільіча: «Толькі ў нас мог прабрацца на царскае месца такі Дуб Дубовіч». Не дажыў Андрэй: паглядзеў бы, хто прабіраецца да ўлады ў наш «дэмакратычны» час. Не, не дубы — злодзеі тыпу Мішкі, Барыскі з «сям'ёй». У часы панавання Брэжнева Шамякін таксама, магчыма, пад уплывам сябра, востра крытыкаваў Леаніда Ільіча і метады яго кіравання. Потым, перажыўшы «перабудову» і развал СССР, ацэньваў яго не так катэгарычна — было з кім параўноўваць.

А ўсё ж найбольш цікавыя ва ўспамінах Шамякіна старонкі, звязаныя з пісьменніцкай «кухняй», айчыннай і ўсесаюзнай. Тут не толькі даюцца постаці пэўных асоб, але ў цэлым складваецца вобраз эпохі, які дазваляе дастаткова поўна ўявіць літаратурны працэс савецкага часу. А гэта важна для літаратуразнаўцаў: вывучаць не толькі тое, што засталося ад мінулага — творчасць класікаў, але і фон іх дзейнасці. Менавіта фонам — фенаменальна супярэчлівым, поўным і глупства, і ў той жа час высокіх узлётаў — каштоўныя мемуары Шамякіна, чалавека, які актыўна браў удзел у літаратурным працэсе.

Не раз ён апісвае паездкі, так званыя дэкады той ці іншай нацыянальнай літаратуры ў іншых краінах ці саюзных рэспубліках. «Параднымі «прагулкамі» і гасцяваннем з запоямі дэкады не маглі быць ужо таму, што рыхтаваліся да іх загадзя, мінімум за год, а тое і за два. І ў гэты час і госці, і гаспадары стараліся як мага шырэй пазнаёміць сваіх чытачоў з творчасцю ўдзельнікаў дэкады — многа перакладалі адзін аднаго, друкавалі, асабліва паэзію, прысвячалі нумары часопісаў, а яны ў той час былі ёмістыя (у нас «Полымя», «Нёман»)».

Падчас страшнага землятрусу ў Ташкенце ў 1966 годзе ва Узбекістане якраз гасцявала беларуская дэлегацыя на чале з П. Броўкам. «У дзень землятрусу адбыўся заключны вечар, не адмянілі. Адбылося некалькі штуршкоў, але ніхто не пакінуў залы, што ўцалела ў час ранішняга землятрусу. Героі! І ўзбекі, і нашы». А я памятаю, як хваляваўся бацька за нашых, як прыпадаў да радыёпрыёмніка — у прамым эфіры перадавалі канцэрт беларусаў з Ташкента.

У навеле «Выхавацель» прыгадваецца паездка беларускай дэлегацыі ў Таджыкістан — падстава ацаніць гасціннасць саюзнай рэспублікі: «Асабіста для мяне паездка па Таджыкістане была незабыўнай. Казкай. Такога ўражання не было ні ад Малдавіі, ні ад Латвіі, ні нават ад Арменіі, дзе было грандыёзнае святкаванне стагоддзя з дня нараджэння Аванеса Туманяна, і з добрай сотняй пісьменнікаў з усіх рэспублік ездзілі Мікаян і Баграмян».

Але адбываліся і іншыя падзеі, не такія пафасныя і радасныя. Не раз згадвае пісьменнік сваю працу ў рэдкалегіі ўсесаюзнага выдавецтва «Советский писатель» і асабліва — у складзе Камітэта па Дзяржаўных і Ленінскіх прэміях. Рэкамендавалі на Дзяржаўную прэмію СССР і аповесць Шамякіна «Гандлярка і паэт». Пісьменнік не вельмі спадзяваўся на ўзнагароду, ён ведаў, якія «нечаканыя падводныя плыні» ў камітэце здараліся.

У Маскву, на камітэт, дзе павінна было вырашацца яго асабістае пытанне, Шамякін папрасіў з’ездзіць двух надзвычай аўтарытэтных, аб’ектыўных, разумных крытыкаў. Нават аднаго лічыў сваім сябрам, а другі, празаік, заўсёды вызначаўся сваёй аб’ектыўнасцю, як падкрэсліваў Шамякін: «ён часам наскокваў на мяне, але прызнаваў, што сюжэтчык я лепшы за яго».

Прэмію Шамякін не атрымаў. Праз нейкі час выпадковы чалавек, які ехаў у адным купэ з беларусамі, расказаў Шамякіну пра вагонную размову яго сяброў, калі яны ехалі як быццам абараняць калегу. Яны дамаўляліся яго крытыкаваць. За што — высветлілася пазней. В 2001 годзе ў навеле «Сябры» Шамякін пісаў: «Як зашораны былі разумныя крытык і раманіст! Лічылі, што жанчына, якая прадавала на Камароўцы сваю цыбулю і гуркі, не магла быць падпольшчыцай. Гераіняй (у высокім сэнсе) твора сацыялістычнага рэалізму. «Ха, ха», — толькі і можна сказаць сёння». Так думалі элітарыі пра простых людзей.

І яшчэ пра элітарыяў. Эпізод надзвычай каларытны і апісаны так, як умеў толькі Шамякін, з немалым гумарам і да сябе. Справа адбывалася ў гады яго маладосці, у Доме творчасці ўкраінскіх пісьменнікаў пад Адэсай. Шамякін толькі нядаўна купіў машыну «Победу», у якой асмеліўся паехаць на курорт. Там, нявопытны вадзіцель, пашкодзіў ЗІЛ сына рускага класіка Аляксея Талстога — Мікіты. Перажываў: «Ледзьве дачакаўся снедання. Млеючы, наблізіўся да яго стала, амаль пакланіўся. — Прабачце, Мікіта Аляксеевіч. Я няўзнак зачапіў вашу машыну. Дробязь... Падфарнік разбіў. — Ён акінуў мяне зняважлівым, спапяляльным позіркам. Ні слова не сказаўшы, злосна адсунуў талерку, падняўся і пайшоў са сталоўкі. Я — за ім. Ён — доўгі, я — кароткі. Я бег за ім, як вінаваты пёсік. Ён глянуў на машыну, пераканаўся, што пашкоджанні нязначныя, і... ашчасліўіў мяне — сказаў без эмоцый: — Трэба адрамантаваць. — Канешне, Мікіта Аляксеевіч. Сёння ж папрашу шафёраў».

Усё было зроблена. «Праз якую гадзіну, не больш, я дакладваў фізіку, што машына адрамантавана: — Не ўбачыце, дзе і пашкоджаная была. — Але на мае словы, бадай, жартаўлівыя, — у адказ ні слова. Гэтак жа, як у час снедання, падняўся з качалкі, пайшоў паглядзеў... І зноў — ні слова. Абразліва. Упэўнены, што з любым іншым рускім, украінцам, беларусам пасля такога «знаёмства» і такога мірнага вырашэння канфлікту, калі не пасябраваў бы, то пэўным чынам зблізіўся б. Так думаў і думаю зараз. Не так думаў дваранін. Я пачціва кланяўся яму. Ён ні разу не адказаў нават кіўком галавы... Арыстакрат...»

Безумоўна, не ўся расійская эліта такога кшталту. Шамякінскія ўспаміны пра сустрэчы з расійскімі пісьменнікамі — яскравы дакумент часу, каштоўны для ўсіх прыхільнікаў мастацкай літаратуры, як рускіх, так і беларускіх.

У навеле «Асуджэнне за талент» Шамякін апісвае якраз пісьменніцкія справы — атрыманне кватэр, вырашэнне пытанняў пра тыражы выданняў, у тым ліку, у Маскве. Адзначае: «...сёння, ва ўмовах дэмакратыі, любыя дэмакраты могуць пазайздросціць той дэмакратычнасці, з якой праходзілі пленумы «Советского писателя» па зацвярджэнні выдавецкага плана на наступны год. А ў планах гэтых у тыя далёкія 60—70-я гады было да 400 назваў кніг паэзіі, прозы, крытыкі рускай і ўсіх рэспублік, саюзных і аўтаномных». У артыкуле Шамякін хваліцца, што яму ўдавалася ўключаць у гадавы план па 10—15 беларускіх кніг. Але гэта не галаслоўныя сцвярджэнні, можна праверыць: ёсць статыстыка, вядомы выданні беларускіх аўтараў у саюзных выдавецтвах. Толькі ў адзін год аказалася ўсяго толькі 8 беларускіх кніг. Але таму, што абурыўся ўкраінскі прадстаўнік: якая па памерах Украіна, а якая Беларусь, а беларускіх кніг устаўляецца ў план намнога больш. Але так атрымалася, адзначае Шамякін, па віне саміх украінцаў, іх пасіўнасці, раўнадушша да калег: «Мабыць, не дбалі яны пра выданні на рускай мове. Таму і мяняліся іх прадстаўнікі, і не з'яўляліся яны на пленумы, на якіх зацвярджаўся гадавы план». Шамякін жа як прадстаўнік ад Беларусі ездзіў заўсёды.

Аднойчы, у 1958 годзе, Шамякін, прыехаўшы на зацвярджэнне чарговага плана выдавецтва ў Маскву, жыў у адным пакоі ў гатэлі «Украіна» з вядомым смаленскім паэтам Мікалаем Рылянковым. Пасля работы яны абодва сустрэліся ў рэстаране з Аляксандрам Твардоўскім і яго намеснікам па часопісе «Новый мир» Аляксандрам Крывіцкім. У той вечар Шамякін пачуў гісторыю рамана «Доктар Жывага».

Спачатку Барыс Пастарнак здаў раман якраз у «Новый мир». Думкі членаў рэдкалегіі «дваіліся і траіліся». Але галоўны рэдактар часопіса Твардоўскі, чалавек надзвычай смелы, стаяў за публікацыю. Пакуль яны думалі, раман выйшаў у Італіі. І. Шамякін амаль дакладна перадае словы Твардоўскага і адначасова паміж радкоў ацэньвае незвычайную інфармацыю: «Савецкі пісьменнік перадаў рукапіс за мяжу! Друкаванне ў часопісе адпала. Але як адмовіць вядомаму аўтару? Рэдакцыйнае заключэнне павінна быць такім, каб яго не выкарысталі там, за бугром. Зноў раман перачыталі ўсе члены рэдкалегіі, праз лупу шукалі антысаветчыну, не адзін тыдзень Крывіцкі і прыбліжаныя да часопіса крытыкі-сваціла пісалі рэдакцыйнае заключэнне. Прысуд раману, дасланы аўтару, падпісаў адзін намеснік галоўнага рэдактара — Крывіцкі. (Тут Твардоўскі аглушыў шклянку гарэлкі і «мазануў» далікатнага інтэлігента Крывіцкага. За што? Што быў мудрэйшы за іншых? За яго — Твардоўскага?). І вось назаўтра здарылася тое, чаго кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў і аддзел прапаганды ЦК баяліся: Пастарнаку прысудзілі Нобелеўскую прэмію (пра што мы з Рылянковым яшчэ не чулі). Грымнуў яўны антысавецкі гром! Трэба заглушыць яго! Не даць, каб да савецкіх чытачоў дайшло рашэнне Нобелеўскага камітэта. Даказаць, што не за мастацкія якасці прысудзілі вышэйшую міжнародную прэмію! Ацэнку раману павінны даць майстры слова сацрэалізму. У ЦК спадабалася рэдакцыйнае заключэнне. Надрукаваць яго! Неадкладна! У заўтрашнім нумары «Литературной газеты». Але ж не за подпісам аднаго Крывіцкага! Хто такі Крывіцкі для масавага чытача?! Аднак як за адзін вечар сабраць іх подпісы, каб паспець нумар газеты перавярстаць і заўтра выпусціць у свет з разгромам «Доктара Жывага»? Каб сабраць подпісы, трэба аб'ехаць дзесятак кватэр у розных канцах Масквы, дачы ў Перадзелкіне. Хто паедзе? Твардоўскі! Але ведалі яго слабасць. Яму далі доўгі чорны ўрадавы лімузін «ЗіС». Аляксандр Трыфанавіч узяў Крывіцкага. Але ў машыне яны выявілі трэцяга пасажыра — у куточку на заднім сядзенні. Там сядзеў загадчык аддзела прапаганды ЦК Палікарпаў. Больш за ўсё Твардоўскага абураў такі «ахоўнік». І за сталом у рэстаране, пакуль Крывіцкі расказваў «іх эпапею», і пасля, у нашым нумары, Твардоўскі не раз ёмкімі рускімі словамі выказваў сваё абурэнне: не мог перажыць такога недаверу, уніжэння. Каб яго, лепшага паэта краіны, франтавіка, тройчы лаўрэата, вазілі пад канвоем!»

Прыведзены ўрывак — яскравы прыклад стылю Шамякіна: і інфармацыя аб падзеі, сапраўды гучнай, на ўвесь свет, якая і праз трыццаць гадоў успамі-

налася не раз з розных пазіцый, і пісьменніцкая «кухня», і метады працы адпаведных органаў, і характар такой неадназначнай, выключна складанай асобы, як Аляксандр Трыфанавіч. І ўсё — на дастаткова невялікай плошчы, ясна, лаканічна, жыва.

Пасля паездак да членаў рэдкалегіі Твардоўскі і Крывіцкі прыйшлі абмыць крыўду ў рэстаран. А пасля славуты паэт падняўся ў нумар Шамякіна і Рылянкова працягваць вячэру. Пры гэтым на наступны дзень у Саюзе пісьменнікаў СССР Шамякін зноў убачыў Твардоўскага. «Мяне, сведку яго начнога «возлияния», здзівіў: што вымытае шкло, вочы светлыя, чыста паголены, свежая сарочка, новы, не ўчарашні, гальштук. У фае ні з кім не павітаўся, адразу прайшоў у залу».

А з’явіўся Аляксандр Трыфанавіч, прычым з вялікім спазненнем, на тэрміновы, пазачарговы пленум СП СССР, якраз прысвечаны разгляду справы Б. Пастарнака. Шамякін апісвае пленум досыць падрабязна. Першым на пасяджэнні выступіў Старшыня праўлення Аляксей Суркоў. «Суркоў гаварыў без злосці, памяркоўна, як забаўную быль» расказаў пра ўсе перыпетыі выдання крамольнага рамана, пра Нобелеўскую прэмію, хваліў Пастарнака-паэта. «Але так і не сказаў, з якой мэтай сабраліся члены сакратарыята, праўлення, актыў. Не меў яшчэ старшыня пэўных указанняў. Вярхоўны ідэалагічны орган нярэдка па дробязях даваў канкрэтныя ўказанні, а па сур’ёзных, істотных прапаноўваў разабрацца самім. Так было ў Маскве, так было ў нас. Пасля Суркова ўсе асуджалі Пастарнака, але мякка, нязлосна, як бы падсцілаючы саломкі, каб не балюча яму было на дачы ў Перадзелкіне. Адзін чалавек абараняў лаўрэата — Ілля Эрэнбург. Сказаў, што асуджэннем Пастарнака мы зробім вялікую шкоду сусветнаму руху за мір». Злосным было толькі выступленне Веры Пановай, але зноў-такі без адрасу, незразумела супраць каго накіравана: супраць паэта, супраць Хрушчова, супраць калег?

Пачалі паднімаць прадстаўнікоў з рэспублік. Шамякін устаў і сказаў: «Я не чытаў рамана». Нехта засмяяўся, нехта сказаў: «А хто чытаў?»

Суркоў выгарадзіў маладога беларуса, сам расказаў пра раман, які, аднак, таксама не чытаў. Шамякін у мемуарных нататках іранічны ў адносінах да Суркова, да ідэалагічнай акцыі, да літаратурнай палітыкі ўлад. А між іншым, дарэмна іранічны. У красавіку 2014 года з’явілася паведамленне ў друку пра 130 дакументаў ЦРУ, якія толькі што рассакрэцілі. Яны даказваюць, што ЦРУ выдаткавала нямала сродкаў і брала самы актыўны ўдзел у публікацыі і распаўсюджанні па свеце, а таксама сярод савецкіх людзей рамана Пастарнака[1]. Аказваецца, не так ужо моцна памыляліся тыя, хто «ганьбіў» Барыса Леанідавіча (іх, выступоўцаўкрытыкаў было 14). Праўда, Пастарнака не толькі не выслалі з краіны, але нават з Літфонду не выключылі. А ідэалагічнай акцыі тады не магло не быць — кожная краіна абараняецца ад разбуральнікаў, ад пасквілянтаў. Хоць што тычыцца кіраўнікоў СССР, рабілі яны гэта па-дурному, што і паказаў Шамякін.

Абмеркаванне ж скандальнага рамана ў СП Беларусі ў прысутнасці Шауры ўвогуле звялося да анекдота, які Іван Пятровіч не без бляску і агучыў. Асноўны выступоўца дырэктар Інстытута літаратуры Васіль Барысенка замест «Пастарнак» ад хвалявання ўвесь час гаварыў «Пестрак», у тым ліку: «Гэты антысаветчык Пестрак». У залы заняло дыханне. Пасля Барысенкі слова ўзяў менавіта Піліп Сямёнавіч. «Пестрак не спяшаючыся пайшоў да трыбуны са сваім да дзірак пацёртым партфелем (жартавалі, што торба гэтая — з Лукішак яшчэ), раскрыў партфель, дастаў нейкія паперы, начапіў акуляры — як выпрабоўваў цярпенне слухачоў. А сказаў адзін сказ: «Акадэмікам трэба выступаць па пісаным», — і пайшоў з трыбуны. Зала выбухнула рогатам. Словы гэтыя зрабіліся крылатымі».

У артыкуле «Прэміі» Шамякін узнаўляе яшчэ адзін надзвычай знакавы эпізод у савецкай гісторыі літаратуры — прысуджэнне Ленінскіх прэмій Аляксандру Салжаніцыну і ўкраінцу Алесю Ганчару. Тут таксама раскідана мноства

[1] Операция «Живаго» // Литературная газета. — № 15. — 16—22 апреля 2014. — С. 4.

характарыстык беларускіх (П. Глебкі), украінскіх (А. Ганчара), рускіх творцаў (А. Суркова, А. Твардоўскага, А. Пракоф’ева). У адносінах амаль да ўсіх рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў аўтар зноў-такі прыхавана іранічны. Неабходна сказаць, што сам Шамякін, будучы чалавекам вельмі добразычлівым да людзей, мяккім, ліберальным, у кантактах, асабліва кантактах афіцыйных, быў дастаткова абачлівы і асцярожны. Прытым, хоць і сапраўды ідэаліст, але любіў гуляць і ў наіўнага, нават у сям’і. Праўда, такая гульня працягвалася толькі да пачатку 1990-х гадоў. Пасля на ўсім, што ён гаварыў і рабіў, ляжала пячатка трагізму. Але ў яго ўспамінах, напісаных у розны час, наіўнасці і блізка не адчуваецца. Пры ўсёй добразычлівасці ён усё ж выбірае эпізоды, якія характарызуюць таго ці іншага калегу з розных бакоў, нідзе прама нікога не асуджаючы, але і не хаваючы чалавечых слабасцей масцітых творцаў.

У Камітэце па прэміях, дзе засядаў і Шамякін, «два дні ішла жорсткая баталія. Страсці разгарэліся да таго, што, здавалася, блакітныя шпалеры залы зрабіліся чырвонымі. Твардоўскі ведаў правілы палемікі. Ён ігнараваў нас, «нацыяналаў», — драбяза. Але кожнаму маскоўскаму, ленінградскаму апаненту даваў бязлітасны адлуп. А апанентамі яго былі такія зубры, як Вадзім Кажэўнікаў, Сяргей Міхалкоў, Аляксей Суркоў, хоць Алёша на гэты раз не самым красамоўным быў, ён нібы стараўся прымірыць варожыя групоўкі. Самым непрымірымым заставаўся Пракоф’еў».

Самому Шамякіну апавяданне А. Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» падабалася, але ўвогуле стаўленне да праблемы было дваістым. У палеміцы ён падтрымліваў Аляксандра Пракоф’ева, якога добра ведаў, з якім усё жыццё сябраваў. Таму і ў мемуарных нататках асабістае стаўленне да Твардоўскага выяўляецца досыць яскрава. Хоць, безумоўна, Іван Пятровіч слыннага рускага паэта глыбока паважаў. А розныя перыпетыі з прэміямі А. Салжаніцыну і А. Ганчару Шамякін здолеў перадаць максімальна аб’ектыўна. «Тронка» Алеся Ганчара ішла лёгка і гладка, а тайным галасаваннем завалілі. «Алесь праз ЦК дамогся перагаласавання, на якую група Твардоўскага не з’явілася — пратэставала». Перагаласаванне ў такім Камітэце — з’ява неверагодная.

Закончыў Шамякін артыкул, разважаючы пра добра яму знаёмага Алеся Ганчара, якога нават пэўны час лічыў сябрам, сумным філасофскім роздумам: «Талент даваў яму магчымасць пісаць для вечнасці. Ён пісаў дзеля прэмій. Ці ён адзін?! Якая наша вядомасць там, за мяжой жыцця?»

Шамякін мала згадваў 1980—1990-я, нулявыя гады — яму было не цікава ў іх жыць, таму і адлятаў думкамі ў мінулае: так з’явіліся «Начныя ўспаміны». Менавіта ўспаміны. А ацэнкі, глыбокі аналіз творчасці з’яўляюцца зрэдку, спарадычна. Скажам, у артыкуле «Сюжэты», дзе апавядае пра свае творы, заўважае (адносна рамана «Зеніт»): «Я, аўтар, задаволены гэтым раманам. Але прайшоў ён амаль незаўважаны крытыкай, якая ў той час развальвала савецкую ўладу. Вінавацілі савецкую літаратуру ў кан’юнктуры, а самі выступалі яўнымі кан’юнктуршчыкамі, класікам рабілі эмігранта Сяднёва, пісьменніка вельмі слабага, у нас у СП ніводнага такога не было з самых слабых, нашы не адрываліся ад зямлі, кожны твор меў карэнні, жывыя». Сапраўды, хто сёння чытае Сяднёва, як бы яго ні цягнулі ў праграмы для ВНУ?

З крытыкай, на жаль, заўсёды такое было. Адносна рамана «У добры час» (гэта яшчэ 1950-я гады): спачатку абвінавачвалі «аўтара ў ачарненні калгаснай вёскі. А праз год-два ва ўсесаюзнай літаратуры пачалася кампанія супраць бесканфліктнасці твораў на мірную тэму. «У добры час» занеслі ў шэраг твораў бесканфліктных. Вось такія былі павароты!»

Фактычна толькі ў гэтым вялікім артыкуле Шамякін досыць падрабязна гаворыць пра свае кнігі, дае ім ацэнку. Шмат якія заўвагі аўтара надзвычай каштоўныя для вывучэння некаторых літаратуразнаўчых дысцыплін, гісторыі літаратуры ў кантэксце эпохі. Напрыклад: «З такіх дэталей, вялікіх і малых, будаваў даволі складаную канструкцыю. Але раманісты ведаюць, што, акрамя сюжэта, патрэб-

на колькі іншых аперацый, як кажуць будаўнікі, аздабляючых. Праўда жыцця, праўда характараў, не апісальная, у развіцці сюжэта адпаведная кампазіцыя — галоўны клопат аўтара. Дзень і ноч (пісаў у начны час) жыў з героямі. Цяпер, у старасці, дзіўлюся: калі паспяваў пры маёй працы ў СП, у Вярхоўным Савеце, у розных рэдкалегіях, камісіях, маючы чацвярых дзяцей, памагаючы жонцы гадаваць іх, выхоўваць. І добрую кампанію любіў, без сяброў жыць не мог. Пісаў апавяданні, партрэты. З іх не ўсе, як кажуць, «вытрымалі выпрабаванне часам». Мне гэты тэрмін не падабаецца — «выпрабаванне часам». Праўдзівы твор, сапраўды мастацкі, як бы ні ўзнік яго сюжэт, мае трываласць добрага архітэктурнага збудавання. Нехта даўно сказаў: колькасць сюжэтаў у сусветнай літаратуры абмежаваная, нават называлася лічба. Думаю, гэта не так. Стабільныя пачуцці людзей — любоў да дзяцей, каханне, нянавісць, страх, але мяняецца жыццё, яго сацыяльныя ўклады, ідзе навуковы, тэхнічны, мастацкі прагрэс. Летапіс свайго часу, літаратура адлюстроўвае гэтыя змены, звязвае апісанне машын, тэлебачання, інтэрнэту з апісаннем пачуццяў герояў, не толькі тых, што з'яўляюцца ў сацыяльнай сферы, але найперш тых, што вечна жылі, жывуць, будуць жыць у чалавечых душах. Колькі напісана пра каханне з часу з'яўлення пісьменнасці? Тысячы тысяч — паэм, песень, аповесцей, раманаў, драм... Падобныя творы гэтыя адзін на адзін? Прымітыўныя, падражальныя, спісаныя з чужога, можа, і маюць падабенства. Але тыя, што не тлеюць ад часу, ніколькі непадобныя, таму імя ім дадзена — арыгінальныя. Возьмем бліжэйшыя да нашага часу — Шэкспір, Гётэ, Байран, Пушкін, Тургенеў, Талстой, Чэхаў, Гюго, Бальзак, Шолахаў, Купала, Багдановіч... Не называю сучаснікаў. Але тыя, каго назваў, — як яны адрозніваюцца адзін ад аднаго. Не толькі творчай арыгінальнасцю — паказам тых жа найглыбейшых і найгарачэйшых душэўных пачуццяў чалавека — кахання, любові, нянавісці. Але каб паказаць іх адметнасць і адрознасць ад ужо напісанага, трэба ўсё пабачыць і перажыць. Сюжэт часам нараджаецца з простага жыццёвага факта, але каб ён стаў фактам літаратуры, патрэбны жыццёвы вопыт аўтара, яго веды, розум і яго ўласныя перажыванні, блізкія да тых, якія мусяць, па волі аўтара, перажыць яго героі».

Так думаў вопытны пісьменнік пра літаратуру.

Кніга ўспамінаў Шамякіна здзіўляе багаццем матэрыялу. Біяграфічныя звесткі пра сябе і пра сваіх калег, ацэнкі іх твораў, апісанні падарожжаў, сотні раскіданых па тэксце падрабязнасцей побыту — даўняга, даўно забытага, якога моладзь нават не ўяўляе. Ёсць артыкулы, прысвечаныя асобным пісьменнікам, напрыклад, Піліпу Пестраку, Анатолю Грачанікаву, Алесю Алешку, Уладзіміру Карпаву, а ёсць згадванні пра іх жа ў іншым кантэксце. Скажам, у навеле «Вясёлае сяброўства» пра Уладзіміра Карпава: «Здаралася, на падпітку пускаў у ход свае пудовыя кулакі, помніцца яго бойка з Няфёдам, яе пасля называлі «бой зуброў». Або апісанне розыгрышаў Андрэя Макаёнка. Аднаму з іх — «Навагодні жарт» — нават прысвечана асобная навела. А ў «Аповесці пра сябра» Шамякін падрабязна апісвае яшчэ адзін монаспектакль: «... сапраўднай класікай, пра што і цяпер успамінаюць усе старэйшыя нашы калегі, быў Макаёнкаў розыгрыш у адзін дзень добрага дзесятка беларускіх пісьменнікаў. Было гэта ў пачатку 50-х гадоў. Міхась Лынькоў прывёз з Нью-Ёрка, дзе ў каторы раз быў на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, маску — чорныя вусы, чырвоны нос, акуляры. Даволі грубая рэч. Але чалавека маска пераўтварала да непазнавальнасці. Андрэй, знаўца тэатральнага грыму, законаў не толькі духоўнага, але і фізічнага пераўвасаблення, адразу сцяміў, што гэта тое, што трэба. Папрасіў у Міхася Ціханавіча маску. На другі дзень надзеў маю старую шапку — стаўбун з чорнага каракулю, і мы пайшлі ў рэдакцыі часопісаў «Полымя» і «Беларусь». Нумар не ўдаўся з Ільёй Гурскім і Янкам Брылём. Але яны пачалі актыўна памагаць нам: прадстаўлялі сваім калегам рэдактара грузінскага часопіса. Акцэнт у выдатнага акцёра быў абсалютна натуральны. У мяне пасля балелі мышцы жывата — ад натугі: каб не зарагатаць ад таго, як траплялі на вудачку паважаныя, сталыя людзі».

Пра гэты розыгрыш, сапраўды, пасля доўга ўспаміналі. Нам, студэнтам, Ніл Сямёнавіч Гілевіч распавядаў пра яго на лекцыях. Але я сама памятала Андрэя Ягоравіча ў ягонай масцы — у ёй ён прыйшоў і да нас, прычым мая маці яго адразу пазнала. Заўсёды разыгрывалі пісьменнікі адзін аднаго пад Новы год, абавязкова на 1 красавіка. У нас дома сябры абмяркоўвалі падрабязна кожны розыгрыш, што збіраліся праводзіць, у дэталях. А каму сёння да гэтага? Дзе падзелася натуральная весялосць? Усіх весяляць пошлыя смехачы па тэлевізары. Ужо адно гэта сведчыць, наколькі нецікавае стала жыццё, наколькі яно ў нечым істотным дэградавала — пры ўсіх велізарных тэхнічных дасягненнях.

Успаміны Шамякіна насычаны падрабязнасцямі побыту — ці гэта побыт дыпламатаў у Нью-Ёрку, ці прыёмы, якія наладжвалі беларускай дэлегацыі ў розных краінах, ці эпізоды набыцця аўтамабіляў пісьменнікамі, ці прыватнае падарожжа групы творцаў па Беларусі... Так, Шамякіны, Карпавы і Хадкевічы былі ў Брэсцкай крэпасці, калі там яшчэ мемарыяльнага комплексу не існавала. Іх уразіла запусценне ў праслаўленай цытадэлі, і, вярнуўшыся, яны напісалі ліст у ЦК. Але галоўнае — успамін пра падарожжа, якое і я добра памятаю, — яшчэ адна падстава ўспомніць сяброў, сказаць пра іх сваё цёплае душэўнае слова. Напрыклад, пра Тараса Хадкевіча: «... ён перажыў пекла нямецкага палону, але ўсе нягоды не зменшылі яго прыроднай дабрыні. Быў ён надзвычай спагадлівы, чалавекалюбівы, разважлівы, па-сялянску мудры». Або пра Аляксея Карпюка, яго барацьбу супраць п’янства — ён кляйміў выпівох на кожным сходзе: «Зала пляскала і... рагатала. — Аляксей! Назаві — хто не п’е! — Крапіва. — Адзін? Ці не мала на дзвесце чалавек? — Але на іншым сходзе і Крапіву крытыкаваў — за тое, што маўчыць, калі трэба аўтарытэтнае слова».

Карпюк успомніўся ў сувязі з падарожжам у Гродна. Шамякін вызначыў прыярытэты ў сваіх мемуарах: «Апынуўшыся ў слаўнай Гародні, што я мог апісваць? Каложскую царкву? Абкам? Не! Я ўспомніў жывога чалавека — майго калегу, амаль легендарнага ў сваёй барацьбе за праўду». І так увесь час — чалавек на першым месцы, а затым ужо мясціны, падзеі. Але, бясспрэчна, цікавіў кожны раз Шамякіна чалавек неардынарны, глыбокі, таленавіты. Шмат такіх сустрэлася на яго жыццёвым шляху. Ён шкадаваў у канцы гэтага шляху, што не пра ўсіх паспеў напісаць.

Але і побыт пісьменнікаў — не раз пад увагай аўтара. Так, у «Аповесці пра сябра» атмасфера часу перададзена праз яскравыя, характэрныя дэталі, якія дапамагаюць зразумець і стыль жыцця далёкай эпохі, і выгляд пасляваеннага Мінска. Напрыклад: «Тады Дом друку быў акружаны добрым дзесяткам фанерных будак, дзе можна было выпіць у разліў і для часу, калі існавала картачная сістэма, нядрэнна закусіць, без картачак, але, як тады называлі, па камерчаскай цане». Або: «Жонкі нашы ў той час ставіліся са здзіўляючай абыякавасцю да адзення.., да ўсіх іншых рэчаў побыту, без якіх сучасныя гараджане не ўяўляюць жыцця. Да аднаго мы не былі абыякавыя — да добрага харчу, асабліва нашы жонкі. Ніна Кулакоўская ў вайну ў эвакуацыі з малым сынам на руках жыла на паёк сельскай настаўніцы. Таму ўсе мы як бы ўзнагароджвалі сябе і дзяцей за ўсе перажытыя ваенныя і пасляваенныя нястачы».

Неабыякавасць да харчу — даравальная, калі яна не ў цэнтры ўсяго існага, яна ў пісьменнікаў была ўсяго толькі часткаю іх любові да жыцця, радаснага яго прыняцця. У адным з артыкулаў Шамякін жадае дзецям такога ж вясёлага жыцця (вясёлага ў разуменні Шамякіна, значыць, насычанага, багатага на падзеі і роздумы), якое дасталося яго пакаленню: «Нам пашанцавала — мы мелі ладны кавалак вясёлага жыцця. Дзякуй Лёсу і Богу». І гэта не проста настальгія па маладосці, а мудрая ацэнка пражытага і перажытага.

**Вячаслаў РАГОЙША**

# І ПАЭТ — ТАКСАМА!

Сёлета споўнілася 145 год з дня нараджэння Антона Іванавіча Лявіцкага (4 студзеня 1869 г. — 24 лютага 1922 г.), аднаго з першых дбайных працаўнікоў на ніве беларускага нацыянальнага адраджэння, пісьменніка, вядомага пад нязвыклым псеўданімам Ядвігін Ш. На жаль, наш перыядычны друк асабліва не спрамогся згадаць яго «добрым, ціхім словам». А шкада! Як слушна сцвярджаў яшчэ В. Бялінскі, да пісьменнікаў, якія знаходзяцца на пачатку зараджэння нацыянальнай літаратуры трэба адносіцца па-асабліваму, «бо, вялікія або малыя, яны ў абодвух выпадках асобы гістарычныя». Тым з большай удзячнасцю трэба паставіцца да маладзечанскага краязнаўцы і краялюба Міхася Казлоўскага, які з належнай дапамогай Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча і пры разумным спрыянні мясцовых улад наладзіў чарговую (ужо, здаецца, восьмую) навукова-краязнаўчую канферэнцыю, на гэты раз прысвечаную колішняму жыхару Маладзечаншчыны Ядвігіну Ш., — «Асветнік з Карпілаўкі». Бібліятэка ж (дзякуй ёй!) змагла выдаць хоць і невялічкім накладам (20 асобнікаў) матэрыялы гэтай канферэнцыі [6].

Канферэнцыя, якую палымянымі празаічнымі і паэтычнымі выказваннямі прывіталі Міхась Казлоўскі і Віктар Шніп («Балада Ядвігіна Ш.»), узбагаціла «ядвігінашазнаўства» новымі цікавымі фактамі і асобнымі думкамі. Яны прагучалі ў выступленнях дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганны Запартыкі («Ядвігін Ш. ва ўспамінах Паўліны Мядзёлкі»), кандыдата філалагічных навук, дацэнта БДУ Таццяны Кабржыцкай («Украінскі кампанент іншанацыянальнай рэцэпцыі творчасці Ядвігіна Ш.»), пісьменніка і кінарэжысёра Уладзіміра Мароза («Ядвігін Ш. Слых вандроўніка»), галоўнага бібліёграфа Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людмілы Сільновай («Прыжыццёвыя выданні Ядвігіна Ш. з аўтографамі»), кандыдата гістарычных навук, загадчыка аддзела Інстытута гісторыі НАН Беларусі Андрэя Унучка («Ядвігін Ш. і «Наша Ніва»), рэдактара аддзела крытыкі часопіса «Маладосць» Ціхана Чарнякевіча («Сляды зніклага архіва Максіма Багдановіча»). З цікавасцю былі выслуханы паведамленні загадчыцы аддзела Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Марыі Бартковай («Сусед з Карпілаўкі»), маладзечанскіх краязнаўцаў Валеры Дурэня («Знаёмы незнаёмец, або Парадоксы беларускага падарожніка») і Тамары Бярэзінай («Адзін з пачынальнікаў беларускай мастацкай прозы»)…

Што да мяне, то і на канферэнцыі, і тут, на старонках паважанага мной «Полымя», перад шырокім ужо чытачом, мне захацелася паразважаць пра яшчэ адну іпастась Ядвігіна Ш. — пра яго як пра паэта. Пісьменніка слушна называюць апавядальнікам і навелістам (аўтар двух зборнікаў алегарычных і сатырыка-гумарыстычных апавяданняў — «Бярозка», 1912 і «Васількі», 1914), фельетаністам і памфлетыстам, раманістам (аўтар незакончанага рамана «Золата»), публіцыстам (працаваў і друкаваўся ў «Нашай Ніве» і іншых газетах), эсэістам, нарысістам (напісаў цікавы падарожны нарыс «Лісты з дарогі»), драматургам (драма «Злодзей», ставілася ў пачатку 1890-х гг. у Радашковічах), мемуарыстам (кніга «Успаміны», 1921), перакладчыкам (пераклаў і выдаў апавяданне У. Гаршына «Сігнал», 1891)… І амаль ніколі — паэтам.

Мяркуйце самі.

Ні ў адной сучаснай анталогіі беларускай паэзіі вершаваных твораў Ядвігіна Ш. мы не сустрэнем. Нават у самым сур'ёзным гісторыка-літаратурным выданні пра *паэта* Ядвігіна Ш. зусім не гаворыцца. Я маю на ўвазе грунтоўнейшае даследаванне — акадэмічную 4-томную (у 5-ці кнігах) «Гісторыю беларускай літаратуры ХХ стагоддзя», яе першы том [5]. Так, у яе аглядным раздзеле «Паэзія», напісаным Л. І. Гаранiным [5, с. 12—31], нават сярод «невядомых ці малавядомых аўтараў» пачатку ХХ ст., якія «хаваюць свае сапраўдныя прозвішчы або падпісваюцца псеўданімамі» (а тут пералічаны ажно 16 такіх аўтараў: Мікіта Чышчавік, Баўтрук, Юзя Шчупак, Каршун, Паўлюк Жыбуля, Дзядзька Пранук і інш.) [5, с.14], прозвішча Антона Лявіцкага або яго такі адметны псеўданім ні разу не ўпамінаецца. Больш таго, у асобным манаграфічным раздзеле гэтай жа гісторыі літаратуры, спецыяльна прысвечаным Ядвігіну Ш., які напісаў другі дасведчаны літаратуразнавец, Л. Голубева [5, с. 86—102], таксама пра яго вершаваную творчасць і слова няма. Не атрымліваюць інфармацыі пра Ядвігіна Ш.-паэта і школьнікі, пра што сведчыць раздзел «Ядвігін Ш.» вучэбнага дапаможніка «Беларуская літаратура» для 9 класа [2, с. 189—195]. Раздзел гэты належыць пяру таксама вопытнага даследчыка В. Праскаловіч. Тут жа трэба і мне самому пасыпаць галаву попелам: я ж быў навуковым рэдактарам гэтага выдання…

Няўжо ўсе названыя гісторыкі літаратуры не ведаюць пра даволі вялікі па памеры вершаваны твор Ядвігіна Ш. «Дзед Завала», які не толькі друкаваўся ў «Нашай Ніве» (26 сакавіка 1909 г.), але і выйшаў у 1910 г. асобнай кніжкай, што ў той час было з'явай знакавай [9]? Відавочна, гэтае дапушчэнне не мае рацыі. Значыць, Ядвігін Ш. — не паэт? Паспрабуем разабрацца ў гэтым.

У свой час названы твор пісьменніка быў адразу заўважаны і пэўным чынам ацэнены. У прыватнасці, Сяргей Палуян у аглядным артыкуле «Беларуская літаратура ў 1909 гаду», надрукаваным на пачатку 1910 г. у «Нашай Ніве», з радасцю гаварыў пра Ядвігіна Ш., які «ізноў пачаў друкавацца і заняў першае месца як па числу, так і па прадукцыі і па здольнасці сярод беларускіх белетрыстаў». Пры гэтым ён называе «яшчэ і паэмку «Дзед Завала», надта паэтычную, каторая цяпер ужо выдана асобнай кніжкай» [7, с. 106]. Дарэчы, пра гэту «паэмку», якая «пакідае прыемнае, злёгку сумнае ўражанне», ужо ў яе кніжным выданні, крытык напісаў і ва ўкраінскім часопісе «Українська хата», № 2 [7, с. 109—110]. З іншага боку, Максім Багдановіч, высока цэнячы «бойкія казкі-апавяданні Ядвігіна Ш.» [1, с. 192], называючы пісьменніка адным «з найлепшых баечнікаў нашых часоў, да таго ж вельмі блізка стаўшага да творчасці самаго народа» [1, с. 227], у аглядным артыкуле (на рускай мове) «Новый период в истории русской литературы», што датуецца 1912 годам, канстатуе: «В 1909 г. издана его небольшая поэмка «Дзед Завала», впрочем ничем не примечательная» [1, с. 216]. Праўда, ацэнку гэту, для аўтара «паэмкі», відавочна, не вельмі прыемную, той так і не ўведаў: артыкул упершыню быў надрукаваны — з чарнавога аўтографа — толькі ў 1928 г., калі ўжо не было ні М. Багдановіча, ні самога Ядвігіна Ш…

У адрозненне ад аўтараў «Гісторыі беларускай літаратуры ХХ стагоддзя» і вучэбнага дапаможніка для 9 класа «Беларуская літаратура», Максім Гарэцкі, стваральнік першай славутай «Гісторыі беларускае літаратуры» (Вільня, 1920), кніжкі, якая вытрымала затым пяць выданняў і перадрукавана ўжо ў наш час у серыі «Спадчына», згадвае і паэтычны даробак Ядвігіна Ш. Вось гэта згадка: «Вершаванае апавяданне Ядвігіна Ш. «Дзед Завала» сведчыць аб малай версіфікатарскай спрактыкаванасці аўтара, але вызначаецца мастацкімі апісаннямі, у якіх чуюцца прыемныя напевы старой паэтычнай пушчы. Пушча і яе свой чалавек — дзед Завала — стаяць як жывыя ўваччу і вабяць сваім хараствам; жывуць лесавыя птушкі, звяры, шуміць бор, плюскоча рыба ў рэчцы, а часам «нібы нехта шэпча, нібы хтось смяецца, нібы сціха плача — так усё здаецца…» То гэтая пушча прыціхне, «як макам сеяў», то яна «йграе, пяе, шуміць і гамоніць…» [3, с. 288]. Магчыма, якраз гэта заўвага класіка нашай літаратуры і літаратуразнаўства аб «малай версіфікатарскай спрактыкаванасці аўтара» і прывяла да недаацэнкі Ядвігіна Ш. як паэта. Аднак, у цэлым згаджаючыся з гэтым выказваннем М. Гарэцкага, варта яго, разам з тым, і ўдакладніць. Калі ў выніку паэтычна ўвасобленага аповеду

галоўны герой твора дзед Завала і сама пушча «стаяць як жывыя ўваччу і вабяць сваім хараством», то, відавочна, не «аб малай версіфікатарскай спрактыкаванасці аўтара» гэта сведчыць. Бо, інакш, тады трэба казаць пра разыходжанне паміж зместам і формай твора. Пры кепскай паэтычнай форме, што выяўляецца, несумненна, і ў версіфікатарскіх здольнасцях аўтара, нельга дасягнуць такой жывасці, выяўленчай выразнасці і адметнасці мастацкага малюнка, пра што выразна гаворыць М. Гарэцкі і сведчаць прыведзеныя ім прыклады.

Аналіз вершаванага апавядання «Дзед Завала» (і тут М. Гарэцкі, несумненна, мае рацыю: гэта не *паэма*, а менавіта *вершаванае апавяданне*) паказвае, што Ядвігін Ш. валодаў належнымі версіфікатарскімі здольнасцямі. Ва ўсіх ледзь не чатырохстах радках твора строга вытрымліваецца вершаваны памер — трохстопны харэй (часам з рытмічнай пераакцэнтуацыяй), што надае паэтычнаму выкладу жывасць і апавядальную нязмушанасць. Вось пачатак аповеду — апісанне інтэр'ера і экстэр'ера, што акаляюць дзеда Завалу і адначасова выяўляюць яго характар:

Жоўтага пясочку —
Ды і таго мала —
Меў наш дзед па бацьку;
Зваўся ён Завала.
Ліхая хацінка
Саломаю крыта,
Ліхая адрынка
Ды адно карыта;
З крадзенага лесу
Лава, стол у хаце,
Міска і дзве лыжкі —
Вось і ўсё багацце!
Праўда, у аборы,
Як каза, кароўка
З голаду рыкала.
Звалася Чарноўка.
Сваёй гаспадаркі
Не любіў Завала,
Так і з ёй карысці
Меў саўсім ён мала [10, с. 191—192).

Як бачым з гэтага ўрыўка, напісанага не падзеленымі прабеламі чатырохрадкоўямі, з рыфмоўкаю цотных радкоў, Ядвігін Ш. не робіць ўражання версіфікатарскага няўмельства. Наадварот, у параўнанні з большасцю «невядомых ці малавядомых аўтараў», што друкаваліся ў «Нашай Ніве», «Дзед Завала» яўна выйграе лёгкасцю і некаструбаватасцю вершаванага радка, добрымі (хоць часам і аднатыпнымі) рыфмамі, натуральнасцю паэтычнай фонікі і сінтаксісу. Калі ўжо і рабіць заўвагі аўтару твора, то з-за празмернай апісальнасці, адсутнасці ў творы хоць бы невялікай інтрыгі, значнага дзеяння, нейкай нечакана «абарванай» яго канцоўкі. Але гэта непасрэдна да вершавання (версіфікацыі) ужо не адносіцца…

Скажу больш: падчас у «паэмцы» вершаваны аповед уздымаецца — нават пры звычайным апісанні — да вышынь сапраўднай паэзіі. У прыватнасці, гэта можна ўбачыць пры абмалёўцы вобраза Завалы, заядлага паляўнічага і аматара прыроды, але кепскага гаспадара, а таксама пры стварэнні адмысловых пейзажных выяў — малюнкаў беларускай пушчы. Адзін з іх — апісанне ранішняга абуджэння лесу — хоць сёння можна, пры належным мастацкім афармленні, выдаваць асобнай кніжкаю для дзяцей. Апісанне гэта поўнае руху. Тут і шчупак, які «калі плёхне // У віры пры рэчцы», і глушэц, што «на сасне-старушцы… заіграўся», і «дрозд-спявака», які песню глушца «прыняў за знявагу».

Цецярук хоць сватам
Глушцовым лічыўся,
Але з стыду, злосці
І ён расхадзіўся:
Шыкнуў ды стаў лаяць
Як мага ён свата, —
Не меў ён ляпшога

Да лаянкі хвата.
Гаспадар у лесе —
Дзяцел наш насаты —
Не любіў, каб сварка
Выходзіла з хаты.
Як абухам, грукнуў
У сухую елку… [10, с. 195—196].

Адным словам, на досвітку, прачнуўшыся, «як бы на каманду, // Пушча заіграла: // Песні, шум і гоман…» Такі малюнак можа стварыць толькі сапраўдны паэт. Паводле таго ж М. Багдановіча, і ў прозе (найперш у байках) Ядвігін Ш. нярэдка выяўляе сябе як паэт, «дарма што… піша не вершам, а прозай» [1, с. 226]. Тут жа, у творы «Дзед Завала», ён і «піша вершам»…

Версіфікатарскія і — шырэй — паэтычныя здольнасці Ядвігін Ш. выявіў таксама і ў некаторых іншых творах. Біябліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі» [3, т. 6, с. 468—470) сведчыць пра наступнае. Аўтар «Дзеда Завалы» надрукаваў у свой час яшчэ некалькі вершаў, не ўлічаных нашымі гісторыкамі літаратуры. Сярод іх — невялікае вершаванае віншаванне «Нашай Ніве» ў сувязі з яе трохгоддзем («Наша Ніва», 12 лістапада 1909 г.), вершы «Чаму?» («Беларусь», 17 студзеня 1920 г.) і «Мары ночы» («Савецкая Беларусь», 2 лістапада 1922 г.), лірычны верш «Калі ты прытаміўся душой…» і вершаваная гумарэска (у падзагалоўку яна мае назву «байка») «Бабіны лекі», што ўвайшлі ў зборнік «Беларускі дэкляматар Чырвоны Дудар» (Мінск, 1924). Тры з гэтых вершаў адшукаць удалося, нумароў жа «Беларусі» і «Савецкай Беларусі», дзе надрукаваны «Чаму?» і «Мары ночы», нават у буйнейшых бібліятэках Мінска (Нацыянальнай, Прэзідэнцкай і ЦНБ імя Якуба Коласа) не захавалася. Пакінем іх пошук надалей. Ды нават і тое, што адшукалася, — а з гэтымі творамі можна пазнаёміцца ў канцы артыкула, — неаспрэчна сведчыць: Ядвігін Ш. меў несумненны паэтычны талент, які выявіўся не толькі ў вершаваным апавяданні «Дзед Завала», але і ў лірычных вершах, у вершаванай гумарэсцы…

А яшчэ — у такой новай для беларускай літаратуры пачатку XX ст. паэтычнай форме, як версэт. Форме, якую ў канцы XX—пачатку XXI ст. успрыняў, развіў і ўразнастаіў Алесь Разанаў (побач з іншымі паэтамі). Маю на ўвазе невялікі твор Ядвігіна Ш. «Раны» (1912), прысвечаны дачасна памерламу Сяргею Палуяну.

Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя — гояцца,
і па іх знаку няма. Большыя — гояцца, але па іх астаюцца рубцы.
*Гэтак на целе.*
Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя — гояцца;
па іх астаюцца рубцы. Большыя — заўсёды крывавяцца.
*Гэтак на сэрцы.*
Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя — заўсёды
крывавяцца. Большыя — залечвае толькі… смерць.
*Гэтак на душы* [10, с. 33].

Версэт — гэта не верш у яго звычайным разуменні, а паэтычны твор, напісаны прозай. Праўда, у ім, як і ў версэце «Раны», маецца і тое, што нагадвае верш: своеасаблівая рытмізаванасць, паўтор празаічных абзацаў (накшталт асобных вершаваных строфаў), радкі, якія гучаць рэфрэнам. Разам з тым, версэт далучаецца да паэтычнага выказвання сваёй метафорыкай, павышанай эмацыянальнасцю і экспрэсіўнасцю. Па сутнасці, версэт — твор, паэтычны па змесце і празаічны па форме выяўлення гэтага зместу. Часам яго няправільна называюць «вершам у прозе», хаця яшчэ С. Палуян дакладна яго найменаваў: «паэзія прозай» [гл. пра гэта: 7, 429—431].

Зрэшты, не станем асабліва ўваходзіць у паняційна-тэрміналагічныя нетры. Галоўнае, што і ў творы «Раны», як і ў шэрагу іншых, Ядвігін Ш. выявіў сябе як паэт. Больш таго, яму, побач з Якубам Коласам, Вацлавам Ластоўскім і Змітраком Бядулем, належыць заслуга ўвядзення наватарскай для свайго часу паэтычнай формы ў беларускую мастацкую літаратуру.

А гэта значыць: Ядвігін Ш. — паэт!

Пра што, зрэшты, сведчаць і наступныя вершаваныя творы аднаго з неафітаў беларускай нацыянальнай літаратуры XX стагоддзя.

### «Нашай Ніве»

Віншаваць маю Вас
У трыгодні час,
І ад гаю да гаю
Склічу кліч для Вас:
Клікну ўсіх я дружкоў,
Клікну вецер і гром,
Клікну пушчу пяскоў
І маланку з агнём!!.
Хай паклон Вам дадуць
І за працу — за труд
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Хай паклон Вам дадуць!!! [11].

### Калі ты прытаміўся душой…

Калі ты прытаміўся душой
Ў бойцы з голадам, холадам лютым,
І душы тваёй трэба пакой,
А канца ты не бачыш пакутам, —
Выйдзі ў вёску, кругом паглядзі,
Як хвалюе зялёнае жыта,
Як ў сялянскай працоўнай грудзі
Сьпіць трывога, надзеяй павіта.
Паглядзі, як глядзіць ён на неба парой,
Як ён жджэ, просіць хмары у неба,
І як вока яго набягае сьлязой,
Калі ўпору напоена глеба.
Знае ён, што ад працы сваёй,
Калі ўсё узрасьце, што ён сеяў,
Ён накорміць мільёны людзей —
Дабрадзеяў сваіх і зладзеяў.
Але толькі б расло, не шкадуе ён рук
І надзею у сэрцы гадуе,
Што ён працай сваёй, хоць сагнуўся у крук,
Цэлы сьвет ад бяды адратуе.
Паглядзі ж ты тады на яго,
На надзеі яго і трывогі —
І адляжа трывога ад сэрца твайго,
Пойдзеш зноў весялей ўздоўж дарогі [12].

### Бабіны лекі

***(Байка)***

У вёсцы раз,
Якіх нямала ёсць у нас,
Такі выпадак прылучыўся —
Знаць, Бог на быдла прагнявіўся,
Бо корму стала не хапаць.
А ведама, каровы,
Пакуль сыты-здаровы, —
І згодны малако даваць.
Але тады быў год гарачы.
Траву ўсю з’еўшы без астачы,
Каровы сталі галадаць.
Дык раз сабраўшыся, каровы
Прыйшлі да гэтакай умовы:
Трэ кінуць малако даваць,
Пакуль на іх увагу звернуць
І, што належыць ім, не вернуць
І лепш не стануць даглядаць.
Дык вось, Парасчына Красуля,
А з ёю Гнедая й Рагуля,
Як у Піліпаўку глядзяць —
Не хочуць малака даваць.
Ну хто ж тут, — ведзьма вінавата,
Нявестка сівая Панкрата:
Яна кароў умее ссаць.
Дык трэба лекаў пашукаць,
Каб малако адваяваць.
Ня можа баба легчы спаць:
Дзе ж ёй варожкі пашукаць?
Але няйначай Бог памог:
Нараіў ёй сусед Цімох,
Што ў пушчы панская старожка,
Кругом вядомая варожка
І можа вока адмаўляць,
І, дзе схавана, адгадаць,
Дык к ёй і трэба паспяшаць.
Дабра набраўшы цэлы клунак
Варожцы з пушчы ў падарунак,
Параска прэцца лек шукаць.
Прыйшла — дабрыдзень, як вядзецца;
Сказала, як сама завецца
І к ёй сюды чаго зайшла.
Разгаманіліць. Просіць рады,
Бо малако аднялі «гады»,
Дык добра, што яе знайшла.
Старожка — добрая кабета.
Кароў лячыць — не перша лета,
Парасцы раіць ўсё якраз.
Яна ужо на вугаль шэпча,
Бо з вуглем ліха ўсё мінецца
І стане ўсё у добры час.
Пры гэтым стала дадаваць,
Як трэба лекі ужываць,
Бо ўжо папорчаны каровы.
І каб былі ізноў здаровы,
Ім трэба вугаль той даваць
І, ў хлеў запёршы, іх трымаць.
Прыйшла дамоў Параска. Рада.
Знайшлася ў лесе ёй парада
Яшчэ два тыдні пачакаць,
Каб малако зноў спажываць.
Стаяць каровы дзьве нядзелі,
Глядзяць, як і раней глядзелі,
А малака ня хочуць даць.
Але пажалі жыта ў полі,
І пашы значна стала болей.
Каровы сталі аджываць
І малако ўжо больш даваць.
Пайшлі ў карысць каровам лекі.
Бяжыць Параска ля нядзелькі,
Каб больш знахарку ўшанаваць
І ёй ў падзяку масла даць.
А і дагэтуль ўсё не знае,
Што малако карова мае,
Калі ёй корм як сьлед даваць!.. [12].

## Літаратура:


1. Багдановіч, М. Поўны збор твораў: у 3 т. / М. Багдановіч. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — Т. 2.

2. Беларуская літаратура: вучэб. дапам. для 9 кл. устаноў агул. і сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / В. П. Рагойша [і інш.]; пад рэд. В. П. Рагойшы. — Мінск: Нац. ін-т адукацыі, 2011.

3. Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік. У 6 т. / Ін-т літ. імя Я. Купалы АН Беларусі; Беларус. Энцыкл.; Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны. Пад рэд. А. В. Мальдзіса. — Мінск: БелЭн, 1995. — Т. 6.

4. Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры / Максім Гарэцкі; уклад. і падрыхт. тэкстаў Т. С. Голуб. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1992.

4. Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т., 5 кн. (1901—1920) / Нац. акад. навук Беларусі; Ін-т літ. імя Я. Купалы. — Мінск: Беларуская навука, 1999. — Т.1.

5. Матэрыялы навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Асветнік з Карпілаўкі»: да 145-годдзя з дня нараджэння Ядвігіна Ш. (А. І. Лявіцкага), аднаго з пачынальнікаў беларускай мастацкай прозы; 22 красавіка 2014 г. / Маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка імя М. Багдановіча; падрыхт. тэкстаў і ўклад. М. Казлоўскага. — Маладзечна, 2014.

6. Палуян, С. Лісты ў будучыню: Проза. Публіцыстыка. Крытыка / С. Палуян; уклад., падрыхт. тэкстаў, прадм. і камент. Т. Кабржыцкай, В. Рагойшы. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1986.

7. Рагойша, В. Паэтычны слоўнік / В. Рагойша. — 3-е выд., дапрац. і дапоўн. — Мінск: Беларуская навука, 2004.

8. Ядвігін Ш. Дзед Завала. — Вільня: Наша хата, 1910.

9. Ядвігін Ш. Выбраныя творы / уклад., прадм. і камент. І. П. Чыгрына. — Мінск: Маст. літ., 1976.

10. Ядвігін Ш. «Нашай Ніве» // Наша Ніва. — 1909. — 12 ліст.

11. Ядвігін Ш. Калі ты прытаміўся душой… // Беларускі дэкляматар Чырвоны Дудар / злажылі Янка Купала, Цішка Гартны і Алесь Ляжневіч. — Менск: Беларускае кааперацыйна-выдавецкае таварыства «Савецкая Беларусь», 1924. — С. 63—64.

12. Ядвігін Ш. Бабіны лекі (Байка) // Тамсама. — С. 293—294.

Васіль ШЫРКО

# У РОДНЫМ КРАІ, ЯК У РАІ

***И лишь любовь к родному краю***
***Меня томила, мучила и жгла.***
Сяргей ЯСЕНІН

Не шмат кніг, якія хочацца перачытваць зноў і зноў. Такія кнігі — залаты фонд любой краіны, а золата, як і здароўя, многа не бывае. Міжволі згадаеш нашага слыннага земляка, геніяльнага паэта Адама Міцкевіча, перад талентам якога схілялі галовы класікі Францыі, Англіі, Германіі, Расіі, у тым ліку Жукоўскі і Пушкін. Памятаеце: «Літва! Айчына мая! Ты, як здароўе тое: не цэнім, а страцім — залатое».

Цяжка ўгадаць, «як наша слова адзавецца». І ўсё ж з вялікай доляй верагоднасці можна прадказаць: і праз сто год, і праз дзвесце продкі сённяшніх беларусаў абавязкова будуць чытаць і перачытваць кнігі аб мінуўшчыне роднага краю, яго слынных творцах, іх спагадным і неспагадным лёсе, як я з хваляваннем, слязамі на вачах перачытваю мемуарны сшытак «За калючым дротам» сціплага, шчырага паэта Паўла Пруднікава, які адпакутаваў дзесяць год у сталінскіх засценках. І паўстаюць, быццам наяву, вобразы Цішкі Гартнага, Андрэя Александровіча, Алеся Дудара, Міхася Чарота…

Я рэдка бяруся за пяро, каб падзяліцца ўражаннем, якое пакінула ў душы тая ці іншая кніга, і не таму, што не хачу адбіраць хлеб у такіх слынных крытыкаў, як Алесь Марціновіч, баюся кагосьці перахваліць, недахваліць, у рэшце рэшт, пакрыўдзіць. Мусіць, спрацоўвае сіндром майго вялікага земляка Кандрата Крапівы, які, па вобразным выказванні Андрэя Макаёнка, «мог у байках і Эзопа патрымаць за бараду». У свой час я меў неасцярожнасць запытаць у Кандрата Кандратавіча, каго з беларускіх пісьменнікаў ён бы вылучыў. Дзевяностагадовы аксакал роднай літаратуры з вымушанай, самотна-дакорлівай усмешкай зірнуў на мяне, як на немаўля, і, расцягваючы словы, неахвотна, быццам язык прыліп да паднябення, ціха прамовіў: «Назаву аднаго-о — пакрыўдзіцца другі-і, назаву другога — пакрыўдзіцца трэ-эці…» Тым не менш, я без усякай боязі, няхай і пакрыўдзіцца хтосьці, лічу, што найбольш плённа, мэтанакіравана на ніве краязнаўства (радзімазнаўства) шчыруе ў апошнія гады Алесь Карлюкевіч, выдатны літаратар-эсэіст. І гэта ўжо другая мая спроба звярнуцца да творчасці аўтара, кожны радок якога прасякнуты любоўю да роднага краю. У нас не так ужо мала літаратараў, якія, у добрым сэнсе гэтага слова, «здраджваюць» паэзіі, прозе, крытыцы і час ад часу звяртаюцца да радзімазнаўства, як мой даўні сябра, дзіцячы пісьменнік Расціслаў Бензярук з Жабінкі, але гэта хутчэй кавалерыйскія наскокі. Шах-мах шашкай — і бывайце здаровы. Сапраўдных краязнаўцаў, такіх, як Адам Мальдзіс, Алесь Карлюкевіч, Аляксей Пяткевіч, Сяргей Чыгрын, можна пералічыць на пальцах адной рукі.

У сваім невялікім артыкуле «Генерал ад краязнаўства» я пісаў калісьці, што ці не кожная краязнаўчая кніга Карлюкевіча — падзея на літаратурным небасхіле маёй Беларусі. Здавалася б, Алесь чысцейшай вады прагматык. Карэспандэнт ваенных газет. Служыў не толькі ў Беларусі, але і ў Туркменістане, на Кубе. Пад-

палкоўнік у адстаўцы. Цяпер дырэктар-галоўны рэдактар РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», старшыня Мінскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Які ўжо там рамантызм? Як мовіў не без іроніі незабыўны Уладзімір Караткевіч: «Праведны чалавек — праведныя пасады». Але «праведны чалавек» усімі фарбамі вясёлкі малюе светлыя вобразы пісьменнікаў, мастакоў, музыкаў, падарожнікаў. І тых, якія павянчаліся з небам, загадалі нам доўга жыць, і нашых сучаснікаў. Нават назвы яго нарысаў, эсэ, замалёвак гавораць самі за сябе: «Чырвоны гармонік», «Любімы мастак Сталіна», «Унучка славутага падарожніка», «Генсек з ружжом». Міжволі хочацца даведацца і пра мастака, і пра ўнучку, і пра чырвоны гармонік, і пра незвычайнае захапленне генеральнага сакратара КПСС. А «пан-дзівак» Аляксандр Карлавіч Ельскі, стварыўшы ў маёнтку Замосце найбагацейшы на тэрыторыі Беларусі музей? Чытаеш і дзіву даешся, што ў хатняй скарбніцы гэтага няўрымслівага шляхціца былі бясцэнныя карціны, археалагічныя знаходкі, рэдкая нават па еўрапейскіх мерках бібліятэка, невядома якім чынам дабытыя аўтографы Пятра I і Напалеона. Ужо ў той час за такія ўнікальныя скарбы небагаты пан Ельскі мог бы атрымаць вялікія грошы, апранацца, як магнат, есці марцыпаны і салаўіныя язычкі, а не звычайныя сялянскія стравы. А Чалавек жыў сціпла, багацце, якому не было цаны, збіраў для нашчадкаў. Вось яскравы прыклад бескарыснага служэння народу, сваім нашчадкам.

Не без хвалявання чытаеш гутарку Карлюкевіча з такой літаратурнай глыбай, як Чынгіс Айтматаў. Алесю ўдалося сустрэцца з аўтарам сусветна вядомага рамана «Буранны паўстанак» за некалькі месяцаў да смерці вялікага кіргізскага празаіка, чыё слова «манкурт» стала хадзячай назвай людзей, якія выракліся свайго роду-племені, гатовыя за гаспадароў-нягоднікаў прадаць родную маці. Мы ўпершыню даведваемся, што Чынгіс Айтматаў называў Васіля Быкава сваім аднакашнікам, цёпла адносіўся да Алеся Адамовіча.

Гэткімі ж цікавымі, перасыпанымі малавядомымі фактамі з жыцця сваіх герояў, атрымаліся гутаркі Алеся Карлюкевіча з Алексіем II, старшынёй СПБ Мікалаем Чаргінцом. І гэта, дарагі чытач, толькі маленькая часцінка ад пошукаў і знаходак аўтара. У Карлюкевіча своеасаблівы, рэдкі талент разварушыць чалавека, прымусіць (прабачце за недакладнае слова) згадаць даўно забытае.

Кніга «Мы — разам!», у якой былі сабраны пад адной вокладкай гутаркі, нарысы, эсэ, стала сапраўдным падарункам аматарам культуры і гісторыі Беларусі. Я перачытваю яе, і разам з аўтарам іду па вуліцы Канстанціна Сіманава ў Крычаве, згадваю беларускую зіму Паустоўскага, набокаўскія мелодыі Любчы, рэчыцкага Жанна Габэна, сыграўшага ролі ў кінафільмах «Авадзень», «Качубей», «Новыя прыгоды няўлоўных», «Даурыя»…

«Калі б у старой расійскай арміі быў такі чын, як генерал ад краязнаўства, — пісаў Алесь Карлюкевіч, — то, бадай, першым атрымаў бы яго ваенны тапограф, генерал-маёр Генеральнага штаба Міхаіл Без-Карніловіч, кіраўнік экспедыцый тапаграфічных здымкаў у Мінскай, Наўгародскай, Валынскай губернях…»

Падсумоўваючы напісанае, я прыйшоў да высновы, што такое ж званне варта было б прысвоіць падпалкоўніку ў адстаўцы Алесю Карлюкевічу, краязнаўцу ад Бога: таленавітаму, сумленнаму, працавітаму.

## Вольныя мары

Большасць герояў Карлюкеіча — ураджэнцы яго роднага Пухавіцкага раёна. І я лічыў, што позна ці рана з’явіцца кніга Алеся Мікалаевіча пра літаратурную Пухавіччыну. Падставай для такога меркавання былі арыгінальныя публікацыі ў перыядычных выданнях Беларусі. І вось перада мною незвычайная ва ўсіх адносінах, выдатна аформленая, з ілюстрацыямі кніга «І марам волю дам»

(Літаратурная карта Пухавіччыны), выдадзеная ў «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі».

Чым жа адметная яна? Чым адрозніваецца ад іншых краязнаўчых кніг? Пра гэта паспрабаваў сказаць у сваёй прадмове Адам Мальдзіс: «У Алеся Карлюкевіча падрабязны аналіз, мікраскапічны погляд на Пухавіччыну, на ўсе праявы літаратурнага жыцця аднаго раёна — хто, калі, дзе і як прабываў і працаваў… І гэта добра, калі з Пухавіч ці Мар'інай Горкі, Блоні ці з Замосця, Балачанкі ці Талькі вядуць пуцявінкі да Якуба Коласа і Кандрата Крапівы, у Мінск ці Маскву, Англію ці Германію. Гэта якраз той выпадак, калі ўзрастанне краязнаўства да радзімазнаўства, іх непазбежная глабалізацыя карысныя для чытача, а, значыць, і для грамадства».

Я таксама падпісаўся б пад гэтымі радкамі, апусціўшы хіба што «мікраскапічны погляд» і ўжытую хутчэй за ўсё дзеля краснага слоўца «глабалізацыю», ды яшчэ «карысную для грамадства». Тут, хоць савой аб пень ці пнём аб саву, перабор. Канечне ж, аўтар, працуючы над кнігай аб літаратурнай спадчыне свайго роднага раёна, яго сённяшніх творцах менш за ўсё думаў аб высокіх матэрыях. Нязмушана, цікава, на свежай літаратурнай мове, не ганяючыся, як пачынаючыя літаратары, за неверагоднымі параўнаннямі, эпітэтамі, самімі ж прыдуманымі легендамі і былямі, Алесь Мікалаевіч апавядае пра маленства, юнацтва паэтаў і празаікаў, якія нарадзіліся і выраслі на зямлі пухавіцкай, тут напісалі першыя вершы, замалёўкі, апавяданні. Яго героі з Мар'інай Горкі, Шацка, Блужы, Дукоры, Рудзенска, Церабелі, Голацка і яшчэ больш як трох дзясяткаў селішч. А яшчэ згадкі пра дзясяткі паэтаў і празаікаў, якіх жыццё парадніла з Пухавіччынай. Яны тут жылі, адпачывалі, пісалі свае бессмяротныя творы, як Якуб Колас і Кандрат Крапіва.

Адну са сваіх паэтычных кніг паэт Раман Тармола назваў «Дайце дагаварыць». Мне здаецца, Алесь Мікалаевіч улюбёны ў сваіх герояў, спяшаецца данесці да чытача ўсё, што вядома яму, быццам баіцца, што яго спыняць, не дадуць дагаварыць пра малавядомыя факты з біяграфіі таго ж Анатоля Вольнага ці Аляксандра Пармона. Нават пра сціплых паэтаў-землякоў, якія, на вялікі жаль, у сілу жыццёвых абставін (заўчасная смерць у сталінскіх лагерах, гібель на фронце ці ў партызанах) не пакінулі глыбокага следу ў літаратуры, чые прозвішчы невядомы шырокаму колу чытачоў (Анатоль Вольны, Аляксандр Пармон), Алесь Карлюкевіч распавядае як пра класікаў, ахвотна цытуе іх часам не зусім дасканалыя радкі.

Калі ж праклятыя фашысты
Вайны раздзьмухваюць агні,
Пайду на заклік я гарніста
Твае палеткі бараніць.

Усклікнуў так у адным са сваіх вершаў напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны малады супрацоўнік пухавіцкай раённай газеты «Сцяг камунізму» Аляксандр Пармон. Міжволі памяць вяртае да класічнага верша Пімена Панчанкі, лірычны герой якога не пакрыўдзіць і птушку, «бо ёй хочацца жыць», але калі вораг шалёны ў край родны хлыне, «то гатовы сваімі рукамі яго задушыць». Гэта ўжо не Аляксандр Пармон — гэта высокая паэзія. Але Алесь Карлюкевіч не можа не працытаваць шчырыя радкі пухавіцкага паэта, які ўсё ж, не чакаючы «закліку гарніста», напачатку сорак другога года аддаў сваё маладое жыццё «за вольны край, за край савецкі».

Сотні прозвішчаў (паэты, празаікі, крытыкі, кіраўнікі раёна, звычайныя вяскоўцы, рабочыя прадпрыемстваў, бібліятэкары, музейныя работнікі), тысячы фактаў з жыцця герояў — вось што робіць унікальнай кнігу Алеся Карлюкевіча «І марам волю дам».

Няма, бадай, ніводнага беларуса, які б не чуў песні «Радзіма, мая дарагая…» на словы Алеся Бачылы. Яе пазыўныя гучаць па радыё, яе выконваюць на самых

вялікіх святах нашай краіны. Гэта своеасаблівы гімн адзінаму культу, якому нельга не пакланяцца — культу Працы.

Радзіма, мая дарагая,
Ты ў шчасці жаданым жыві.
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўняй любві.

Заканчваецца верш светлым, як сонечныя промні, цёплым, як ліпеньскі дождж, чыстым, як жнівеньскія росы, пажаданнем: «Мне лепей ад роднага краю нічога на свеце няма». І Алесю Карлюкевічу нічога няма даражэй ад пухавіцкай гаворкі, ад грыбных пушчаў-гушчаў, ад рэчкі-быстрацечкі Свіслачы. Вось чаму ён так цёпла піша пра свайго земляка Алеся Бачылу, аднаго са старэйшын беларускай літаратуры.

Я не буду пералічваць вядомых і не надта вядомых літаратараў-землякоў Алеся Карлюкевіча. Раю чытачам звярнуцца да кнігі «І марам волю дам». Паверце, гэта невычэрпная крыніца ведаў, адрасаваная не толькі аматарам айчыннай літаратуры, але і кожнаму беларусу, які любіць гісторыю свайго народа, для каго мастацкае слова не пусты гук. «Благая тая птушка, якая свайго гнязда не пільнуецца», — кажуць у народзе. І гэта аксіёма — не глабалізацыя, а тэарэма, якая не патрабуе доказу.

## Ад Коласа да свайго голасу

«Шмат хто з літаратараў, якія жылі і працавалі ў маім родным краі, — піша Алесь Карлюкевіч, — пакінулі ў прыгожым пісьменстве тэмы і сюжэты з Пухавіччыны, пухавіцкага жыцця і побыту. Яркі прыклад — творчасць народнага песняра Якуба Коласа, які цягам многіх гадоў летаваў у пухавіцкіх вёсках і шмат напісаў пра нашы мясціны…»

Чытаеш Алеся Карлюкевіча і бачыш як наяву Коласа з вудай на беразе Свіслачы, з сялянамі. Вось ён нетаропка, з добрай усмешкай крочыць па вёсках з незвычайнымі назвамі Загібелька, Балачанка, Беразянка. Загібелька ад дзеяслова гібець, відаць, нямала давялося перажыць жыхарам гэтай вёскі, пакуль наладзіўся быт. Балачанка ля балота, Беразянка ля беланогіх бяроз. А яшчэ Талька, Вусце, Падбярэжжа. Усе апетыя вялікім песняром мясціны, дзе з бацькам, братамі і маці адпачываў сын паэта Міхась, Міхась Канстанцінавіч, ганаровы грамадзянін Мар'інай Горкі, доктар тэхнічных навук, чалавек дасціпны, жывы, вясёлы. Ён і сёння часта наведвае куток, дзе праходзіла яго маленства, апісанае бацькам у «Міхасёвых прыгодах». Нягледзячы на паважны ўзрост, сын песняра і сёння можа выбухнуць нечаканай эпіграмай, здзівіць вясёлай (няхай і прыдуманай) гісторыяй.

Людзі старэйшага, майго і крыху маладзейшага ўзростаў памятаюць знакаміты кінафільм «Шукальнікі шчасця». Жывыя характары, каларытныя персанажы яўрэяў, якія перасяляюцца на Далёкі Усход, у Берабіджанскую аўтаномную вобласць. Далёка не ўсе ведаюць, што аўтарам сцэнарыя да гэтага фільма быў вядомы беларускі драматург Рыгор Кобец. У сваіх нататках ён згадвае, што над сцэнарыем да фільма пачаў працаваць у Мар'інай Горцы, дзе знаходзіўся Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў. Тэма зацікавіла таму, што побач з Домам творчасці знаходзіўся яўрэйскі калгас «Дэр Штэрн» (у перакладзе на мову родных бяроз — «Зорка»). Менавіта адсюль знакаміты Піня з крылатай фразай «Я извиняюсь. Скажите, пожалуйста, сколько — приблизительно, конечно, — сколько может стоить такой пароход?»

Не ўсе, вядома, ведаюць, што фільм «Шукальнікі шчасця» ў сувязі з рэпрэсіямі супраць Рыгора Кобеца, акцёраў Саламона Міхаэлса, Веньяміна Зускіна тройчы здымаўся з экрана.

З горыччу і непрыхаваным болем Алесь Мікалаевіч піша пра знявечаныя ў трыццатых гадах лёсы многіх літаратараў, цытуе іх вершы, радкі з дзённікаў. Ён не ўцякае ад фактаў, а знаходзіць іх. Для яго найвышэйшы крытэрый — адзіна трывалая кладка — праўда.

Шмат новага даведваюся пра сваіх землякоў Кандрата Крапіву, Пятра Глебку, Анатоля Бялевіча. Неаднойчы пісаў пра іх, а вось пухавіцкі перыяд творчасці застаўся незаўважаным.

А колькі цёплых слоў прысвяціў Алесь Мікалаевіч свайму земляку, шчыраму руплівцу на краязнаўчай ніве Браніславу Зубкоўскаму!

Сапраўднага паэта можна заўважыць па адным-адзіным радку. Міхась Рудкоўскі з-пад Ганцавіч калісьці напісаў: «Мой дзед быў сельскім кавалём, кавальскай справы каралём!», — і ўсе крытыкі абавязкова цытуюць гэтыя строфы. Калісьці я, пачынаючы паэт, студэнт журфака БДУ, марыў сустрэцца з Янкам Непачаловічам з-за аднаго радка ягонага верша пра родную вёску: «Дарагое маё Дараганава, дарагія мае землякі». Мне і ў галаву не магло прыйсці, што паэт настаўнічаў на Пухавіччыне, з пятлянкі Свіслачы, берагі якой зараслі ніцымі вербалозамі, з мясцовых крыніц чэрпаў сваё натхненне.

Дарэмна напачатку гэтага артыкула-эсэ я не паверыў Адаму Мальдзісу ў мікраскапічны погляд Карлюкевіча на літаратурную Пухавіччыну. За кожным арыгінальным фактам цэлая гісторыя, бо да гэтай кнігі аўтар, збіраючы матэрыялы, ішоў усё жыццё. Можна было выбраць куды больш просты шлях: узяць не дзясяткі, а пяць-шэсць аўтараў і падрабязна, з прыдумкай, гумарам, цытатамі расказаць пра іх лёс. Алесь Мікалаевіч выбраў не асфальт і нават не брукаванку, а падаўся непратаптанай сцяжынай. А што тычыцца яго рытарычнага пытання — ці варта прысвячаць кнігу пэўнаму літаратурнаму рэгіёну — адказ сапраўды неадназначны. Мне здаецца, што такія раёны, як Уздзеншчына, Случчына з Капыльшчынай, Ушачы, і, канечне, Пухавіччына, маюць поўнае права на літаратурную карту. Кніга Карлюкевіча — першая ластаўка. І памыліцца той, хто стане сцвярджаць, што гэтая адна ластаўка не робіць пагоды.



Алесь Савіцкі.
**Обаль. Раман.**
*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2013.*

## Алесь МАРЦІНОВІЧ

# НА ВАЙНЕ ЯК НА ВАЙНЕ

Шматгранная творчасць патрыярха беларускай літаратуры Алеся Савіцкага. Аднолькава паспяхова працуе ён у розных жанрах. Гэтаксама з аднолькавым майстэрствам у сваіх творах закранае самую розную тэматыку. Аднак вельмі важкае слова Алесь Ануфрыевіч сказаў, асэнсоўваючы падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Гэта заканамерна: талент заўсёды найбольш ярка раскрываецца тады, калі аўтар піша пра найбольш блізкае яму, а тым больш звяртаецца да падзей, непасрэдным удзельнікам якіх з'яўляўся сам. А. Савіцкі ж, як вядома, гераічна змагаўся з нямецкім фашызмам: партызан, камандзір падрыўной групы, вызваляў Літву, Польшчу, прымаў удзел у баях за ўзяцце Берліна.

Такое ніколі не забываецца. Дый сумленне не дазваляе маўчаць пра тое, як было і што было. Істотны і такі момант, пра што згадвае сам Алесь Ануфрыевіч: «З тых людзей, што на ваеннай фотакартцы, уцалеў толькі я адзін. Відаць, небам было так наканавана. Маўляў, няхай гэты застанецца жывым, стане пісьменнікам, раскажа людзям, што такое вайна. Раскажа, як гэтая страшная бяда ламала людзей слабых і як загартоўвала моцных, як у душы чалавека вырастала любоў да свайго краю, сваёй Радзімы. І гэта было адзінае, што мацней за кулю, за снарад — мужная душа чалавека. Сёння яна вельмі нам патрэбна». Значыць, і за тых, хто загінуў, жыве. І за іх дзяцей і ўнукаў, якія не нарадзіліся, таксама. А паколькі Бог талент даў яму, дык і піша пра самую страшную вайну ў гісторыі чалавецтва. З усведамленнем пачуцця адказнасці, праўдзіва, пераканаўча — так, што калі чытаеш усё гэта, з'яўляецца адчуванне, што нібыта сам праходзіш дарогамі вайны разам з ягонымі літаратурнымі героямі.

У А. Савіцкага ўжо сабралася цэлая бібліятэчка з уласных кніг пра ўсенародны подзвіг у барацьбе з фашызмам. Каторую з іх ні возьмеш — гэта менавіта сваё ўспрыманне вайны, тое, чаго іншыя пра яе не сказалі. Дый сказаць не змогуць. Вачыма самога народа ён здолеў паглядзець на вайну і ў рамане «Зямля не раскажа». Аднак вачыма не тых, хто ваяваў на фронце, а праз успрыняцце мірным насельніцтвам — жанчынамі, старымі, дзецьмі. Яны былі менш абаронены, а таму і безабаронныя перад акупантамі. Раскрываючы ўсю драматычнасць, больш за тое, трагічнасць іхняга становішча, ён, разам з тым, раскрыў і тое, што патрапляе пад вызначэнне дух «народны».

У нямешнай ступені свой уклад у адлюстраванне тэмы Вялікай Айчыннай вайны А. Савіцкі ўнёс трылогіяй, што складаецца з раманаў «Верай і праўдай», «Літасці не чакай», «Памерці заўсёды паспееш». Тым самым, з-пад ягонага пяра з'явілася маштабнае мастацкае палатно, у якім сям'я рабочага-палачаніна Елісея Крупні, якая прайшла праз ваенныя выпрабаванні,

як кажуць, ад званка да званка, выступае тыповым прыкладам таго, наколькі ў гады вайны ўся савецкая краіна стала адзіным франтам.

Па-майстэрску напісаны і раман «Верасы», у якім асабліва пераканаўчым атрымаўся вобраз галоўнай гераіні Насты. Дакладна заўважыла адметнасць гэтага твора вядомы літаратуразнаўца і крытык Таццяна Шамякіна: «…раман «Верасы» выявіў найбольш моцныя бакі Савіцкага-мастака. Чалавек і свет тут разглядаюцца на мяжы дзвюх стыхій — быцця і быту. Быццё — жыццё прыроды, адзінай абаронцы групы людзей, якія апынуліся ў неверагодна складанай сітуацыі, а таксама і каханне як самае прыгожае з чалавечых пачуццяў, што разгортваецца на фоне роднай прыроды. Быт — імкненне людзей выжыць, нягледзячы ні на што…»

Усе згаданыя творы сталі для А. Савіцкага ў пэўнай ступені подступамі да напісання рамана «Обаль», пабудаванага на дакументальнай аснове. Як вядома, у гэтым населеным пункце, што раней уваходзіў у склад Сіроцінскага раёна Віцебскай вобласці, а цяпер знаходзіцца ў Шумілінскім раёне, з пачатку 1942 года да жніўня 1943-га дзейнічала камсамольскае падполле. На жаль, так мала яно праіснавала з-за таго, што ў шэрагу юных мсціўцаў («Юныя мсціўцы» — назва гэтай арганізацыі) аказаўся здраднік. Па ягоным даносе гітлераўцы арыштавалі іх і пасля катаванняў расстралялі ўсё кіраўніцтва гэтай падпольнай арганізацыі і многіх падпольшчыкаў, а тыя ж, хто заўстаўся ў жывых, пайшлі ў партызаны. Пазней дзвюм удзельніцам Обальскага падполля — Фрузе Зяньковай і Зіне Партновай было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, апошняй з іх — пасмяротна.

Алесь Савіцкі проста не мог не напісаць гэты твор, не меў на тое маральнага права, бо падзеі, звязаныя з дзейнасцю обальскіх падпольшчыкаў, па сутнасці, адбываліся ў мясцінах, блізкіх і дарагіх яму. Сама Обаль, вёскі Зуя, Масцішча, Ушалы і Ферма — гэта, па сутнасці, тая ж Полаччына, калі падыходзіць да яе ў гістарычным разуменні. Не будзем таксама забываць, што некаторыя з персанажаў ягоных папярэдніх твораў родам адтуль, дый дзеянне раманаў часам адбывалася ў родных для пісьменніка мясцінах. Апроч таго, А. Савіцкі, ствараючы некаторых літаратурных герояў, нярэдка меў, як гэта бывае і ў іншых літаратараў, перад сабой прататыпаў персанажаў. Безумоўна, шмат што было народжана і аўтарскай фантазіяй пісьменніка, якая пашырала мастакоўскія магчымасці, дазваляючы паказваць тыповыя персанажы ў тыповых абставінах. Але, разам з тым, яму хацелася стварыць і нешта такое, што было б самым цесным чынам прывязана да рэальных падзей, у дадзеным выпадку — падзей ваеннага часу.

«[…] мне пашанцавала, — прызнаецца Алесь Ануфрыевіч, — што пісаў гэту кнігу (раман «Обаль». — **А. М.**), калі была яшчэ жывая Фруза Зянькова — Герой Савецкага Саюза, кіраўнік падполля обальскіх маладагвардзейцаў. Яна расказала мне пра Зінаіду Партнову. Так з’явіліся ў рамане раздзелы «На беразе Дзвіны», «Каля грушы-дзічкі», «У чыстым полі». Яны пра тое, чым жыла Зіна Партнова і як яна прыходзіла да асэнсавання свайго ўласнага жыцця». Зразумела, у пісьменніка былі і сустрэчы з тымі, хто помніў удзельнікаў падполля, якія гераічна загінулі — іх роднымі, блізкімі. Дый зноў жа, паколькі «Обаль» — не проста дакументальны раман, а дакументальна-мастацкі твор, шмат дала А. Савіцкаму мастакоўская інтуіцыя, якая дазволіла яму ўявіць многае з таго, як той ці іншы персанаж мог паводзіць сябе ў тых ці іншых абставінах, чым кіраваўся ён у сваіх учынках. Гэта таксама была праўда — праўда мастацкая, але яна блізкая праўдзе жыццёвай, бо мацуецца на тым, што вытокамі сваімі вынікае з магчымага разгортвання рэальных падзей і адпаведна з прадбачання паводзін літаратурных герояў.

Раман «Обаль» пісаўся і як свайго роду споведзь пісьменніка перад тымі, хто загінуў. А. Савіцкі бачыў іх перад сабой нібы жывымі, неаднаразова лавіў сябе на думцы, што ў асобных выпадках ставіць сябе на іхняе месца, разважае, як паступіў бы у пэўнай сітуацыі сам. Быў жа падрыўніком і гэтаксама, як і яны, пускаў пад адхон фашысцкія

эшалоны з тэхнікай і жывой сілай праціўніка, нярэдка спальваў і ўзрываў масты — таксама дзеля таго, каб не прапусціць ворага. Тое, што адбывалася на старонках твора, у пэўнай ступені было і сваё — перажытае, выпакутаванае, прадуманае і перадуманае.

Калі ж паставіў апошнюю ў рамане апошнюю кропку, як гэта бывала неаднойчы, з палёгкай уздыхнуў. Пасля ж надрукавання рамана з нецярпеннем чакаў на яго водгукаў. Не сумняваўся, што гэты твор не пройдзе незаўважаным не толькі чытачамі, а і крытыкай. Ды памыліўся. Зноў слова Алесю Ануфрыевічу: «Раман «Обаль» выйшаў у 1989 годзе. Ужо знайшліся тыя, хто апаганіў Гастэлу, адбылася злая фальсіфікацыя адносна подзвігу Зоі Касмадзям'янскай… Усё ставілася з ног на галаву, каб вытравіць у душах новых пакаленняў гэтую памяць». Дарэчы, «і сёння б'юць па нашай памяці, каб у новага пакалення за плячыма нічога не было: ні мужнасці, ні герояў, ні славы зямлі, ні прыгажосці гэтага краю і зямлі. Тады народ і зямля — лёгкія».

На шчасце, цяпер такіх пярэваратняў паменшала. Шмат хто з іх зразумеў, што падобнае ачарненне народнага подзвігу на беларускай зямлі, якая ў гады Вялікай Айчыннай вайны страціла свайго кожнага трэцяга грамадзяніна (дый гэта далёка не поўныя звесткі, загінула яшчэ больш), падобныя свавольствы з гісторыяй не праходзяць. Ды самыя заўзятыя, на жаль, працягваюць аплёўваць і свой народ, і сваю гісторыю. Даходзіць нават да таго, што ў ранг героя яны ўводзяць ката беларускага народа Кубэ. Так, па іхнім разуменні, — героя, а не ледзь героя, што таксама абражліва перад памяццю загінуўшых. Адзін з «адраджэнцаў» дапісаўся да таго, каб заявіць, што, калі б трэба было назваць ганаровага сябра Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны за апошнія 70 гадоў, дык на такую ролю, як ніхто іншы, падыходзіць той жа самы Кубэ. Ды падобныя «нацыянальна сведамыя» творы, кшталту рамана «Обаль», не чытаюць. І марна чакаць, што калі-небудзь прачытаюць. Затое за іх гэта зробяць іншыя — тыя, хто па-сапраўднаму любіць сваю зямлю, хто жадае жыць у вольнай і шчаслівай Беларусі, за свабоду якой змагаліся і юныя обальскія падпольшчыкі.

У рамане дзейнасць іх паказана шырока. Балазе, расказваць было пра што, бо за кароткі час імі здзейснена нямала. Дарэчы, гэта відаць ужо з дадзеных, прыведзеных штабам партызанскага атрада імя Варашылава, з якім і каардынавалі сваю дзейнасць падпольшчыкі. У Обалі была спалена электрастанцыя, яны знішчылі льнозавод, вывелі са строю цагельны завод, які даваў у суткі больш як 10 тысяч цаглін для ваенных мэт; падарвалі на мінах, закладзеных на дарозе Обаль — Полацк, дзве аўтамашыны з жывой сілай ворага. І гэта не поўны пералік. Страты, якія наносілі акупантам обальцы, вельмі ўнушальныя. Ужо гэтага дастаткова, каб упэўніцца ў тым, наколькі важкі ўклад юных падпольшчыкаў у будучую перамогу. Толькі не будзем забываць, што любы дакументальна-мастацкі раман, не кажучы ўжо пра традыцыйны раман, — гэта не толькі твор дзеяння, а і характараў, таму пра вартасці яго трэба гаварыць зыходзячы з таго, як гэтыя характары раскрыты, наколькі глыбока пісьменнік пранікае ў сутнасць паводзін пэўнага персанажа, паказваючы яго ў развіцці, у дынаміцы.

Алесь Савіцкі аказаўся, як кажуць, на вышыні. Ён стварыў шэраг праўдзівых, запамінальных вобразаў, пачынаючы з тых, хто стаяў ля вытокаў партызанскага руху на Полаччыне. Як Антон Сіпко і Наталля Герман, якія інструктавалі Зянькову, як дзейнічаць ва ўмовах акупацыі. Так і радавых удзельнікаў падполля, а таксама родных і блізкіх падпольшчыкаў. Гэтаксама шляхам псіхалагічнай выверанасці ён ідзе і ў паказе супрацьлеглага лагера — саміх фашыстаў і іх памагатых.

Але асноўная ўвага, як таго і вымагала мастакоўская задума, звернута на Фрузу Зянькову і Зіну Партнову, якія аднолькава ненавідзяць ворага і поўныя рашучасці хутчэй пачаць барацьбу з акупантамі. Разам з тым яны і розняцца, у чым, канечне, нічога дзіўнага: што ні чалавек, то характар. Тым больш, што Зянькова, з'яўляючыся на фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» ў Віцебску да вайны актывісткай, камсоргам,

мела вопыт арганізатарскай работы, Партнова ж — нядаўняя школьніца, у якой уяўленне аб жыцці шмат у чым яшчэ рамантычнае. Яна не ўсведамляла ўсёй складанасці ваенных рэалій.

Расказваючы пра Зянькову і Партнову, А. Савіцкі зноў жа стварае вобразы тыповых прадстаўнікоў передваеннага пакалення моладзі, якія былі адданы Радзіме і, не баючыся за ўласнае жыццё, станавіліся ў шэрагі барацьбітоў з акупантамі. Ужо нават на прыкладзе гэтых двух вобразаў добра відаць, як вайна ўрывалася ў лёсы людзей, але адначасова не менш выразна відаць і іншае: як самі людзі ўваходзілі ў вайну. Адны, на шчасце, іх было няшмат, адразу праявілі свае звярынае нутро і сталі гітлераўскімі паслугачамі, нярэдка пераўзыходзячы фашыстаў у жорсткасці і лютасці, калі, паказваючы сваю ўладу, нікога не шкадавалі. Большасць аказаліся сумленнымі, не здрадзілі ідэалам, на якіх былі выхаваны…

Які твор ні возьмеш, у кампазіцыйнай пабудове яго вялікую нагрузку нясе пачатак аповеду і ягонае завяршэнне. Раман «Обаль» — не выключэнне. У першым жа абзацы расказваецца, як Зянькова дабралася з Віцебска ў родныя мясціны:

«Бацькоўская хата адорвала цеплынёю і пяшчотай.

Нейкая незвычайная лагодная ласкавасць, здавалася, струменіцца з кожнага кутка, павявае ад кожнай рэчы, што была блізкая сэрцу і цешыла вока, і Фрузе на нейкае імгненне падалося, што яна прыгадвае жахлівы, пачварны сон і што гэта там, у ім, тым сне, скавыталі фашысцкія бомбы, раўлі самалёты з чорнымі крыжамі на крылах, стагналі параненыя ў машынах, спавітых густымі і чорнымі шлейфамі смярдзючага дыму».

І тут жа тое, ад чаго таксама нікуды не схаваешся, бо яно сама рэальнасць. Ад маці Зянькова даведваецца, што обальскі трактарыст стаў паліцаем: «Злыдзень ён быў, злыднем і застаўся. Першым у паліцыю запісаўся. У начальнікі, як кажуць, выбіваецца. І яшчэ Крывёнак з ім шчыруе…»

Заключны абзац у рамане. Фруза разам са сваім баявым таварышам Аркадзем Барбашовым страляе з аўтамата па варожай калоне, што падарвалася на мінах, пастаўленых партызанам:

«Нацiскаючы на спуск, яна крычала адчайна і помсліва «а-а-а-а-а» і ад гэтага свайго крыку, і ад стрэлаў не адчувала ні жаху, ні спачування, і ёй здавалася, што сэрца яе не на сваім звыклым месцы, не ў грудзіне, а з грукатам калоціцца ў сярэдзіне драўлянага аўтаматнага прыклада, які, бы жывая істота, трапечацца ў руках, сіліцца вырвацца з учэпістых і гарачых пальцаў».

Спрацоўвае помста ворагу, без якой нельга на вайне, бо помста гэтая — святая. Яна дастойны адказ на насілле, забойствы. Помста ў імя жыцця. Такое завяршэнне рамана не проста апраўдана, яно адзіна правільнае. А. Савіцкі, пішучы «Обаль», зразумеў гэта не толькі, як вопытны і таленавіты пісьменнік, а і як удзельнік вайны, які сам неаднойчы глядзеў смерці ў вочы. Дый неаднойчы жыў гэтай прагавітай помстай у імя разгрому фашызму, у імя жыцця. Падсумоўваючы гаворку пра раман «Обаль», трэба сказаць, што ён — адно з найбольш значных дасягненняў сучаснай беларускай прозы пра Вялікую Айчынную вайну. У той жа час і пацвярджэнне таму, што гэтая тэма невычэрпная. Гэта тычыцца і подзвігу обальскіх падпольшчыкаў. А. Савіцкі перакананы: «Кожны сам па сабе з членаў обальскага падполля варты такой, а можа, і яшчэ большай кнігі. «Вайна і мір» Талстога была напісана праз паўстагоддзя пасля адлюстраваных у ёй падзей. Перадаць глыбіню пачуццяў, як складваецца характар чалавека, як ён робіцца мужным — гэта настолькі вялізная і глыбінная духоўная праца, калі чалавек прыходзіць да думкі, што інакш ён не можа, а вось павінен зрабіць так».

Дарэчы, гэтую думку Алесь Ануфрыевіч выказаў 11 сакавіка 2011 года ў час школьнага ўрока ў Мемарыяльнай зале Саюза пісьменнікаў Беларусі, на які былі запрошаны настаўнікі і вучні 11 класаў гімназіі № 25 горада Мінска імя Рымы Шаршнёвай. Не ў апошнюю чаргу менавіта да падрастаючага пакалення звернуты і раман «Обаль», што сам па сабе ўжо свайго роду ўрок мужнасці і грамадзянскасці, пададзены А. Савіцкім.

Мікалай КРЫЎКО

# ФРАЗЕАЛАГІЧНАЕ БАГАЦЦЕ ІВАЦЭВІЦКАЙ ЗЯМЛІ




Алесь Зайка.
**Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны.**
*ААТ «Брэсцкая друкарня», 2014.*

Косаўшчына займае значную частку Івацэвіцкага раёна, а гэта больш за 60 вёсак, размешчаных вакол мястэчка Косава, якое значны час было цэнтрам асобнага раёна. Гаворкі на гэтай тэрыторыі адносяцца да гродзенска-баранавіцкай дыялектнай групы, што вельмі блізкая да беларускай літаратурнай мовы і вызначае яе нацыянальную спецыфіку. «Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны» аб'ёмам 308 кніжных старонак. Слоўнік змяшчае 2885 фразеалагічных адзінак. Гэта вялізны фальклорна-моўны матэрыял. Аўтар слоўніка — няўрымслівы, руплівы збіральнік народнай лексікі і фразеалогіі, ураджэнец Косаўшчыны Алесь Зайка, які гэтым займаецца звыш 40 гадоў. Моўнае багацце ім падслухоўвалася і запісвалася з жывой гаворкі жыхароў розных мясцін. Вялікую ролю ў гэтай справе адыгрывалі ягоныя бацькі і людзі старэйшага пакалення косаўскага рэгіёна.

У «Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны», акрамя ўласна дыялектнай фразеалогіі, уваходзяць агульнанародныя, літаратурныя, фальклорныя фразеалагізмы, зразумелыя кожнаму беларусу. Можна знайсці ўсе тыпы дыялектнай фразеалогіі, класіфікацыю якой у свой час распрацаваў прафесар І. Лепешаў і дапоўнілі іншыя спецыялісты.

Слоўнікавыя артыкулы Алеся Зайкі падаюцца ў строгім алфавітным парадку. Тлумачэнне фразеалагічных адзінак часцей за ўсё даецца праз сінанімічную літаратурную лексему ці раскрываецца шляхам разгорнутага апісання. Асобныя дыялектныя словы для зручнасці тлумачацца ў слоўнікавых артыкулах.

На жаль, абмежаваны аб'ём рэцэнзіі не дазваляе паказаць усё фразеалагічнае багацце, уключанае ў гэты слоўнік. Вельмі хочацца, каб спецыялісты, аматары роднага слова, майстры мастацкага слова абавязкова пазнаёміліся з ім, што, бясспрэчна, пойдзе толькі на карысць. Мы ж спынім увагу на характэрных, спецыфічных, арыгінальных, рэдкіх асаблівасцях прыведзеных фразеалагізмаў.

Звяртае на сябе ўвагу вялікі матэрыял, дзякуючы якому характарызуецца асоба чалавека з рознага боку. Да месца прывесці наступныя фразеалагізмы з падачай іх семантыкі: *ад ветру валіцца* — быць вельмі слабым; *адзін цень застаўся* — зблажэць, змарнець; *адна шкура ды косці* — худы, благі (чалавек, жывёла); *адной клёпкі ў галаве німа* — так кажуць пра дурнаватага чалавека; *адной нагой стаяць у магіле* — аслабнуць, знясілець, быць блізкім да смерці; *адны вочы блішчаць (засталіся)* — моцна схуднець; *адны драбы (дрэбы)* — вельмі худы; *ажно мох пастаў на ём* — моцна зблажэць, схуднець; *ажно свіціцца* — нехта вельмі худы; *вады не замуціць* — добры, сумленны чалавек; *вароны за сыра ўхопяць* — пра святочна апранутага чалавека; *вушы свіцяцца* — стары чалавек; *вырабіцца на іржу* — схуднець, зблажэць; *госцем у хаці жыць* — гультаяваць, пазбягаць працы; *доўгі язык* — пра таго, хто разносіць плёткі; *доўгія рукі* — пра таго, хто схільны да зладзейства; *дурны як бот з левае*

*нагі* — вельмі дурны; *за рубель павесіцца* — вельмі скупы чалавек; *застаўся дух і пятух* — так скажуць пра моцна хворага; *за так жонку ні пацалуя* — сквапны чалавек; *за халодную воду ні брацца* — пра гультая; *з чорным паднябеннём* — нехта помслівы, злы; *зямля абаранком пахня* — пра нямоглага, хворага, старога чалавека; *і крывінкі німа* — бледны ад хваробы; *каб на яго кола вада ішла* — чалавек, які імкнецца ўсіх падпарадкаваць сабе, навязвае сваю волю; *камара не заб'е* — добры па характары; *капейка ў кармані ні апарыцца* — неберажлівы, неэканомны чалавек; *кацялок варыць* — кемлівы, здольны да навукі; *кот за ноч з'есць* — благі, невялікі ростам; *кроў з малаком* — здаровы, дужы; *курыныя мазгі* — бесталковы, дурны; *малым на свіне катаўся* — чалавек з крывымі нагамі; *на вадзе заводзіцца* — пра запальчывага чалавека; *навой радняны* — тоўсты чалавек. Прыклады не менш красамоўныя: *на Вялікдзянь ні засмяецца* — пра панурага чалавека; *на губах мёд, а ў сэрцы лёд* — пра таго, хто ў вочы ліслівіць, а за вочы аблівае брудам; *на крывой кабылі ні аб'едзяш* — хітры чалавек; *на сто коней сесці* — заганарыцца; *не выцягнуць слова* — маўклівы чалавек; *невялікая шышка* — неўплывовы чалавек, невялікі начальнік; *не мець сэрца* — быць жорсткім; *не ўсіх дурных вайна пабрала* — так жартам скажуць пра несур'ёзнага чалавека; *нізкі на вочы* — блізарукі; *падцягнуць вуды* — схуднець; *пясок (пацяруха) сыпляцца* — нехта вельмі стары; *разумны дурань* — здольны, але лянівы; *тугі на вушы* — глухі; *тупы як абух* — недалёкі, неразвіты; *хоць ікону малюй* — вельмі прыгожы; *ціхан за пазуху залез* — лянівы; *чорно ў році* — нялюдскі чалавек; *чорт носіць* — непаседлівы; *шкура свярбіць* — хтосьці дрэнна паводзіць сябе, нарываецца на пакаранне; *што-то я* — ганарлівец, задавака; *што ўбіў то ўехаў* — гультаяваты чалавек; *язык без касцей* — хтосьці празмерна гаваркі; *язык хоць падпе襯ажыся* — языкасты чалавек; *як вецяр* — несур'ёзны, легкадумны чалавек; *як гануча* — нясмелы, недабітны і інш.

Да спецыфічных, арыгінальных, рэдкіх, характэрных для косаўскага рэгіёна фразеалагічных адзінак неабходна аднесці наступныя: *адсекаць пяты* — вельмі хутка бегчы, ляцець; *аж дарога стогня* — пра вялікае мноства людзей, якія ідуць дзе-небудзь; *бліскаць вачыма* — гневацца; *блытаць боб з гарохам* — апеляваць несумяшчальнымі доказамі; *бокі скласці* — адлупцаваць; *браскаць зубамі* — нічога не мець; *брацца ў рожкі* — уступаць у спрэчку, сутычку; *бунчыкі бяруць* — упарціцца, зацінацца; *валасатая рука* — так скажуць пра таго, хто мае заступніка, абаронцу; *ведаць, якому богу маліцца* — умець прыстасоўвацца; *вочы калоць* — быць вельмі яркім (Радзюжку суседка такімі яркімі ніцямі выткала — вочы коля, да таго харошая); *выйсці на корань* — абжыцца; *гуза знойдзе (шукая)* — нарывацца на непрыемнасць; *даваць духу* — біць; *даваць (даць) на лапу* — падкупіць; *даць на арэхі* — набіць; *душыць падушку* — спаць; *жаба душыць* — 1. Некага бярэ зайздрасць; 2. Так выказваюць незадавальненне сабою; *заглядваць (заглянуць) у душу* — старацца зразумець іншага чалавека; *з агню ды ў полымя* — трапляць з адной непрыемнасці ў другую; *заламаць асінкаю* — назаўсёды адмовіцца; *злажыць смех* — абсмяяць; *з матылямі не паляціш* — пра непазбежнасць смерці; *зоры з вачэй пасыпаліся* — моцна стукнуцца; *маім словом* — ад майго імя сказаць; *мухі дохнуць* — так кажуць, калі гаворка нецікавая, сумная, нудная і г. д.

Крытычных заўваг па тэксце «Фразеалагічнага слоўніка Косаўшчыны» амаль няма. Ёсць толькі некаторыя недакладнасці і няправільнасці ў тлумачэнні значэнняў фразеалагізмаў. Гэта, напрыклад, датычыць фразеалагічных адзінак *выламаць з калена, нагрэць язык на сэрцы, працерабіць зубы, чорт носіць, чым бог паслаў, як спіць да сцяны зубамі* і некаторых іншых. Сказанае, зразумела, ніяк не зніжае высокай вартасці і значнасці гэтага фразеалагічнага даведніка. Дый выдадзены ён высакаякасна і шыкоўна. І тыраж на сённяшні дзень немалы — 300 экзэмпляраў.

«Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны» Алеся Зайкі — важкі ўклад у беларускую народную фразеалогію і ў яе сістэматызацыю.

# ДАПАМАЖЫЦЕ МАГІЛЬНАМУ!..

Тэма прыватных калекцый і прыватных музеяў набывае і ў нашай краіне болей шырокую прастору. Па-рознаму, праўда, складваецца лёс цікавых, адметных збораў і лёс важкіх для развіцця ў грамадстве павагі да гістарычнай памяці прыватных музеяў. Класічнымі, досыць вядомымі прыкладамі ў гэтым плане з'яўляюцца калекцыя старых паштовак мінчаніна Уладзіміра Ліхадзедава і музей матэрыяльнай культуры «Дудуткі».

Калі гаварыць пра «Дудуткі», то, распачаўшыся з ініцыятывы пісьменніка Яўгена Будзінаса і яго сяброў Барыса Цітовіча, Сяргея Сергачова, Анатоля Федарука, калег па бізнесе ў «Паліфакце», яны перажылі розныя этапы развіцця. І гаспадароў мянялі, і розныя пажары ў прамым сэнсе слова вытрымалі… І сёння музей болей вядомы як яркі, у нечым брэндавы турыстычны аб'ект нашай краіны.

Філакартычная калекцыя Уладзіміра Ліхадзедава выдатна «раскручана» ў айчынных сродках масавай інфармацыі. Найперш — таму, што каля сямі гадоў газета «СБ. Беларусь сегодня» друкавала рэпрадукцыі паштовак менавіта з калекцыі Уладзіміра Аляксеевіча. Праведзены літаральна дзясяткі выставак — і арыгіналаў, і іх рэпрадукцый. У Мінску, Слуцку, Вілейцы, Полацку, Мар'інай Горцы, Магілёве, іншых гарадах краіны.

Іншы лёс у калекцыянера прадметаў беларускай даўніны мінчаніна Мікалая Магільнага. Хаця Магільны Мікалай Васільевіч — асоба ў коле калекцыянераў у Мінску, у Беларусі вядомая. «Пік» яго славы прыйшоўся на 70—80-я гады мінулага стагоддзя. Тады, праўда, далёка не ўсе і са спецыялістаў ведалі, што ўяўляе сабой яго прыватны збор. Кіраваліся ў размовах болей чуткамі. У тым ліку — і такімі, што, маўляў, ёсць у «калекцыі Магільнага» такія рарытэты, якіх ва ўсіх музеях БССР днём з агнём не знойдзеш.

А мы вырашылі даведацца пра калекцыі Мікалая Васільевіча і хаця б крышачку пра яго лёс, што называецца, з першых вуснаў. Ды і адразу папярэдзілі Магільнага: хацелі б пацікавіцца яго думкамі пра будучыню яго калекцый. Усё ж узрост у нашага героя далёка не юны… І, канечне ж, цяпер, як ніколі, паўстае пытанне пра заўтрашні дзень сабранага за дзесяцігоддзі захаплення гісторыяй роднай старонкі. Сапраўды, у калекцыяніраванне ўкладзены не толькі час і грошы, але ж — і душа, і сэрца.

Магільны — нашчадак грэчаскіх перасяленцаў ва Украіну. У Марыупалі і цяпер жывуць родзічы легендарнага мінскага калекцыянера. Перад самай вайной Мікалай закончыў ваеннае вучылішча. 22 чэрвеня 1941 года сустрэў у Паўднёвым гарадку побач з Брэсцкай крэпасцю. У час адступлення патрапіў у канцлагер на Жытоміршчыне. Пасля — уцёкі. Далейшы лёс у гады ваеннага ліхалецця звязаны з партызаншчынай. Быў камандзірам дыверсійных груп у Палескім партызанскім злучэнні. Пасля вайны — журналіст, спартыўны трэнер, загадчык кафедры ў адной з ВНУ, рэдактар на тэлебачанні. Напісаў некалькі кніг па гісторыі спорту і Алімпійскіх гульняў.

Зараз Мікалаю Васільевічу — даўно за дзевяноста… Але жывы розум, пачуццё гумару, энергічнасць, руха-

васць — гэта і сённяшнія яго спадарожнікі. А яшчэ дадайце аптымістычны настрой, цікавасць да падзей у свеце і краіне. З такім чалавекам цікава пагутарыць літаральна на любую тэму.

Калі ўваходзіш у мінскую кватэру Магільнага (а ёсць яшчэ і так званы хутар на памежжы Пухавіцкага і Мінскага раёнаў), складваецца ўражанне, што трапляеш у архіў ці ў бібліятэку альбо які-небудзь музей. Прадаўгаваты вузкі калідор застаўлены вузкімі стэлажамі са страдаўнімі кнігамі. Па словах Магільнага іх — звыш 400 асобнікаў. Поруч — сучасныя і ранейшых, блізкіх да нас дзесяцігоддзяў выданні па гісторыі, баявых мастацтвах, беларускай нацыянальнай культуры. Няцяжка заўважыць мноства папак, у якіх — ізноў жа па словах гаспадара — месяцца розныя матэрыялы па гісторыі партызанскага руху ў Беларусі. Асобна Мікалай Васільевіч вылучае сваю зацікаўленасць падпольным рухам у Брагінскім раёне. Ёсць і рукапісы нявыдадзеных кніг. У прыватнасці, рукапіс успамінаў яго, Магільнага, маці — дваранкі, выпускніцы Бястужаўскіх курсаў у Пецярбургу.

Дарэчы, і сам наш суразмоўца адзначыўся на «літаратурнай ніве». Яшчэ ў 1960-я гг., што называецца, «па свежых слядах», бліжэй да драматычных ваенных падзей, ім была напісана аповесць «Тугай». Пра тое, што адбывалася на паўднёвым усходзе Беларусі, на тэрыторыі сучаснай Гомельскай вобласці ў 1943 годзе. У савецкі час кнігу надрукаваць не атрымалася. Уважлівыя «цэнзары» адразу заўважылі: у творы не праглядаецца «генеральная лінія партыі». А яшчэ былі ў тэксце маласімпатычныя водгукі пра савецка-фінскую вайну, якую Саюз фактычна прайграў. Не стрымліваў сябе Магільны і ў выказваннях адносна розных складанасцей акупацыйнага жыцця. Ва ўсечаным выглядзе аповесць надрукаваў «Нёман». Пасля яна выйшла асобнай кнігай. І ўсё ж Магільны шкадуе: шмат што было выразана і страчана і ў гэтых выданнях.

Ды вернемся да апісання калекцыі… Уся яна знаходзіцца ў маленькай аднапакаёвай кватэры. Адчыніўшы дзверы, вы адразу трапляеце ў музей. Пад столлю быццам у палёце — дзівосныя мініяцюры з саломы, ільну, лазы работы рук Таццяны Кізеевай: павукі, птушкі, арнаментальныя ўпрыгожванні, а таксама сплеценыя з бяросты кошыкі, вярэнькі, скарбонкі. Побач — гліняныя і металічныя гладышы, чаркі, кубкі. Куда ні кінеш вокам — усюды паліцы і палічкі з экспанатамі. Невядома, дзе тут і гаспадару прыткнуцца. Дзе яму хаця б на ноч прытулак знайсці? Адказ прыходзіць, калі позірк выхоплівае тапчан Мікалая Васільевіча, адгароджаны сценкай ад пакоя, які ў звычайнай кватэры быў бы залай.

Гаспадар выцягвае тоўсты і, па ўсім відаць, вельмі цяжкі альбом. А што гэта? Высвятляецца, што ў альбоме — галоўны гонар калекцыянера: збор металапластыкі з бронзы і латуні. Абразкі, паходныя складні, крыжыкі-энкалпіёны, нацельныя крыжыкі, пачынаючы з самага старажытнага агатавага грэцкага машчавіка X стагоддзя, унутры якога размяшчаліся часткі святых мошчаў.

Ужо нават па гэтым пераказе нехта заўважыць: «Проста набор рэчаў…» Не пагодзімся. Гаспадар сістэмна ўпарадкаваў сваю калекцыю. Рукапісны том у шэсцьсот з нечым старонак дробнага тэксту — і ёсць апісанне збораў. Знаходкі, набыткі не толькі апісаны, каталагізіраваны, але і класіфікаваны.

Сёе-тое засталося і для нас таямніцай калекцыі Магільнага. Нам не давялося зазірнуць у страдаўнія куфры, дзе, па словах гаспадара, сярод іншых ткацкіх вырабаў захоўваюцца два арнаты XVIII — XIX стагоддзяў: урачыстая царкоўная вопратка з нашытымі фрагментамі слуцкіх паясоў.

Мы наўмысна не распытваем калекцыянера пра яго ўласныя падлікі, колькі каштуе той ці іншы прадмет. Ды і, мяркуем, Магільны досыць рэдка сам пра гэта думае. За кожнай знаходкай — не толькі яго прыватны пошук, а і жаданне сістэмна прадставіць беларускую матэрыяльную культуру, дапамагчы праз сабранае паказаць, чым, якімі перакананнямі жылі нашы прашчуры,

што адбывалася ў мінулыя стагоддзі на нашай зямлі, у нашым краі.

Прасы, бязмены, абразы, куфры і чамаданы з ткацкімі вырабамі, старадаўні кухонны посуд… «Гэтыя прадметы наўрад ці прадасі на аўкцыёне «Сотбіс», — чуюцца чыесьці сумніўныя развагі. — Дык у чым у такім разе соль калекцыі Магільнага?..» Вось што на гэты конт адказвае сам Мікалай Васільевіч: «Мае зборы прадстаўляюць у асноўным карціну жыцця беларусаў апошніх двух стагоддзяў. Прадстаўляюць, між іншым, дастаткова шырока і шматпланава…» І мы пацвярджаем: калекцыяй такога масштабу, як у Магільнага, маглі б ганарыцца музеі ў Строчыцах і ў Дудутках ці, дакладней, — музей «Дудуткі» ў ваколіцах старажытнай вёскі Дудзічы, на Пухавіччыне. Зараз модным стала павесіць на лецішчы на сцяне дома кола ад вазка, паставіць старыя кросны ці павесіць на плот пару-тройку гліняных жбаноў. Аднак, у адрозненне ад «поп-культуры», калекцыя Магільнага — гатовы, сфарміраваны музей, які сваім насычэннем мог бы прыцягнуць увагу многіх людзей, улюбёных у сваю краіну, людзей, якія жадаюць адкрыць нешта новае і дагэтуль невядомае. Праз знаёмства са зборамі Магільнага можна зазірнуць у тыя часіны, якія мы можам толькі ўяўляць.

…Калекцыянерскі шлях Мікалая Васільевіча быў досыць няпростым. Напрыканцы 1970-х адна з беларускіх рэспубліканскіх газет надрукавала артыкул «Спыніце Магільнага!». Гэта была не проста лыжка дзёгцю, а — сапраўднае абвінавачванне. У віну калекцыянеру ставіліся падман простых грамадзян, у якіх ён, маўляў, зусім за капейкі скупляе рарытэты. І такі артыкул быў не адзінай хмаркай у лёсе збіральніка даўніны. Не будзем унікаць у іх падрабязнасці. Калекцыянеры — людзі асаблівыя. Іх памкненні звычайны чалавек часцей успрымае за здзірства. Тое, што мала прыцягвае абываценя, падаецца малапатрэбным у звычайным побыце (старыя манеты, паштовыя маркі, гаршкі, жбаны і іншыя артэ-факты) — для калекцыянера з'яўляецца прадметам спалення яго страсці. Недарэмна некаторыя людзі лічаць, што калекцыяніраванне не што іншае, як лёгкае псіхічнае захворванне. З другога боку, калі б не прыватныя калекцыянеры, каб не іх «хвароба», то хто сфарміраваў бы аснову калекцыі Нацыянальнага музея Польшчы ў Кракаве (нагадаем: гэта быў наш суродзіч Карл Чапскі са Станькава)? Хто паклаў бы пачатак Нумізматычнаму кабінету ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, аддаўшы туды ўласную калекцыю манет (а гэта ж быў калекцыянер і вучоны, выдатны прапагандыст, гісторык нумізматыкі Віктар Рабцэвіч)? Прыкладаў такіх нямала.

— Маё калекцыяніраванне, — дзеліцца сваімі развагамі Мікалай Васільевіч, — некалі вырасла з эмацыйнага штуршка. З 1942 года я партызаніў у трохкутніку Прыпяць — Днепр — Сож, уважліва назіраў за побытам палешукоў, людзей, якія жылі сярод балот. Людзей, якіх мала закранулі нашэсці чужаземцаў. Думаю, што якраз там захавалася «чыстая славянская раса». І чым болей назіраў за палешукамі — тым болей мяне захапляла іх культура, душэўная чысціня. Я па сённяшні дзень удзячны, да апошняй хвіліны жыцця буду ўдзячны той жанчыне-паляшуччы, якая зацягнула мяне, параненага, з перабітай нагой, у хату, схавала на печы, накрыла льном (у вёсцы стаяў нямецкі гарнізон). Яна не магла не разумець, што яе чакае, калі немцы знойдуць чырвонага камандзіра, які ўцёк з лагера. Хіба такая рыса, што сведчыць пра адвечнае жаданне беларусаў дапамагаць сваім братам, сёстрам у крытычнай сітуацыі, не гаворыць пра веліч нашага народа?!. І мне, калі прыехаў у Мінск у ліпені 1944 года, захацелася нечым аддзячыць людзям, нейкім чынам захаваць фрагменты ўбачанага і асэнсаванага мною народнага жыцця. А яшчэ ж тады, у першыя пасляваенныя гады, людзі, якія выжылі, шмат што выкідвалі, яны імкнуліся пазбавіцца ад старога, тым самым пазбавіцца ад жахаў блізкага ўчора. І гэта таксама было нейкім лейтматывам да збіральніцтва…

Мікалай Васільевіч частуе нас гарбатай. І мы, і ён на хвіліну замаўкаем. Магільны расказаў пра сына, які загінуў у 1960-я, у час службы на флоце. Болей прамых спадчыннікаў у калекцыянера няма. Як складзецца з часам лёс калекцыі Магільнага?.. Збіральнік даўно заклапочаны гэтым. Частку эксапанатаў перадаў у музеі Строчыц, Навагрудка, Гродна, Вязынкі… Кнігі гатовы аддаць у Нацыянальную бібліятэку…Спрабуе весці перамовы з іншымі музейшчыкамі і чыноўнікамі ад культуры. Праўда, гарачай зацікаўленасці да прыватнага музея Мікалая Магільнага нешта не заўважна. І дарэмна. Калекцыя мінскага збіральніка магла б прыцягваць увагу многіх і многіх цікаўных да гісторыі людзей. Мо ўсё ж яшчэ прыйдзе час, калі лёсам збораў Магільнага заапякуецца якая з дзяржаўных інстытуцый?..

…Недзе ў сярэдзіне 1990-х актыўна вяліся размовы пра набыццё збораў М. Магільнага Дзяржаўным камітэтам па архівах і справаводстве. У прыватнасці, здаецца, не называючы прозвішча калекцыянера, гаварыў пра гэта са старонак газеты «Звязда» і старшыня ведамства Аляксандр Міхальчанка. Нават сума называлася, за якую дзяржава гатовая была набыць калекцыю ў яе гаспадара. Калі не памыляемся: кошт калекцыі быў вызначаны ў мільён долараў... Сёння ўжо і забыліся на тыя намкненні — і адпаведныя чыноўнікі, і сам Мікалай Васільевіч… А пытанне лёсу, упарадкавання збораў з разлікам на далейшае іх існаванне ў цэласным фармаце застаецца, на вялікі жаль, адкрытым. Не праводзячы ніякіх паралеляў, узгадаем, як склалася сітуацыя, напрыклад, з бібліятэкай сібірскага прадпрымальніка і кнігалюба Юдзіна ў пачатку XX стагоддзя. За гады свайго жыцця Генадзь Васільевіч сабраў унікальную бібліятэку. У 1905 годзе яна складала болей як 81 тысячу тамоў. Здаецца, там было ўсё, пачынаючы ад першага выдання «Слова пра паход Ігаравы»… Штогод сібірскі бібліяфіл выпісваў каля 100 перыядычных выданняў. А калі сітуацыя ў Юдзіна склалася так, што яму спатрэбіліся грошы, то расійскі ўрад не змог набыць бібліятэку. І ў выніку гаспадарамі ўнікальнага кніжнага збору сталі амерыканцы. Цяпер бібліятэка Юдзіна — аснова, сэрца Славянскага аддзела Бібліятэкі Кангрэса ЗША. Няма ніякіх сумненняў, што продаж кнігазбору Юдзіна — незваротная страта для расійскай культуры. Псіхалогія ў амерыканцаў ранейшая: «Не патрэбна вам, мы забяром сабе. Пасля яшчэ і будзеце прасіць пакарыстацца…» І гэта датычыцца не толькі кніг сібірскага бібліяфіла…

Зварот да прыкладу Магільнага падштурхоўвае да многіх разваг. Найперш — пра тое, што пра прыватныя калекцыі трэба часцей расказваць у друку. Іх апісанне, наданне ім грамадскай увагі — гэта першы крок да ўзвышэння статуснасці прыватнага збіральніцтва. Магчыма, добра было б часцей пісаць пра такія прыклады «прыватнай» увагі да гістарычнай памяці народа не толькі ў «Краязнаўчай газеце», але і на старонках масавых выданняў. Гэта важна яшчэ і дзеля таго, каб развіваць зацікаўленні людзей збіральніцтвам памятак пра наш край, пра наш народ на розных гістарычных этапах. Несумненна, патрэбна і адпаведная каталагізацыя прыватных калекцый. Можа быць, першым крокам у гэтым накірунку мог бы стаць і сістэмны выпуск альманаха «Калекцыянер»?..

***Максім ЗАЗЕРКА,***
***Уладзімір ЗЯНЬКОВІЧ***

Іван САРАКАВІК

# ЯКУБ КОЛАС САМ ПРА СЯБЕ

Падчас працы ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь я нечакана натрапіў на некалькі анкет супрацоўнікаў Беларускай Акадэміі Навук. Сярод спраў аддзела школ і навукі ЦК КПБ за сакавік 1934 — чэрвень 1936 гг. знайшлася і анкета Якуба Коласа.

Каб лепш зразумець і асэнсаваць асабістыя адказы Якуба Коласа на 33 пастаўленыя пытанні, неабходна акунуцца ў грамадска-палітычнае жыццё канца 1920-х — пачатку 1930-х гг. Гэта быў вельмі складаны перыяд у жыцці як СССР, так і Беларусі.

Па-першае, было скончана з новай эканамічнай палітыкай і ўведзена пяцігадовае дзяржаўнае планаванне на аснове ажыццяўлення індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, стварэння сацыялістычнай уласнасці. Паколькі свядомасць вяскоўцаў не была падрыхтавана да рэзкай ломкі ўкладу жыцця, які панаваў на вёсцы амаль два тысячагоддзі, то, безумоўна, яны, як маглі, супраціўляліся новаму парадку. Аднак дзяржава і яе праваахоўны апарат зламалі гэты супраціў, накіраваўшы на пасяленне 250 тысяч беларускіх сялян, і па сутнасці знішчылі вёску, дзе не засталося сапраўдных гаспадароў.

Па-другое, была згорнута беларусізацыя, на інтэлігенцыю абрынуліся абвінавачванні ў нацыянал-дэмакратызме, людзей прыцягвалі да адказнасці па сфабрыкаваных справах, самай гучнай з якіх стала справа «нацдэмаўскай кантррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі». Пад ціскам абставін здзяйсняе самагубства Усевалад Ігнатоўскі, робіць замах на жыццё Янка Купала.

Па-трэцяе, у 1932 годзе пакончыла з сабою жонка Сталіна Надзея Алілуева. З гэтага часу, як адзначаюць усе даследчыкі, рэзка ўзрасла падазронасць Генеральнага сакратара ЦК ВКП(б) нават да сваіх калег па вышэйшым кіраўніцтве партыі. У 1934 годзе быў забіты Сяргей Кіраў. На XVII з’ездзе ВКП(б) пры выбарах у новы склад ЦК ён атрымаў менш за ўсіх (нават у параўнанні са Сталіным) галасоў «супраць». І гэта не магло не ўстрывожыць Генеральнага сакратара ЦК ВКП(б)…

Па-чацвёртае, у Германіі да ўлады прыйшоў Гітлер. Еўропа пачала жыць у прадчуванні вайны. У шмат якіх дзяржавах свету ўсталяваліся аўтарытарныя рэжымы.

Гэтыя фактары паспрыялі развязванню масавых рэпрэсій у СССР, ад якіх пацярпела і інтэлігенцыя, і сталі складнікам тых умоў, у якіх і былі дадзены адказы «Анкеты для запаўнення навуковымі працаўнікамі БССР». Якуб Колас занатаваў наступнае:

*«1. Прозвішча, імя, імя па бацьку — Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч (Якуб Колас).*

*2. Месца і год нараджэння — Заходняя Беларусь. 1882 г.*

*3. Сямейнае становішча — сямейны.*

*4. ацыяльнае паходжанне — сын сялян-земляробаў.*

*5. Нацыянальнасць — беларус.*

*6. У Грамадзянскай вайне, партызанскім руху і чырвонагвардзейскіх атрадах не ўдзельнічаў.*

*7 Партыйнасць — непартыйны.*

*8. Асвета — сярэдняя. Скончыў Настаўніцкую семінарыю ў Несвіжы.*

*9. Спецыяльнасць — літаратар, пісьменнік.*

*10. Якія замежныя мовы ведаеце — не ведаю.*

*11. Стаж работы ў навукова-даследчых установах і ВНУ — быў членам Інбелкульта, з 1929 г. акадэмік.*

*12. З якога часу ў якасці навуковага працаўніка працуеце ў Беларусі — з 1921 г. быў выкладчыкам у Белпедтэхнікуме.*

*13. У якіх навукова-даследчых установах і ВНУ працавалі, які час і дзе — у Беларускай Акадэміі Навук з часу яе заснавання.*

*14. Ваша навуковая кваліфікацыя — акадэмік.*

*15. Якія прадметы выкладалі ў ВНУ за ўвесь час Вашай навуковай дзейнасці — з 1925—1926 г. выкладаў белмову ў універсітэце.*

*16. У якім ВНУ і навукова-даследчых установах працуеце зараз і ў якасці каго — не працую.*

*17. Якія маеце друкаваныя працы — у галіне пісьменніцкай работы маю надрукаваныя творы — вершы, паэмы, аповесці і інш.*

*18. Над якой тэматыкай Вы працуеце зараз — мастацкія творы.*

*19. Якая навуковая праца выканана Вамі ў працягу першай пяцігодкі — напісаны аповесці — Адшчапенец, Дрыгва, дробныя вершы, паэма.*

*20. Ці маеце Вы навуковыя адкрыцці і вынаходніцтвы — не маю.*

*21. Над якімі праблемамі будзеце працаваць у другую пяцігодку — адбіццё соц. будаўніцтва ў мастацкіх творах.*

*22. У якіх часопісах Вы стала супрацоўнічаеце — Полымя Рэвалюцыі.*

*23. У якіх навуковых таварыствах састаіце, ці з'яўляецеся Вы членам СНР, КСУ і ІТС* (падкрэслена Я. Коласам. — **І. С.**).

*24. Ці маеце Вы пачэснае званне, узнагароды і за што — маю званне народнага паэта БССР.*

*25. З якімі ўстановамі (БССР, СССР і замежнымі) маеце пастаянную сувязь і ў чым яна выражаецца — з літарганізацыямі СССР.*

*26. Якую маеце сумяшчальнасць у працы — не маю.*

*27. Ваша нагрузка агульная і ў паасобных навуковых установах і ВНУ — працую выключна ў Акадэміі.*

*28. Ваш агульны заробак (уключаючы сюды ўсе крыніцы) — 1 200 р.*

*29. Грамадская нагрузка (пералічыць) — Член прэзідыума ЦК Чырвонага Крыжа, член праўлення дому вучоных.*

*30. Колькі гадзін у дзень Вы непасрэдна ўдзяляеце навуковай працы — Часта навуковаю працаю не займаюся — працую ў галіне маст. літаратуры.*

*31. Ці задавальняе Вас выконваемая зараз праца — задавальняе.*

*32. Дзе-б Вы жадалі працаваць і ў якасці каго — у якасці пісьменніка, застаючыся на той жа пасадзе.*

*33. Што шкодзіць Вашай навуковай працы (адказ не напісаны).*

*20.ІІІ.1934 г.*

*Подпіс К. Міцкевіч — Я. Колас»*

[Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. — Ф. 4п. — Воп. 1. — Спр. 7479. — Арк. 23, 23а].

Як бачна з адказаў, якія пададзены так, як былі напісаны самім аўтарам, яны лаканічныя, па некаторых пытаннях — занадта тыповыя. Не палітызаваныя і не ідэалагізаваныя. Ва ўсім адчуваецца подых часу і асцярожнасць у выказваннях беларуса-заходніка. Не проста так ён адзначыў, напрыклад, што нарадзіўся ў Заходняй Беларусі, а не канкрэтна ў Мікалаеўшчыне на Стаўбцоўшчыне. Лепш напісаць агульна, а не канкрэтна, каб, на ўсякі выпадак, не пашкодзіць родзічам, якія там засталіся, і г.д.

Анкета Якуба Коласа — яшчэ адзін дакумент той складанай эпохі.

# ЛІПЕНЬ

**Ліпеньскі** нумар **1947 года** часопіс «Полымя» адкрыў рэдакцыйным артыкулам «Да новых творчых поспехаў», прысвечаным прысуджэнню Сталінскіх прэмій за 1946 год. Нагода для з'яўлення артыкула аказалася досыць важкая: тагачасны галоўны рэдактар «Полымя» Пятрусь Броўка толькі што (пастанова Савета Міністраў СССР была апублікавана ў газеце «Известия» 7 чэрвеня) атрымаў Сталінскую прэмію II ступені за паэмы «Хлеб», «Думы пра Маскву» і шэраг вершаў. Цікава, што ў зборах твораў



Петруся Броўкі паэмы «Думы пра Маскву» няма, але ёсць верш з аднайменнай назвай, які ўпершыню быў надрукаваны ў № 7 часопіса «Полымя» за 1946 год. Па ўсім відаць, аўтар сам быў не дужа задаволены якасцю верша/паэмы, бо двойчы істотна правіў і скарачаў яго: спачатку для зборніка «У роднай хаце» (1946), пазней — для першага тома Збору твораў, які пабачыў свет у 1957 годзе. Пазнейшыя праўкі былі звязаны і з палітычнымі зменамі ў краіне: як вядома, пасля XX з'езда КПСС імя Сталіна з твораў мастацкай літаратуры пачало паступова выкрэсліваацца. Так, напрыклад, у «Думах пра Маскву» першапачатковы радок «З намі Сталін і наша Масква» быў заменены на «Слаўся, наша сталіца Масква». Але чаму ў пастанове Савета Міністраў СССР «Думы» названы паэмай? Хутчэй за ўсё, прычына ў «важнасці моманту»: усё ж слова «паэма» ў дадзеным кантэксце, калі мець на ўвазе вылучэнне на Сталінскую прэмію, гучыць больш важка.

Асобнай увагі заслугоўвае паэма «Хлеб», прысвечаная тэме пасляваеннага аднаўлення беларускай сельскай гаспадаркі. Трэба сказаць, што тагачасная крытыка яе ацаніла вельмі высока. Напрыклад, Янка Шарахоўскі ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» за 23 лістапада 1946 года прызнаваўся, што паэма нагадвае яму паэму Янкі Купалы «Яна і я». А ў газеце «Звязда» за 8 чэрвеня 1947 года Анатоль Вялюгін і Георгій Шчарбатаў параўноўвалі «Хлеб» ужо з паэмай «Адвечная песня» ўсё таго ж Купалы. Цікава, што да гэтай тэмы Броўка

звяртаўся яшчэ ў сваіх творах ваеннага часу (можна прыгадаць хоць бы яго верш «Будзем сеяць, беларусы!», напісаны, між іншым, у 1942 годзе), аднак для першых пасляваенных гадоў, відавочна, яна аказалася асабліва актуальнай і блізкай чытачу. Тым больш, што разам з пафаснымі радкамі пра стваральную працу аўтар увёў у паэму і глыбока лірычную лінію, на якую была звернута ўвага ў палымянскім рэдакцыйным артыкуле, дзе адзначалася, што «ў паэме «Хлеб» П. Броўка выдатна перадаў радасць ад звернутай і здабытай у бітвах працы, паказаў, як у працы нараджаецца і выспявае крыштальна чыстае каханне, як народжанае, яно дапамагае савецкаму чалавеку жыць і працаваць».

Сума Сталінскай прэміі па літаратуры І ступені складала 100 000 рублёў, ІІ ступені — 50 000 рублёў (пасля з'явілася і ІІІ ступень, якая ў грашовым эквіваленце раўнялася 25 000 рублёў). Каб сённяшняму чытачу ўявіць яе значнасць, можна прывесці такі прыклад: на той час новенькі аўтамабіль «Москвич-410» каштаваў 9 000 рублёў.

Праўда, лаўрэатаў 1947 года чакаў непрыемны сюрпрыз: у снежні ў СССР была абвешчана грашовая рэформа, і ўсе накапленні грамадзян абменьваліся па курсе 10 да 1. Праўда, калі грошы ляжалі на ашчаднай кніжцы, то па такім курсе абмен адбываўся толькі да 3 000 рублёў. Уклады ад 3 000 да 10 000 гублялі 30 працэнтаў ад сумы, якая вымалася дзяржавай, а ўклады ад 10 000 і больш — гублялі аж 60 працэнтаў.

Пастанова аб заснаванні прэміі імя Сталіна па літаратуры (так яна першапачаткова называлася) была прынята Саветам Народных Камісараў СССР 1 лютага 1940 года. Апошні раз імёны яе лаўрэатаў абвясцілі ў 1952 годзе. А ў 1966 годзе пастановай ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР была заснавана Дзяржаўная прэмія СССР, да якой прыраўнялі Сталінскую, таму дыплом і знак лаўрэата Сталінскай прэміі дазвалялася замяніць на дыплом і ганаровы знак лаўрэата Дзяржпрэміі.




* * *

У **ліпені 1955 года** на старонках «Полымя» адбыўся літаратурны дэбют Уладзіміра Караткевіча. Часопіс надрукаваў яго верш «Машэка». У кнізе «Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча» Адам Мальдзіс узгадваў: «Непісьменным» Валодзя сябе не памятаў. Рыфмаваць, дзеля забавы, пачаў яшчэ ў дзяцінстве. Першы верш напісаў дзесьці год у чатырнаццаць («але гэта было яшчэ дзеля смеху»). Сур'ёзна заняўся паэзіяй пасля ўніверсітэта, калі працаваў настаўнікам у Таращчы ва Украіне, а потым у Оршы. З Оршы паслаў некалькі вершаў сябру (здаецца, Валянціну Краўцу, потым выкладчыку політэхнічнага інстытута) у Мінск, а той, без ведама аўтара, аднёс іх у «Полымя». Такім чынам у 1955 годзе пабачыў свет «Машэка» Уладзіміра Караткевіча.

Гэта былі гады «адлігі», калі пісьменнікі ў сваіх творах пачалі пашыраць рамкі дазволенага — як у змесце, так і ў форме. І «Машэка» Караткевіча якраз упісваўся ў гэты працэс. Акрылены публікацыяй, малады аўтар пасылае новыя вершы ў розныя выданні, у тым




ліку, па-зямляцку, у аршанскую газету «Ленінскі прызыў».

«Вядома, былі там і слабаватыя вершы, — пераказваў словы Уладзіміра Сямёнавіча Адам Мальдзіс. — Але мне папала за іншае — за безнадзейнасць, чорную меланхолію, захапленне гісторыяй. Адным словам — за безыдэйнасць. Супрацоўнік рэдакцыі Высоцкі напісаў (мусіць, яму «падказалі») супраць мяне разносны артыкул «Не ў нагу з жыццём». Гэта ён — у нагу, заўсёды ў нагу, паводле загада, як былы вайсковец, а я — не… Найбольш лаяў ён верш «Вадарод» — нібы я прадракаю там пагібель нашай краіны. А я ж толькі хацеў папярэдзіць: атам — магутная, карысная, але і небяспечная сіла».

Верш «Вадарод» сярод іншых быў надрукаваны ў **ліпеньскім** нумары «Полымя» за **1957 год**:

*Бы сарваўся вар'ят утрапёны і злосны:*
*Прах старых гарадоў дасягае нябёс,*
*З дзіркай у чэрапе гінуць дваццатыя вёсны,*
*Плывуць горкія рэкі жаночых слёз.*

Цікава, што б сказаў сёння нехта Высоцкі пра гэты верш?

У 1957 годзе Уладзімір Караткевіч быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, а яго дэбютная кніга «Матчына душа» выйшла ў наступным, 1958-м. Выпадак — уступленне ў СП па публікацыях у перыёдыцы — па тым часе выключны.

* * *

«Полымя» **№ 7**, **1960 год**. У гэтым нумары змешчана рэцэнзія «Творчыя заваёвы і страты» Івана Кудраўцава на першую кнігу Васіля Быкава «Жураўліны крык», у якую ўвайшлі аднайменная аповесць і дзевятнаццаць апавяданняў. Пачынаецца рэцэнзія доўгім подступам да быкаўскай прозы: «*Крытыкі шмат гавораць аб неабходнасці для кожнага пісьменніка ўласнага літаратурнага шляху, свайго почырку, свайго голасу», «Літаратурная праца — праца складаная, цяжкая, вынікі яе залежаць ад многага, і ў першую чаргу — ад таленту чалавека, яго літаратурных здольнасцей», «Талент — з'ява рэдкая, і яна патрабуе да сябе чулага, разумнага стаўлення», «Вобмацкам ісці заўсёды цяжка. Без арыенціраў лёгка збіцца з дарогі»*. Пасля гэтых разваг рэцэнзент нарэшце звяртае сваю ўвагу на кнігу Быкава, у якой лепшымі прызнае чатыры творы: апавяданні «Незагойная рана», «У ліхую часіну», «На сцяжыне жыцця» і «Смерць чалавека». Астатнім, на думку І. Кудраўцава, бракуе жывых характараў ды псіхалагічнага матывавання ўчынкаў і паводзін герояў. У дачыненні да аповесці «Жураўліны крык» рэцэнзент прызнае, што яна «хвалюе праўдзівасцю перадачы атмасферы вайны, праўдзівасцю дэталей салдацкага баявога побыту». Аднак тут жа адзначае і, на яго думку, істотны недахоп «Жураўлінага крыку»: «Недахоп гэты — манера азнаямлення чытача з дзеючымі асобамі твора.

Беручы пэўнага героя, аўтар расказвае яго біяграфію, яго жыццёвы шлях, раскрывае яго характар. Потым пераходзіць да наступнага і робіць тое ж самае. І так — у дачыненні да ўсіх шасці чалавек, якія дзейнічаюць у аповесці… Калі гэта паўтараецца зноў і зноў, калі аўтар, як на якім-небудзь прыёме, прадстаўляе чытачу па чарзе

кожнага са сваіх герояў, у чытача ўзнікае адчуванне аднастайнасці».

Пазней Дзмітрый Бугаёў назаве Івана Кудраўцава «лёгкага ў такіх справах на падхват крытыка», маючы на ўвазе яго разносныя рэцэнзіі. Але ў дадзеным выпадку звяртаюць на сябе ўвагу не столькі папрокі Быкаву, звязаныя з кампазіцыяй «Жураўлінага крыку» альбо выпісваннем характараў, колькі вось гэтая заўвага І. Кудраўцава (які сам, дарэчы, прайшоў праз вайну, ваяваў на Заходнім, Варонежскім, 1-і і 2-м Прыбалтыйскім і Ленінградскім франтах): «*У дзесяці з адзінаццаці змешчаных у зборніку апавяданняў на ваенную тэму героі гінуць. Смерць як бы стаіць у цэнтры ўвагі аўтара. Чытаеш сёмае, восьмае, дзясятае апавяданне і... чакаеш, што хто-небудзь з асноўных герояў загіне. Ведаючы, што гэта абавязкова здарыцца, што гэта зрабілася нейкай «манерай» пісьменніка, міжволі перастаеш хвалявацца за лёс герояў...*

*Ці патрэбна гэта дакучнае нанізванне смерці на смерць? Ці толькі праз смерць можна паказваць гераізм людзей, іх самаахвярнасць, цяжкасці барацьбы, нашу нялёгкую перамогу*».

У гэтых радках яшчэ адчувалася нейкая разгубленасць перад быкаўскай «акопнай праўдай». Але разгубленасць хутка прайшла.

Зрэшты, пазней аповесць «Жураўліны крык» увайшла ў школьныя праграмы па беларускай літаратуры.

* * *

У **ліпеньскім** нумары за **1965 год** на апошняй старонцы вокладкі «Полымя» надрукавала кароткую рэкламу: «*Дарагія таварышы! У бліжэйшых нумарах нашага часопіса чытайце: новыя вершы Петруся Броўкі, працяг рамана Івана Мележа «Навальніца над полем». Падпісвайцеся на наш часопіс*».

Калі ўлічыць, што тады мастацкую літаратуру чыталі куды ахвотней, чым сёння, а Мележ ужо праславіўся «Людзьмі на балоце» (які, праўда, «Полымя» чамусьці надрукавала ў скарочаным варыянце), можна было спадзявацца, што гэты анонс дадасць выданню чытачоў. Супадзенне ці не, але, і праўда, калі № 7 выйшаў тыражом 5 176 экзэмпляраў, № 8 — 5 792 экзэмпляры, то № 9, у якім і пачала друкавацца другая частка рамана, меў тыраж 5 880 экзэмпляраў.

Праўда, сучасны чытач, які больш-менш знаёмы з прозай Мележа, можа здзівіцца: твора з такой назвай у пісьменніка няма! Разгадку лёгка знайсці ў тым жа вераснёўскім нумары «Полымя» за 1965 год: там раман ужо называецца «Подых навальніцы», а ў зносцы пазначана: «Першая частка кнігі пад назвай «Навальніца над полем» друкавалася ў «Полымі» № 1 і 2 за 1964 год». Назвы для сваіх раманаў Мележ выбіраў доўга і пакутліва: «Навальніца ў полі», «Навальніца над стрэхамі», «Гарачая мяцеліца», «Мяцеліца ў полі»... «Людзі на балоце» маглі стаць «Людзьмі ў полі», «Людзьмі на раздарожжы», «Людзьмі і дарогамі», «Туманамі над багнаю»... А ўся трылогія магла называцца, напрыклад, «Куды ідуць дарогі».

Увогуле, Мележ адносіўся да тых пісьменнікаў, для якіх творчасць, хоць і шчаслівая, але пакута: зноў і зноў перакрэсліваў напісанае, рваў на шматкі гатовыя старонкі.

Калі ў бібліятэчных архівах адшукаць газету «Калгасная праўда» (пазней — «Сельская газета») за 18 лютага 1959 года, то ў ёй можна прачытаць урывак пад назвай «Дадому» з распачатага твора Івана Мележа, а побач — рэдакцыйную ўрэзку, у якой пісалася: «Цяпер Іван Мележ працуе над новым вялікім раманам «Час спадзяванняў», дзеянне якога адбываецца ў перадваенныя гады на Палессі. Гэта раман аб тым, як у гады Савецкай улады расло, пераўтваралася Палессе, як раслі, мяняліся людзі, гаспадары свайго лёсу». Згаданы ўрывак пазней зрабіўся самастойным апавяданнем, раман пад назвай «Час спадзяванняў» так і не з'явіўся: задума напісаць вялікі твор пра роднае Палессе абрастала ўсё новымі ідэямі, новымі героямі, расцякалася, як рака ў паводку, убіраючы ў сябе ўсё больш гістарычны перыяд, і нарэшце стала трылогіяй, якая прынесла аўтару ўсе-

саюзную вядомасць, званне лаўрэата Ленінскай прэміі і народнага пісьменніка Беларусі, і не страціла сваёй прыцягальнасці па сённяшні дзень. І можа быць, не апошнюю ролю ва ўсім гэтым сыграла пастаянная аўтарская «пакутлівая няўпэўненасць у тым, што рэч задумана добра, найлепшым чынам» (так прызнаваўся Мележ у сваёй кнізе «Жыццёвыя клопаты»). Як адбівалася гэтая «пакутлівая няўпэўненасць» на працы, можна пераканацца, параўнаўшы палымянскія тэксты з кніжнымі варыянтамі раманаў: разыходжанні ў іх даволі істотныя.

* * *

У рубрыцы «Хроніка» «Полымя» за **ліпень 1966 года** паведамляла: «12, 13, 14 мая ў Мінску ў Палацы культуры прафсаюзаў праходзіў V з'езд пісьменнікаў Савецкай Беларусі». І толькі «*ў другой палове трэцяга дня работы з'езда спыніліся спрэчкі і пісьменнікі вырашылі арганізацыйныя пытанні*». Сённяшняй творчай моладзі такая «бяседа», пэўна, падасца неапраўдана зацягнутай, а вось пісьменнікі старэйшага пакалення маглі б згадаць пра яе (дый увогуле пра той перыяд літаратурнага жыцця) шмат цікавага і прыемнага для сябе. Але, на жаль, распытаць застаецца ўсё менш у каго: з доўгага спісу (63 імёны) сяброў праўлення Саюза пісьменнікаў, абранага V з'ездам, у жывых сёння засталіся толькі шасцёра.

* * *

Калі глядзіш на вокладкі архіўнага «Полымя», на якіх змешчаны кароткія звесткі пра новыя кнігі беларускіх выдавецтваў, больш за ўсё ўражваюць тагачасныя тыражы. Так, напрыклад, з **№ 7** за **1972 год** можна даведацца, што ў выдаветве «Беларусь» выйшлі: аповесць Міхася Зарэмбы «Загадка без адгадкі» (14 000 экз.), раман «Крыніцы» Івана Шамякіна ў перакладзе на рускую мову (100 000 экз.), у серыі «Першая кніга паэта» зборнік вершаў Міколы Вяршыніна «Без віны вінаватыя» (3 500 экз.).

Хтосьці можа сказаць: не ўсё, што выдавалася, раскуплялася, прынамсі, і тады не дужа цікавіліся паэзіяй.

Але вось чытаем у тым жа нумары «Полымя»: «*Тысячы аматараў мастацкага чытання ўдзельнічалі ў конкурсе чытальнікаў на лепшае выкананне твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, які быў абвешчаны прэзідыумам Савета прафсаюзаў Беларусі і Міністэрствам культуры БССР. Першыя творчыя спаборніцтвы адбыліся на сцэнах сельскіх, калгасных і прафсаюзных клубаў і дамоў культуры, потым — на раённых і абласных аглядах. Пераможцы абласных аглядаў-конкурсаў дэманстравалі сваё майстэрства ў Мінску, на трэцім, рэспубліканскім туры. На гэтым хвалюючым канцэрце, які адкрыў паэт Максім Лужанін, ацэнку майстэрства чытальнікаў давала не толькі Рэспубліканскае журы на чале з заслужаным артыстам рэспублікі Ільёй Курганам, але і шматлікія слухачы, што запоўнілі залу Палаца культуры прафсаюзаў...*

*Уручэнне прызоў дэманстравалася па Беларускім тэлебачанні. Пераможцы Рэспубліканскага агляду-конкурсу выступілі перад гледачамі з чытаннем сваіх твораў*».

Дарэчы, кніга Міколы Вяршыніна стала апошняй, што выйшла ў гэтай серыі ў выдавецтве «Беларусь». У сакавіку 1972 года на базе яго рэдакцый мастацкай і дзіцячай літаратуры было створана выдавецтва «Мастацкая літаратура», якое прадоўжыла серыю, неўзабаве змяніўшы яе фармат і павялічыўшы аб'ём.

***Архіўныя нумары «Полымя» гартаў Алесь МАЛІНОЎСКІ.***

АКЦЫЯ ЧАСОПІСА «ПОЛЫМЯ»

## ТОП ДЗЕСЯЦІ ЛЮБІМЫХ ТВОРАЎ БЕЛАРУСКАЙ КЛАСІКІ

**Часопіс «Полымя» распачаў акцыю «Топ-10 любімых твораў беларускай класікі». Рэдакцыя прапануе запоўніць анкету, назваўшы дзесяць сваіх самых любімых твораў дзесяці айчынных класікаў ХХ ст.,— сем імёнаў прапануе рэдакцыя, тры можна ўпісаць самім*.**

Янка Купала ______________________________
(назва твора)

Якуб Колас ______________________________
(назва твора)

Максім Багдановіч ______________________________
(назва твора)

Іван Мележ ______________________________
(назва твора)

Васіль Быкаў ______________________________
(назва твора)

Іван Шамякін ______________________________
(назва твора)

Уладзімір Караткевіч ______________________________
(назва твора)

______________ ______________________
(імя аўтара) (назва твора)

______________ ______________________
(імя аўтара) (назва твора)

______________ ______________________
(імя аўтара) (назва твора)

** Калі ў вас няма любімага твора таго ці іншага пісьменніка, насупраць яго прозвішча пастаўце прочырк.*

Свае адказы дасылайце e-mail: **polymya@bk.ru**
ці на адрас: 220039 г. Мінск, вул. Захарава, 19,
рэдакцыя чаопіса «Полымя».

***Вынікі анкетавання будуць падведзены восенню, надрукаваны ў снежаньскім нумары часопіса.***